# КАСТУСЬ КІРЭЕНКА

## ЗБОР ТВОРАЎ У ТРОХ ТАМАХ

ТОМ

1

## ВЕРШЫ
## ПАЭМЫ

1939—1962

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1986

## «ХАЧУ ЖЫВУЮ ДУМУ ДУМАЦЬ...»

Вядомы беларускі паэт Кастусь Кірэенка належыць да пакалення тых савецкіх пісьменнікаў, творчасць якіх бярэ свой першы і галоўны выток у народнай свядомасці перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Пісаць вершы, як і многія паэты яго ўзроставай генерацыі, ён пачаў раней, стаў публікавацца яшчэ да вайны, змяшчаў творы ў сур'ёзных літаратурных выданнях — такіх, як газета «Літаратура і мастацтва» і часопіс «Полымя рэвалюцыі», у 1939 годзе ўдзельнічаў у канферэнцыі маладых пісьменнікаў у Мінску, але ўнутраную сілу сапраўднага натхнення, сталую і пастаянную лінію ідэйна-эстэтычных адносін да жыцця дало і вызначыла яму ўбачанае і перажытае ў дні гераічнага змагання савецкага народа з фашысцкімі захопнікамі.

Нарадзіўся паэт 12 снежня 1918 г. у вёсцы Гайшын Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і селяніна. Будучы ў бацькоў самым большым з дзяцей, рана стаў памагаць ім у гаспадарцы. Аднак бацькі хутка заўважылі вялікую цягу сына да навукі і, як маглі, садзейнічалі яго імкненню вучыцца. Перад вайной К. Кірэенка закончыў Гомельскі педагагічны інстытут і кароткі час выкладаў літаратуру і мову ў школе. З настаўніцкай працы быў прызваны ў армію, дзе і заспела яго вайна. Зведаў горкія шляхі адступлення да Масквы. У арміі спачатку служыў вежавым стралком танка, а пасля ўсю вайну быў «баявым карэспандэнтам» армейскай газеты, гэта значыць — дастаўляў у газету карэспандэнцкі матэрыял з перадавой. Не адзін раз трапляў пад абстрэл, быў паранены. Па прызнанню самога паэта, «сто разоў глядзеў у вочы смерці і тысячу разоў чуў на сабе яе прыніжаючае дыханне» [1].

Вывад, што менавіта падзеі Вялікай Айчыннай вайны сфармавалі той непаўторны і каштоўны лад душэўнага стану, які стаў адпраўным момантам уздыму да вышынь сапраўдных паэтычных дасягненняў, выцякае са сведчанняў самога паэта. Ён піша: «Галоўнае, што пакінулі ў памяці грозныя гады вайны,— гэта тое, што на свае вочы ўбачыў, які гераічны, які самаахвярны, які верны і велікадушны наш савецкі чалавек! І на шляхах адступлення, дзе

---

[1] Пяцьдзесят чатыры дарогі. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мн., 1962, с. 278.

не дымам, а жальбою засцілаліся вочы, і на падмаскоўных палях, дзе быў удзельнікам і сведкам грандыёзнай бітвы, і на дарогах Беларусі і Польшчы ў дні іх вызвалення,— усюды расла мая вера ў людзей, і з гэтай верою рос і я сам» [1].

Ёсць прызнанне паэта таксама пра тое, як шмат значыў ваенны перыяд жыцця ў яго творчай біяграфіі. На палях кровапралітнага змагання з ворагам, дзе веліч чалавека выяўлялася ў асабліва гераічных і высакародных дзеяннях, набываўся душэўны вопыт, які стаў асноватворчым прынцыпам усёй літаратурнай дзейнасці. Паэт прызнаваўся, аглядаючы сваё жыццё: «Я шчаслівы тым, што мне выпала рабіць нялёгкую, можа, нават пакутную, але высакародную, цікавую, незабыўную справу баявога карэспандэнта, бо гэта шмат чаго дало мне як чалавеку і пісьменніку і, веру, будзе натхняць і ўзбагачаць мяне заўсёды» [2].

Такім чынам, тэма вайны не толькі шырока ўваходзіць у творчасць К. Кірэенкі. Перажытае на вайне вызначае ўнутраную танальнасць яго паэзіі, з'яўляецца адпраўным момантам у развіцці яго вобразных уяўленняў. Характэрна таксама і тое, што ў духоўным вопыце ваеннага часу бярэ пачатак ідэйны і маральна-духоўны крытэрый сучасных паводзін лірычнага героя. Там крыніца яго штодзённых намераў, яго баявітасці і грамадзянскай сумленнасці:

Кавалачак сталі,
Пякучы кавалачак сталі
Суровай часінай
Застаўся ў маіх у грудзях.
Кавалачак сталі,
Грымучы кавалачак сталі
Даўно і няспынна
Мне спаць не дае па начах.

...І ходзіць трывога,
Бяссонная ходзіць трывога,
У ціхім пакоі
Не можа спыніцца да дня.
І кліча дарога,
І кліча салдата дарога —
Туды,
Дзе няўзятая
Недзе грыміць вышыня.

*«Кавалачак сталі», 1972*

Заўважаецца, што ў маральным і духоўным плане паэт не праводзіць непераходнай мяжы паміж ваеннай рэчаіснасцю і сучасным жыццём чалавека, лічыць, што як ваенны, так і сённяшні час з'яднаны ідэяй барацьбы, што і сёння ёсць вышыні, якія трэба браць дзеля ўмацавання сумленнасці і справядлівасці на зямлі, што і сёння трэба ісці ў неадкладны бой за тыя ж ідэалы, за якія

---

[1] Пяцьдзесят чатыры дарогі. Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў, с. 278.
[2] Там жа, с. 280.

гінулі сябры і таварышы ў суровыя дні змагання з фашызмам.

Асаблівасцю паэтычнага светаадчування К. Кірэенкі з'яўляецца тое, што ў тэму вайны, раскрытую ў яго творчасці, вельмі арганічна і шырока, як, бадай, ні ў кога іншага з беларускіх паэтаў, уваходзіць мастацкае аблічча маці, вобраз якой мае шматмернае духоўнае значэнне. Прычым тэма вайны і тэма матчынай прысутнасці на вайне часта спалучаны так цесна, што яны ўспрымаюцца як з'явы блізкіх жыццёвых сфер, як сэнсавыя абагульненні далёка не парадаксальнага аб'яднання:

Калі я ляжаў пад месяцам
І кроў аж сучылася з вен,
Мне снілася,
як маці хлеб месіць
І ў цеста прасейвае кмен.

*«Калі я ляжаў пад месяцам», 1974*

Такое спалучэнне ў паэзіі К. Кірэенкі невыпадковае і нефармальнае. Яно абумоўлена глыбінёй адчування духоўных патэнцый цяжкай ваеннай рэчаіснасці. Змаганне з фашызмам было не толькі змаганнем за сённяшні дзень і будучыню народа. Яно было таксама змаганнем за народныя асновы жыцця, змаганнем за мінулае — за тое мінулае, з якога ішла традыцыя гістарычнага існавання народа. У такім кантэксце паэтычных уяўленняў вобраз маці на вайне зусім арганічны і нават прынцыповы, бо маці — частка гэтай святой традыцыі, яе жывое індывідуальнае ўвасабленне.

У грознай бойцы кожны сын народа
Героем стаў, бо чуў ён у сабе
Святло жыцця і сілу пакаленняў.

*Паэма «Агонь», 1947*

Цікава было б прасачыць, як у творчасці К. Кірэенкі паступова ўзбуйняецца вобраз маці, як ён становіцца ўсё больш і больш аб'ёмным па ідэйнай акрэсленасці, як ад твора да твора напаўняецца ўсё багацейшым алегарычным зместам. Яшчэ ў вершах, напісаных у дні вайны, вобразы маці і радзімы збліжаюцца па свайму значэнню, становяцца сінонімамі. У пасляваенных вершах і асабліва ў паэме «Трыпутнік» (1976) вобраз маці нясе ўжо канкрэтны і багаты змест усёй роднай зямлі, з'яўляецца сімвалам жыцця наогул — жыцця справядлівага, сумленнага і простага, як сам народ.

Культ маці, трэба сказаць, даволі часта сустракаецца ў творах савецкіх пісьменнікаў на тэму Вялікай Айчыннай вайны — як празаічных, так і паэтычных. Яго сэнсавае значэнне ў тым, што згодна з традыцыйнымі народнымі ўяўленнямі, якія несумненна маюць даўнюю міфалагічную ўпушальнасць, бацька і маці, асабліва маці,— гэта асобы духоўна-абарончай сілы, ахоўнікі чыстых і сумленных пачаткаў у жыцці рода і таму іх дзеяннім у крытычных і выпрабавальных сітуацыях, у якія трапляюць іх дзеці, прыпісваецца свяшчэнная ўладнасць і моц. І нездарма раненаму аўтару (ці яго лірычнаму герою) сніцца, што маці месіць хлеб і сее ў цеста кмен.

Рашчыняць хлеб у кодэксе сялянскага быцця — гэта таксама дзеянне рытуальнае, міфалагічна важкае і змястоўнае. І азначае яно — тварыць і падтрымліваць жыццё. Такі сон — гэта нібы прароцтва і абяцанне лёсу, што салдат выжыве ад ран і ачуняе.

Асабліва велічным, міфалагічна ўладарным і духоўна магутным з'яўляецца вобраз маці ў драматычнай паэме «Помста» (1981). Тут маці не толькі ўспамін ці сон, не толькі змястоўны знак унутранага жыцця лірычнага героя. У драматычнай паэме маці — дзеючая асоба, яе прысутнасць на вайне па-мастацку рэальная. Яна не толькі сама ўдзельнічае ў падзеях, але яна з'яўляецца галоўнай фігурай у сюжэтным дзеянні твора. Яна раіць партызанам, што рабіць, і яе ўказанні выконваюцца як распараджэнні найвышэйшага камандавання.

Гэтым самым вобраз маці незвычайна ўзбуйняецца, пераходзіць у вобраз усяго роднага краю, становіцца абліччам самога лёсу, абліччам помсты ворагу за яго звярыную жорсткасць і бесчалавечнасць. Лейтматыў жніўнай народнага стылю песні, які супраджае дзеянне ў драматычнай паэме «Помста», хоць не маці спявае гэту песню, самым непасрэдным чынам звязаны з вобразам маці, з'яўляецца нібы духоўным фонам гэтага вобраза, голасам вечнасці, які вяшчае жыццё, а значыць — і перамогу.

Ой, жала я, жала, ой, жыта я жала-а
Ды свайму сярпочку, плачучы, казала-а:
— А мой жа ты сярпочку,
спарней жні, сярпочку-а,
А не дай мне ў полі спаткаць сваю ночку-у...

Ночка не застане жняю на полі жніва, на полі жыцця, бо народ пераможа.

Наогул увесь свой жыццёвы светапогляд, у тым ліку адчуванне роднага краю і сучаснай рэчаіснасці, паэт імкнецца вывесці з унутранага жыцця і духоўнага кругагляду маці. І хоць яна ніколі не гаварыла сыну пра родны край, аднак якраз маці адкрыла яму ўнутранае бачанне роднай зямлі, дала арыенціры, куды і як ісці па жыцці:

Маці, маці!
Над сінім азерцам
Непагасная зорка гарыць прад вачыма.
Маці, маці!
Радзіма і ты,
толькі ты і толькі Радзіма —
Дзве трывогі ў сэрцы...
Дзве трывогі, два шчасці
з маленства са мною...
І паклон табе нізкі,
Што ад самай калыскі
Ты вяла мяне, маці,
Няхітрай дарогай зямною!

*«Слова пра маці»*, 1965

Сапраўды, пафас народнасці паэзіі К. Кірэенкі не толькі ўбірае ў сябе дарагі яму і выпакутаваны на дарогах вайны вобраз маці. Вышэйшай адзнакай народнасці з'яўляецца тое, што ён, гэты вобраз, сам з'яўляецца жывой вытокавай крыніцай народнага светаадчування паэта, яго сацыяльных уяўленняў пра дабро і ісціну. У паэме «Уступ» (1946), змест якой увесь яшчэ дыхае перажытым болем вайны, ёсць радкі, якія ўспрымаюцца як ускосная, але важная эстэтычная дэкларацыя аўтара:

Я знаў, што нельга матак суцяшаць,
Калі яны галосяць па сынах...

Нельга суцешыць маці, як нельга суцешыць, падправіць саму праўду.

Трагедыя вайны і трагічнае аблічча маці ў вайну зліваюцца ў творчасці К. Кірэенкі ў адно паэтычнае адчуванне — натуральнае, праўдзівае, прынцыповае. І менавіта ў гэтай вобразнай сістэме, якая складвалася яшчэ ў ваенныя і ў першыя пасляваенныя гады, зарадзіўся той галоўны імпульс творчага натхнення, які ў многім вызначыў характар і накірунак усёй творчай дзейнасці паэта з яе выразным пафасам народнасці як у ідэйным змесце, так і ў стылістыцы.

Аб творчых магчымасцях у той час маладога паэта пры яго пераходзе да мірнай праблематыкі, аб эмацыянальна-псіхалагічнай дакладнасці яго душэўных узрушэнняў пад мірным небам, аб плённасці паглыблення ў стыхію народнага жыцця з блізкімі і дарагімі атрыбутамі сялянскага побыту, якім надаецца падкрэсленае духоўнае аблічча, асабліва яскрава, думаецца, сведчыць верш «Асенняе рэха» (1945).

Гэты верш вельмі паэтычны, мякка-сцішаны па настрою, хоць пасляваенная вясковая рэчаіснасць, як вядома, далёка не заўсёды магла служыць крыніцай ураўнаважанасці лірычнага пачуцця. І тым не менш верш пераконвае, пераконвае перш за ўсё эмацыянальнай праўдай аўтарскага перажывання. Паэт загараецца ўнутрана не столькі ад таго, што ёсць у жыцці, колькі ад таго, што будзе, загараецца ад мары, ад чакання будучыні. Вось чаму пры некаторай стылёвай запаволенай плаўнасці верш не стварае атмасферы заспакаення і сузіральнасці. Наадварот, увесь яго змест пранізаны прагай вялікай стваральнай працы пасля цяжкіх навальнічных ваенных гадоў.

— Гэй, гаспадар руплівы, адкажы,
Якое цуда табе ўранак сніцца? —
І, бы ў адказ, пачуе скрып варот.
Юнак прад ім трывожна крыкне: — Ко-сю!
Падкоўваў звон, і рэха ля балот,
І кліч хлапца сальюцца ў сугалоссе.

Тут і рэальны момант сапраўднага вясковага жыцця, падкрэслена ціхамірнага і светлага, бо адразу пасля вайны так хацелася ўсім натуральнай радасці мірнай працы, але тут ёсць таксама але-

гарычны малюнак уздыму народнага духу ў яго парыванні да вялікіх спраў і творчасці, бо конь, нават «стаеннік», як сказана ў тэксце верша,— не столькі рэальны конь, колькі вобраз «выстаянай» за доўгі час вешпага ліхалецця нястрыманай прагі вялікіх працоўных здзяйсненняў у родным краі,— прагі, якая вырывалася на вольны прастор бязмежнай творчасці. Юначы голас «Ко-сю!», што чуе гаспадар,— першы крык толькі што народжанага пасляваеннага мірнага жыцця, у якім і юначае, маладое пачуццё новага свету, і сталая гаспадарская руплівасць, і чаканне пязведаных, новых даляглядаў. І над усім гэтым пераважае паэзія доўгачаканай мірнай працы.

Пазней, у канцы 40-х і ў першай палове 50-х гадоў, творчасць К. Кірэенкі, як і ўся літаратура тога часу, не была пазбаўлена ўплыву спрошчаных сацыялагічных уяўленняў аб задачах мастацтва, што, безумоўна, звужала ўнутраны дыяпазон ідэйна-мастацкіх пошукаў, прывучала да кананічных і гатовых, схематычных вобразных хадоў і стылёвых рашэнняў. Многія вершы той пары маюць неабавязковы, легкаважкі змест, дапускаюць паўторнасць вобразаў, не могуць вызваліцца ад штучнасці лірычнага пачуцця.

Але і ў той час, калі на шляху сур'ёзных творчых імкненняў мастака ўзнікала нямала перашкод, талент К. Кірэенкі, як і талент іншых лепшых савецкіх пісьменнікаў і паэтаў, прарываўся да рубяжоў такіх даляглядаў, дзе ўзнікала магчымасць шырэйшага аўтарскага погляду, дзе ўсё ж ажыўлялася шчырасць лірычнага перажывання. Прычым характэрна, што найбольшай мастацкай дасканаласці і ідэйнай пераканальнасці і ў той час паэт дасягаў пры звароце зноў-такі да тэм Вялікай Айчыннай вайны, Радзімы і маці, пра што сведчаць вершы «Мая рэспубліка» (1948), «Маці» (1951), «Сын» (1954), «Роздум» (1955) і іншыя.

У шырока вядомым вершы «Мая рэспубліка» голас паэта на шчырым узнёслым пачуцці, выкліканым размахам пасляваеннага аднаўлення ў краіне, уздымаецца да вышынь грамадзянскай прамоўнасці. Аўтарскае натхненне жывіцца гонарам за поспехі роднага народа, за яго гістарычны лёс, з'яднаны з лёсам усіх савецкіх народаў.

Не завіце маю рэспубліку
Краінай цёмных лясоў!
Паглядзіце —
Над ёю свецяцца
Агні завадскіх карпусоў.

Не завіце маю рэспубліку
Краінай ціхіх далін!
Паслухайце —
Як грымяць над ёй
Галасы магутных турбін.

Не завіце маю рэспубліку
Краінай багнаў-аблог!
У садах яна
Разліваецца,

У жытах яна
Калыхаецца,
Разбягаецца
Ў стрэлах дарог.

Пачуццё захаплення ў паэта не дэкларацыйнае, а па-сапраўднаму стваральнае, у многім рэалістычнае. Поспехі рэспублікі не засланяюць паэту тых цяжкіх задач і праблем, якія ставіць сённяшні дзень і якія яшчэ толькі будуць вырашацца. І тое, што наперадзе шмат працы, таксама натхняе паэтава сэрца:

І за гэта жыццё чароўнае,
За работ непачаты край,
За крыніцу натхнення поўную
Любім мы цябе, родны край.

Пачынаючы з сярэдзіны 50-х гадоў, з часу, пазначанага важнымі грамадскімі пераменамі, якія ажыццявіў савецкі народ пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, у літаратуры ўзмацняюцца традыцыі праўдзівага, глыбока аналітычнага, дзейснага паказу жыцця. У творчасці К. Кірэенкі таксама хутка нарастаюць працэсы пераадолення наносных і бесперспектыўных уяўленняў, канапічных і невыразных матываў. Адбываецца хуткі зварот да лепшых уласных паэтычных набыткаў, якія развіваюцца і мацнеюць.

К. Кірэенка, як і многія іншыя савецкія паэты, у гэты час нярэдка вяртаецца да важнейшых тэм і праблем сваёй папярэдняй творчасці, нібы хочучы паглыбіць і ўзбагаціць свае ранейшыя паэтычныя абагульненні, абнавіць і канкрэтызаваць звыклыя вобразы.

Калі ў папярэдні перыяд творчасці грамадзянскія матывы нават у тым выпадку, калі яны ўзнікалі на шчырым эмацыянальным хваляванні, не так і рэдка ўсё ж гучалі з пэўным адценнем жыццёвай абстрагаванасці, агульнасці, то на новым этапе грамадзянская ўзнёсласць паэтычнага голасу ўсё часцей і часцей узнікае як непасрэдная ўзрушанасць ад канкрэтнай жыццёвай сітуацыі. Цяпер узнёсласць не адрывае ад рэальных складанасцей жыцця, а накіроўвае, вядзе да іх.

Вучыся прайсці праз нягоды і ростань
Нязломным Радзімы байцом агнявым!
Знай: звацца герояў нашчадкамі проста,
Але не так проста быць роўнымі ім!

*«Помнік герою рэвалюцыі», 1956*

Як і ў творчасці іншых паэтаў, у творчасці К. Кірэенкі гэтага часу рэзка ўзрастае вага асабістага пачатку, моцна заяўляе пра сябе эмацыянальная сіла індывідуальнага ўнутранага выяўлення. У лірычным асваенні самых важных, самых вызначальных сацыяльных тэм, такіх, як, напрыклад, тэма Радзімы, пашыраецца прысутнасць канкрэтнай асобы, асобы аўтара, ад чаго змест верша набывае новую вышыню праўдзівай, натуральнай публіцыстычнасці.

Радзіма ўся — лятункаў мова,
І скрозь заўжды пад сінявой,—

Як шчасця звонкая падкова,
Яе сярпок над галавой.

*«Ці так вянкі свае сплялі мы..»,*
*1971*

У творчасці паэта паняцце Радзімы заўсёды было эмацыянальна ўзнёслым, выклікала тонкія інтымныя перажыванні. Гэта была дарагая святыня, яна знаходзілася побач ці адчувалася ўнутрана яе блізкая прысутнасць, так або інакш яна ўваходзіла ў душу лірычнага героя, але разам з тым была і нібы трохі воддаль яго самога, абстрагавалася ад яго асобы. Герой заўсёды імкнуўся да роднага краю, а родны край існаваў у пэўнай аддаленасці ад чалавека. І які значны шлях грамадскага і рэалістычнага пасталення павінна была прайсці мастацкая думка, каб паэту адкрылася, што Радзіма ў поўным сваім абліччы не існуе па-за чалавекам, што кожны чалавек — гэта таксама частка Радзімы:

Мы вяртаемся,—
і ў гэтым ты і ёсць,
Айчына...

*«Мы вяртаемся...», 1967*

Асабліва моцна і паслядоўна выяўляецца асабовасць аўтара ў зборніку вершаў «Кніга ста песень» (1971), дзе эпічны пачатак вобразнасці звужаны да мінімума, дзе ўсё, што адлюстроўваецца ў вершах, прапушчана праз адкрытае асабістае ўспрыманне аўтара.

Ступень увагі да чалавека — гэта ступень гуманістычнай глыбіні адносін да свету. У паэзіі К. Кірэенкі вельмі адчувальна паглыбляюцца матывы чалавечнасці і гуманізму. Увага да чалавека, да яго штодзённых праблем і трывог, да яго настрою і дум становіцца зыходным прынцыпам развіцця паэтычнага вобраза. У вершы «Шуміце, вёсны, буйна, гулка...» (1971) лірычны герой не хоча, каб у жыцці яго спаткала бяда «пазнаць, як людзі ад няпраўды плачуць». Крытэрыем не толькі асабістых вартасцей чалавека, але і грамадзянскай значнасці яго жыццёвых імкненняў, яго асобы, паэт упэўнены, з'яўляецца здатнасць пачуць сярод велічных і гучных спраў нашага веку ціхі кліч сябра аб дапамозе, усхліп яго крыўды, магчыма, адзіноты ці болю.

Хай цягнікі грукочуць без прыстанку,
Хай з космасу ўрываецца «бі-біп»,
А вы пачуйце — на глухім паўстанку
Хтось кліча друга.
Чуеце вы ўсхліп?

*«Хай цягнікі грукочуць без прыстанку...»,*
*1963*

У гэтых радках, аднак, няма супрацьпастаўлення сучаснага тэхнічнага веку ўнутранаму, духоўнаму свету чалавека, што яшчэ часам, трэба сказаць, сустракаецца ў творчасці асобных літаратараў, якія схільны шчыра ці няшчыра ўпарціцца ў перакананні, быццам навукова-тэхнічны прагрэс падаўляе духоўныя імкненні чалавека, абмяжоўвае яго здатнасць да самапаглыблення. Верш

беларускага паэта толькі нагадвае, што ўвага да лёсу кожнага канкрэтнага чалавека — гэта ўмова ўсякага руху чалавецтва наперад, у тым ліку руху тэхнічнага.

Гуманізм — сцяг сапраўднай партыйнасці. Гэтае перакананне паэта выказана ім з адкрытай публіцыстычнай цвёрдасцю:

> Мой абавязак камуніста —
> Быць чалавекам на зямлі.
>
> *«Абавязак», 1975*

Актывізацыя асабовасці лірычнага героя, унутраная засяроджанасць на лёсе канкрэтнага чалавека не звузілі межы аўтарскага паэтычнага адчування, а, наадварот, пашырылі іх, вывелі думку паэта на новы, больш вольны абсяг мастацкага выяўлення. Паэзія К. Кірэенкі апошніх трох дзесяцігоддзяў яшчэ раз практычна пацвердзіла вядомую ісціну, што паўната індывідуальнага душэўнага перажывання ў лірыцы надае ёй стэрэаскапічную аб'ёмнасць, якая пераходзіць у шырокае, грамадскае, сусветнае вымярэнне.

> Былі ў блуканнях дні і ночы,
> Былі ў красе шляхі вясны.
> Быў жаль: не тое дзесь прарочыў,
> Быў боль: не тыя бачыў сны.
>
> Было святло, была жалоба,
> Была ўрачыстасць, быў спакой...
> А ўсюды, скрозь,— і там, і побач,—
> Жыў свет з бязмежнасцю людской.
>
> *«*** Былі ў блуканнях дні і ночы...»*

Натуральна, што на больш высокім узроўні асэнсавання жыцця ў паэта заўсёды павышаецца ўвага да эстэтычных праблем творчасці. К. Кірэенка таксама вельмі часта з хвалюючай унутранай зацікаўленасцю асвятляе праблему душэўнай сувязі мастака з жыццём, абараняючы ў якасці праграмнага прынцыпу грамадзянскую актыўнасць асобы мастака. «Паэты! Устаньце, паэты!» — усклікае К. Кірэенка ў вершы «Паэты» (1964). «Устаць» тут азначае быць актыўным, відушчым, усюдна прысутным на полі здзяйснення вялікіх спраў, якімі захоплены ў сучасны момант савецкія людзі.

Паэт перакананы, што паэзія, мастацкая творчасць — гэта сама маладосць свету, бо прызначэнне ўсякага мастацтва быць адкрывальнікам, быць правасуддзем усяго новага і перадавога, маладога і няўрымслівага:

> Паэта не пытаюць, ён нядужы
> Ці яшчэ ў сіле сэрца і рука.
> Пакуль звініць
>                     жывая сталь радка —
> Упэўнен свет:
>                     з ім моц юнацтва дружыць.
>
> *«Упэўненасць», 1978*

Ідэя маладосці, ідэя будучыні пранізваюць усю творчасць К. Кірэенкі. Разам з тым паэт імкнецца ўлавіць рэальнае аблічча маладосці нашага часу, каб адчуць яе сапраўдныя, жывыя, непрыхаваныя токі. У вершы «Успамін і будучыня» (1979) можна выразна адчуць гэтую асабістую, светапоглядную звернутасць паэта ў будучыню:

Успамін і будучыня —
У адным сэрцы.
А ўсё ж будучыня —
Грэе цяплей.

Аднак сучасная маладосць — гэта яшчэ і грамадзянскі клопат паэта, што таксама яскрава выявілася ў яго творчасці, асабліва ў вершах апошніх гадоў. Вельмі зразумела, што яго лірычны герой, прыналежны разам з аўтарам да пакалення, якое вынесла на сваіх плячах асноўны цяжар вайны і перамогі над фашызмам, надзвычай блізка прымае да сэрца лёс сучаснай моладзі, яе ідэйную і духоўную арыентацыю, задумваецца над яе ўнутраным абліччам, турбуецца і трывожыцца, каб яна, ідучы ў жыццё, абавязкова ўзяла з сабой урокі грамадзянскага вопыту старэйшага пакалення — вопыту, багатага духоўным набыткам баявітасці, непрымірымай сумленнасці і вышэйшага гуманізму.

Дэкрэтам сэрца
Я святы наказ
пакіну сыну:
Прайсці са славай
па бацькаўскай светлай старане,
І за мяне любіць,
усёй душой любіць сваю Айчыну,
І праслаўляць жыццё,
якому век служыў я,—
за мяне.

*«Дэкрэтам сэрца», 1979*

Сёння паэт — на пасту актыўнай творчай працы. Публікуюцца новыя вершы і паэмы, выходзяць новыя зборнікі паэзіі, а таксама кнігі прозы — апавяданні, успаміны, замалёўкі роднай прыроды, тонкім і захопленым знаўцам якой ён з'яўляецца, пра што пераканаўча сведчыць як сама паэзія, так і празаічная кніга «Вандроўнае шчасце. Рыбацкая паэма» (1977).

Творчая актыўнасць азначае пастаянны пошук, нястомны пошук новага і нязведанага — пошук перш за ўсё новых глыбінь уласнай душы. «Хачу жывую думу думаць...» («*** І ў бель зімы, і ў квецень мая...»),— абвяшчае паэт з выразным пошукавым настроем. Уся паэзія К. Кірэенкі ў лепшых сваіх дасягненнях сведчыць, што лозунг пошуку ў ёй не толькі дэкларуецца, але і ажыццяўляецца, ажыццяўляецца грунтоўна і плённа.

ВІКТАР КАВАЛЕНКА

## МАЯ РЭСПУБЛІКА

*Не завіце маю рэспубліку*
*Краінай цёмных лясоў!*
*Паглядзіце —*
*Над ёю свецяцца*
*Агні завадскіх карпусоў.*

*Не завіце маю рэспубліку*
*Краінай ціхіх далін!*
*Паслухайце —*
*Як грымяць над ёй*
*Галасы магутных турбін.*

*Не завіце маю рэспубліку*
*Краінай багнаў-аблог!*
*У садах яна*
*Разліваецца,*
*У жытах яна*
*Калыхаецца,*
*Разбягаецца*
*Ў стрэлах дарог.*

*У паглядзе краіны сённяшнім*
*Мінулай тугі не шукай.*
*Цудоўнаю кнігай сонечнай*
*Яна прад вачмі — чытай.*

*Святлом яе твар азораны,*
*Авеяны цеплынёй.*
*Але якую гісторыю*
*Прайсці давялося ёй!*

*

*Ты ведаеш, як над лучынаю*
*Вочы сляпіць, скажы?*
*Ты ведаеш, як з мякіны*
*Есці сухія каржы?*

*Ты ведаеш, што такое*
*З торбай ісці па вясне*
*І сэрца сваё маладое*
*Сушыць у няволі?*
*— Не!*

*Не, дружа, не ведаем гнуцца мы*
*Пад горам у цяжкі час! —*
*Кастрычніцкая рэвалюцыя*
*На свет нарадзіла нас.*

*Ленін вялікі і партыя*
*Нас у змаганні вялі.*
*І з імі мы, сэрцамі ўпартыя,*
*Змянілі воблік зямлі.*

*Цвітуць нам Крамлёўскімі зорамі*
*Будучыні маякі.*
*Так, дружа, не ўведалі гора мы,*
*Але яго помняць бацькі.*

*Ім помняцца турмы праклятыя*
*І царскія кайданы,*
*Нагайкі, над краем узнятыя,*
*Якімі іх секлі паны.*

*І даўнасць згадаць толькі варта ім —*
*Як сціснуцца кулакі,*
*І нат успамін аб манархіі*
*Гатовы ўзняць на штыкі.*

*

*І вось чаму так, як, можа быць,*
*Яшчэ не любіў ніхто,*
*Іх мужнасцю заваражаныя,*
*Мы любім сваіх братоў.*

*Мы любім народ, што ўласнаю*
*Рукой сарваў ланцугі*
*З пакутных усіх*
*і ў яснае*
*Жыццё без слёз і тугі*

*Дарогу праклаў, каб крочылі*
*Мы ў камунізма зару.*
*І ты ўпершыню свае вочы*
*Адкрыла на свет, Беларусь.*

*Вялі цябе роднаю шыраю*
*Сцежкі усе на ўсход.*
*Гукаў цябе з любасцю шчыраю*
*На подзвіг рускі народ.*

*

*Шчаслівая праца вялікая,*
*Дзяржаўныя трыццаць гадоў.*
*Я ў песню сёння паклікаю*
*Сям'ю сваіх гарадоў.*

*Вось ён устае пад Гомелем,*
*Фабрык магутны строй.*
*Прасторы гудуць іх гоманам*
*І ранняй і позняй парой.*

*Я пакажу вам прасторныя*
*Цэхі, дзе плавіцца сталь.*
*Народзіцца тут ля горнаў*
*Для новай машыны дэталь.*

*Я вам пакажу, як дбала*
*Робім мы чыстае шкло,*
*Каб сонца Радзімы ў ім ззяла*
*І ў хаты нясло святло.*

*А Віцебск з яго маторамі —*
*Хіба не чароўны ён,*
*Калі ляціць аж пад зоры*
*Пнеўматыкі важкі звон?!*

*Ён цяжка вайною зранены,*
*Але ўжо хутка ізноў*
*Яшчэ харашэй устане ён*
*Сярод сяброў-гарадоў.*

*Як колісь, з цэхаў адноўленых*
*Плывуць Магілёва шаўкі.*
*І Гродня выйшла з будоўлямі*
*На бераг Нёмна-ракі.*

*А вось мы ля новых паселішчаў.*
*Чыя тут краса, чыя?*
*Гэта у новай велічы*
*Ўзыходзіць сталіца мая.*

*Вось месца, дзе гліну мясілі мы,*
*Каб першы будынак устаў,*
*А сёння аўтамабілямі*
*Нас новы завод прывітаў.*

*Вось тут пілавіннем веялі*
*Нядаўна яшчэ вятры,*
*А сёння відаць на канвееры*
*Першыя трактары.*

*Сняжынкі над стрэхамі кружацца;*
*Ім не знайсці ўжо руін.*
*Мінск! Горад славы і мужнасці,*
*Ты лепшы рэспублікі сын!*

*А зараз пад Брэст, як надоечы,*
*На нівы кінем пагляд.*
*Я вам пакажу не тоячы,*
*Які ў нас расце вінаград.*

*Калгаснае, нашае, роднае*
*Я вам пакажу зярно —*
*Шчаслівы здабытак народны.*
*Глядзіце — якое яно.*

*Такое зярно каб вырасціць,*
*Убачыць трэба ўдалі*
*Жыцця*
*зіхатлівыя вырысы*
*І будучыню зямлі.*

*І мы гэта бачым, багатыя*
*І марай і явай,— вер.*
*Народ, што быў простым аратым,*
*Цяпер — аграном, інжынер.*

*

*Не завіце маю рэспубліку*
*Краінай цёмных лясоў!*
*Паглядзіце —*
*Над ёю свецяцца*
*Агні завадскіх карпусоў.*

*Не завіце маю рэспубліку*
*Краінай ціхіх далін!*
*Дзень і ноч*
*Не сціхаюць, грымяць над ёй*
*Галасы магутных турбін.*

*Не завіце маю рэспубліку*
*Краінай багнаў-аблог!*
*У садах яна*
*Разліваецца,*
*У жытах яна*
*Калыхаецца,*
*Разбягаецца ў стрэлах дарог.*

*

*І за гэта жыццё чароўнае,*
*За работ непачаты край,*
*За крыніцу натхнення поўную*
*Любім мы цябе,*
*родны край.*

*Любім мы цябе ў дні хвалявання,*
*У гарачыя дні вясной,*
*Калі пахнуць на рыштаваннях,*
*На будоўлях бёрны смалой.*

*Калі чуцен —*
*аж сэрца расчуліцца —*
*Шум работ з чатырох старон,*
*Калі мінскія плошчы і вуліцы*
*Адзяваюцца у бетон,*

*А пад Слуцкам усцяж сады цвітуць,*
*А ў палях гудуць трактары,*
*Параходы шыбуюць па Прыпяці,*
*Каласяцца жыты ў Мазыры.*

*Любім мы цябе ў дні клапатлівыя*
*Прадасенняй яснай парой,*
*Калі клічуць у поле нівы*
*Урадзіўшаю збажыной,*

*Калі ўдаль, грукочучы ў дыме,*
*Па абшарах скрозь, нацянькі,*
*Несучы табе скарбы Радзімы*
*І твае ёй,— бягуць цягнікі.*

*Любім мы цябе ў хвілі вячэрнія,*
*Пасля шуму працоўнага дня,*
*Калі ты расцвітаеш над скверамі*
*І садамі ў яркіх агнях.*

*Любім мы цябе, край, апоўначы,*
*Калі чутна, як крочаць здаля*
*Да шляхоў тваіх, сілы поўныя,*
*Гукі гімна ад сцен Крамля.*

*Любім мы цябе ў пору світання,*
*Калі мы, твае дзеці,— народ,*
*Сустрач сонцу глядзім з хваляваннем,*
*З ласкай шчырай глядзім на ўсход.*

*Там Масква,*
*там вялікая, родная,*
*Дарагая, брацкая Русь.*
*З імі будзеш ты шчасная,*
*свабодная*
*Дачка СССР, Беларусь!*

*1948*

## ДУБ

Абапёрся дуб рукой зялёнай
На страху і, пахіліўшы стан,
Утаропіў вочы улюбёна
У блакітны ранішні туман.

Што ён бачыць там, якое дзіва
Прыкавала ўвагу юнака?
Пасля сну гамоніць з дружкай сліва
У сям'і чарэшань ля стаўка.

Хустка белая, касу тугую
Трэпле вецер ласкавай рукой.
І глядзіць на сліву дарагую,
І сумуе дуб па-над страхой.

І паўзе раса слязой у дуба,
Па ствалу з тугіх лістоў паўзе...
О, каб мог ён даскакаць да любай
На адной на стомленайназе!

*1939*

* * *

Ты па шчавель ішла на луг,
Лёгка дыхаў шырокі Сож.
Раптам цёплы вясновы дождж
Да тваіх дакрануўся рук.

І адчуў, мусіць, іх агонь.
Ўсёй істотай к табе прыпаў
І трымаў, пакуль шэпт яго
Не заціх сярод буйных траў.

Ты ўсміхалася. Ну, а я...
(Ці пра ўсё ж я табе скажу?)
Я пад клёнам адзін стаяў
І зайздросціў яму, дажджу.

*1939*

## САНЕТ

Успомніў я дзіцячыя гады,
І сэрца песню даўнюю запела:
У ёй гамонка ніў, дрыжанне яблынь белых
І першых дум няхітрыя плады.

Прыгожых сноў, лятункаў залатых
І парыванняў, шчырых і нясмелых,
Мне не вярнуць назад.
Жніво маё даспела,
Цяжарныя ўраджаямі сады.

І колькі песень новых,
Колькі новых дум,
І слаўнейшых, яснейшых —
з кожным годам
Я ў маладым жыцці сваім знайду!

А ўсё ж вясны дзіцячае прыгоды
Перада мной, далёкія, стаяць,
На сэрцы ціхім смуткам шалясцяць!

*1939*

## ДОЖДЖ

Пад поўдзень вецер сціх.
І з чорнай хмары
Ударыў гром. І вецер гул разнёс
Над хатамі, над бронзавым загарам
Пшаніц
І па-над зеленню бяроз.

Адна, другая кропля.
І раптоўна
Струменем лівень сцёбнуў па плячах.
І па жніву панесліся нястройна
Ускрыкі, смех задорысты дзяўчат.

А дождж ішоў.
І срэбрамззяў у травах,
У кветках, у пшанічных каласах.
Пераліваўся шэпатам ласкавым
У ручаін дрыготкіх галасах.

Паіў зямлю. Асмяглая ад спёкі,
Яна глытала свежае пітво.
І дыхала, багатая, з палёгкай
Духмянасцю, пяшчотай і цяплом.

*1939*

## ПРАМЕНЬ

Які ён шустры, сонечны прамень:
Ніяк у рукі не даецца ўзяць!
Таго не знае ён, што любая
мая
Прасіла ёй каралі нанізаць.
І каб у дзіўных у каралях тых
Заместа ніткі — промень сонца быў.
Замест каралек — ягадкі вады.
Каб хто глядзеў на іх — сябе забыў.
І я лаўлю.
А ён бяжыць наўцёк
Праз агарод, праз поле, да ракі,
Дзе невады вісяць на калячках,
Дзе ў ціхай завадзі —
натоўпам чаўнакі.
Які ж ты шустры, сонечны прамень!
Ды я злаўлю цябе.
Ты — у маіх руках!
І шалясціць, і шалясціць чарот,
Пяе, пяе празрыстая рака...
А я трымаў і прыціскаў мацней —
Да сэрца ўсё мацней...
А што?..
Ды рукі мілай:
Яна купалася на водмелі рачной
І да сябе прамень мой заманіла.

*1939*

## СПЯЁМ ЖА ПЕСНЮ, КАСАРЫ

Устала сонца, і пад ім
Расою чыстай ззяе луг.
Даўно, сябры, ў сяле сваім
Працуем вольна, без прынук.
Спяём жа песню, касары!

Жывей, сябры, з касой хадзі,
Пад сонцам сохне хай трава.
Зацягвай песню, брыгадзір,
Ці ж нам, шчаслівым, сумаваць?
Спяём жа песню, касары!

Хутчэй, браты, касьбу канчай,
На полі хлеб чакае нас,—
Багатым будзе родны край,
Багатым будзе наш калгас!
Спяём жа песню, касары!

Ідуць касцы за радам рад.
І валам валіцца трава.
З нас кожны працы плённай рад.
А сонцу хочацца спяваць:
Спяём жа песню, касары!

*1939*

## ЧЭРВЕНЬ

І чэрвень на зямлі адкрасаваў.
І заўтра ліпень — ясны, працавіты.
У копы ляжа буйная трава,
Ранеты выспеюць, нальецца жыта.

А чым жа чэрвеню ў апошні дзень,
Яго каб помнілі і пам'іналі,
А чым жа чэрвеню здзівіць людзей?
І ён узяў абняў пажарам далі.

Балоты ў полымі. У полымі — бары.
Пад кожным кусцікам і на палянцы кожнай
Зямля вясёлай чырванню гарыць,
Зямля гамоніць сполахам трывожным.

Дзяўчат жа не бярэ ніякі страх.
Дзяўчаты ж запяваюць звонка песню
Ды йдуць гурмою з лубкамі ў руках:
Суніцы сакавітыя на ўзлессі!

*1940*

## РАНАК ІДЗЕ

Што гэта? Што гэта чутна далёка?
Быццам гамоніць, пяе?
Вецер, прачнуўшыся, кратае блёкат,
Гутарыць з вербай, прабуе ў асоках
Цымбалы свае.

Што гэта? Што гэта свеціцца ў змроку?
Меркне, не згасне ніяк?
Зорка шукае адцвіўшую зорку,
Дужыцца ўзняцца над Сожам шырокім
Зялёны маяк.

Дзе гэта? Дзе гэта песня зязюляй,
Чуеш — ку-ку ды ку-ку?
Сына ў калысцы галубіць матуля,
Дзеўчына з ночы па любым сумуе —
Адзін на вяку.

Шырыцца, шырыцца, плешча, бы хваля,
Гукаў нястройны мажор.
Унь умываюцца золакам далі,
Унь зараніцы пялёсткі апалі
На поле, на бор.

Што ж гэта, што — цераз пушчы, па нівах,
Шляхам, уброд па вадзе,
З яснай усмешкай, прыгожай надзіва,
Быццам крадзецца — а смела, імкліва?..
То ранак ідзе!

*1941*

* * *

*Л. Гаўрылаву*

На кургані крычыць пугач,
Быццам хоча прастор застрашыць.
Ты ж будзь мужным, як слава наша,
Смутак мой, ціхі мой, не плач.

Скора дзень. Бачыш, як дрыжыць
Над Сожам цёплы свет барвовы?
Прывітальныя сонцу словы,
Смутак мой, добры мой, кажы.

І суціхні. Няхай наш век
Будзе песняй бадзёрай самай!
Зразумей жа, што я чалавек,
Я заплакаць магу таксама.

*1941*

## БЕЛАРУСЬ

Галасілі салдаткі не дзень і не два,
Жабравалі па свеце малыя сіроткі.
А на лузе шумела, як мора, трава,
І жыты наліваліся сокам салодкім.

Даспявалі суніцы ў зялёных барах,
На шыпшыне звінелі пчаліныя гуслі,
А дзяўчыну з бацькоўскага бралі двара
І ў Нямеччыну гналі — па ўсёй Беларусі.

Па варожых стаянках блукала радня,
Каб хоць тут пахаваць
сваіх родзічаў косці,—
І з пагрозай садзіўся юнак на каня,
І рыбак пакідаў лёгкі човен і восці.

Пад страхою хаваў свае струны скрыпач,
У скляпенне кідаў свой здабытак араты.

О сястра!
О матуля!
О жонка!
Не плач!
Мне не будзе спакою. Мы сёння салдаты.

Запалалі кастры ў хмызняках за Лясной,
Што з Пятроваю славай навек заручона,
І выходзілі хлопцы-вяскоўцы на бой
За краіну-пралеску сям'ёй незлічонай.

Падняліся арлы па-над Нёмнам-ракой,
Грозным клічам гукнулі сыноў Мастаўляны.
І здалося, што сам Каліноўскі з труной
Развітаўся, каб вызваліць край зруйнаваны.

Нараджаліся новыя песні з тугі,
Гартавалася новая слава ў змаганні.
О зямля-непакора, о край дарагі!
Мы адной тваёй ласкай жывём да скanання.

І калі б нам па смерці прыйшлося ізноў
Для красы і для смутку на свет нарадзіцца,
Дык нідзе — толькі тут, каля гэтых бароў,
Каля гэтых азёр мы жадалі б мясціцца.

На зямлі, дзе ў змаганні мой прадзед сканаў,
На якой наша доля сцяжыны шукала,
Аб якой на смяротным адры ўспамінаў
Са слязамі ў вачах неўміручы Купала.

Для якой без задумы ляцеў з вышыні
На варожую зграю крылаты Гастэла,
За якую аддалі мы лепшыя дні,
І каханне, і мары, і сэрца, і цела.

Будуць помніць вякамі народы зямлі
Аб нямецкай навале, аб лютым прымусе.
І патомкам раскажуць, як мы здабылі
Вызваленне і славу сваёй Беларусі.

У нядаскавы час прыгадаецца ўсім,
Хто жадае свабоды і шчасця айчыне,
Як ішлі мы ў салдаты адзін за адным,
Як тужылі ў баях аб дачушцы, аб сыне.

Як чакалі нас жонкі не дзень і не два,
Як блукалі па свеце, бы здані, сіроткі,
Як трызніла аб косах на лузе трава,
А жытам было горка і з сокам салодкім.

Як заместа сярпоў мы кавалі мячы,
Каб прынесці краіне сваёй перамогу,
Як, жыцця не шкадуючы, ўдзень і ўначы
Мы на захад сабе прабівалі дарогу.

Цэлы свет нашы песні тады запяе
І, з надзеяй на праўду сваю, ад прымусу
Ратаваць будзе думкі і сэрцы свае
Гэтак мужна і шчыра, як мы, беларусы!

*1944*

## ДВАЦЦАЦЬ ВОСЕМ

Шэрыя хмары над лесам сцелюцца,
Вецер снягамі палі заносіць.
Гэй, супыніся, з дарогі, мяцеліца!
Ідуць дваццаць восем.

Стомлены твар іх, вочы юнацкія —
Бачыш — хаваюць яшчэ трывогу.
Што ж! Без пяшчот яна, доля ваяцкая,
Цяжка здабыць перамогу.

Гэта ж яны пад свінцовымі ліўнямі
Сэрца крывёй ратавалі Расію.
Чорныя танкі з жалезнымі біўнямі
Іх не маглі асіліць.

Неба, сатчы ім дарогу зорную!
Стань, маладзік, па-над іх магілай!
Іх у бяссмерце паслаў дазорнымі
Сам генерал Панфілаў.

Пройдуць вякі, а раз'езд Дубасекава,
Дзе паміралі яны каля рэек,
Ззяць будзе сонцам для спраў чалавека.
Слава вялікіх не тлее!

Ліха прыйдзе — прыгадаем няскораных,
Сэрца заб'ецца, пакліча да зброі.
З іменем Леніна —
зноў будзем ворагаў
Біць, як гвардзейцы-героі.

Шэрыя хмары над лесам сцелюцца,
Вецер снягамі палі заносіць.
Гэй, супыніся, зважай, мяцеліца!
Ідуць дваццаць восем.

*1941*

## ПАСЛЯ АТАКІ

Што прыйшло пасля атакі? Цішыня.
Цішыня прыйшла такая, ад якое
Лёг на чорным папялішчы сполах дня,
Спахмурнела нават сонца над ракою.
Ці-
шы-
ня...

Да галля хінецца клёнаў пазалота.
Б'ецца муха ў павуціне за сцяной.
І чакае на развалінах пяхота,
Як ратунку, клічу звонкага: «За мной!»

*1941*

* * *

Не, не трэба ўспамінаць.
Не заўжды ўспаміны нам апора.
Што з таго — толькі знаць,
Толькі чуць пра гора?

Што з таго — слязой скупой
Цешыць смутак над магілай брата?
Лепей бой, грозны бой —
Так лягчэй салдату.

Лепей стаць сырым пяском,
Белы свет нязведаным пакінуць,
Чым глытаць
крыўды ком
За сваю краіну.

Ты ж сама казала так,
Як мяне праводзіла — прыпомні —
Праз агонь, на бальшак...
А чаму ж сягоння,
А чаму ж сягоння ты
Пра гады маленства напісала,
Пра сады,
пра сляды
Па расе уночы на купалле?

І пра той суровы дзень,
Што прынёс нам стрэльбы і трывогу,
Што паклаў
жаху цень
На тваю дарогу?

Я чытаў, і белы свет
Мне здаваўся хатаю чужою,
Дзе абед — не абед,
Дзе душы не да спакою.

Знай, у першы раз мой гнеў
Не дамовіўся з гарматным гулам.
Так я крыкнуць хацеў,
Каб зямля ўся пачула:

— Не, не трэба ўспамінаць!
Успаміны сэрцу не апора...
Што з таго — толькі знаць,
Толькі чуць пра гора...

*1941*

## МАТЧЫН ПЛАЧ

Ой, чаму ж ты шырокаю, рэчка, была,
Без пары ціхі востраў вадой заліла?

А на востраве ж тым дзве каліны расло,
З каранямі іх вырвала, ўдаль занясло.

І чаму ж ты вірліваю, рэчка, была,
Тым калінам прыстаць да зямлі не дала?

Ой, нашто ж ты, вайна, к нашай хаце прыйшла,
Без пары майго мужа ў магілу звяла!

А было ж у яго дзве маленькіх дачкі,
А дала ж ім вайна ў рукі торбу ды кій.

І пайшлі яны, дробныя, долі шукаць...
Як матулі салёныя слёзы стрымаць?..

*1941*

## НА АДПЛАТУ

У начной цішыні заспяваў матор,
Клічам бою ўзляцеў да зор.

Ярка-белай ракеты пушысты хвост
Шлях адзначыў — ляці напрост.

І ўзвінулася ў неба крылатая сталь
І — наперад! — у даль, у даль.

Многа ўнізе пакінута рэк, далін.
І нарэшце —
вось ён, Берлін!..

Узіраецца штурман у рыскі шкал,
На гашэтцы застыгла рука.

Час! —
І жоўтых агнёў пункцір
Забурліў на зямлі, як вір.

Міг —
І выбухаў грозны ўзлёт
Страсянуў цішыню высот.

А як ранак расою апаў на траве,
Ён крыламі ўзмахнуў Маскве.

На чырвоную зорку глядзеў народ
І вітаў:
— З добрым днём, пілот!

*1942*

## ЖЫВЫЯ ІДУЦЬ НАПЕРАД

Жывыя ідуць наперад — свяшчэнны закон вайны.
Бывай жа!..
Хоць будзе цяжка вяртацца ў сваю краіну
Адным без сяброў маленства, без родных братоў,
адным,
А ўсё ж над тваёй магілай
— Бывай! — мы сказаць павінны.

Мы знаем, што нас матуля сустрэне слязьмі. І нам
Нялёгка сказаць ёй будзе, што ты назусім далёка.
А ўсё ж мы цябе пакінем.
Гукае ў палях вайна:
— Жывыя — хутчэй наперад!
Настойліва — крок за крокам.

А можа, і мы не дойдзем. Тады, пад мядзяны звон,
Сябры аддадуць нас долу і пойдуць далей на захад.
Жывыя ідуць наперад —
свяшчэнны вайны закон.
Ды што там ісці!
Дадому, каб мог,— паляцеў бы птахам.

Бывай жа!..
Надзелі каскі. Змахнулі слязу ціпком.
Набоі стралкі пабілі. Гармату навёў наводчык.
Танкісты закрылі люкі.
І вось кананады гром
Пляснуў агнявою хваляй у вочы зімовай ночы.

Жывыя пайшлі наперад. Ад пораху ўвесь руды,
Крычаў мой сусед праз грукат, што бачыў ён зараз
быццам
Далёкі свой Слуцк, Урэчча, і пожні свае, і сады
І быццам пачуў, як звоняць
трывогу яго крыніцы.

Гарыць навакола поле. Да міны прыпаў сапёр.
Ён болей не чуе бою. А глянь на яго — і здасца:
Аб нечым шкадуе хлопец. Ля полацкіх сініх азёр
Мо сэрца яго лунае, як сэрца асілка ў казцы.

Стралкі за калючым дротам.
Глыбокі свідруюць снег,
Да самай зямлі свідруюць крыві барвяністай згусткі.
А зброя звініць пагрозна,
і прагне адплаты гнеў,
І грудзі агнём наліты,
і поле здаецца вузкім.

Не час заўважаць, хто загінуў. Памёр —
адпачні, салдат.
Ты смела ішоў наперад. Ты шчыра служыў айчыне.
А мы яшчэ маем сілы,
каб выканаць той загад,
Які нам дала Радзіма. І помсціць ніхто не кіне.

А мы яшчэ маем сілы і пойдзем да родных ніў,
Усёй Беларусі скажам,
што цвёрдым ты быў на слове.
Шкада толькі, што не прачулі,
якія ты кветкі любіў
І дзе табе помнік ставіць:
у Мінску ці ў Магілёве...

Мінае адна гадзіна, і днець пачынае ледзь —
Траншэі ужо за намі. А танкі ў сяле грукочуць.
І хіба ж тужыць хто будзе,
што скроні яго сівець
Пачалі ў змаганні гэтым,
што сталі нямымі вочы.

Адно нас хвалюе сёння: краіна яшчэ ў агні.
Яшчэ не адна матуля гукае нас цяжкім плачам.
Няхай жа палаюць ночы, няхай жа залеюць дні!
Пакуль над краінай цемра —
не хочам мы сонца бачыць.

О не, той не знойдзе жалю, хто прагнуў зямлі чужой!
Мы сталлю яго накормім сярод напялішчаў шэрых.
Жывыя трымаюць зброю.
Іх права закончыць бой.
Жывыя ідуць наперад!

*1943*

## ПОЛЕ

Гром гэта поле біў. Вогненныя вятры
Шалелі з крыві,
як д'яблы, мясілі гліну.
І назвалі яго мае сябры
Мёртвай далінай.

Колькі тут засталося брацкіх магіл
З помнікамі і так проста!
Пахавана ў іх на стагоддзі тугі
І ўцехі сяброўства.

Сек гэта поле свінцовы град.
Але мінулі дні. Фронт адышоў далёка.
І вярнуўся з вайны земляроб-салдат
Да разлогаў шырокіх.

Моўчкі ён плуг з зямлі адкапаў.
І злосна, бы ў пекле апошняга бою,
Першую скібу на полі паклаў
Адною рукою.

Вольныя гоні засеяў зярном,
Чыстым, як слёзы маці,
І поле адзела пад цёплым дажджом
Зялёнае плацце.

Звонам пчаліным гукала яно.
І выйшаў салдат на прыволле,
І словы сказаў, што карцелі даўно:
— Мілае поле!

Ды раптам спыніўся яго пагляд
На ціхіх брацкіх магілах,
І ўвесь уздрыгнуў і пачуў салдат,
Як сэрца забіла.

Мужных сваіх прыгадаў ён сяброў,
І гора, і радасць пяхоты
І зноў захацеў ад зялёных дуброў
У пятую роту.

Каб зброю узяць ды ісці па бой,
Крывёй чужаніцаў заліць наўколле
За салдацкія сэрцы, што пад зямлёй,
І за роднае поле.

*1943*

* * *

Калі пярун вайны малоціць пожню,
І твой акоп абернецца — чакаеш,—
У гэты міг, па-грознаму святошні,
Каго ты ўсёй душой успамінаеш?

Ці матку, што табе душу і сэрца
Дала, каб зберагаў іх аж да смерці,
Ці тую, сінявокую, каторай
Аддаў ты ўсё — на шчасце ці на гора?

Калі пярун вайны малоціць пожню
І ты развязкі з мужнасцю чакаеш,—
У гэты міг, па-грознаму святошні,
Ты ўсё, ты ўсіх, мой брат, успамінаеш.

І словы маткі, сказаныя з ласкай,
І даўні дзень, што быў дзівосней казкай,
І жончын смех...
І ты клянешся зброяй,
Што ім заплоціш вернасцю аднною.

І столькі сілы ў словах ачышчэння,
Як быццам іх кавала кузня века.
І ўпэўнен ты, што стане на калені
Жуда вайны прад воляй чалавека.

*1943*

* * *

Гарманіст іграў — і з дрэў са звонам
Лісцвяная сыпалася медзь.
Маладзік спускаўся на загоны,
Каб на хлопца
зблізку паглядзець.

Бы спрадвеку гэтакага грання
Не чувалі шэрыя палі...
І ўсю ноч да самага світання
Па-над шляхам
ветразі плылі.

— Не кідай ты нас! — прасілі сосны.
А салдат —
ці ж мог ён іх пачуць?
Ён душой шукаў свой Шклоў дзівосны
І дачку, што Славаю завуць.

Пальцы самі гралі, самі гралі...
А матыў — усё адзін, адзін.
Як на дол зялёны
слёзы ўпалі,—
Толькі бачыў зблізку маладзік.

А ледзь сонца ўстала — быў пяхоце
Баявы зачытаны загад.
Гарманіст зайграў
аб мужнай роце
І павёў на бой сяброў-салдат.

Задыміў крывёю жоўты верас.
Гнеў узрос і выспеў. Усугонь!
На загоне, зраненым і шэрым,
Да адплаты клікала гармонь.

*1943*

## ДЗЯЎЧЫНА-СІРАЦІНА

**(З салдацкіх песень)**

Дзяўчына-сіраціна мне вяснянак не пела.
Мне лістоў не пісала, не гукала:
— Прыйдзі.
А чаго ж маё сэрца гэтак б'ецца нясмела,
Хоць на свет, на людзей не глядзі?

Гой, брат мой, брат, калі ты салдат,
Адкажы мне, душу супакой!
Будзе некалі міг — для лятункаў тваіх
Пракладу я сцяжынку крывёй.

Дзяўчына-сіраціна мне пяшчот не дарыла,
Мне паклонаў не слала, не праводзіла ў шлях,
А куды ж ты падзелася, вольная сіла,
Што гуляла-буяла ў грудзях.

Гой, брат мой, брат, калі ты салдат,
Мне параду падай сваю!
Будзе некалі час — за цябе не раз
Я грудзьмі заступлюся ў баю.

Дзяўчыны-сіраціны я не бачыў ніколі,
Я не ведаў ніколі, што на сэрцы ў яе.
А чаго ж мне здаецца, што ў вогненным полі
Праліла яна слёзы свае?

Гой, брат мой, брат, калі ты салдат,
Адкажы мне, развей тугу!
Будзе некалі дзень — у смяротнай бядзе
Маладосць я табе зберагу.

Дзяўчыны-сіраціны не магу не шукаці,
Сэрца хоча дазнацца — для помсты святой:
Хто распяў майго бацьку, загубіў маю маці,
Хто пакінуў мяне сіратой.

Гой, брат мой, брат, калі ты салдат,
Мне параду падай сваю!
Будзе некалі час — за цябе не раз
Я грудзьмі заступлюся ў баю.

*1943*

* * *

Я тонкія струны нячутна крануў,
Яны ж у адказ з усіх сіл задрыжалі.
Так рэха магутнае коціцца ў далі,
Так бурай зіма сустракае вясну.

А я ж так хацеў хоць на хвілю адну
Зусім растварыцца ў ласкавасці хвалях,
Каб зноў ад мяне сугрунём уцякалі
Згрызоты дзянныя і прывіды сну.

Хацеў успаміны свае ажывіць
Аб тых, што заснулі ў гарачай крыві,
Сказаць ім: — Мы вас не забылі.

Ды струны паўсталі. У гневе яны.
— Пакінь! Не трывож ты іх. Хай свае сны
Спакойна дасняць у магіле.

*1943*

## ВОСЕНЬ

Дрэвы — нібы чорныя слупы,
Шэры попел ботамі прыбіты.
Адвячоркам вецер, як сляпы,
Начаваць кульгае пад ракіты.

Ён шукае вобмацкам лісцё,
Медзяное, звонкае, тугое,
Каб хутчэй падкінуць у касцёр,
Што застаўся ў лузе пасля бою.

І праходзіць хвіля не адна,
Покуль ветру, страціўшаму сілы,
Зразумела стане, што вайна
Тут усё без жалю спапяліла.

Ні прытулку... Ні шляхоў... Ні зор...
Развітаўся вецер сам з сабою
І з разгону кінуўся ў касцёр,
Што застаўся ў лузе пасля бою.

*1943*

* * *

У памяці сцелюцца
Чорныя цені вайны.
Роў за аселіцай...
Падаюць маткі, сыны...

Роў за аселіцай...
Крыкі палонных-сяброў...
Ворагі цэляцца —
Поўніцца, поўніцца роў...

Сэрца заходзіцца.
Чым утаймуеш тугу?
Што я зраблю для вас?
Толькі памерці магу.

Ды па-над прысакам
Чую — жвір словы сякуць:
«Ты мусіш выстаяць —
Нашых пакут не забудзь!»

*1943*

## МОРА

Прастора — вокам не акінеш.
Як стэпаў гоман — подых вод.
І ў даляглядзе сінім-сінім —
Блакітнай кропкай параход.

Што за краса!
Тут можа здацца,
Што свет — прытулак сноў і мар.
Душа, бы ветразь, будзе гнацца
За вольным ветрам аж да хмар.

Але пачуўся голас: «Вораг»...
Сігнал паклікаў: «Да гармат!»
І закіпела гнеўна мора,
І знік за дымам далягляд.

Ад грому крышацца камені,
Цямнее дно. І бачыш ты,
Як хвалі топяць з абурэннем
Варожых сцягаў ласкуты.

*1944*

## НА БЯРОЗЕ

Галасіла ўсю ноч за Бярозай жаўна.
Хто пакрыўдзіў маленькую?
Толькі не мы.
Мы маўкліва сядзелі на хісткіх чаўнах
І чакалі сігналу, як знаку нямы.

Мы з трывогай чакалі хвіліны, калі
Забываецца ўсё, што ты знаў і шукаў,
І салдат падымаецца з чорнай зямлі,
Каб сказаць сваё слова ударам штыка.

І хвіліна настала. Аглухнуў прастор
Ад гарматнага грому.
— Наперад, стралкі!
Паімчаліся тысячы ранішніх зор
Быстрым чоўнам насустрач па роўні ракі.

Вось ён, бераг жаданы. Мы ўсталі без слоў.
Хто атакі чакаў — без яе не ўжыве.
Мы ішлі ў поўны рост, хоць пад ботамі кроў
Ручаінай шумела у роснай траве.

Аж да поўдня ішоў за Бярозаю бой.
Ды, нарэшце, вярнулася ціша к чаўнам.
І тады мы пачулі,
як дзесь над вярбой
Залілася вясёлаю песняй жаўна.

*1944*

## ЦІШЫНЯ

Пакуль выпроствалася пад металам
Зямля і курчылася ў агні,
Мы працавалі штыкамі дбала
І моўчкі марылі аб цішыні.

Але, мы марылі не аб многім —
Адну б хвіліну нам, хоць адну!
У круг пасесці б каля дарогі,
Курыць і думаць
не пра вайну.

Не пра вайну — праваліцца б войнам!
Каханне ўспомніць і бацькаў дом...
Нарэшце ўстаў маладзік над поймай.
Мы ўзялі вёску. І сціхнуў гром.

Як прасвятлелі у хлопцаў твары!
Ячэйку выкапай і закуры.
Але мы ўгледзелі пад бляск пажару,
Што з намі кураць не ўсе сябры.

Яны ляжалі вачмі на захад.
Як быццам снілі аб светлых днях.
А па-над імі вялізным птахам
Зманліва гойдалася цішыня.

І здрыгануліся нашы сэрцы,
І зненавідзелі мы спакой.
Як гэтых немцаў —
пасланцаў смерці,
Што йшчэ шалелі там, за ракой.

Здаецца, знікла дзяпная стома.
Нашто ўспаміны? Парвана ніць.
Нам захацелася дыму, грому,
Ісці, пакутваць і немцаў біць!

*1944*

* * *

Ты — мая Яраслаўна.
І калі табе сніўся крумкач
Над параненым мной,—
што ж, не сорам, паплач.

Над палямі, над пожнямі,
Над лясамі дрымучымі,
Над сцяжынкаю кожнаю,
Над балотам, над кручаю.

Мне сляза твая шчырая
Будзе збавай ад смутку і стомы.
З ёй з ваеннага выраю
Пераможцам вярнуся дадому.

Я скажу: — Падымайся, жыві! —
Краю вечнай свабоды,
Для якога не толькі крыві —
І жыцця мне не шкода.

Ты — мая Яраслаўна.
Ды калі табе сніўся крумкач
Над магілай маёй —
бог у сведкі, не плач.

Пад варожаю куляю
Сябры вёсен не падаюць.
Б'ецца ў іх пад кашуляю
Сэрца вольнае, радае.

Залатымі зарніцамі
Наша доля яшчэ запалае.
Сіл салдацкіх крыніцаю
Стала ты для мяне, дарагая.

Я скажу яшчэ: — Слаўны, жыві! —
Краю вечнай свабоды,
Для якога не толькі крыві —
І жыцця мне не шкода!

*1943*

## ЗВАРОТ ЖЫЦЦЯ

Паклапіліся берагу, напіліся вады,
Закурылі, успомнілі маладыя гады.

Патужылі, як маецца... Што ж, не
вернеш назад...
Падняліся і рушылі на агні канапад.

Праз варонкі, ля могілак, па крывавай
расе.
Кожны ўзважыў і вызначыў, што ён
катам нясе.

Кожны ведаў, бо вынасіў гэту мару
ў бядзе,—
Дзе ён немца апошняга прад сабой
пакладзе.

А за імі вялікая і святая зямля
Сонцам раны залечвала
без пакут, спакваля.

Залівалася краскамі, што даўно не
цвілі,
Найчысцюткімі зернямі засявала палі

І, расой ападаючы на суквецці бяроз,
Песняй жаўранкаў славіла дзіўны свой
лёс.

*1943*

## СТАЛАСЦЬ

Вось і тая зямля, дзе дужэў ты і рос,
Па якой сумаваў столькі зім, столькі вёсен.
Ты стаіш пад зялёнай страхою бяроз
У салдацкім шынелі з пагонамі ў просінь.

Ты глядзіш навакол і шукаеш з тугой
Залатога маленства усход нетрывалы.
І здаецца табе, што дарогай другой
Абышла твае мары суровая сталасць.

З-за пажараў ледзь бачыцца Ігараў сцяг.
І дружыны Алегавы — гэтак далёка...
І Данской — мо ў разанскага князя ў гасцях.
І Кастусь Каліноўскі — дзе лётае сокал?

Хочаш ты, каб зямля хоць бы пахам балот
Аб лятунках маленства табе прыгадала.
Не заўважыў ты ў громе няласкавых год,
Што да сонца ўзнясла твае пошукі сталасць.

Пераможцы-героі вялікай зямлі
Даравалі табе мужнасць роднай краіны,
Правялі цябе ў свет і на бой... І пайшлі
Зноў у хату тваю — да маленькага сына.

І не ведаеш ты, што хлапечыя сны
Ужо славай тваёй неўміручаю поўны,
Яны бачаць, як ты з першым ветрам вясны
К перамозе вядзеш свае грозныя чоўны.

Сын раскажа — як бацька яго пад Масквой
Супраць смерці ўстаяў.
Як ля сцен Сталінграда
Ты касіў чужаніцаў жалезнай рукой,
Як братоў на Няве ратаваў ад блакады,

Як на захад спяшаўся,
сваю Беларусь
Падымаў з папялішчаў — палацы і хаты...
Ты зайшоў бы да сына, ды нельга марудзіць —
Так вучылі цябе твае продкі-салдаты.

Ты спыніўся на міг пад страхою бяроз
І, гатовы да новага жорсткага бою,
Хочаш хоць бы прыпомніць,
як дужэў ты і рос,
Каб жылі твае даўнія ўцехі з табою.

Нам нялёгка ў гуле змагання адчуць
Гартавання салдацкага мужную веліч.
Толькі кроў ды пажары стаяць уваччу,
Нездарма нашы скроні даўно пасівелі.

Але будзе часіна: ўтаймуецца бой,
А дажджы веснавыя загоны абмыюць.
І тады, мой таварыш,
мы ўбачым з табой
Нашай вечнае славы агні залатыя.

Прыгадаем, як продкаў гукалі сваіх,
Каб іх мужная шчырасць нам сілы давала.
І паставім скрыжалі і выб'ем на іх:
О хвала табе,
нашая грозная сталасць!

*1943*

## КРЫНІЦЫ

Гэта ява, не сон.
Хіба можа такое прысніцца?
Прада мною гамоняць зямлі маёй роднай крыніцы.
Ад Слаўгорскіх бароў да шырокіх лугоў Перагону
Не іду, а лячу я
на крыллях чароўнага звону.
Сэрца хоча спяваць, зранку раны старыя
не чутны.
Вербы цягнуцца веццем
да зоркі маёй пяцікутнай.
— Жыў-здароў будзь, салдат! —
мне дзяўчаты ад сэрца жадаюць.
На паходныя боты раса ападае.
А крыніцы звіняць, на лілеях —
бялюткая пена.
І няма ў мяне моцы, і сэрца заплача,
напэўна,
Так, як плакаў па іх пад Масквой
і ля Волгі шырокай,
Ад бацькоўскага краю далёка-далёка.
Ды няма болей слёз.
І крычу я: — Матуля-краіна!
Я вярнуўся к табе,
каб ніколі ў жыцці не пакінуць.
Ці мне жыць — не тужыць,
ці груган мае выдзеўбе вочы;

Толькі ў шчасці б жыла ты —
і болей нічога не хочу.
Гэта ж ява, не сон!
Цуд ніколі такі не прысніцца.
П'ю, як лепшае зелле,
крышталь сваіх родных крыніцаў.
Ад Слаўгорскіх бароў
да шырокіх лугоў Перагону
Не іду, а лячу я
на крыллях чароўнага звону.

*1943*

## НОВАЯ ХАТА

Па-над Сажом,
на дворышчы старым,
Дзе ўчора бой яшчэ грымеў заўзята,
Гамоняць сёння звонка тапары.
Вяскоўцы новую будуюць хату.

І вось паклалі тры вянцы дзяды,
І да салдаткі хітра:
— Што ж, кабета...
Вам невядома, можа, маладым,—
Каб добра жыць — змачыць бы трэба гэта...

Рукамі ўсплёсла ўвішная салдатка:
— А бож!..
Рупліва скочыла ў акоп
І да дзядоў прынесла па парадку
Тры пляшкі, хлеб і леташні укроп.

Дзяды паселі разам на куце,
Пацалавалі тоўстыя штандары.
— Дай, бог, жыццю цвісці і залацець.
— Дай, бог, загубы ворагам-пачварам!

І ўсім наліў старэйшы ад усіх
Па шклянцы горкай — горам настаянай.
Укропам хлеб пасыпаў.
— За жывых!
За тых, што не сустрэнуцца ўжо з намі.

Дзяды пілі, курылі і пілі,
А гутарка была зусім цвярозай.
І не магла ніяк стрымаць —
цяклі
У гаспадыні радасныя слёзы.

Ёй так хацелася дзядам сказаць,
Хоць тыя самі зналі дасканала,
Што болей тут чужынцам не бываць,
Што ўжо над рунню сонейка заззяла,

Што будзе хата новая і мо
З вайны каханы вернецца, дасць божа...
Ляцелі гусі з выраю дамоў
І галары звінелі — весела і гожа...

*1943*

* * *

Сягоння мы спяваем не пра тое,
Як мы жылі, як пакідалі дом.
У нашых песнях — заўтра залатое,
Якое робім куляй і штыком.

Нам будуць доўга рупіць нашы страты,
І слёзы з воч папросяцца не раз.
Але нішто! Сапраўдныя салдаты
Сваю бяду не ставяць напаказ.

Ніхто з нас цудаў не чакаў ад бога.
Мы самі зладзіць з бураю змаглі.
Ляжыць прад намі слаўная дарога
У бляску сонечным па ўсёй зямлі.

Па ёй мы пройдзем, армія герояў,
Як суддзі праўды! Ворагаў даб'ём.
І ў звонкіх песнях будзем пець пра тое,
Як мы ішлі, як мы прыйшлі ў свой дом.

*1944*

* * *

Хай мне шырокае поле даруе,
Калі багаццем не поўна яно,
Калі не радасна жыта красуе,
Калі не буйнае ў жыта зярно.
Роднае поле! Як люба ты сэрцу —
Ведае добра прастор залаты.
Вер мне: не здолею нават памерці,
Покуль стаптана чужынцамі ты.

Хай мне даруюць травінкі і дрэвы,
Каля азёр маіх — пушчы-лясы,
Што ад грымот не ўбярог іх напеваў,
Што ад агню не ўбярог іх красы.
Мілая вёска, разлогаў кілімы,
Сцежкі, і рэчка, і дуб на брацу!
Верце: без вас мне жыццё немагчыма,
Вось чаму сёння на бой я іду.

*1944*

* * *

Каля пажараў прыкурвалі,
У касках варылі гарбату.
Спявалі з вачмі пахмурнымі
Аб нівах сваіх і хатах.

Зайздросцілі ўсім параненым,
Жадалі ім радасці ўсякай.
А потым па росах ранішніх
Адважна хадзілі ў атаку.

Ля трупаў чужых вячэралі
Ды зноў набівалі набоі.
Стралялі ў пацёмкі шэрыя,
Трывожачыся без бою.

Над брацкай магілай шчырую
Слязіну зганялі без слова.
І цяжка — як птушкі к выраю —
Спяшаліся ў шлях суровы.

На гонях, дзе бура гойсала,
Шукалі такое дарогі,
Дзе б трошкі маглі агойтацца
І сэрца, і рукі, і ногі.

Але пасля бойкі бачылі,
Што жыў яшчэ люты вораг.
І тут жа
рукой гарачаю
Старанна сушылі порах.

Ізноў ад кастроў прыкурвалі,
Тужылі па родных хатах
І рушылі ў свет разбураны
Вялікай зямлі салдаты.

Маскоўскія, з Оршы, з Кірава,
Чарнігаўскія ды данскія,
Якіх апяюць
са шчырасцю
І Вільнюс, і Мінск, і Кіеў.

І, пэўна, ніякай сілаю
Ніхто іх нідзе не спыніць,
Пакуль
за краіну мілую
Іх сэрцы балець не кінуць.

А як гэты боль —
бясконцы,
То век ім не знаць спакою
І вечна спяшаць пад сонцам
Па грознаму клічу: «К бою!»

*1944*

# БЯРОЗАВІК

Яшчэ ў маленстве ў недалёкі гай
Хадзілі мы па сок салодкі гэты.
Тады нам ціхі лес быў таямнічым светам,
І не кранала нас тады туга.

Жылі мы гульнямі. І бесклапотным быў
Дзіцячы міг на травяным прыволлі,
Ігралі ў дудкі мы з рачной вярбы,
Абед насілі да бацькоў на поле.

Але маленства дзён пралескі адцвілі,
Мы падраслі, не заўважаючы, надзіва.
Мы ўбачылі, як вораг топча ніву,
Што мы засеялі,—
і зброю паднялі.

Згубілі мы спакой,
І кожны новы дзень
Прыносіць сэрцу новыя праявы:
Старыя хочуць зноў памаладзець,
А юнакі не хочуць жыць без славы.

Як многа жудасных пражыта дат!
Хіба забудзе хто краіны страты?
Але мінуўся час цяжкі. Мой брат!
Мы на радзіме зноў, нанова ставім хаты.

І вось цяпер, калі я п'ю яго,
Салодкі сок, і не магу напіцца,
Здаецца мне,
што пасля грозных год
І саладзейшы стаў ён і мацнейшы быццам.

Я чую ў ім
краіны роднай боль,
І гнеў, і моц, і ненавісць, і веру.
І сэрцу хочацца зноў зведаць бой.
І ногі просяцца
ізноў наперад.

*1944*

* * *

Няхай яшчэ над нашай хатай
Вісіць драпежнае крыло —
А знаем мы: свабоды свята
Настане, што б там ні было.

Няхай яшчэ глумлівым госцем
Па свеце гойсае бяда,
І вершы пішам на бяросце,
І кроў раняем на слядах.

Няхай яшчэ...
А ўжо — напэўна
Ратунку ворагу не мець.
Ідзе да нас сястрою крэўнай
Вясна, каб думкі абагрэць.

У час трывожны перад боем,
У час тугі і ціхіх мар
Ужо ўсім сэрцам чуе воін
Апошні енк ліхіх пачвар,

Ён бачыць свой загон гасцінны,
І сонца вольнае над ім,
І чырвань сцягаў над Берлінам,
І на шляхах — прывалу дым.

І як вяртаюцца з паходу
Сябры яго і ён між іх,
Загартаваных у нягодах,
Суровых, шчырых, дарагіх.

У дзень той людзі ўсе — з-пад Этны,
І ад Місуры, і з Карпат
Прад намі шапкі здымуць ветла
І скажуць:
— Дзякуем, салдат!

Нас правядуць услед вачыма
І засумуюць мо да слёз,
Што не такая ў іх радзіма,
Што не такі ім выпаў лёс.

*1944*

## ЛІСТ З ПАХОДУ

Сталі дні карацець, сталі ночы цямнець.
А грымоты грымяць ад зары да зары.
Сыплюць клёны пад ногі чырвоную
медзь,
Гнуцца долу і просяць:
— Таварыш, бяры!

І хаця ад салдацкіх пажыткаў сваіх
Я адмовіўся сам — толькі б першым
сягаць —
Я бяру з сабой ліст і цалую пры ўсіх
І да сэрца кладу, каб ад куль захаваць.

Там, на полі чужым, дзе ў апошнім баю
Мы пазбавім жыццё ад жахлівых нягод,
Я прыпомню дзявочую песню тваю
І пашлю гэты ліст з вольным ветрам
на ўсход.

Хай ён знойдзе цябе і раскажа няхай,
Як з маіх не выходзіш ты думак і сноў,
Як ірвецца душа мая ў бацькаўскі край —
Да студзёных крыніц, да задумных
кляноў.

*1944*

* * *

Мы скора прыйдзем
з песнямі дадому.
З дарог вайны
У хату прынясём
Жывое рэха ўшчуненага грому
І сэрцы, гартаваныя агнём.

За намі ўслед, як выраі з-за мора,
У край бацькоўскі вернуцца навек
Зямлі — вясна,

Начным дарогам — зоры,
Світанням — росы,
Воля — хвалям рэк.

Мы толькі вам, удовы і сіроты,
Не вернем сэрцаў самых дарагіх.
Яны згарэлі
у ростанях палёту
Для вас,
Для нас,
Для ўсіх,
Для ўсіх жывых.

Ну што ж, не сорам, родныя, паплачце.
Але глядзіце —
Як гарыць здаля,
Як тому мараку, што ўстаў на мачце,
У сонцы,
У красе
Гарыць
Зямля!

*1944*

## НА РАДЗІМЕ

Ляцелі ў сінім небе журавы
Над папялішчамі, над паплавамі,
Над чыстым полем, па-над цёмным лесам
Ляцелі, каб азёры разбудзіць.

А мы з баямі рушылі дахаты,
Ішлі, глядзелі: жураўлі ляцяць,
І хтось з байцоў, жартуючы, сказаў,
Што жураўліны лёс і нам дастаўся.

Як пахла поле! Гэткі пах ніколі
Не сніўся хлопцам. І вясны такой,—
Здалося нам,— яшчэ ніхто не бачыў,
І мы яе запомнілі навек.

Варочаліся ў родны край салдаты,
Паэты, спевакі і рыбакі,
Будаўнікі палацаў, земляробы...
Зямлі-пакутніцы няслі жыццё.

Мы кланяліся дрэвам прыдарожным.
«Вітанне, клёны!» — кожны прашаптаў.
І дзень і ноч звінела ў полі зброя,
Было нялёгка нам ісці дамоў.
Але нішто нас не спыніла ў бойцы,
Нішто не запалохала салдата.
Бо перад кожным быў бацькоўскі дом,
А маткі клікалі:
— Хутчэй, сыны!

Так, гэта ўсё было.
У сінім небе
Ляцеў над намі жураўліны клін.
І пахла поле леташнім чаборам,
І залівала сонца родны край.

*1944*

## СА СЦЯГАМ ВОЛІ

Чужыя мне далі,
Прысады і гоні.
Чужыя мне рэкі,
Лугі, абалоні.

Чужыя мне — неба,
Дарогі і сцежкі.
Чужыя — лятункі,
Трывогі-няўцешкі.

І боль, і клапоты,
І вочы з тугою —
Усё не маё тут,
Усё мне чужое!..

Чаму ж я для іх
Перайшоў свае межы?..
Лугі Наднямоння,
Лясы Белавежы?..

Чаму для чужога
Сябе не шкадую,
Хоць знаю —
магчыма,
За іх і памру я?..

Таму, што я воін
На свеце адзіны —
Сын маці пяшчотнай,
Савецкай Радзімы.

Таму, што суровай
Парой баявою —
Сцяг волі ірдзее
Над светам
са мною.

*1944*

## ПЕСНЯ

Пясняр-музыка перад новым боем
Прысеў каля гарматы і зайграў.
Пра слёзы маткі, што чакае сына,
Пра гора жонкі, што не спіць начамі
На папялішчы, дзе шумяць вятры.

Маўчалі, ціха слухалі салдаты,
Махоркі дым глыталі, а калі
Расталі ў змроку звонкія акорды,
Сказалі незласліва песняру:

— Ты добра йграў, ты слаўна йграў,
дружача.
Мы пояспа паклонімся табе.
Але мы самі знаем наша гора,
Яно даўно нам сэрцы пераела,
Скажы: навошта раны турбаваць?

Пясняр паправіў леру.— Што ж, як гэтак,—
Я іншую вам песню падбяру.
І ён зайграў пра тыя дні, якія
Запомніліся кожнаму надоўга,
Пра дні маленства і юнацтва дні.

І так ён дзіўна граў, салдат і лернік,
Што пацямнелі вочы ў юнакоў.
І застагналі грудзі пад кашуляй,
А вусны самі крыкнулі: — Пакінь!

Пакінь, таварыш! Хопіць успамінаў,
Мы знаем самі добра, як раслі.
Скажы ты лепш, які нас лёс чакае,
Куды вядзе цяжкая нас дарога,
Што ўбачым,
калі вернемся дамоў.—

Пясняр на міг задумаўся.
Рукою
Глыбокія маршчыны перабраў
І раптам, быццам толькі нарадзіўся,
Адкрыў з усмешкай стомленыя вочы
І крыкнуў:
— Дык жа слухайце, сябры! —

І зазвінела радасная песня
Над полем, перасоленым крывёй,
І павяла салдацкія лятункі
У шлях нялёгкай праўды і красы.

Прад імі сонца промні рассыпала,
З руінаў уставалі гарады,
Зязюлі сотні летаў ім лічылі,
Зямля паўнела кветкамі і збожжам
І кліч кідала:
— Вось, усё для вас! —

Жанкі і маткі, што байцоў сустрэлі,
Ад радасці не зналі, што рабіць,
І плакалі ізноў,
І слёзы тыя,
Здавалася, свяціліся
глыбокім
І ціхім ззяннем весніх заранíц.

*1944*

## ДОМА

Усё тут так, як у маленства дні.
Вайна як бы нічога не кранула.
І жоўты хмель віецца на плятні.
І дзераза паўзе
пад сама шула.

Глядзіць дзядоўнік, быццам старшыня
На свой глухі закутак па-за склепам.
Там дурнап'ян цвіце,
там лебяда ля пня,
А там гарчак абняўся са свірэпай.

Здаецца, супакоіцца ільга.
Але чаму мне раптам цяжка стала?
Ледзь крок —
і супыняецца нага,
Як быццам ёй загаду думкі мала.

Я не магу чамусьці,
як калісь
За клямку ўзяцца, бразнуць,
каб пачулі.
Насустрач маці выбегла з-за ліп
У даматканай выцвілай кашулі.

— Сыночак!..
І ў тым крыку столькі болю,
Што можа здрыгануцца і сцяна.
— Хто дома? —
ледзьве вымавіць я здолеў.
— Адна, мой даражэнькі, я адна...
— А дзе ж сястра?
І вось каля стаўка
Іду шукаць я сестрыну магілу.
Я заадно і бацькаву б пашукаў,
Але знайсці яе
не хопіць, пэўна, сілы.
Ці за Дняпро, ці за Дунай ідзі —
Ці мала ёсць курганаў невядомых,
Ці мала ў іх бацькоў ляжыць...
Знайдзі...
Паходзіш ды і вернешся дадому.

А тут усё —
нібы ў маленства дні.
Вайна як бы нічога не кранула.
І жоўты хмель віецца на плятні.
І дзераза расце, паўзе пад шула.

*1944*

* * *

Чужыя вятры з берагоў Скандынавіі
Нясуць на ўзбярэжжа чужыя туманы.
І цяжка мне дыхаць,
Так цяжка, што сэрца
Гатова на смерць,
толькі б сціхнуць прымусіць
Чужыя вятры з берагоў Скандынавіі.

І ў гэту хвіліну журботную ў ростанях
Я клічу з палёў сваіх вецер духмяны,
Прашу, каб прарваўся
Праз даль і на крыллях
Прынёс мне
дыханне маёй Беларусі —
У гэту хвіліну журботную ў ростанях.

І вось зварухнуліся хмары свінцовыя,
На захад як бы павярнулася мора,
І ветры чужыя
Змаўкаюць і тонуць
У хвалях асеўшых,
А ў небе, як крыгі,
Ламаюцца, крышуцца хмары свінцовыя.

Ім больш не бываць у сваёй Скандынавіі!
А вецер, мой друг, што з'явіўся з Радзімы,
З лагодай і ласкай
Ляціць па-над морам
І радасны ўздых мой нясе,
як вітанне,
Да змрочных глухіх берагоў Скандынавіі.

*1944*

## У ВЁСЦЫ

Ці то мне сніцца, ці ўзабыль:
Над ціхімі затокамі
Кляны пусціліся ў кадрыль
З бярозамі высокімі.

Там звон пчалы, там бас чмяля,
Іграние, спеў навокала.
І дрэвы скачуць, аж зямля
Пад краскамі завойкала.

А побач ціха, чарадой,
Стаяць дзяўчаты, ласкава
Глядзяць, як дружна над вадой
Дубы ў далоні пляскаюць.

І нехта кажа:
— Што ж, і мы
Станцуем вам не так яшчэ! —
Хай толькі вернуцца з вайны
Салдаты, хлопцы нашыя...

*1944*

## СЯСТРЫ

Я вярнуўся з вайны...
        Што ж ты брата не стрэла, Марыся?..
Маці слёзы глытае:
        — Сынок, не журыся...

Ціха... ціша і боль...
        Я пайду — ля магілкі прысяду...
За ракою ляжаць у варонках
        дубенскія ляды.

Ніцма ўпалі на луг,
        як салдаты, дубы векавыя.
Толькі яблыні-дзічкі
        ўздыхаюць над імі жывыя.

З іх зрываюць вятры,
 бы тужлівыя ўсмешкі, пялёсткі
І нясуць над знявечаным полем
 да нашае вёскі.

І ляцяць тыя ўсмешкі,
 ляцяць, шалясцяць над табою...
Снег вясны... Помніш, мы
 разышліся таксама вясною.

Вось і той талісман,
 што на шчасце ты мне падарыла.
Вось і сам я. А ты...
 Груд зямелькі шыпшына ўкрыла...

Ціха... Дзічкі ўздыхаюць —
 з жальбою гукаюць на ўзлессі:
— Марыся... Марыся...
— Вярніся...
— Прыйдзі...
Адгукніся хоць песняй!..

*1944*

* * *

Што хаваеш ты ў сэрцы сваім?
Ці кахання зарніцы, ці здрады зярно?
Ты не скажаш ні мне, ні другому.

Што ж, ідзём. Называй дарагім.
Можа, песня, што ласкі чакае даўно,
Аджыве і ад позняга грому.

Назаўсёды ўсяго забірай.
Толькі смутку майго не чапай, не трывож.
І калі прыгадаю часінай

Салаўямі разбуджаны гай,
Патаемныя сцежкі, успенены Сож
І маўклівыя вочы дзяўчыны —

На хвіліну мяне ты пакінь!
Успамінам адным, у паглядзе хаця
Дай паплакаць над тым, што мінула.

А тады — што ж... Заві дарагім.
Можа, песня, што зведала буры жыцця,
Будзе рада і позняму гулу...

*1944*

## НА ПОЛІ БЯССМЕРЦЯ

Не паклаў нават ранца ў голаў,
Не ацёр і крывавага поту,
Злёг навекі на ўзмежку голым
Баец пяхоты.

Дагараюць чужынцаў танкі,
Бой на захадзе ўжо далёка.
На загоны сышла заранка
Нячутным крокам,

Падымае, цалуе травы,
Што зламаны нагой варожай.
І ўжо вецер вясны ласкавы
Запеў над Сожам

Пра бяссмерце байца пяхоты.
А юнак ўсё сціскае зброю,
Быццам сніць, што ізноў камроты
Гукнуў да бою.

Рукі прагнуць падняць гранату...
Ловіць слых гром гарматны рэдкі...
Спаў салдат. З-пад крыві салдата
Прарасталі кветкі.

*1945*

## МАТЧЫНА ПЕСНЯ

Калі яна у сэрца мне запала,
Калі на ўсё жыццё зачаравала,
Цудоўная, як радасць
напрадвесні,—
Матчына песня?

Таго не помню. Толькі добра знаю,
Што ўсёй душой любіць цябе, мой краю,
Мяне з маленства навучала ўмесьне
Матчына песня.

Нялёгкі выпаў лёс на нашу долю,
Хто звяў ад слёз,
а хто памёр у полі.
Але жывых вяла да родных весніц
Матчына песня.

Яна глытала дым у пекле бою.
Праз жах, праз гора, сцежкаю любою
Ішла са мной да перамогі весняй
Матчына песня.

І знаю я, што на шляху жыццёвым
Я ўсё змагу, усё вярну нанова,
Бо ў сэрцы б'ецца
радасным прадвеснем
Матчына песня.

*1945*

## ЧАКАННЕ

— Едуць!
Едуць хлопцы-салдаты з чужыны дамоў! —
Весняй песняй
навіна лунае па краю.
І, паплакаўшы, жонка паслала пісьмо,
І было ў ім адно толькі:
— Родны, чакаю!..

Ў кожнай хаце на стрэчу —
дымок бульбяны ад стала...
Ззяюць вочы жаноцкія
горкім і сонечным ззяннем...
Колькі клопату, колькі тугі і святла
Ў слёзным, апошнім, трывожным чаканні!

І бары, і палеткі,—
зямля ўся навокал, як ёсць,
Працавітых сыноў-аратаяў чакае.
Прыйдзе ў поле жаданы і радасны госць,
Кожны колас жывы
ад душы прывітае.

Скосіць травы ў лугах. Збожжа рупна збярэ.
Будзе песціць зямлю,
што ў баях азалела,—
На зіму працавіта і з радасцю
ўсю заарэ,
Зернем цёплым засее,
каб у вясну без канца зелянела...

*1945*

## ТАЛІСМАН

Дала мне маці на вайну
Чароўны талісман.
Каб ён бярог мяне ў баях
Ад смерці і ад ран...

Каціў па краю грозны вал,
Без бою — ані дня.
Забыла родная зямля,
Што серп ёсць і сяўня.

Забылі людзі, што ў жыцці
Ёсць смех і ясны дзень...
І нёс свой смутак праз баі
І я паміж людзей...

Але заўжды ў агні атак,
Дзе смерць, дзе куляў град,
Мяне бярог мой талісман:
— Спяшай дамоў, салдат!..

І вось замоўк ваенны гром,
І я прыйшоў дамоў.
А маці роднае свае
На свеце не знайшоў.

І кінуў я той талісман,
Нашто мне талісман! —
Няхай бы я загінуў лепш
Ад смутку і ад ран.

Няхай бы мне ўвесь сум людскі
На ўсе, на ўсе гады.
А толькі матухне сваёй
Мог кланяцца заўжды!..

Але згадаў я матчын сказ
Пра горнага арла,
Якому сэрца, зрок і слых
Арліца аддала.

Каб ён ляцеў імкліва ў высь
І ворагаў збіваў,
А пасля бітваў з-пад крыві
Зноў дужым уставаў,—

І мне здалося, што і мне
Так маці аддала
Сваю ўсю сілу, каб яна
Ў жыццё мяне вяла

І высіла, нібы арла,
Што з паднябесных стром
Гатоў заўсёды ў новы бой
За сонца над гняздом...

І я падняў, як лепшы скарб,
З паклонам талісман,
Што на вайне бярог мяне
Ад смерці і ад ран.

*1945*

## КУРГАНЫ

Ля Слаўгарада між хваін
У полі высяцца курганы.
Калісьці прадзедам маім
Былі тут шведы пахаваны.

Пятроўскіх шабляў грозны звон,
Здаецца, чуўся мне заўсёды,
Калі яшчэ з дзіцячых дзён
Я сніў ваенныя паходы.

Ужо тады душа мая
Спазнала гнеў пры слове «вораг».
Не раз упрошваў бацьку я,
Каб ён курганы пазаворваў.

А ён адказваў мне: — Няхай
Стаяць на страх варожай сіле.
Ты ж, сын, вучыся родны край
Любіць, як прадзеды любілі.

Прайшлі гады. Я стаў байцом
І ў час вялікае нягоды
Усё, што высніў хлапчуком,
Дарэшты спраўдзіў у паходах.

Ад сцен Берліна, дзе агнём
Мы напісалі пісьмы ў вечнасць,
Вярнуўся я ў бацькоўскі дом,
Да родных сёл сваіх прырэчных.

Ля Слаўгарада над Сажом
Не пазнаю старой мясціны.
Магілы высяцца кругом
Ад Пікаварні да Вузіны.

І ўжо мой сын мяне вядзе
Паказваць новыя курганы
І ўспамінае год і дзень,
Калі тут немцы пахаваны.

*1945*

* * *

На досвітку выткаў мароз
На шыбе ўрачыстыя ўзоры.
Здавалася, лісце бяроз
Звініць па-над сінню азёраў,

Цвітуць на прасторах раўнін
Сцюдзёныя белыя кветкі.
І новых палацаў агні
Кідаюць святло на палеткі.

Праз гэтыя дзівы глядзець
Так сумна было на руіны,
Дзе вецер трубіў, як у медзь,
І ў мёрзлыя бухаў цагліны.

І тварам да сонца я стаў,
Што ціха ўзнялося з-за бору.
— Будзь сведкай,— яму я сказаў,—
Я зноў адбудую свой горад!

*1945*

## ВЯРТАННЕ

Пакуль над дарогаю
Сполах
Крылатых зарніц не пагас,
Мы не маглі заснуць
Пад полагам летняе ночы:
Столькі гукаў наўкола
Жыло, зачароўвала нас,
Што, здавалася,
Кветкай купальскай
Вось-вось зацвітуць нашы вочы.

Дома...
Колькі год мы ўжо тут
не былі...
Пасля грозных баёў,
Пасля слынных, суровых паходаў

Як жа радасна чуць
Голас велічна-шчодрай зямлі,
Дзе так шчыра, так лёгка
Красуе ў прыволлі прырода.

Дзесь ускрыкам бабёр
Каля хаты склікае дзяцей.
Птушка
Села спачыць
На аціхлую нашу гармату.
Водар густа ідзе ад палёў —
Грэчка цвіце!
А плёскат крыніц
наплывае
Жывым перакатам...

У хвілі ж, калі заціхаў
Вялікі і радасны свет,
Мы чулі,
Як падалі росы
На цёплыя пожні і ўзгоркі.
І як у азёры і рэкі,
Пракрэсліўшы светлы след,
Ляцелі,
Вітаючы наша вяртанне,
Вандроўныя зоркі.

*1945*

## УРАДЖАЙ

Яшчэ нядаўна першай навальніцай
Было абмыта поле, на якім,
Каб выгнаць з краю лютых чужаніцаў,
Не раз мы падымаліся ў штыкі.

Яшчэ нядаўна песняй перамогі
Быў на зары абуджаны наш край,
А ўжо шумяць усходамі разлогі,—
Нясі нам шчасце,
сёлетні ўраджай!..

Мы цалавалі зерне, перш чым кінуць
Яго ў разоры. Дружна, як на бой,
Выходзілі на працу золкам сінім,
Ўзбівалі глебу рупнаю рукой.

Прасілі сонца — падары цяпло нам.
Гукалі вецер — ты павей з паўдня.
І вось яно:
Усё наўкол зялёна.
І вось яно:
Ўсё прыгажэй штодня.

Калі б цяпер
Прыйшлі браты здалёку,
Дзе дабівалі ворага ў баю,
Як радасна байцам
было б
І лёгка
Глядзець на родную зямлю сваю!

І словы ўдзячнасці сказалі б пэўна
Усім яны:
І тым, хто збожжа веяў,
Хто дзірваны ўзнімаў,
І хто наладзіў сеўні,
І хто загоны з любасцю засеяў.
Мы гэта знаем.
І таму не раз
Нам снілася начамі,
Быццам гоні
Вясёлай мовай ячмянёў гамоняць,
Гукаюць нас.

І неадпойчы мы ўставалі рана,
Ды йшлі на поле сцежкай пратаптанай,
І радаваліся: буйная раса
Блішчыць на буйных пёрах, як сляза.
Глядзіш — густыя хвалі коціць вецер,
І ўжо зязюля жытні каласок
На ранку праглынула, і куванне
Надоўга абарвалася яе.
І чутка гэткая пайшла па свеце,
Нібы зямля, што ўвесь цудоўны сок
Дала для ніў, прасіла на світанні,
Каб людзі дар праславілі яе.

І мы клянёмся, што не ўчуем стомы,
Не дасядзім на йгрышчах, недаспім!
Як серп вастрыць —
з маленства нам знаёма —
І жыта жаць пад сонцам залатым.

Хай толькі нівы ў бронзавым загары
Паклічуць нас,—
Устанем да святла
І здзейснім нашу высненую мару
І той зямлі, што збожжу сок дала.

Тады напішам хлопцам на чужыну,
Туды, аж за браслаўскія муры:
Герояў помніць родная краіна,
Праменныя чакаюць вас дары!

*1945*

## ПРОДКАМ

Вы маглі пад высокай красою нябёс
Шчырым дарам жыцця захапляцца да слёз;
Вы маглі азалець,
як на тое загад,
У сувеях,
Але не памкнуцца назад;
Вы маглі свае звонкія
Шчырыя песні
Сінім рэкам аддаць,
І нябёсам, і ўзлессям.
Толькі вам не давалі
Ні сцежкі, ні ходу
Ля другіх азярышч,
Пад другім небазводам.
Нехта быў бы між вас
Неўміручым Калумбам,
Ды ніколі не ведаў
Ні мора,
Ні румбаў.
А калі ў белы свет

Уцякаў ты з нягоды,—
Цябе свет прымушаў,
Каб адрокся ад роду.
Каб забыўся, што вырас ля белых бяроз,
Што ты ў шчасці чуллівы і добры да слёз,
Што ты можаш упасці,
як будзе загад,
У сувеях,
Але не памкнуцца назад,
Што ты маеш у спадчыне
Звонкія песні,
У якіх аспяваны
І зоры і ўзлессі...
Але вы зліталвання прасіць не ішлі,
Не працягвалі рук да заморскай зямлі,
Вы крывёй палівалі
Забыты свой край,
У ружовых надзеях хавалі адчай.
Вы трызнілі ў лятунках
Пра светлую долю
І не раз за яе
Грозна біліся ў полі.
Мары-сны вы нашчадкам
Перадаць прысягнулі...
Над калыскай
Пра іх
Мы ад матак пачулі.
Мы пачулі пра іх, калі нашы бацькі
Каля дымнай лучыны вастрылі штыкі
Ды збіраліся ў бой з думкай той жа,
што й вы,—
Каб сказаць злому свету,
Што край іх жывы,
Што не горш ён нічым
За краіны другія,
Мае сэрца, і голас,
І крылы тугія.
Гэта чутае намі ад нашых бацькоў
З іхнім смуткам у нашу ўлівалася кроў,
І калі ў нас пыталі, што будзем рабіць,
Як ўзрасцём, мы адказвалі:
— Край свой любіць!..
Мы не знаці тады яшчэ,
Доля якая

На дарозе пяторанай
Нас напаткае,
Але мы ўжо з маленства
Сябе рыхтавалі,
Каб адкрыць свайму краю
Шырокія далі.
Вось яны перад намі сягоння!
Ў баях
Палымнеў над паўсветам чырвоны наш
сцяг.
Многа гора было, дзён нямала сплыло,
Але помнікам вам — нашай славы святло.
Вы усталі б, напэўна,
Каб гэта магчыма,
Хоць бы раз яшчэ глянуць
На край свой вачыма,
Склалі б песні пра шчасце
Краіны бяскрайняй,
Памаглі б ёй у працы
Вялікай дзяржаўнай.
На каленях прад намі
Тэўтонская плойма.
Хто не ведае сёння
Нашых гоняў і поймаў?
Кожны стрэл наш гучаў,
Як былiннае слова,
Пра лясы Беларусі,
Палі і дубровы,—
Што ёсць край, дзе шляхі і абшары балот,
Чым валодаў спрадвеку адважны ваш род,
Гэта край, у якім добра звацца гасцьмі,
А хто з шабляй ідзе,
Той лажыцца касцьмі!

*1945*

## УСПАМІН

Ледзь толькі ты ступіла на парог
І прывітання вымавіла словы,
Туга мая — я чуў яе спалох —
Пакінула лятунак мой вясновы.

Што ты з сабою ў хату прынясла?
Я не гадаў. А толькі ў тую хвілю
Я ўбачыў Сож, пачуў усплёск вясла,
Успомніў дні, што нас навек зраднілі.

Здалося мне, што ўвесь бацькоўскі край —
Зялёны луг, і клёны ў буйным росце,
І цёмны бор, і сіні небакрай
Ка мне з'явіліся здалёку ў госці.

Я кінуўся насустрач: — Ты прыйшла...
Але вачам прадстала толькі ціша,
А ў гэтай цішы песня праплыла
І збіла крыллямі пялёсткі з вішань.

*1945*

## СЛАЎГАРАДЦАМ

Вітанне вам, мае сябры,
Сыны тых вольных ніў,
Дзе калісь з Кабінай гары
Швед меч свой ураніў;

Дзе танкі немцаў над Сажом
Грызе, як моль, іржа,
Дзе косці ворагаў ля стром
Пад шыгаллём ляжаць.

Я помню ўсе твае шляхі,
Мой Слаўгарад лясны,
І ў расцяробах кут глухі,
І бераг верасны.

Там яшчэ ходзяць басаногіж
Майго маленства дні,
Там на світанках ціхі Сож
Мой звонкі голас сніць.

Па вечарах гарыць маяк,
Як зорка, ў Гайшыне,
І маці родная мая
Ўсё журыцца па мне.

Няма мілей, радней зямлі
Ад той, дзе з песняй рос.
Заўсёды, дзе б мы ні былі,—
Наш лёс ёсць краю лёс.

І ўсе, хто зараз ад яе
Далёка,—
Рады чуць,
Што сёння вас, браты мае,
Героямі завуць.

Заўсёды дружныя, вы зноў
Паднялі працы сцяг.
Калгаснік з Рудні ці Кліноў
Стаў мастаком жыцця.

І веру я, што праз гады
Красу людской вясны
Праносіць будзе, як заўжды,
Наш Слаўгарад лясны.

*1945*

## АСЕННЯЕ РЭХА

Стаеннік лёгка выскачыць з двара
І ля бяроз пакіне пошчак звонкі.
А пошчак рэхам стане і ў барах
З самім сабою пойдзе наўздагонкі.

Яго пачуюць гусі ля балот,
І здасца ім, што гэта кліч з Егіпта:
— Пара, пара вам, шэрыя, ў палёт
Да цёплых рэк, да стройных эўкаліптаў.

Гусак расправіць крыллі.
Што ж, гайда?
Але ў куп'і угледзіць журавіны,
І раптам сэрца сцісне цца: шкада,
Шкада закутак гэтакі пакінуць.

Ён крыкне сумна, аж лісцё з крушын
На дол насыплецца, а вецер з жаху
Наўцёкі кінецца і ля шашы,
Дзе дом стаіць, напорацца на бляху.

Адтуль спаўзе, на выцвілай мяжы
Пакруціцца ды стукне ў акаліцы:
— Гэй, гаспадар руплівы, адкажы,
Якое цуда табе ўранак сніцца?

І, бы ў адказ, пачуе скрып варот.
Юнак прад ім трывожна крыкне:
— Ко-сю!
Падковаў звон, і рэха ля балот,
І кліч хлапца сальюцца ў сугалоссе.

*1945*

## БОР

Па-над Сажом стаіць стагодні бор.
Яшчэ я змалку знаў, што столькі год
Знішчаў яго без літасці тапор
І секлі ліўні грозных непагод.
І я здзіўляўся часта, як ён мог
Праз век спрачацца з бурамі ў палёх.

Але йшчэ больш здзівіўся я, калі
Праз чвэртку веку з вогненных шляхоў
Паклон пакутнай бацькаўскай зямлі
Прынёс і родны бор угледзеў зноў.
Стаяў ён, гэткі ж хмуры, над Сажом
І сінню пакрываўся, як плашчом.

І я сказаў, зайздросны, што каб мне
Жыццё дало вось гэткі самы лёс,
Дык тыя песні, што я склаў вясне,
Жылі б вякамі і не чулі слёз.
Няслі б у свет яны красу сваю.
Дзівак,— я гэтак думаў, не таю.

Але калі прайшоў я ўшыр і ўдоўж
Па тым бары і ўбачыў, колькі ран
На кожнай хвоі,
Колькі спіць дубоў
Апошнім сном на выгарах палян,—
Я зразумеў, якое трэба мецъ
Імкненне жыць, каб вечна зелянець.

*1945*

## АПОШНЯЕ ВІТАННЕ

Я напісаў табе пісьмо
Яшчэ вясной зялёнай,
А толькі сёння аддаю
У рукі паштальёну.

Я аддаю і не прашу,
Каб ён спяшаўся з поштай.
Цябе ўсё роўна не вярнуць,
А снамі жыць навошта?

Далёка, недзе за Дняпром,
На магілёўскіх лядах,
Ляжыць маленькі груд зямлі
Пад гільзай ад снарада.

Убрала восень навакол
Палі і луг страката.
І не знайсці маім лістам
Прытулку адрасата.

Паходзяць, сумныя, яны
Па ўсёй зямлі і з жалем
Калісьці вернуцца назад,
Туды, дзе казкай сталі.

Я пакладу іх у кішэнь,
Душа замрэ на хвілю.
Але прыпомняцца шляхі,
Дзе мы ў баі хадзілі.

І я ізноў паверу снам,
Што ты ажыў,— паверу.
І ў белы свет
Цябе вітаць
Пашлю лісток паперы.

Так, я пісаў сваё пісьмо
Яшчэ вясной зялёнай.
А толькі сёння аддаю
У рукі паштальёну.

*1945*

## ЛІВЕНЬ

Ён быў такім магутным, лівень,
Што мог, здавалася, скасіць
Дуб, як травінку, і ў парыве
Маланкі ў небе пагасіць.

Размыў шляхі, прыбіў да долу
Зялёных парасткаў узлёт,
Прайшоў здаволены, вясёлы
Ракой праз кожны агарод.

Калі ж зямля сказала «досыць»,
Каб сонца ззяла для сялібо,—
Ён расчасаў яшчэ раз косы
Бяроз, напіўся мёду з ліп

І, заглянуўшы ў вокны хаты,
Ціпіком блукаючы ў лістах,
Вясёлкай, яркай і стракатай,
Над краем радасным устаў.

*1945*

## ПЯЛЁСТКІ

Адвячоркам уподбег прайшоў над
Сажом
Вецер поўначы, дужы і порсткі.
Наляцеў на шыпшыны і ўміг, як нажом,
Пазразаў з іх крывінкі-пялёсткі;

Пакружыўся з цудоўным багаццем
такім
Над пярэстымі доламі выспаў
І барвовай расою са шчодрай рукі
Ў садзе стройную вішню
абсыпаў.

Засмяяўся ад шчасця і ў закут бароў
Паляцеў пад зялёныя сховы.
А высокая вішня дзівілася:
кроў
На руках у яе ці то дар жаніховы?

*1945*

## ПАДАННЕ ПРА САЛДАТА

**(Фрагменты паэмы.
З франтавых накідаў)**

Ты скажы мне, зямля мая,
Колькі слаўных і мужных сыноў
Да цябе не вярнулася
З грозных ваенных шляхоў?

За аршанскімі брамамі
На руінах палеглі адны.
А другіх аж ля Волгі
Пахавалі ў пясках валуны.

Але ўсюды, дзе бростані
Ні прымусілі іх паміраць,
Пра адно яны думалі:
Толькі б гора тваё зваяваць.

Толькі б выручыць,
вызваліць
Ад навалы твой шлях і твой дзень,
Тваю мару вячыстую —
Ахаваць на вякі
для людзей.

На руках паміраючы,
Аддавалі нам зброю сваю.
І прасілі, каб ворагаў
І за іх мы знішчалі ў баю.

Помняць далі смаленскія,
Як ішлі мы да бацькаўскіх хат.
Там ляжыць пад калінаю
Бараўнічы, харобры салдат.

Над ракою Угрой
Накапалі магілку салдату,
А жалобу з сабой
Панязлі да ягонае хаты.

Колькі боек прайшлі,
Колькі жыццяў згарэла, як знічак?..
Дзе ён, груд той зямлі,
Што навекі абраў Бараўнічы?

Многа пройдзена вёрст,
А здаецца байцам днём і ўночы,
Ці зашэпча авёс,
Ці абпалены лес зашапоча,—

Ім здаецца штораз,
Быццам сябра гукае іх звонка:
Пакуль гнеў не пагас,
Ідзіце, чакае старонка!..

Далёка той бераг...
А хлопец нібы паміж намі,—
Салдацкаю верай,
Салдацкімі думамі, снамі...

І вось ажыло паданне...
Па цёмных лясах,
Па мройных палях.

Дзе кожная траўка крывёю паліта,
І позняй парой і ранняй,
Ці ранак
Асыпле пялёсткі на шлях,
Ці ноч
Рассцілае туманы над жытам,

Праходзіць яно па шляхах крыжавых,
На варце стаіць, у паходы гукае,
І шчыра і проста даходзіць да ўсіх
Аповесць такая.

Быццам бачылі самі
Тры хлопцы-салдаты,
Як з магілкі ўставаў Бараўнічы.
Быццам чулі начамі
Тры хлопцы-салдаты,
Як гучаў яго кліч ваяўнічы.
Прасіў ён сваю
Ненаглядную маці
Па ім не рыдаці.
Маліў Беларусь,
Колькі сіл яго стала,
Каб сум разагнала,
Свабоды чакала!

А яшчэ кажа так паданне:
Ледзь вячэрнія ветры павеюць з дуброў,
Бараўнічы блукае адзін па курганні
І шукае, гукае сяброў.

Па-над ім расцвітаюць высокія зоры,
Пад расою ўздыхаюць, свяжэюць лугі,
І так хочацца сэрцу свабоды, прасторы,
Што, глядзі, разарвецца з тугі.

Хлопец спыніцца, сціхне,
Што там чуецца ў далях?
То ж, здаецца, гарматы
Зару прывіталі.

Хлопец слухае.
Што там за песня такая?
То ж, здаецца,
сябры яго ў бітву гукаюць.

І магілу сваю хоча кінуць салдат
І спяшацца
ляцець да бацькоўскіх прысад.

Там яго па руках
Калісь маці насіла.
Там усё з даўніх дзён
Гэтак люба і міла.

І сцежкі, і краскі,
І песні, і казкі,
І лес, і дубровы,
І захад барвовы.

Ды не гэткая выпала воіну доля,
Не пакіпуць яму здратаванага поля.
Ледзьве ступіць ён крок
На заход ад магілы —
Падымаюцца здані
Ля вербаў пахілых.

Ледзьве ступіць другі —
Перад ім, нібы хмара,
Тыя здані ўстаюць,—
Непазнаныя твары.

— Гэй! — крычыць Бараўнічы.—
Скажыце мне, хто вы?
Аж магутнае рэха
Ідзе за дубровы.

— Як свае вы, дык рукі
На дружбу падайце.
А як ворагі вы —
Дык галовы трымайце!

Сціхла ўсё. Нават вербы
Маўчаць, бы жывыя.
— Хто вы? — зноў ён пытае
І чуе:
— Мы тыя,

Што ішлі за табою
І ўранні і ўвечар,
Каб скарыць тваё сэрца,
Сагнуць твае плечы.

Сотні год мы нянавісць
Сваю гартавалі,
Каб пры нас груганы
Твае вочы дзяўбалі.

Мы тэўтонаў нашчадкі
І табе не даруем ніколі,
Што паўстаў супроць нас,
Пакасіў нас у полі.

Твае косці славянскія
Па полі раскінем.
А магіла твая
Будзе багнаю сіняй.

Чуеш? Стань перад намі
Хутчэй на калені...

Бараўнічы ўсміхнуўся,
Нібы ў задуменні.

Што ён думаў? Пра тое
Не гаворыць паданне.
Толькі кліч яго грозны
Пачула курганне:

— Гэй жа, злыдні, былі вы
Да славы ахвочы.
Я свінцом напаіў
Вашы прагныя вочы.
Мала вам — болей дам!
Будзе бой, будзе люты.
Зноў прыпомню я вам
Майго краю пакуты!

Ні гранат у героя, братцы,
Ні вінтоўкі.
Калі хавалі,
Мы змаглі з ім як след развітацца,
Толькі зброі ў зямлю не паклалі.

Як бы сціснуў ён зараз
Сваю стрэльбу — рука адпачнула!
Як бы ўспомніў, таварыш,
Ён тваю таварыскую чуласць.

Над касцямі тэўтонцаў
Пакланіўся б табе, як сонцу:
— Дзякуй, дзякуй, мой браце,
Салдаце.

Але, мусіць,— героі дужыя
Нават тым, што жывым не ў знак,—
Нават шэптам балотнай ружы,
Нават жвірам рачнога дна.

Нават вецер-вяшчун крылаты,
Нават кветка, лісток дубка —
Ўвесь свой гнеў аддаюць салдату,
Каб мацнела яго рука.

І ўсю ноч над Угрой
Не сціхае гарачы бой.

Не! Не ўдасца ліхому зброду
Стаць сцяной між зямлёй і небам.
Бараўнічы ўмеў заўсёды
Пастаяць за сябе як трэба.

Гэта цаля зямлі шырокай,
Што сягоння завуць магілай,
Ад бацькоўскіх палёў далёка
Стала сэрцу такою мілай.

Тут усё з ім, у цалі гэтай,
Што пражыта і што, як мару,
З цяжкім ранцам пранёс ён светам
Скрозь нядолю і скрозь пажары.

І хоць лепш адпачыць пад сонцам,
Але гэткі ўжо лёс героя,—
І ў бяссмерці не ведаць спакою,
Быць зямлі абаронцам.

І ўсю ноч над Угрой
Не сціхае гарачы бой.

Б'юць наўкола трывогу
Жывыя крыніцы.
Само ліха ідзе на падмогу

Ліхім чужаніцам.
Пот і кроў на слядах...
Але ёсць яшчэ ў хлопца сіла!
Бо з маленства бяда
Быць упартым яго вучыла.

Бараўнічы —
сам сокал —
Груганоў ненавісных знішчае.
Ля каліны высокай
Па-над ім яго шчасце лунае.

Тое шчасце, якое
З хаты маці панёс ён з сабою.
Тое шчасце, якое
Яму мужнасць давала ў час бою.

Вось яно разгарнула
Над ракой свае крыллі тугія,
На ўсе грудзі ўздыхнула —
І пабеглі пачвары ліхія.

Хто ў дрыгву, хто ў шыпшынне,
Аж па ўсёй па даліне.
Куды вочы вядуць,
Куды ногі нясуць.

І к магілцы ў той міг
Падплывае блакітная хваля —
Змыць з героя гарачы пот.
Бераг зноўку заціх,
І сядзіць Бараўнічы і ў марах
На радзіму трымае палёт.

Бача ён за балотам
Скрыжаванне дарог.
Ад ліпнёвай спякоты
Ціхі лог занямог.

Толькі дзесь на руінах
Плач пачуўся. Чаму
Голас родным і мілым
Раптам здаўся яму?

Над калыскаю, можа,
Голас той па начах
Пеў хлапцу аб прыгожых
Аб купальскіх агнях?

Ці ў маленстве, мой родны,
Без маркотных думоў
На той голас лагодны
Ты спяшаўся дамоў?

Дамоў...
Як з касою прайшоўся б ён пожняй!..
Дамоў...
Нават вымавіць слова
не можна...

Хіба могуць смяяцца вочы,
Калі
Слёзы іх у тузе сірочай
Жылі?

І прад тым,
як зноў
Сном прывецiць зару,
Просіць маці салдат:
— Даруй...

Не выходзь ты на шлях,
Не чакай ты мяне,
Сціхла сэрца ў грудзях
На дваццатай вясне.

Сілы досыць таіў,
Змалку страху не меў.
Пастрачала ў баі
Злая куля мяне...

Ён на захад глядзіць з маркотай,
Чуе там крумкачовы грай.
— Маці, маці,
мне б сёння з ротай

Прабівацца
у бацькоўскі край.
Ды ці здужаць нагам паходы?
А ці выстаяць хоць да зары?
Беларусі нясуць свабоду
Баявыя мае сябры.

Ты насустрач ім выйдзі ў поле,
У зялёны наш сад правадзь.
Можа, ўспомняць мяне
на волі
Ды пажурацца трошкі хоць.

Пачастуй іх кляновым сокам,
Што вясной нацадзіла мне.
Хай увойдзе ў іх сэрцы глыбока
Боль па роднай маёй старане.

Каб жыла з імі
помсты прага.
А, згадаўшы цябе ў баю,—
Каб праносілі побач са сцягам,
Нібы зброю,
і скруху тваю...

Шчыры заклік сыноўніх слоў
Колькі будзе блукаць па сцежках?
Цераз фронт праз гушчар лясоў
Да Прапойска яму ці дабегчы?

Ці дабегчы да тых дарог,
Для якіх у хвіліну гэту
Бараўнічы, каб толькі мог,
Дык аддаў бы
палову свету...

Так ён кліча — усе хай пачуюць!
І штодзень і штоночы
Па краіне сумуюць
Бараўнічага сэрца і вочы.

І тады толькі хлопец
спакойна засне,
Калі край, дзе матуля яго калыхала,
Назаўсёды забудзе бяду і навалу,
Поле роднае
зернямі шчасця засее

І багатую ніву сажне...
Аб тым кажа нам паданне...
Па цёмных лясах, па чыстых палях,
Дзе кожная траўка
крывёй паліта,
І позняй парой і ранняй
Ці ранак асыпле пялёсткі на шлях,
Ці ноч рассцілае туманы над жытам,—
Праходзіць яно,
як калісьці ў баі,
На подзвігі новыя кліча,
Каб гэтак любілі радзіму ўсе мы,
Як шчыры салдат Бараўпічы,—
І сцежкі і краскі,
І песні і казкі,
І тое, што помнікам стала ў агні,
І тое, што выспее ў новыя дні.

А ўспомнім герояў,
што палі за край,
Над Волгаю ці ля Бярозы,—
І слёзы папросяцца з воч,—
што ж, няхай...
Хай плыняць —
То добрыя слёзы!..

*1943—1944*

* * *

Вось такі быў май, вось такі:
Шызы голуб піў з твае рукі,
«Дзе ты, маці? Твой вярнуўся сын!» —
Біла громам музыка з расін.

Вось такі быў май, вось такі:
Дзень у дзень ішлі дамоў палкі,
Людзі цалаваліся, а слёз
Не хаваў ніхто —
як сонцы, нёс.

Вось такі быў май, вось такі:
Палымнелі ў косах касніkі.
Голуб буркаваў: гасця прымай...
— Любы!..— Бегла ты...
Такі быў май!..

*1946*

## СЦЯГ

Вораг стрэў нас ля вёскі
Агнёвай сцяной,
Перасохлі за хвілю ліпнёвыя росы,
І кароткую ўцеху ад цішы дзянной
Спапяліла пажарам на ўлонні палосак.

Колькі сэрцаў замоўкла ў агні над пяскамі!
Але смерць не змагла перарэзаць нам шлях.
У той міг сцяг гвардзейскі з'явіўся прад намі
У парторга ў руках.

Ён, як полымя, ўвысь
Шугануў, разгарнуўся ў імгненне,
І на воінаў
Родны, жывы
Глянуў Ленін.

Ўсім здалося тады,
Што пад лютым агнём
Ён устаў перад ротамі ў поўны рост
І са словам, што ў сэрцы запала праз гром,
Пайшоў напрост.

— Наперад!
Роты йшлі. Іх нішто не магло спыніць!
Бо адна толькі думка валодала ўсімі:
У змаганні сваімі грудзьмі засланіць,
Зберагчы найвялікшага сына Радзіме.

*1946*

## ПАСЛЯ НАВАЛЬНІЦЫ

Заўсёды пасля бурнай навальніцы
Клякоча над разбураным гняздом
Ды арлянят падлічвае арліца.

І песціць тых, што жывы, пад крылом,
І кліча тых з тужліваю надзеяй,
Каго разбіў аб скалы цяжкі гром.

Сціхаў апошні водгук грознай дзеі,
Яна ж чакала: вернуцца сыны.
І вочы ўдаль, у змрок шляхоў глядзелі.

Мо недзе прыпыніліся яны,
Салодка спяць, а сумны матчын голас
Хіба ўстрывожыць светлыя іх сны?

І толькі як праз дзень на скалах голых
Вада пад сонцам знікне — хоць бы след,
Яна ў жальбе апусціць пізка голаў.

Але ізноў устане. Грозна ўслед
Праклён пашле няміласным грымотам,
Што страсянулі ўвесь вакольны свет,

Паплача па загінуўшых употай
І ласку ўсю сваю аддасць жывым,
Каб крыллі іх мацнелі для палёту.

*1946*

## ХАРВАТЫЯ

Я пачуў у горах песню
У Харватыі, ля Савы,
І з тых пор усё здаецца,
Што ўзрастаў я ў той краіне.
Пад высокім чыстым небам,
На лугах, дзе ў пояс травы,
Ля азёр, дзе пат упочы
Сонца б'ецца ў хвалях сініх,

«Маці родная Айчына,
Нас ты ў горы гадавала,
У душы тваёй быў смутак,
А на белым целе — раны.
На шляхі крыві і славы
Мы з бацькамі выйшлі змалу.
Ты сама, Айчына, знаеш,
Як табе мы ўсе адданы.

Колькі мы начэй не спалі,
Ля грудзей сушылі порах,
Колькі мы сяброў харобрых
У цяснінах пахавалі,—
Каб твае лугі і нівы
Не таптаў чужынец-вораг,
Каб твая шумела воля,
Як шырокай Савы хвалі.

Ёсць усё цяпер
навекі
У цябе: і лёс, і доля,
І вясна, і неба ў зорах,
І шырокі шлях гасцінны,
І дубы ў барах дрымучых,
І пшаніца ў родным полі,
І браты,
што выручалі
У змаганні твайго сына.

І што ёсць у нашым любым,
Партызанскім вольным краі,
Будзе нашым назаўсёды,
Не мінецца наша свята,
Покуль спяць байцы ў магілах,
Покуль страху
край не знае,
Покуль б'ецца на свабодзе
Сэрца мужнае харвата».

Я пачуў у горах песню,
І, пакуль ішоў дадому,
Песня ў далях не сціхала,
Ўсё гучала за плячыма.

Вось і Сож,
а ўсё чуваць мне
Рэха песні той знаёмай,
І здаецца,
што іш0ў я
Па шляхах
адной Радзімы.

*1946*

## У БАЦЬКАВАЙ ХАЦЕ

Дарогамі рознымі
З арміі роднай
Ішлі тры браты пасля бітваў
У вёску пад Гродняй.

Прайшлі яны з песнямі
Земляў нямала,
Пакуль прад вачыма, бы ў казцы,
Айчына прадстала.

Асенняю раніцай
Нёману хвалі
Здалёк яшчэ плёскатам звонкім
Байцоў прывіталі.

— Дзень добры вам, родныя!..
Вось і прыйшлі мы!..

І маці ляціць да іх птушкай
І песціць вачыма.

Абдымкамі моцнымі
Бацька страчае
Сыноў,
і на покут іх кліча,
І гэтак пытае:

— Скажыце ж, сыны мае,
Скуль вы ідзеце,
Што чулі ў краінах далёкіх,
Што бачылі ў свеце?

Дзе з войскам праходзілі,
Дзе ваявалі?
І як вас — ці добра заўсёды —
Там людзі страчалі?

Адказвае першы:
— Пабыў я, татуля,
У вогненных стэпах ля Волгі
І ў горным ауле.

Дунайскімі хвалямі
Штык мой амыты.
А бераг дунайскі
крывёю
Варожай паліты.

Прайшоў з вызваленнем я
Шлях да Белграда,
І ўсюды былі мне, як брату,
Сябры нашы рады.

Дзяўчаты белградскія
Песні мне склалі,
А ў песнях тых
сэрца дарылі
І шчасця жадалі.

І сына сярэдняга
Слухае бацька:
— Я ворага нішчыў без жалю
Ля сцен ленінградскіх.

Праз пушчы фінляндскія
Ды праз фіёрды
Праносіў я сцяг Перамогі
Высока і горда.

І словы пачуліся
Трэцяга сына:
— Я скончыў свой шлях пераможны
На плошчах Берліна.

З сябрамі харобрымі
Біў я чужынцаў
На курскіх палях і на нашых
Бабруйскіх гасцінцах.

І кліч мой за Віслаю
Рэхам крылатым
Заходзіў, як вестка аб волі,
У кожную хату.

— Паклон жа вам, сокалы,
Бацькаўскі, нізкі,
Нядарма я вас гэтак песціў
Ад самай калыскі.

Скажыце ж яшчэ адно
Мне, дарагія:
На свеце прыйшлі даспадобы
Вам землі якія?

І разам адказваюць
Хлопцы:
— Ў прыкмеце
Нямала ёсць добрых і слаўных
Старонак у свеце.

А ўсё ж аніводнае
Гэткай чароўнай,
Як наша, краіны не знойдзеш,
Не знойдзеш ёй роўнай.

Гадамі нам сніліся
Пушчы над Нёмнам,
І нашы багатыя нівы,
І люд наш нястомны.

Мы чулі, як з воблакам
Сосны гамоняць,
Як Нёман магутную хвалю
У Балтыку гоніць,

Як з бурай змагаюцца
Парасткі ўвесну,
І звонка спяваюць і клічуць нас
Нашы нявесты.

*1946*

## ЗАХОД СОНЦА

Высока-высока ў блакіце
Яшчэ клекаталі арлы,
А тут ім адказвала ў жыце
Сям'я перапёлак малых.

Пчаліныя звонкія зовы
Яшчэ былі чутны ў лясах,
А ўжо на лугі і дубровы
Цішком ападала раса.

І злосная, што ўсё не моўкне
Ліпнёвага дня дабрыня,
Вяла асцярожна навокал
Свае невады цішыня.

Вось вецер найшоў на таполі
І полымя збіў з верхавін,
Шарэла жытнёвае поле,
Дыхнула туманам з лагчын,

Ужо і сава на курганні
Начны пачала свой дазор,
А ўсё ж не сціхала змаганне,—
За сонцам цягнуўся прастор.

І толькі калі па-за хмарай
Схаваўся апошні прамень
І гром дзесь за пушчай ударыў,—
Здавалася — здасца ўжо дзень.

Але то была, можа, хвіля.
Пранесла грымоты, і зноў
Ад радасці загаманілі
Барвовыя кроны кляноў.

Арліны ізноў чуўся клёкат.
І следам за ўспышкай зарніц
Даносіла ветрам здалёку
Дыханне бурлівых крыніц.

*1946*

## ЗЯЗЮЛІ

За Сажом дзесь,
дзе вербы ў смузе патанулі,
Адгукнулася ціха зязюля зязюлі.
— Гэй вы, сёстры,
мо скажаце, колькі мне жыць?
Колькі лет
Краю роднаму
Песняй служыць?..

І ледзь кліч мой прайшоў
па барах, што ўзнялі,
Як крамлі, свае вежы да сіняе высі,
Галасы ўсіх зязюляў бацькоўскай зямлі
Да мяне даняслíся.

Разлягалася ў ростанях рэха кування
Ды плыло ўдаль, да мора,
— вясновай ракой,
І душа абуджалася пошчакам раннім...

Край ты ласкавы мой!

Калі даў ты мне лёс — столькі ў свеце пражыць,
Дык для шчасця твайго
Толькі буду служыць!

*1946*

## ЛЕТА

Чатыры дні пад спёкай
Загон пра лівень марыў.
На пяты дзень здалёку
Прыйшла на неба хмара.

— Сюды! — у тую ж хвілю
Ёй крыкнулі пшаніцы.—
Спрадвеку свет кармілі
Мы булкаю-бяліцай.

— Да нас! Бо смерць находзіць.
Вады наўкол ні кроплі! —
Крычалі ў агародзе
Высокія каноплі.

Лён шамацеў: — Нікому!
Мне больш за ўсіх патрэбна.
Я коўдрай стану ў доме,
Кашуляй, кайстрай зрэбнай.

А ячмяні з аўсамі
Ажно жаўцелі, гэтак
Стагналі: — Мы з вусамі,
Чым горшы наш палетак?

І толькі бульба, быццам
Не трэба ёй нічога,
Чакала навальніцы
Маўкліва, так знямогла.

І хмара ўпадабала
Яе
І, бы не чула
Ўсіх просьб, загрукатала
Ды к бульбе павярнула.

— Усё бяры, што маю! —
І лівень хлынуў з неба.
— Расці на радасць краю,
А мне ў дарогу трэба!..

Але, адчуўшы сілы,
Сказала скараспейка:
— Мяне ты напаіла,
Што ж, дзякуй, дабрадзейка,

Ды ведай: мне не ўседзець
Без суму, калі побач
Усіх маіх суседзяў
Пакінеш ты ў жалобе.

Глядзі: наўкол абшары.
Дай ты і ім напіцца...
...І стала шкода хмары
Канопляў, і пшаніцаў,

І ячмянёў з аўсамі,
І кожнае сцяблінкі,
Што столькі дзён чакалі,
Як шчасця, хоць дажджынкі.

І праліласл з ласкай
Уся на поле тое —
У даўгунец, у краскі,
У збожжа залатое.

Таму дажджом, і небам,
І ветрам навальнічным
Заўсёды пахне хлеб наш,
Цудоўны хлеб пшанічны.

*1946*

## КОЛАС

Коласу — вырасціць
жменю зярнят.
*М. Танк*

Вясной, толькі сонца сагрэла зямлю,—
Кінуў калгаснік
                    зерне ў раллю.
Поле
      з ласкай,
                    як шчырая матка,
Коўдраю цёплай
Укрыла зярнятка.
Потам,
          што па расінцы збірала,
Карміла,
Сокам,
          што з глыбіні даставала,
Паіла.
На свет, пад дажджы
Падымала ўлюбёна.

І скора
Колас
Устаў над загонам.

Доўга сонца гарачае
З высі

Песціла колас,
Каб добра наліўся,

Покуль прыгнуўся з пакораю долу,
Буйны, чакаючы жнеяў вясёлых.

Сціх урачыста ў той міг далягляд!..
Вырасціў колас жменю зярнят.

Зноў жа калгаснік, што веснаю калісь
Потам паліў неаглядпае поле,

Зерні правёў у дарогу і ветлым
Словам напутным даў запавет ім.

Што ён сказаў ім, куды іх паслаў ён?
Многа шляхоў у вялікай дзяржаве!

Кожнаму многае ў далях відно...
Прыйшло на руіны зерне адно.

Пад здатнай рукой, што зламала ўсе церні,
Ўзрасло над падмуркам калгаснае зерне.

Паклаў сваёй сілы рабочы нямала...
І вось —
Зерне домам цудоўным устала.

Відно яму ўсё: ці дарогі, ці далі.
І ленінскай школаю дом той назвалі.

Шле горад падзяку ад маці-краіны
У вёску, і ўжо селянін свайго сына

Праводзіць у горад вучыцца і кажа:
— Хай зерне навукі ў душу табе ляжа,

Як роднае наша; хай так прарастае,
Каб славы прыдбаў ты савецкаму краю.

Па іншых шляхах, ды з імкненнем адзіным
Астатнія зерні прайшлі ўсю краіну.

Адно з іх спынілася ў шахце, ў забоі,
На рэйдзе далёкім паўночным — другое;

Змагалася трэцяе за перамогу
На грозных, упартых дняпроўскіх парогах;

Чацвёртае — стрэлі заводы Урала,
А самае буйнае — песняю стала.

Прarosшы праз словы у сэрцах мільёнаў,
Прыйшла тая песня да родных загонаў

І радасным рэхам апала на поле,
Дзе столькі прастору, дзе столькі прыволля,

Дзе глебу ўзбівае калгасны араты,
Каб вырасціў новыя колас зярняты.

*1946*

## УСЛЕД ЗА ПЕСНЯЙ

«А я ў полі жыта.
У полі
Жыта
Жала...» —

Песня, жаночая, светлая,
Жыта крылом расхінае,
Крочыць
Па жыце;
З палеткаў
Жніўныя скарбы збірае.

А поле жытнёвае —
Вачмі не акінуць,
А жыта ліпнёвае —
Сцябло — чараціна.

Буйнае, рослае з коласам важкім,
Нават і песні змагчы яго цяжка.

А ўсё ж не спыняецца песня, мацнее,
Імкне ўсё далей, і за ёю
Спяшаюцца з ранку да вечара жнеі
Вясёлай сям'ёю.

Спіна — як нямая;
І млосці — не ўтоіш.
Але ж радасць якая!
Жыта ж якое!
Калі па-над ім і пральецца твой пот,
Дык хто пашкадуе,— бо гэтакі ўрод!
Ўвіхаюцца з ранку да вечара жнеі,
Дужэе жаноцкая песня, мацнее
І вось ужо вырвалася на прастору,
Ляціць па-над шляхам, над лугам,
над борам
І шчыра і проста расказвае свету
Пра ўвішную працу, пра яснае лета:
— А я ў полі жыта,
У полі
Жыта
Жала...

*1946*

## СВЯТА ЎЗ'ЯДНАННЯ

На рубяжах, на дарогах,
На пожнях, на нівах родных
Нас падняла трывога
І паставіла ў строй паходны.

Там, дзе пілсудчык гадамі
Свае будаваў кардоны,
Мы пранянслі з баямі
Сцяг вызвалення чырвоны.

Зямля Беларусі з усходу
Да сіняга Буга — па праву
Воляй і славай народа
Ўз'яднана ў адну дзяржаву.

Дзе злыбяда векавая
Не сыходзіла з вузкай палоскі,—
Сёння багаццем па краю
Калгасныя славяцца вёскі.

Ля Нёмана, каля Шчары,
У нарачанскай староцы,
Збыліся адвечныя мары,
Мары пра вольнае сонца.

На рубяжах, на дарогах,
На пожнях, па нівах родных
Пранеслі мы сцяг перамогі
Строем святочным, паходным!

*1946*

## АДЛЁТ ЖУРАЎЛЁЎ

Яшчэ гарэлі, быццам зоркі,
Маланкі-кветкі ля дарог,
Цвілі тапорыкі на ўзгорках,
І васілёк красу бярог;

Яшчэ пад сонцам
бор сасновы
Жывіцай дыхаў з-пад кары,
І захад сонца быў барвовы,
І быў ружовы лік зары;

Яшчэ начамі
рэчку ў зорах
Будзілі плёскатам самы,—
Калі стары вандроўнік-жораў
Пачуў пагрозны дых зімы.

Ён чуў яго
у шуме хваляў,
Што ўсё цямнелі дзень ад дня,
У тым, як ветры хмары гналі,
У злосным зыку авадня;

Ён чуў яго
ў цішы іржышча,
У крыку кані па лясах,
У тым, як сумны зяблік свішча,
Як цяжка падае раса.

Лісток альховы на залужжы,
Травінка кожная яму
Шапталі з смуткам:
— Чуем сцюжу,
Гэй, жораў, чуем мы зіму.

А дні ляцелі. Жораў пільна
Сачыў за зменамі ў жыцці
Ды спрабаваў
на дужасць крыллі
Над журавінамі ў трысці.

Вось і агністае убранне
Скідае лес сярод балот.
Пара!
І крыкам на світанні
Ён абудзіў увесь свой род.

— Гэй, дзеці, кланяйцеся гэтым
Барам, азёрам і лугам,
Што ў дні вясны і цёплым летам
Прытулак свой давалі нам.

Прыйшла пара ляцець за мора.
Скажыце ж дзякуй вы
зямлі,

Руччам сцюдзёным, сонцу, зорам,
Дзе мы без крыўды пражылі...

І ўвесь род ціхі жураўліны
За важаком падняў крылы,
І пакланіўся журавінам,
І праспяваў:
— Курлы-курлы!

Калі ж разліўся ў роднай шыры
Сцюдзёным сполахам усход,
Ужо над пожнямі
у вырай
Вандроўнік-жораў вёў свой род.

Плывуць пад імі лес, даліны.
Далей, далей —
а ўсё відаць:
На дзюбах птахаў журавіны
Пад сонцам восеньскім гарэць.

*1946*

## УСТУП

Калі праз нейкіх два дзесяткі год
Ужо вясёлым дужым юнаком
Ты прачытаеш гэтыя радкі
І прыгадаеш дзень пасля вайны,
Калі ты ўбачыў свет, а я, салдат,
Прыйшоў з чужыны да радзімых хат,
Ты зразумееш — подых той вясны
Чаму мяне натхніў на спеў такі,
Хоць сум гадоў і вызнаў я пайстком
Яшчэ да ўскрыку першага твайго.
Я знаў, як маці сохне над труной,
Ў якой ляжыць адзінае дзіцё,
Як пояць ветры цёплыя вясной
Лагодай ліўня першае лісцё;
Як чалавеку цяжка увайсці
У родны дом пасля выгнання дзён,

І ўсе дарогі радасці, і ўцех,
І навальніц, і смутку, і прыгод
Вядомы мне ужо тады былі;
Я мог па памяці па ўсёй зямлі
Прайсці праз горы, пушчы і праз лёд,
Без слова нават, без ніякіх вех,
Ці ў яву выліць самы дзіўны сон
І стаць вясновым рэхам у трысці.
Мне быў знаёмы грозных бітваў гром,
Жалезны град, свінцовая імжа,
Я сам ляжаў і кроў глытаў ля стром,
Дзе пад зямлёй сябры мае ляжаць;
Я знаў, што нельга матак суцяшаць,
Калі яны галосяць па сынах,
І грэх і крыўда сіратам маніць,
Што быццам прыйдуць іх бацькі дамоў
З тых сцежак, дзе ляглі касцьмі даўно,
Бо ўжо спрадвеку так было яно:
Ішла вайна ў наш край з чужых шляхоў,
Адтуль, дзе Эльба цёмная шуміць,
І ад тугі марнела не адна
Прыгожая і шчырая душа.
На караню выгарвалі жыты,
Што з любасцю вырошчваў чалавек,
Па старане лятункаў залатых
Брыла нядоля стогнамі калек,
І плакалі над Нёмнам, як цяпер,
Жанкі і праклінлі чужаніц,
І сын за бацькам уставаў на бой,
Як мы цяпер, у рукі зброю браў
Ды йшоў айчыне праўдай паслужыць,
Бо чуў ён сэрцам, што не зможа жыць
Без соснаў гэтых і без гэтых траў,
Што над яго шумелі галавой
Шчэ над калыскай, ды без тых крыніц,
Дзе ён ірваў на пішчаўкі аер.
А потым — на зямлі, якую ён
Ад чужаніц крывёю адстаяў,
Ягоны сын сніў цяжкіх шабляў звон
І хоць тужыў, а край свой аздабляў.
Ён не хацеў у свеце нічыйго,
Ён апіраўся на руку братоў,
Што ад яго жылі наўсцяж — на ўсход,
Каваў у кузні вострыя сярпы

Ды для палоскі гартаваў нарог.
Але праз час ізноў
з чужых дарог
Ляцела бура на яго слупы,
І ён, як бацька, рушыў у паход.
І так усё жыццё
сярод быцця і споў
Было выпрабаваннем для яго.
Я гэта знаў яшчэ тады, мой сын,
Калі мо толькі сніў цябе, але,
Як спелыя па ніве каласы
Да часу зерні берагуць свае,
Я нёс пачуцці ў сэрцы.
Можа, ў сне
Я толькі й мог іх выказаць услых.
Яны былі крыніцай, ціхі плёск
Якой ужо быў чуцен, а сказаць,
Калі з яе нап'юся,— я не мог.
І толькі ў дзень,
калі пасля трывог
Я ўзяў цябе на рукі патрымаць,
Калі адчуў адказнасць за твой лёс,
За свет лятункаў будучых тваіх,—
Прыйшлі жывыя словы да мяне.
Як быццам
бліскавіца ў гэты міг
Прастору асвяціла прада мной,
І ўсё, што я нягодаю спасціг,
Прачнулася, бы песня пад струной.
Я зразумеў, што абавязак мой
Не толькі даць табе цяпло і мір,
А й нагадаць, каб ты
пасля мяне
Заўсёды помніў, што на свеце дзесь
Ёсць людзі, што куюць сярпы вайны.
Праз лёс і славу роднай стараны
Ты ўбачыш сэнс жыцця свайго увесь,
Ты станеш братам песні і вясне
І шчасце возьмеш, калі краю шыр
З юнацтва зробіш
крэпасцю сваёй.
Твой род заўсёды йшоў супроць вятроў.
Не бойся ж буры!
А каб пачынаць

Табе лягчэй было,—
сярод бароў
Я сам збудую для цябе палац.
Я сам на поле выйду і вясной
Усе жаданні шчырыя свае
Пасею перад ранішнім дажджом,
Хай разальюцца
нівай залатой,
Няхай народзяць песню пра красу,
Якую ў новы свет гады нясуць,
Каб ты яе
пад ласкавай зарой
Спяваў, і рос шчаслівым юнаком,
І радаваўся: край твой устае,
Як ты,— асілкам з вогненнай душой.
А покуль шчэ
высокім быльнягом
Шляхі вайны не зараслі, пакуль
Вятры яшчэ ўрываюцца ў наш дом,
Пасечаны ў баях мільёнам куль,—
Я над тваёй калыскаю спяю,
Як паміраў адважны чалавек,
Як ён шукаў свой
пераможны шлях,
Пра той агонь, што калісь Праметэй
Для нас, нашчадкаў, вырваў у багоў,
І пра жалобу, што сярод снягоў
Нас падымала ў бойку, каб хутчэй
Радзімы сонца на яе палях
Дало зярнятам рост,
а ты павек
Краіну працай славіў бы сваю.

*1946*

# АГОНЬ

## Паэма

Каўказ маўчыць пад полагам зары.
За міг да дня зямлі салодка спіцца.
Не шчоўкне ні каменьчык на гары,
Ні дрэўца не ўздыхне па-над крыніцай,
Ні птушка не ўзмахне тугім крылом,
Не плёсне ні ручай пад валуном,
Маўчаць цясніны, травам сонца сніцца.
І толькі ў вышыні, ля хмар ажно,
Прыкуты над бяздоннем да скалы,
Далёка ад братоў сваіх — людзей —
Не спіць адзін пакутнік усю ноч;
Ён думае, чагось чакае слых,
Шукае штось вачыма.
Гэта — Праметэй.
А хто такі ён, што за чалавек?
Хто асудзіў яго на цяжкі здзек?
Ён вырваў сілу з хіжых рук багоў,
З іх кузні ўзяў і даў братам агонь,
Агонь жыцця, каб шчасце адкаваць...
Сягоння Праметэю паміраць.
Бязлітасны і злосны боскі суд.
Б'юць у званы труслівыя багі:
А ці не слабыя ланцугі?
А ці не мала вызнаў ён пакут?

*

Звініць жалеза. Сумны Праметэй.
Але не смерці ён баіцца, не!
Што смерць? Ці ж чалавек яе міне?
Другая дума у вачах яго,
Глядзіць праз цемру ён кудысьці ўдаль,
Чагосьці не стае яму.
Чаго?
Яму братоў сваіх пакінуць жаль.
Што — як не вынеслі агню яны
На свет праз буру, цераз валуны?..

Каўказ маўчыць пад полагам зары.
Навокал ціша,— хоць рукой бяры.

Але чыё шугнула там крыло?
Нібыта наляцеў віхор на дол.
Усім цяжарам
              проста над скалой
Павіс, як хмара цёмная, арол.
Ляціць драпежнік,
                    не на бой ляціць,—
Над чалавекам кару давяршыць.

З размаху люта ўдарыў першы раз
Ён кіпцюрамі ў грудзі бедака,
І здрыгануўся цяжка ўвесь Каўказ.
На скалы ірванулася рака,
Ад воблака,
              што спала на вяршыні,
Ком слёз апаў, рассыпаўся ў даліне.
Арол адчуў крыві гарачай пах,
Заклекатаў, аж пер'і дыба сталі.
А чалавек...
З надзеяй у вачах
Усё глядзеў, чагось шукаў у далі.

У гэты цяжкі і жахлівы міг
Ён думкай быў
              сярод братоў сваіх.
Уноў драпежнік крыллі распасцёр,
У нейкі міг падняўся вышай гор
І з цёмнай высі
              кінуўся наніз,
У грудзі ўпіўся і на іх павіс.
І ў гэты час пачуў ён голас:
                                        той,
Што ўсё маўчаў і ціха паміраў,—
Аж рэха загуло,—
                    так закрычаў.
Але то быў не стогн, не жальба, а
Крык радасці.
— Жывы! Жывы! —
Крычаў у свет, у далі Праметэй.
І раптам ацяжэлай галавой
Ударыў ненажэрнага арла
І ў вочы плюнуў згусткамі крыві.
Цяпер было герою ўсё адно:
Бо што шукаў вачыма ён даўно,

За што трывожыўся, што для яго было
Больш, як жыццё,—
цяпер ён знаў,— жыло.
Убачыў ён: за горамі, ўдалі,
Па роснай, па няворанай зямлі
Ішлі яго браты
і ў свет няслі
Агонь, які ён ім на шчасце даў,
І шлях прад імі ў стэпах
расцвітаў.
...Арол нанёс свой самы страшны ўдар
І ўжо глытнуў, здаецца,
сэрца кроў,
Ды ў гэты міг — як бліскавіца з хмар
Мільгнула;
па гарах — як гром прайшоў,
Змярцвеў арол, пападалі багі,
У бездань паляцелі ланцугі.
Маланкай
З Праметэевых грудзей
Жывое сэрца
вырвалася ў лёт.
Па свеце пранясло сваё цяпло
І там злілося з сэрцамі людзей.

*

Па-над сівымі кручамі Дняпра
Дзень нарадзіўся. Сонца узышло.
Дыміўся ў росах стэп; з сырых балот
Цягнула свежасцю;
у векавых барах
Святлела засень;
вёў падлеткаў лось
На вадапой;
пад сонцам спакваля
Уся наўсцяж збуджалася зямля,
І па яе бяскрайняй шыры скрозь
З вясёлым гоманам ішлі ўпярод
Асілкі-людзі, мужны смелы род.
Славянскі вымаў чуўся:
На руках
Былі ў іх векавыя мазалі,
Абветраныя твары — ў пісягах.

Відаць, няласкавы быў іхні лёс,
Нялёгкі шлях з пячэраў, з-пад зямлі
На шыр палёў, на прыдняпроўскі плёс.
Але цяпер няслі яны з сабой
Агонь жыцця,
і, можа, ў гэты міг
Упершыню і мара к ім прыйшла,
І песня ў сэрцы крылы падняла.
Шугаў агонь высока над зямлёй,
І каля вогнішча ўжо нехта з іх
Адклаў тапор каменны і між спраў
Упарта гнуць
жалеза спрабаваў.
Цяжкая праца. Першая з уцех.
Шугаў агонь. Звінеў вясёлы смех.
Ішоў з агнём звычайны чалавек.
І гэта пачынаўся
новы век.

*

Колькі ёсць у народа дачок і сыноў,
Стольскіх можа зрабіць ён сваімі героямі,
Навучыць іх ісці
супроць грозных вятроў
І маланкі з душы
высякаць у баю,
І з вясной сябраваць
і не плакаць у роспачы.
І таго, хто ў змаганні і ў працы цяжкой
Самым здатным і смелым між слаўнымі
выдаўся,
Змог падслухаць, чым дыхаюць сэрцы
людзей,
І заўважыць, куды іх скіраван пагляд,
І пазнаць іх жаданні
і словамі яснымі
Іх адвечныя мары і думы іх выказаць,
Народ сваім робіць абраннікам.
Ён дае яму зрок свой магутны, і слых,
І свой розум упарты, і сэрца вялікае,
І гарачую кроў, і спакойную ўпэўненасць.
І мільёнамі рук падымае яго

Над усёю зямлёй,
над сваімі галовамі.
— Паглядзі і скажы нам, што бачна ўдалі,
Што нам трэба зрабіць,
каб да шчасця дайсці свайго?
Абяры нам з усіх табе відных шляхоў
Самы просты, шырокі і сонечны
І вядзі нас,
і хай хоць і буры грымяць,—
Мы не спынімся, мы не пахілімся...
Вось чаму мы запомнілі ўсе на жыццё
Чалавека з прасцёртаю ўдалеч рукой,
Бачым мы, як сцягоў
калыхаецца полымя
Пад ягонай рукою і рвецца ў палёт,
Чуем мы, як гучаць
яго словы агністыя
І як ім адгукаецца
ясная будучнасць...
...Праметэй калісь вынес у людзі агонь
І пакінуў навекі. У змрочныя дні
Ён нат марыць не мог,
што з ім будзе, што станецца.
І народ толькі, мужны і смелы народ,
Змог пранесці агонь праз нягоды і ростані
І нідзе ані кроплі яго
не згубіць.
І, шукаючы выйсця
ў прасторы шчаслівыя,—
Сам рассеяў ён цемру над роднай зямлёй,
І драпежнікаў крыллі зламаў, і над пожнямі
Песняй працы гучаў, падымаў гарады,
Асвятляў сутарэнні, у медзі звінеў,
Цераз межы праходзіў, братоў акрыляў,
Што яшчэ ўсё марнелі ў палоне ў пачвар,
І збіраў у адну маладую сям'ю
Ўсіх, хто іскру змагання ў сэрцы насіў,
І скіроўваў іх думы і вёў іх у шлях
Да багацця і славы
пад сонцам свабоды.

*

Ты, што калісь назваў упершыню
Сваёй радзімай гэты край чароўны,
Чый звонкі кліч парушыў цішыню
Яго лясоў ад поўдня і на поўнач;

Хто першы кінуў зерне ў дол сухі,
Каб вырас колас між дубоў шумлівых,
Каб апасля з-пад простае сахі
Устала ў полі радасная ніва;

Хто першы дзіду вострую скаваў
У простай кузні, пад гамонку бору;
Хто ў першай бойцы
смела пастаяў
За лёс жыцця, за родныя прасторы,—

Калі б ты мог устаць у нашы дні,
Ты ўгледзеў бы такую прад вачыма
Красу, якой, быць можа,
нават і не сніў,—
І пакланіўся б новым дням Радзімы.

Ты пакланіўся б тым,
хто ў новы свет,
У свет, для новай славы збудаваны,
Вядзе той край, дзе ты пакінуў след,
Калі прынёс агонь у першы ранак.

Ты сёння шмат чаго б не зразумеў:
Жыццё другімі зроблена рукамі.
Але як шчыра працаваць умеў,
Дык ты плячо ў плячо
пайшоў бы з намі.

Ты навучыўся б з намі даставаць
Руду з глыбіняў, і каваць маторы,
І на шырокіх крыллях узлятаць
Ажно туды, дзе зацвітаюць зоры,

І для палацаў шліфаваць граніт,
І пракладаць шляхі праз акіяны,
І ажыўляць маўклівы малахіт,
І прабіваць праменнямі туманы.

І мы далі б табе душы сваёй —
Вялікае і светлае —
часціну,
І ты б усёй істотай і крывёй
Адчуў размах жыцця сваёй краіны.

Глядзі, якія ясныя шляхі
Адкрыты перад намі
і якія
Ідуць па іх асілкі-юнакі,
Ў вачах — агні і мары веснавыя.

Яны ідуць, і думкі іх лятуць
Усё далей у радасную яву,
Ім трэба ў шчасце першым зазірнуць,
У працы ўзвысіць бацькаўскую славу.

Але ім выпаў лёс не толькі ўзяць
І здзейсніць аж усіх стагоддзяў мары,
Ім выпаў лёс — у бітвах адстаяць
Красу жыцця
і знішчыць злых пачвараў.

Ім выпаў лёс праславіць у жыцці
Адважны род патомкаў Праметэя.
І рубяжы бяссмерця перайсці,
Калі прыйшла часіна грознай дзеі.

*

Світала. Па-над роднаю зямлёй
Стаяла ціша. Быў вакол спакой.
У люстрах рэк
пялёсткі зараніц
Плылі павольна;
на палях жыты
Купаліся ў тумане;
пах суніц,
Як мора, разліваўся па лясах;
Звінелі ціха на слупах драты;
І на шырокіх плошчах ў гарадах
Спакойна
калыхаліся сцягі.

А ля заходніх родных рубяжоў
Ужо гарэлі вёскі, гарады.
Сурова пачынаўся гэты дзень,
Драпежніка павіс над краем цень,
І ўжо нявінная лілася кроў.
Не разбудзіла маці, як заўжды,
Дзіцё ў калысцы;
не пайшоў касіць
З расой калгаснік;
у вачах вясны
Як бы парвалася якаясь ніць;
Дзяўчына не дасніла свае сны.
Яшчэ учора вечарам яна
На растанькі хадзіла,
з васількоў
Вянок пляла, чаборам заплятала,
Каханага пад вербамі чакала,
І доля ёй была яе відна,—
А толькі ноч мінула, ў вышыні
Паспелі толькі зоры пабляднець,
Раса апала на траву ледзь-ледзь,
Шчэ губы пацалункаў чулі жар,—
А ўжо як не бывала цішыні,
Як бы далёкай стала маладосць,
Як быццам не было дзявочых мар...

*

Няпрошаны стаяў прад намі госць.
«Адкуль ён? І чаго прыйшоў да нас?» —
Так думалі мы ўсе
ў суровы час,
Калі нас разбудзіў трывожны гром.
Але калі заслаў зямлю
пажараў дым,
Крыж чорны ў небе сонца засланіў,
І першымі ахвярамі ў крыві
Браты упалі нашыя,—
Ў той міг
Мы зразумелі ўсё...
Адчулі мы,
Што гэта наш адвечны вораг зноў
Ідзе нас разлучыць з жыцця святлом,

Нясе нам путы і бяздонне цьмы,
Ідзе забраць багацці нашых ніў
І вытравіць у сэрцы маладым
Свабоды дух,
што лёс вякоў жывіў.
І гэта падняло народ.
Народ,
Які ніколі голаў не схіляў,
Які нідзе набок не саступаў,
Калі настала грозная пара,
Устаў на бой
з адвагай змагара,
Сказаў сынам і дочкам пра іх лёс,—
І ў тыя дні ніхто не бачыў слёз.
Мы сталі ў строй.
Мы паднялі агонь,
Які служыў нам для жыцця,
Каб ім
Цяпер ліхіх чужынцаў спапяліць.
І ўжо ўзляцеў Гастэла над зямлёй,
І па-над краем бацькаўскім сваім
Пачварнага драпежніка скрышыў,
І полымем смяротным з вышыні
Упаў на зграю ворагаў шалёных...
У бітвах самай грознае вайны
Героямі зрабіліся мільёны.

*

Мы многае пазналі ў барацьбе.
Нам кожны дзень,
што пражылі мы ў міры,
Стаў даражэйшы ў тысячы разоў;
Як птушкі, мы ў бядзе шукалі вырай,
Але душа імкнулася дамоў;
Чым галасней гудзела непагода,
Тым большай была ўпартасць у народа,
І вочы, пасвятлелыя ў журбе,—
Хоць і няласкавай была ў нас доля,—
Ўсё ж Перамогу бачылі і волю,
Бо чулі мы сябе
вялікай сілы
Адзінымі на свеце ўладарамі,

Той сілы, што вякоў прыгнёт скрышыла
І нашы будні сонцам азарыла.
Не! Мы на хвіліну не былі
Пахіснуты ў сваёй вялікай веры,
Хоць права жыць
у шчасці на зямлі
І здабываў народ нялёгкай мерай.
Я ўспомню зараз тыя дні,
і зноў
Гнеў страсяне душу маю.
Такія
Краіне вораг жахі нёс, якіх
Ніколі не маглі мы даравадь.
Я чую звон фашысцкіх кайданоў,
Зноў бачу, як паўзе фашысцкі змей:
Калючы дрот, прасторы снегавыя,
Сядзяць нявольнікі, і сярод іх
Сястра мая. Дзяўчынка.
Не пазнаць
Ні стомленага твару, ні вачэй.
Як пчолка,
што ўляцела ненарокам
У хату з ветрам, спуджана аб шыбу
Ўсё б'ецца крыллямі,—
хоць бача вокам
Зялёны гай, і ціхую сялібу,
І кветкі ў садзе, і свой вулей родны,
А вылецець на волю не свабодна,—
Так бача дзеўчынка —
ёй дзевяць год —
Свой край бацькоўскі, і бары, і поле,
Дзе ласка у яе была і воля...
Усё ў яе чужынцы адабралі,—
І слёзы-росы ніжуцца ў каралі.
— Пусці! — крычыць дзяўчынка,
А над ёй
Звяруга-немец падымае бот.
Пачвара! Каб ён толькі разумеў,
Які тады ў нас нарадзіўся гнеў!

*

Ёсць маладосць у чалавека,
і яе
Жыццё для весняй радасці дае.
І мо страшней няма нічога ў свеце,
Чым бачыць,
як у цяжкіх ланцугах
Праходзяць пад штыкамі юнакі.
У твары б'е вільготны польны вецер.
І боль і крыўда свецяцца ў вачах.
Навокал іх азёры і стаўкі,
Ўсё роднае, загоны і прылессі,
І тут не скажаш — сум... Тут многа больш!
Тут мужнасць іх,
і просьба іх, і боль,
І мо няма страшней нічога
іхняй песні:

Як засвішча-зашчабеча ў лузе салавей,
На ракітавым кусточку седзячы,
Горкую каліну клюючы.

Як затужа-заплача хлопец малады,
На чужыну, у няволю ідучы,
Сваіх сяброў-таварышаў просячы:

— А скажыце ж вы татулечку майму,
Няхай жа ён усіх конікаў прадае
І мяне з няволі забярэ.

— Няма каму, наш ты братка, гаварыць,
Твой татуля у сырой зямлі ляжыць,
Чорным воранам паклёваны ляжыць,
А табе загадваў:
жыць — багатым быць.

Як засвішча-зашчабеча ў лузе салавей,
На ракітавым кусточку седзячы,
Горкую каліну клюючы.

Як затужа-заплача хлопец малады,
На чужыну, у няволю ідучы,
Сваіх сяброў-таварышаў просячы:

— А скажыце ж вы матулечцы маёй,
Няхай яна ўсіх каровачак прадае
І мяне з няволі забярэ.

— Няма каму, наш ты братка, гаварыць,
Твая маці ў сырой зямлі ляжыць.
Лютым ворагам загублена ляжыць,
А табе сказала:
жыць — здаровым быць...

Але няма больш грознай сілы ў свеце,
Чым маладосць, якая з кайданоў
На волю вырвецца,
здабудзе зноў
І зброю, што належыць ёй па праву,
І славу, заўсягды жывую славу,
Яна без літасці ўсё знішчыць,
што
Нясе жыццю пакуту. І нішто
Яе не спыніць там, дзе сонца свеціць.

*

А родзіч наш нядарма нёс вякамі
Агонь для нас.
Нядарма Праметэй
Даў першы прыклад мужнасці і веры.
І мы жывую спадчыну бацькоў
Нядарма азарылі славай новай.
У грознай бойцы кожны сын народа
Героем стаў,
бо чуў ён у сабе
Святло жыцця і сілу пакаленняў.
— Агонь! —
адно гучала слова
І ў полі, дзе вірылася вайна,
І ў кузні, дзе кавалі людзі зброю.
Мы спапялялі лютых чужаніц,
З братоў збівалі ланцугі няволі,
Вярталі ім іх дужасць.
І дзяўчынку
Зноў сустракалі кветкі, і сады,
І ласка, і спагада, і цяпло.
І юнакі зноў бралі ў рукі зброю.

Той міг для іх
другім быў нараджэннем.
І калі ўстаў у бойцы сярод нас
Юнак, якога край назваў навекі
Матросавым,—
свет зразумеў, якой
Магутнаю неперaможнай сілай
Валодае вялікі мой народ!

*

Матросаў! Пра яго па ўсёй зямлі
Цяпер, напэўна, складзены быліны.
А ён жа наш,
мы побач з ім ішлі,
Адны былі ў нас каскі, шынялі,
Адны у сэрцах думы пра Айчыну,
Ён рускі сын. Адной сям'і мы з ім.
Адной нас маці надарыла мовай.
Чаму ж нялёгка адшукаць так слова,
Каб аб салдацкім подзвігу суровым
Сказаць народу
гімнам веснавым?
Ці мо таму,
што подзвіг гэты быў
Такі, якіх жыццё яшчэ не знала?
Ці мо таму,
што ў громе барацьбы
Аб ім сама радзіма песню склала?
Ці мо таму,
што ў подзвігу ягоным —
Мы ўсе, жывых сяброў яго мільёны,
А пра сябе нялёгка гаварыць...

Але заўжды ён
прад вачмі стаіць,
Жывы, спакойны, як у тое ранне,
Калі прыйшла пара выпрабавання.
А потым — бой. Вось паднялася рота.
Пракладвалі мы шлях сабе агнём.
Але калісь адважны Праметэй,
Агонь жыцця здабыўшы для людзей,
Не змог, напэўна,
вырваць у багоў

Агонь пакуты.
І вось сёння зноў
Ён згубай стаў у ворага ў руках.
Гром крышыць дрэвы.
Выйшла смерць на шлях.
Праз цяжкі дым, над горкім палыном
У вочы б'е смяротная спякота.
І, можа, ў тое ж самае імгненне
Адно прыйшло да кожнага рашэнне,
Але ўстаў першым ён.
Рукой магутнай
Як быццам змёў захопнікаў з зямлі.
Крывёю, што бурліла ў мужным сэрцы,
Заліў агонь пакутнай злоснай смерці,
І сціхнуў гром. І далечы вясны
Адкрыліся прад намі,
і далей
Нямала вёрст мы апасля ішлі,
А ўсюды родны голас быў нам чутны,
І прад вачыма
ззяла ясным ззяннем
Кроў юнакова
на сцягах змагання.

*

Браты! Нам не забудзецца ніколі
Той час, калі
застаўся за плячыма
Бацькоўскі край, яго лясы і поле,
Яго лугі, і рэкі, і разлогі —
Усё, што мы завём сваёй Радзімай,
Усё, дзе пралеглі для нас дарогі.

Над краем зноў цвіла
зара натхнення.
Зямля чакала мірнай шчырай працы.
А мы яшчэ ўсё йшлі у наступленне,
А нам народ загадваў не спыняцца.

І мы ішлі, і падалі аковы,
І вольнымі нявольнікі ўставалі,
І ім было жывое наша слова
Як песня, што ў жыцці даўно чакалі;

І мы давалі ім сваё дыханне,
І сэрцаў моц, і мар сваіх імклівасць,
Каб на суровым
полі гартавання
Яны ўзрасцілі лёс сабе шчаслівы.

І радасна ўздымаліся іх грудзі,
А мы дарылі ім святло Радзімы.
— Ідзіце і будуйце шчасце, людзі,
Глядзіце ўдаль свабоднымі вачыма.

І колькі ёсць краін, на ўсіх дарогах
Ўставала нашых дум і сэрцаў ззянне,
І, можа, самай большай
Перамогай
Вось гэта і было ва ўсім змаганні.

*

І ў гэтыя дні
Мой сябра, суровы танкіст,
З дарогі вайны
Паслаў
для патомка свой ліст:

«Мой шчыры дружбак,
Нашчадак вялікіх спраў,
Ці знаеш ты,
як
Я паміраў?

Чатыры гады
Залеў я на вёрстах дарог,
Гарэлі сады,
І дым іх на сэрца мне лёг.

Я попелам быў
І цэглай разбітых муроў,
Як рэха жальбы
Гучаў па жалейках бароў.

Ў крывавай раллі
Я жытам пабітым марнеў,
Гняла да зямлі
Ліхая нягода мяне...

Мой шчыры дружбак,
Нашчадак вялікіх спраў,
Ці знаеш ты,
як
Я ўваскрасаў?

Я знішчыў пачвар
Агнём — перунам не раўня,
Разбіў горы хмар,
Даў сонца для новага дня.

Я кветкай узрос
На сцежцы, дзе бура прайшла,
Лісцё для бяроз
Крыві маёй кропля дала.

Нанова ў палях
Я жытам высокім устаў,
У думках і снах
Як песня жыцця
прагучаў.

Мой шчыры дружбак,
Нашчадак вялікіх спраў,
Я ў громе атак
Жыццё для цябе зберагаў.

Ідзі ж і бяры
І лёс мой, і сэрца святло,
Палі і бары,
Усё, што мне сілу дало,

І помні сябе
Жыцця абаронцам заўжды,
Ці то ў барацьбе,
Ці ў плённае працы гады.

І помні: ў вяках
Ты слаўнае сілы ўладар,
Нясі ж яе ў шлях —
Для света —
як радасці дар!»

*1947*

## МАЦІ СЫНА ШУКАЕ

Маці сына шукае,
У ракіты пытае:
— Адкажы мне хоць ты, маладая,
Адкажы, бо спакою не маю:
Што рабіць?
Як пайшоў на вайну
Сын, дык трэцяе лета
Ані слыху, ні весткі няма,
Ні прывета.
Толькі чула я ў песні,
Быццам ляжаў на прылессі
Ці паранены ён, ці забіты
Пад зялёнай ракітай...

Зашумела ракіта,
Адказала матулі:
— Сын твой быў тут калісьці
Варожай паранены куляй.
Але быў ён з сябрамі,
Што глядзелі за ім, як за братам,
Палявымі шляхамі
Зноў пайшлі
на змаганне салдаты.
А куды, я не знаю.
Ты ідзі ў бор дрымучы на Нёмне,
Там вятры спяць у засені цёмнай,
Што па цэламу свету лятаюць.
Разбудзі, запытайся ў вятроў,
Дзе твой сын,
ці ён жыў, ці здароў...
— Дзякуй, любая...—
Маці да пушчы спяшае,
Разбудзіла вятры, ў іх пытае.
Адказаў маці вецер вясновы:
— Бачыў я,
Як з гарматы
Чужаніцаў ён нішчыў ля Львова,
Вёў герояў-салдатаў
У атаку ў славацкіх далінах,
А яшчэ яго бачыў
У баі на руінах Берліна.

Кажа летні ёй вецер:
— Твайго сына і я запрыкмеціў.
Бачыў я, як ішоў ён дадому
З далёкай чужыны,
Як яму, маладому,
Кветкі з ласкай дарыла дзяўчына.
Бачыў, як тым вось полем
Ён за плугам хадзіў,
жыта сеяў...
— А дзе ён?..
— У жыта спытайся ты, дзе ён...
Маці пушчу мінае,
У буйнага жыта пытае:
— Красуеш ты, роднае жыта,
На радасць, на шчасце краіне.
Скажы ж, залатое, скажы ты
Усё аб маім любым сыне.
Буйны хіліцца колас,
Праменнямі сонца наліты.
Пакланілася долу,
Адказвае жыта:
— Не журыся ты, маці,
Сын твой, можа, ўжо ў хаце,
Бо як тут ён з дзяўчынай сваёю
За плугам хадзіў баразною,
Дык усё пра цябе з ёй, каханай,
Песню пеў, сумаваў у той ранак.
— Дзякуй, роднае! —
З радасцю весняй, з надзеяй
Маці ў шлях паспяшае, душой маладзее.
Дзесьці песня пральецца,—
Маці чуецца голас знаёмы.
Стук уласнага сэрца
Аддаецца ёй водгуллем грому.
— Сын жывы!
Маці слёзы глытае.
А навокал зямля расцвітае.

*1947*

## ЛЯ ВІТРЫН

Як радасна бачыць
    Між цёмных руін
Агністыя вокны
    Вячэрніх вітрын.

Яны — нібы заклік
    Кідаюць да ўсіх,
Што горад сапраўдны —
    Не горад без іх.

І гэта — дапраўды,
    Нашто тут таіць:
Маркотна праз цемру
    Па пустках хадзіць.

Ці ж дзіўна, калі мы —
    Час маем ці не —
Прыпынімся, сціхнем
    На міг пры акне.

За шклом прад вачыма
    У ззянні агнёў
Для нас ажываюць
    Праекты дамоў,

Шырокія плошчы,
    Кварталаў рады,
Калоны, праспекты,
    Алеі, сады.

Такім будзе горад
    Праз колькі гадоў —
Мо самы прыгожы
    З усіх гарадоў.

Стаяць будзе ўночы
    Заліты святлом
Палац на Савецкай,
    На Ляхаўцы дом.

Як робіцца цёпла
    На сэрцы ў людзей!
І колькі лятункаў,
    І колькі надзей

Народзіцца ў гэту
Зімовую ноч,—
Да дня не самкнём мы
За працаю воч,

З-пад кропелек поту
Устаў каб для нас
Сталіцы адроджанай
Радасны час!..

Лягчэй, браце, крочыць
Між цёмных руін,
Калі загараюцца
Вокны вітрын!

*1947*

## ВУЛІЦА

Ты прыйшоў да знаёмых мясцін.
Снег. Маўклівае поле руін.
Да вярбы клён пад сіверам туліцца.
Дзе ж яна, твая родная вуліца?
Нехта скажа:
— Такое няма...
— Як?
— Яе замяла зіма...

Навакола тырчаць, бы крыжы,
Каміны,—
на іх рэйкі пагнутыя ўпалі.
Цішыня. Ды такая, што слова скажы —
Здрыгануцца спалохана
снежныя далі.

Што ў душы тваёй будзе ў той міг,
Не скажу.
Але ведаю, ведаю:
Ты пасля шмат начэй недаспіш,
І не раз, можа, недаабедаеш,
І каханай не пойдзеш страчаць,
Сэрца нават прад ёй не расчуліцца...

Будзеш жыць толькі тым,
Каб падняць,
Каб ізноў адрадзіць сваю вуліцу.
А чаму мне вядомы твой смутак
і шлях твой круты?
А таму, што і я ў гэты горад
прыйшоў, як і ты.

*1947*

## ПРАЛЕСКІ

Зноў з вятрамі і сонцам прыйшоў красавік,
І павеяла водарам з мінскіх узлескаў.
І я ўспомніў, што летась яшчэ абяцаў
Падарыць табе кветкі юнацтва — пралескі.

Я згадаў і адчуў, як праходзяць гады,
Дні за днямі знікаюць нібы неўзаметкі.
Але сёлета нам з табой многа вальней,
І я ўсё ж прынясу іх, шчаслівыя кветкі.

Я таксама люблю, каб вясной на акне
Ўсё гарэлі, не гаснучы, кветкі жывыя.
А цяпер жа мы ўдвух, і наш светлы пакой
Захаваў яшчэ хвойныя пахі лясныя.

*1947*

## ГРАНІТ

Нанова будуючы горад,
Знайшлі мы ў руінах граніт.
Глядзелі крывавыя плямы
З шырокіх паліфаваных пліт.

Мы кроў тую з іх не сціралі,—
Была гэта праца цяжкой.
Бо зналі, што змыць яе змогуць
Адны толькі ліўні вясной.



Кастусь Кірэенка (справа)
з бацькам Ціханам Мітрафанавічам,
маці Еўдакіяй Іванаўнай
і малодшым братам Мішам.



Студэнты Гомельскага педінстытута
Кастусь Кірэенка і Леанід Гаўрылаў.
1938 г.

А к знойдзеным плітам наш майстра
І новыя пліты паклаў,
Якія з вясёлаю песняй
Пад сонцам вясны шліфаваў.

Ён так шліфаваў іх старанна
Ці ў ночы, ці ў ясныя дні,
Што ў плітах адбіліся кветкі,
І неба, і плошчаў агні.

Суровы і просты, як воін,
І гэткі ласкавы на від,
Адзеты навекі, на славу —
Наш дом — у люстраны граніт.

*1947*

## ЦЯГНІК

Днём і ноччу ляцеў паравоз,
Запылены, закураны,
Аж з Урала
Жалеза вёз
У горад разбураны.

— Гэй, дай ходу! — крычаў з усіх сіл,
Трывожыўся: позніцца...
Машыніста прасі не прасі —
Падвезці не возьмецца.

Але стаў ля Дняпра берагоў
Паравоз,
Каб напіцца пад соснамі.
І адсюль пачалося
Яго
Падарожжа дзівоснае.

Покуль піў ён ваду і стагнаў:
— Цяжка... Ногі стаміліся...
Машыніст —

Як адбіцца,
Не знаў,—
Лесарубы ішлі ўсё, прасіліся:

— Мы не спалі начэй — толькі каб
Просьбу горада выканаць —
Пілавалі кражы,
Дуб і граб
Для будоўлі вялікае.

Выручай, завязі іх туды,
Няхай горад вырастае;
Завязі,
А твайго праз гады
Не забудзем сяброўства мы...

Машыніст — эх!..— рукою махнуў:
— І адкуль вы з'явіліся...
І бярвенні мо ў хвілю адну
На платформах змясціліся.

Ледзь скрануўся, загуў паравоз,
Як бы грозячы некаму:
— Гэй, скрышу...
Вецер грукат панёс
Над палямі, над рэкамі.

Зноў прад ім рассцілаўся прастор.
Але хутка нанова
Воўчым вокам міргнуў семафор,
Зноў пачуліся словы:

— Завязіце! Для горада мы
Цэглу маем адменную,
Каб на месцы руінаў дамы
Ўсталі з моцнымі сценамі.

Машыніст пацямнеў. Як тут быць?
Адказаў ледзь не плачучы:
— Ну і што ж мне, браточкі, рабіць,
Кладзіце! На ўдачу ўжо...

Зноў спяшаўся цягнік. Браў разгон,
Стаў як быццам крылаты...

На раз'ездзе спынілі яго —
Цэлы полк! —
Юнакі і дзяўчаты.

— Падвязі! Не пакрыўдзі ўжо нас...
Чуеш кліч над руінамі?
Мы не можам не быць ў гэты час
Там з усёю краінаю.

І забраў усю моладзь цягнік,
Слухаў — ёсць яшчэ сілы,
І быў рады, што столькі радні
Мае горад наш мілы.

— Гэй, сядайце! — крычаў ён.— Каму
Мо яшчэ трэба ехаць?..
Родны край адгукаўся яму
Гулкім радасным рэхам.

*1947*

## КАРАБЛІ

Вясновае сонца з вятрамі ў хаўрусе
Зганяла сувеі з зямлі.
І вось — па рачулках, па ўсёй Беларусі
Ізноў паплылі караблі.

Папера і дрэва, а скажаш — лінкоры.
— Пускайма! — крычаць хлапчукі.
І ў думках іх ззяюць марскія прасторы
І свецяць партоў маякі.

Пад ветразем пеняцца шумныя воды.
Маленства... Калісьці штогод,
Ледзь толькі ўставалі рачулкі з-пад лёду,
І мы майстравалі свой флот.

Адкуль жа ж у нас, што ўзраслі на прылессях,
На ціхай, няморскай зямлі,—
Марацкія мары і флоцкія песні,
Жаданне вадзіць караблі?

Напэўна, такая душа ўжо ў нас. Мусіць,
Ад першай маленства вясны
Мы чуем, што мы не адной Беларусі,
А ўсёе Радзімы сыны.

Радзімы, ў якой столькі мораў і даляў
І столькі шчаслівых шляхоў,—
Будуй караблі, прабівайся праз хвалі
Да новых яе маякоў!

*1947*

## КРЭМЛЬ

Жыццё дало мне шчасце:
Сёння
Свае гасцінныя вароты
Крэмль адчыніў перада мной.
— Заходзь!..
І, можа, ўпершыню
Я зразумеў, чаму мне маці,
Яго не бачыўшы ні раз,
У простай казцы пра асілка
Змагла сказаць, што ён такі.
Такі,—
Што я магу вось зараз
Зайсці ў палац звычайным крокам
І ў сэрцы новых сіл дыханне
І нараджэнне песні ўчуць;
У рукі ўзяць галінку з хвоі,
Пазнаць палескай пушчы пах,
І ахмялець, і ўчуць у далях
Зямлі бацькоўскае напеў;
Пакратаць сцены векавыя,
Іх моц адчуць і ў родны Мінск
Зноў захацець, каб на руінах
Палац прыгожы збудаваць...
Але не толькі я адзін
Прыйшоў сюды. З усёй краіны
Са мною тут мае сябры.

І кожны з іх на гэтых сцежках
Знаходзіць рысы тых дарог,
Дзе ён ішоў у маладосць.
Куточак рускае зямлі
Ў сябе ўвабраў Радзімы рысы,
Сабраў усіх народаў думы
І, як у люстры, іх адбіў.
І ў шчасці — людзям розных моў —
Нам захацелася ля гэтых
Высокіх вежаў размаўляць
На мове той, якая ўсіх
Нас у адну сям'ю з'яднала.
Нямала шчырых слоў знайшлі мы
У гэту радасную хвілю.
Было так цёпла,
Шчыра,
Проста...
І так хацелася, каб радасць,
Што прамяніла ў нашых сэрцах,
Дайшла да ўсіх людзей планеты
І аб'яднала іх,
Адкрыўшы
Прад імі
Шлях у шчасны свет!..

*1947*

## ПЕРАД ВЯСНОЙ

У гэты год ляжаў на рэках лёд
Такімі грудамі, якіх старыя
Не помнілі ў жыцці сваім.
Снягі
Схавалі ўсё: і зараснік балот,
І азярцы, і сцежкі баравыя,
І шыр палёў калгасных, і лугі.

Сярод сувеяў ніклі над Сажом
Ажно па грудзі хвоі. Часам сонца
З'яўлялася на міг. А там ізноў

Снег плыў і плыў. І гэтак дзень за днём.
У цішыні, спакойнай і бясконцай,
Зямлі трызніўся весні шум жытоў.

І гэтак жа — адсюль за многа вёрст —
У стэпах прыдняпроўскіх на Ўкраіне
Бялелі снегавыя валуны.
Снег аздабляў узорамі прастор
І цёплай коўдрай слаўся на раўніне,
Што зерні прыняла пасля вайны.

— Быць сёлета ўраджаю, так і знай.
Сама зіма — найлепшая прыкмета.
— Як папрацуем, будзе збажына! —
Казалі людзі.
Ўвесь савецкі край
Чакаў, вялікай радасцю сагрэты,
Вясны.

...І вось прыйшла вясна...
Але пакуль прачаўраюць палі
І зацвітуць —
я расказаць павінен,
Чаму ў сваім запеве я з'яднаў
І мары беларускае зямлі,
І думы нашых сябраў на Ўкраіне.
Я ўспомню пра іх даўнасць.
Вось яна...

Задоўга да апошняе вайны,
Як быццам бы яшчэ ў трыццаць дзевятым,
Спаборнічаць рашылі між сабой
Дзве вёскі.
З магілёўскай стараны —
Асінаўка, калгас тут быў багаты
І славіўся ўрадліваю зямлёй.

Другая — гэта Сытаўка была,
Уздоўж Дняпра што пралягла падковай,
Вачыма ў стэп, у неагляднасць ніў.
І трэ адзначыць:
еднасць іх расла —
Як песня сэрца.
У жыцці вясновым
Адзін парыў да шчасця іх зрадніў.

Ды ўрэшце —
так было, і ў гэтым соль.
А хто з калгаснікаў найбольшай славы
Дабіўся — гэта цяжка нам сказаць,
Бо ў край прыйшла вайна.
Вялікі боль
Скаваў прасторы роднае дзяржавы,
Настaлі дні за шчасце пастаяць.

Ад ніў, дзе выспявала збажына,
Дзе столькі год прайшло
ў руплівай працы,—
Пайшлі Радзіме верныя сыны
На грозны бой,
і дума іх адна
Вяла ў паход — змагацца і змагацца,
Каб зноў спакой вярнуць для стараны.

А потым цёмнай хмарай наплылі
Дні акупацыі. Агонь развеяў
Здабыткі ўсе з калгаснага двара.
Больш трох гадоў дзічэў абшар зямлі,
І людзі ў барацьбе
жылі надзеяй,
Што вернецца шчаслівая пара.

І толькі вось цяпер,
калі салют
Уславіў над краінай Перамогу,—
Ізноў былыя сцежкі ажылі.
І там, у ціхай Сытаўцы, і тут,
На выбітых асінаўскіх разлогах,
Ляглі палоскі першае раллі.

З тых дружных і няўтомлівых людзей,
Што да вайны вялі ў калгасах справу,
Не далічыўся многіх родны кут.
Пад Віслай злёг у бойцы Карандзей,
Асінаўскі парторг,
і ў час аблавы
Замучан быў гестапам цесля Груд.

У Сытаўцы загінуў палявод,
І старшыня Майвока — камсамолец,
І многія яшчэ з былых сяброў —

З шляхоў вайны,
пасля суровых год,
Ды з катаргі фашысцкае,
з няволі,
Сягоння не вярнуліся дамоў.

Таму нямала часу з даты той,
Як вызвалены край быў,—
ані вестак,
Ні сувязі між імі не было.
Калгасы зноў
раўнялі дружны строй,
Усё наспех збіралася да месца,
Гаіла раны цяжкія сяло.

Але куды б ты нас ні кінуў, лёс,
І як бы цяжка ні было —
заўсёды
Шлях да сустрэчы знойдуць дружбакі!
Заззяла сонца. Вецер гром пранёс.
І час настаў, калі
пасля нягоды
У поціску сышліся дзве рукі.

Па вольным ветры прадвясновых дзён
Прыйшло у вёску Сытаўку здалёку
Маленькае трохкутнікам пісьмо.
Зірнуў на адрас хлопец-паштальён
І пацямнеў. Было пісьмо Майвоку,
Што смерцю вызнаў ворага ярмо.

Ужо хацеў юнак паслаць назад
З адпіскаю: «Не стала адрасата»,
Але пайшоў спытацца ў сельсавет.
Там доўга старшыня, танкіст-салдат,
З сябрамі раіўся,
пакуль хтось раптам
Не крыкнуў: — То ж з Асінаўкі!
Вось адрас — «Новы свет»!

— З Асінаўкі?..
І ўсім прадсталі ўраз
Былыя дні, сябры у «Новым свеце»,
Над Сожам жыта з коласам, бы звон,

Як ён жыве цяпер, дружбак-калгас?
І парашылі —
лiст у сельсавеце
Ўсё ж прачытаць: а мо калгасу ён?

— Калі табе, Ахрыме, гэты ліст,
Табе! — тады даруй нам, браце любы,
Мы памяць не кранём тваю, павер...
А мо калгасу...
— І былы танкіст,
Суровы старшыня, асілак русачубы,
У хваляванні
той адкрыў канверт.

І вылецеў з канверта на сукно,
Як ластаўка,
вясёлы фотаздымак.
І ўсе пачырванелі... Хто б то знаў...
Марыся...
Так, яе даўно
Тут ведаў кожны... Любая Ахрыма...
Як часта ён дзяўчыну ўспамінаў...

І слёзна заўздыхалі ўсе жанкі,
Што тут былі...
Збіралася вяселле...
А выйшла — не гадай і не чакай...
Мужчыны зірк адводзілі ў бакі,
Як быццам бы чагось недаглядзелі
Ў сваім жыцці...
А ліст...
Вось ён ляжыць...
Чытай...

Ляжыць... чытай...
— Чытай жа, старшыня!
І з ім, і з ёй раслі ў адной сям'і мы.
Адзіны боль, адна туга, сябры...
І ў дом прыйшла такая цішыня,
Што ўчулі ўсе,
як ходзяць над радзімай
І п'юць снягі
паўдзённыя вятры.

Прымоўклі сэрцы...
Але з першых слоў
Усе ўздыхнулі — ліст быў для калгаса.
Была ў ім біяграфія сяла
З тых грозных і суровых тых гадоў,
Як апаліла край вайна,—
да часу,
Калі дарога ў працу,
ў мір лягла.

Пра славы шлях, пра партызанскі шлях
Была ў пісьме аповесць.
Пра герояў,
Што вырасціў радзіме «Новы свет».
Пра жыта, што пасеялі ў палях,
Пра будаўніцтва, што пачнуць вясною.
І ўсім сябрам —
паклоны напаслед.

І тут жа запрашэнне: з гэтых дзён
Чакаюць іх у госці, каб аб справах,
Якім далі пачатак да вайны,
Дамовіцца.
«Жыццё бярэ разгон,—
Канчаўся ліст.— У дружбе наша слава».
І подпіс
Янкі Кухты, старшыні.

А дзесьці ўнізе
Незаўважны быў
Пастскрыптум ціхі.
Сакратар праўлення
Марыся (словы збіліся на край)
Пісала: «Мой Ахрым! Ці ты забыў
Сваю Марысю? Ці майго цярпення
Зусім не пашкадуеш? Прыязджай!»

І зноў жанкі ўздыхалі са слязой,
А старшыня «Будзёнаўца» — маўклівы,
У сэрцы дакараў сябе штораз...
...І ў той жа вечар звонкай грамадой
У клуб плыла
ўся Сытаўка рупліва.
«Будзёнавец» пісаў братам адказ...

«Добры дзень, слава вам, беларускія далі!
Браты!
Нас амаль што чатыры гады раздзялялі
Няволі драты.
Груганы-чужаніцы, фашысцкія зграі
Таптаці той дол,
Над якім падымалася ў рост маладая
Краса нашых сёл.

Але не, не скранулася сэрца народа
У суровыя дні!
Нам свяцілі ў змаганні, нам ззялі з усходу
Камунізма агні.
Нас Масква, наша маці, для бітваў яднала,
Мацавала наш строй.

І мы чулі, як ты, Беларусь, уставала
Усім краем на бой.
І мы чулі падтрымку вялікай Айчыны,
Як з бітвамі йшлі
У палках Каўпака, па шляхах Украіны,
Па ўсёй роднай зямлі.

Мы ляцім к вам з абдымкамі, пойдзем жа
далей —
Рука ля рукі,
Хай квітнее зямля, дзе ёй дужасць аддалі
Мы, бальшавікі!»

Так ліст пісаў настаўнік малады
На гэтым сходзе.
Словы, як найлепей,
Яму гурбой падказвалі.
І скрозь
Ляцелі просьбы к хлопцу.

Пра сады
Сказаць, што насадзіў калгас у стэпе,
Прасіў садоўнік.
З брыгадзіраў хтось
Патрабаваў адзначыць, што палі
Засеяны найлепшаю пшаніцай,
Пра новыя будынкі — цесляры...
І ён пісаў. І просьбы ўсе ляглі

У шчыры ліст.
А ноч ужо расніцы
Змыкала, ўжо святлееў пагляд зары.

І толькі не маглі прыдумаць, як
Найлепей адказаць сваёй Марысі,
Як адказаць,
каб смутак быў няўзнак...
І напісалі проста:
«Не журыся...
Не журыся, Марыся,
Не журыся, дзяўчына...
На бандурах
Складае пра мужнага сына
Свой спеў для цябе,
Для дачкі,
Украіна...»

*1948*

## ПІСЬМО

Паслала маці на фронт пісьмо,
На Украіну, пад Сумы.
— Ляці, мой лісток,
Раскажы, лісток,
Сыну пра матчыны думы.

Спяшае пісьмо пад Сумы. А там —
Радасць даўно ў народзе:
Фронт адышоў.
І кажуць пісьму:
— Адрасат Дняпро пераходзіць.

Панесла пошта пісьмо далей.
Вось і Дняпро крылаты.
Але і тут салдата няма.
Ды дзе ж ён?
— Ён вызваляе Карпаты.

Па родных шляхах, слядамі баёў
Прыходзіць пісьмо на Карпаты.
А там сяляне ўжо гоні аруць,
А жонкі беляць хаты.

І песня звініць на схілах гор,
Славіць байца ды яго адвагу,
І чуе пісьмо з песні тае:
— Яго сустракае Прага!

Праходзіць дзень, мінае другі,
Адкрыліся пражскія плошчы.
Чырвоныя ветразі над зямлёй
Дунайскі вецер палошча.

Гамоніць сталіца. Рады народ.
У Празе свабоднай — свята.
На вуснах чэхаў імя адно:
Імя рускага брата.

Імя таго, каго пісьмо
Столькі часу шукала.
І радасна шоіце:
Нарэшце на след,
На след адрасата напала.

Але і тут яго ўжо няма,
Адно толькі — след на далінах.
Праз горы і рэкі
Вядзе той след,
Вядзе той след да Берліна.

Вясна рассыпае звоны свае
У рускай паходнай песні.
І столькі шчырасці ў ёй,
Што ў грудзях
Сэрцу робіцца цесна.

Гэта сярод берлінскіх руін,
Дзе здабылі Перамогу,
Співаюць хлопцы пра родны край,
Пра баявую дарогу.

А ёй у адказ ляціць здаля,
З усходу, песня другая.

І чуе пісьмо:
— Гэта маці свайго
Сына-героя страчае.

Сябрам маладым ён зброю аддаў,
Каб множылі славу Айчыны.
А сам пайшоў
Будаваць гарады,
Хлеб расціць для краіны.

На крыллях ляцела пісьмо назад.
Грукнула ў шыбу:
— Маці!
Шукала я сына па ўсёй зямлі,
Але не магло дагнаці.

І маці выходзіць і са слязой
Цалуе канверт трохвугольны.
— І добра...
Ды падстаўляе твар
Пад радасны вецер польны.

А там грукоча трактар, там сын
Крыляе па родных гонях.
Якая песня, якое пісьмо
Яго, малодога, дагоніць?!

*1948*

## МАГІЛЁЎШЧЫНА

Як толькі ліпень прыйдзе — не стрымаецца.
Я ўжо на крыллях.
Хто суддзя пачуццям?
Там, дзе шырокі Сож сярод бароў звіваецца,
Пакуль жыву —
Адно б твой голас чуць мне.

Гучаць дзяўчат запевы ў лузе скошаным.
Грымяць
Заводаў цэхі

Несціхава.
Зямля маёй цудоўнай Магілёўшчыны,
Ты ўся з красы і радасці саткана!

Як тут уладзіць сэрцу ўсхваляванаму!
Над жытняй івай, над вадой крынічнай,
Сябры мае,
Яно зязюляй стане
І шмат гадоў шчаслівых вам наліча.

Ад звону піл аж стогне палясоўшчына —
Для шчырай працы зніклі перашкоды.
Зямля маёй цудоўнай Магілёўшчыны.
Я чую тваёй будучыні подых.

Там, дзе палын уранак сее росныя
Зярняты на пясчаныя лагчыны,—
Там пройдуць поля тлустыя баразны
І вырастуць жыты і садавіна.

Там, дзе рака сягоння ў бераг грукае,
Шукаючы ў Дняпро напрамак просты,—
Электрастанцыі гудзенне гулкае
Народзіцца і збудзіць краю вёрсты.

А між палёў дарогі лягуць новыя —
Ад Крычава да Горак і Мсціслаўля.
І буду шчасны я,
Калі вясноваю
Я песняй тваёй шчасце шчыра ўслаўлю;

Калі змагу, табою ў ласцы ўзрошчаны,
Тваю красу падняць у мужным слове...
Зямля маёй
Цудоўнай Магілёўшчыны,
У радаснай, у ласкавай абнове!

*1949*

## АДНАГОДАК КАСТРЫЧНІКА

Нікога яшчэ ў свеце не было,
Хто б гэтак проста, ясна, да драбніцы,
Як гэты мужны, смелы чалавек,
Запомніў дзень, якім ён нарадзіўся.
І ў гэтым яго першая прымета
Сярод усіх насельнікаў сусвета.

...Застава. Хмары цёмнае крыло
Над барыкадай.
Сіняй бліскавіцай
Гром на часціны цяжкі мур рассек,
Агонь зары над вуліцай разліўся,
Шугаюць над калонамі сцягі,
Іх чырвань аж паўнеба засцілае.
І маці шэпча: — Спі, мой дарагі! —
І да грудзей гарачых прыхінае.
А ён глядзіць. І ўжо ў яго вачах
Адбіўся стрэлаў водбліск, неба просінь,
І полымя, што плешчацца ў сцягах,
І фарбы, што дала таполям восень.
Праходзяць людзі. У сонечных праменнях —
Як быццам з бронзы — радасныя твары.
І словы не сціхаюць:
— З намі Ленін!
— Наперад!
— Гэй, смялей, таварыш!..
Рака кідае вал на берагі,
Ізноў грымоты, цяжкі посвіст кулі.
А маці шэпча: — Сыне, дарагі,
Там бой ідзе, там родны твой татуля...
І раптам падымае над сабой
Яго, свайго пярвенькага малога,
І, ў далі працціраючы рукой,
Гаворыць цвёрда: — Вунь твая дарога!
Ідуць калоны. У сонечных праменнях —
Як быццам з бронзы — радасныя твары.
І над дарогай голас:
— З намі Ленін!
— Наперад, гэй, смялей, таварыш!..



Кастусь Кірэенка.
1938 г.



У прыфрантавым лесе.
1942 г.

*

Ніхто на свеце гэткага, як ён,
Не ведаў ні маленства, ні юнацтва,
Ніхто сабе так ясна не ўяўляў,
Як ён,
Якім ягоны будзе лёс
І што ён зробіць, сын, дзеля Айчыны.
І ў гэтым між усіх людзей сусвета
Другая яго слаўная прымета.
Пара дзетсадаўскіх вясёлых дзён,
Вучоба, піянерскія палацы,
Сцяжыны следапыта сярод траў,
Сем колераў вясёлкі ў кроплях рос,
Паходы з войскам Ігара былінным —
Было яго маленства.
З нараджэння
Жыла ў ім прага ўсё хутчэй пазнаць —
І сілу ясных сонечных праменняў,
І як у неба сіняе ўзлятаць,
І да сузор'яў вымяраць адлегласць,
І як багацці родныя злічыць,
І як абпальваць для палацаў цэглу,
І дзеля шчасця выкаваць ключы.
І клікала ад роднага парога
Удаль яго шчаслівая дарога.
Універсітэцкай дружбы час цудоўны,
Навукі глыбіня і харaство,
І першы брус ім выплаўленай сталі,
І першы рэйс на грозным караблі —
Было яго юнацтва.
Чарай поўнай
Ён піў жыцця шчаслівае пітво,
І для яго ўсе нівы красавалі,
І для яго
Усе сады цвілі.
Ён асвятляў парогі Днепрабуда
І на Палессі рэзаў чорны торф,
Вышукваў на хрыбтах уральскіх руды
І запускаў пад воблакі матор.
Капаў тунелі, вёў чаўны па рэках,
І вольная глядзела ўся зямля
З надзеяй на асілка-чалавека,
Якому бачны ўсе шляхі здаля.

*

Няма такога ў свеце абаронцы,
Як ён,—
Свабоды,
Радасці
І сонца.
І ў гэтым яго трэцяя прымета
Сярод усіх насельнікаў сусвета.
Калі на край, дзе ён у ласцы рос,
Насунулася з захаду навала,—
Падняўся ён на ўвесь магутны рост
З мячом, што Рэвалюцыя скавала,
І раскрышыў варожае крыло.
Ад груганя ў палях застаўся попел.
Падсечаныя, падаюць далоў
Аковы ў заняволенай Еўропе.
Ідуць удаль чырвоныя сцягі,
І чуе воін: над яго дарогай
Гаворыць слава:
— Сыне, дарагі,
Ісці табе ў стагоддзі з перамогай!
І ён ідзе, праслаўлены ў народах,
Кастрычніка вялікі аднагодак.

*1947*

## МІНСКІЯ ПЛОШЧЫ

І бураў гром, і звонкі пошчак
Вясёлых песняў маладых
Праз годы чулі Мінска плошчы.

Шумеў Кастрычнікам для іх
Сцяг Рэвалюцыі чырвоны,
І маладых байцоў калоны
Па бруку іх ішлі на бой —
Змятаць варожую навалу,
Каб над бацькоўскаю зямлёй
Давеку сонца шчасця ззяла.

На камянях і пасягоння
Яшчэ відаць сляды вайны,
Крані іх, здэцца,— і зазвоняць,
І грымнуць выбухам яны.

Але баі прайшлі — і гукі
Другія ўзрадавалі ўсіх:
Зноў на заводзе молат грукнуў,
Зноў шум трансмісій ловіць слых,

Ляціць вясёлы звон з кацельняў,
І ледзьве толькі днець пачне,—
Зноў чуцен шпаркі шоргат кельмаў,
Растуць дамы — сцяна к сцяне.

Ні ўдзень, ні ўноч не ціхне праца.
Мы бачым будучыні дні:
Стаяць над плошчамі палацы,
І іх прыветныя агні

Відаць сябрам з акраін новых,
Зусюль — як ззянне хараства.
З гарачых сэрцаў выйдуць словы:
— Наш горад! Ты — сама Масква!

І струны ўвесь народ настроіў
На спеў шчаслівы, каб у ім
Жывыя подзвігі герояў
Уславіць гімнам веснавым.

*1947*

## ПАМЯЦІ ПЕСНЯРА

Партызаны, партызаны.
Беларускія сыны.
*Я. Купала*

Слова, што мужнасць кавала,
Слова, што ў бой падымала,
Ты — са святлом нашай славы
Зліта ў дыханні адзіным.

Толькі пачуеш: Купала,
Толькі прамовіш: Купала,
І паўстае прад вачыма
Ўся дарагая Айчына:

Поле з багатаю півай,
Ззянне палацаў сталіцы,
І залатыя штандары,
І баявыя дарогі.

Бор над ракой гаманлівы,
Явар над звонкай крыніцай,
І маладосці імклівасць,
І маякі перамогі.

Чый гэта голас так чуцен?
Хто гэта, хто гэтак смела
Поплеч з сынамі Расіі
Крочыць у ясныя далі?

Гэта ідуць беларусы...
Мы...
Ўсе...
І ты, і Гастэла...
Ўсе — што за лёс чалавека
Грознаю сілаю ўсталі...

Слова народа — Купала,
Песня народа — Купала,
З намі ішоў ты ў паходах,
З намі ты будзеш заўсёды.

Слова, што мужнасць кавала,
Слова, што ў бой падымала,
Сёння згукае да працы,
Працы на шчасце народа.

І калі жыта сцяною
Ўстане на полі — дык ведай,
Там і твая у ім доля,
Там і твая ў ім пашана.

І як пад новай страхою
Сыдземся мы на бяседу —
Помні, што дом гэты новы
Намі з табой будаваны.

Слова, што мужнасць кавала,
Слова, што ў бой падымала,
Ці ж яно можа пагаснуць,
Ці ж яно можа забыцца?!

Слава народа — Купала!
Песня народа — Купала! —
Не, ты не можаш памерці,
Як і не мог не радзіцца!

*1947*

## КОНЬ ДАВАТАРА

Пасецца калгасны табун.
Хлапец задрамаў ля агня.
І сніць, нібы сам Даватар
Прыводзіць свайго каня.

Вогненная грыва,
Сярэбраныя капыты,
А ля вачэй як быццам
Месячык залаты.

І кажа Даватар хлапцу:
— Глядзі ж ты, шануй яго, брат,
Ён занясе цябе ў шчасце,
Дзе будзе жыццё, як сад.

А можа, настане час
Быць і табе ў баю,—
Дык я тады дам табе, дружа,
І вострую шаблю сваю.

Коціцца хваляй грыва,
Шугае з грывы агонь,
Ажно вагаецца поле,
Гэтак хвалюецца конь.

— Але,— кажа зноў генерал,—
Я марыў калісь на вайне,
Каб ён пасля Перамогі
У добрым хадзіў табуне...

Аж горача стала хлапцу
Ад гэтых апошніх слоў.
— Дзядзька, дзядзька Даватар,
Мой лепшы з усіх табуноў!..

I крыкнуў тады генерал,
I конь паляцеў к табуну,
I радаснае іржанне
Хлапца абудзіла ад сну.

Пад сонцам гамоніць зямля
Пра шчасце працоўнага дня.
I хлопец спяшае сесці
На лепшага свайго каня.

*1947*

## ВЕЧНАЯ СЛАВА ГЕРОЯМ!

I ў радасці з імі раслі мы,
I разам ішлі на бой з імі,
Найлепшымі сынамі Радзімы,
Паўшымі героямі.

У бітвах, у дыме пажараў
Адны ў нас раджаліся мары.

I вось чаму мы ўзаралі
Палі, дзе яны паміралі,
I зерне засеялі дбала,
Каб ніва закрасавала,
Жыта ўзрасло залатое,—
Вечная памяць героям!

Хацелася ім краіну
Багатай бачыць, прыгожай.
I вось чаму па руінах
Спакойна хадзіць мы не можам.

Бетоншчыкі, вучні, цеслі
Пад неба палац узнеслі,
Жыццё ў ім цвіце маладое,—
Вечная слава героям!

Як трэба салдатам, строга
Мы споўнім наказ іх трэці —
На сонечную дарогу
Магутнымі выйдуць іх дзеці.

Мы іх навучым смела
Крочыць пад сцягам славы,
Каб поўнілася, звінела
Сіла Савецкай дзяржавы,

Дзе ў радасці разам раслі мы
І разам ішлі на бой з імі —
Найлепшымі сынамі Радзімы,
Паўшымі героямі.

*1947*

## ЯСАКАР

Зажурылася вясна ў трывозе,
У слязах вясны зялёны твар.
Паміраў у полі, пры дарозе,
Падламаны бомбай ясакар.

Як ёй сына зберагчы ад згубы,
Зелянець каб і квітнець ён мог?
Выклікала сонца: — Яру любы,
Падары яму сваё святло!

Выклікала хмары: — Сёстры-хмары!
З ціхім громам, з радасным дажджом
Вы прайдзіце, хмары, над папарам,
Пагуторце, хмары, з юнаком.

Выклікала птушак: — Лесу дзеці,
Ад зары спявайце да зары.
Выклікала вецер: — Вольны вецер,
Ласку поўдня дрэву падары.

І свяціла сонца да знямогі.
Пелі птушкі. Дождж прыходзіў з хмар.
Вецер свежасць нёс.
Каля дарогі —
Ўсё марнеў і гінуў ясакар.

Цёплы сок сцякаў з глыбокай раны,
І стаяў з жаўцеючым лісцём
Ясакар, нікім не ўратаваны —
Ні вясной, ні сонцам, ні дажджом.

А тым часам з ранцам за плячыма,
У вайсковым простым шынялі
Чалавек вяртаўся на Радзіму
З тых зямель, дзе бітвы адгулі.

Ён ішоў і марыў, як ён дома
Будзе гушкаць сына на руках,
Як засее зерні пасля грому
Са сваёй брыгадай на палях.

Закрасуюць нівы на разлогах,
Харашэй яшчэ як да вайны...
І пачуў салдат па-над дарогай
Ціхі кліч заплаканай вясны.

І згадаў салдат, як з бацькам калісь
Ён тут гэта дрэва пасадзіў,
І ваенны гром, і бой у полі,
Дзе за плугам змалку ён хадзіў.

У агні і дыме ніклі далі,
Ён ляжаў тады, жывы ледзь-ледзь,
І крычаў: — Не трэба мне шпіталю,
Мне на сына трэба паглядзець!..

Ажывалі ў хлопца успаміны,
І, зямлю вітаючы сваю,
Ён сказаў вясне: — Не плач за сына,
Дружбаку я раны загаю.

Ў дзень сустрэчы радаснай з сям'ёю
Ён прыладзіў сам стальны нарог,
І глыбокай свежай баразною
Мірны след яго ў палях пралёг.

Дружбака лячыў баец не зеллем —
Навакола дрэва ўзбіў зямлю,
З каранямі вырваў пустазелле,
Кінуў зерні чыстыя ў раллю.

І зямля наверх пагнала сокі
З тых глыбінь, дзе дбайна берагла,
І адразу ясакар высокі
Пацягнуўся лісцем да святла.

*1947*

## НАД САЖОМ

Лес — ні канца няма, ні краю.
Гукнеш — і ўжо аж за Сажом
Твой кліч, мацнеючы, крыляе
Над зелянінаю ля стром.

І праз хвіліну звонкі-звонкі
Ляціць адказ адтуль, здаля.
І шышка першая з сасонкі
Спадзе.— Прымі мой дар, зямля!

Бярозы белыя і хвоі,
Дубы і клёны — без канца.
Здаецца песняй веснавою
Іх шум над гонямі сіўца.

Лес! Ён вырастаў у навальніцы.
І мо таму тут кожны ствол
Як бы абпален бліскавіцай,
Карэннем моцна ўпіўся ў дол.

Шуміць ён шумам несціханым,
І ў шуме радасным чуваць,
Што мы залечым нашы раны
І праз вякі нам красаваць.

Няма зялёным далям краю.
Гукнеш — і дзесь па-за Сажом
Твой кліч, мацнеючы, крыляе
Вясёлым рэхам каля стром.

*1947*

## ЗАСЛОНАЎ

Калі паміраў Заслонаў,
Чуў кожны,
                    хто быў тады з ім:
Шаптаў ён шчырыя словы,
Словы аб краі сваім.

За ўсё, што не змог зрабіць ён,
Прасіў яму дараваць,—
Сёння гэтак гавораць
Людзі з сяла Купаваць.

І кажуць, што вельмі моцна
Хацеў наш герой пачуць,
Якія новыя песні
Дзяўчаты ў Маскве пяюць;

І паглядзець, якія
Пшаніцы ўзрасціў Алтай,
І як дружбакі-машыністы
Вядуць цягнікі праз край...

Доўга-доўга зязюлям
У родных лясах кукаваць,
Ніколі-ніколі кветкам
На сцежках не адцвітаць,
Давеку героя помніць
Будзе сяло Купаваць.

Прайшлі агнявыя годы,
На роднай яго зямлі
Ліхія нямецкія каты
Бясслаўна касцьмі паляглі.

Усталі сцяною пшаніцы
З-пад працавітай рукі,
Па новых мірных маршрутах
Бягуць удаль цягнікі.

І па-над слаўнай магілай,
Каб мог іх герой пачуць,
Дзяўчаты — звонкія песні,
Песні Радзімы пяюць.

Пачуеш іх толькі — і крыллі
Узвеюцца па-над плячмі,
І ўсе шляхі веснавыя
Адразу ўстаюць прад вачмі:

Высока гарачае сонца
Над тымі шляхамі плыве,
І ў радасці іх —
Заслонаў
Як песня і слава жыве...

Доўга-доўга зязюлям
У родных лясах кукаваць.
Ніколі-ніколі кветкам
На сцежках не адцвітаць.
І вечна героя помніць
Будзе сяло Купаваць!..

*1947*

## КАМЕНЬ НА НЯМІЗЕ

Чыімі рукамі
Занесены ён на Нямігу,
Цяжкі гэты камень,
Не камень, а цэлая кніга?

Мо бомба чужая
Закінула з плошчы ў навалу?
Відаць, як без жалю
Жалезам яго пакрамсала.

Але ўсё ж не гэтым
Нашчадкам цікавы ён будзе,
Другія прыметы
Пакінулі каменю людзі.

Тут з песняй шторана
Сякеру сваю перад працай
Вастрыў я старанна,
Каб менш над бярвеннем стамляцца.

А каменшчык слаўны,
Прад тым як пакласці цагліну,
Рупліва і дбайна
Рыхтуе на ім сваю гліну.

І муляр пакінуў
На камені з фарбаў узоры —
Не то журавіны,
Не то сюды ўпаўшыя зоры.

І вось вечарамі,
Ацёршы спацелыя твары,
Прысеўшы на камень,
Мы курым з сябрамі і марым.

Калі нашы людзі
Свой горад падымуць нанова,
Што з каменем будзе?
Якое пачуе ён слова?

Мы б моцна жадалі,
Каб тут ён навекі застаўся.
Унукі б чыталі
Па ім, як іх лёс нараджаўся.

*1947*

## НА КАМСАМОЛЬСКІМ УЧАСТКУ

На камсамольскім участку
Не ціхне руплівая праца.
Там пілы звіняць, там сякеры
Спрачаюцца: хто з іх тут лепей...
Спяшаюцца хлопцы. Не дзіва.
Ці ж могуць яны не спяшацца,
Калі перад імі зямлянка,
Дзе змрок вочы сіратам слепіць.

А сіраты тыя — героя,
Што мужным загінуў салдатам.
Не могуць сябры-камсамольцы
Не даць ім прытулку і ласкі.
У кожнага ў думках: такую
Зрабіць ім цудоўную хату,
Каб помнілі дзеці маленства,
Нібыта чароўную казку.

І вось ужо ўстаўлены вокны,
І новыя рыпнулі дзверы.
Салдатка ўваходзіць у хату
І шчыра, гаротная, плача.
А дзеці пасталі нясмела:
Якая прастора! — не вераць —
Няўжо гэта ім збудавана?..
То сны іх збыліся — няйначай!

Але не прайшло і хвіліны,
Як з шумам і радасным смехам
За сонечным зайчыкам дзеці
Ганяліся гуртам...
З-за шыбы
Усіх клікалі ў хату, і рэха
Такое ж, як іхняя радасць,
І звонкае і маладое,
Ляцела па родных сялібах...

*1947*

## ПА-НАД РЭЧКАЙ

### Песня

Па-над рэчкай, па-над рэчкай,
На калгасным на палетку
Зноў запахла мёдам грэчка,
Як штогод — парою гэткай.
Зноў пакрылася рабіна
Цяжкай хусткай барвяною,
А дзяўчына, а дзяўчына
Ўсё яшчэ жыве вясною.
Ўсё яшчэ ёй чутны песні
Салаўіныя з той ночы,
Калі хлопец на прылессі
Цалаваў ёй палка вочы
І шаптаў кахання словы,
Малады, высокі, стройны,
Такі дужы, чарнабровы,
Такі шчыры, неспакойны.
Ходзіць дзеўчына па сцежках,
Дзень за днём прыпамінае,
Не сыходзіць з твару ўсмешка,
Льецца песня, не сціхае,
Песня льецца, не сціхае,
Хлопца ласкава гукае,
Хлопца ласкава гукае,
Шчасця новага чакае...
А над рэчкай, а над рэчкай
Пахне, пахне мёдам грэчка...

*1947*

## РАНАК

Уночы прайшла навальніца,
Пасекла маланкаю клён,
Іржой зацягнула крыніцы,
Прыбіла, паклычыла лён,

Размыла сцяжыны, дарогі,
Сарвала з каната паром,
Пыхлівы, гразлівы і строгі
Гайдаўся пад хмарамі гром.

Праходзіў над борам, над лядам,
Над цёмным залужжам глухім,
Пад водбліск зарніцаў выглядваў,
Каб што не пакінуць сухім.

Але навальнічныя ўздыхі
Паволі заціхлі ўдалі.
І ранак, лагодны і ціхі,
Прыйшоў са святлом на палі.

Ён глянуў наўкола: жахліва! —
Вясновай зямлі не пазнаць...
І ўзяўся за працу, руплівы,—
Гаіць, аглядаць, фарбаваць.

Схіліўся, як сябра, над клёнам.
Пра штось пашаптаўшыся з ім,
Абсыпаў расою зялёнай
І сонца святлом залатым.

І клёну здалося, што — быццам
Не рана на ім зіхаціць,
А проста схацеў ён адкрыцца,
Каб росы лягчэй было піць.

А ранак ужо на дарогах
Стаяў, асушаючы дол,
Жыты падымаў на разлогах,
Збіраў кураслеп у прыпол.

Паром заспакоенай хваляй
Прыгнаў да вусця ў лазнякі,
Як быццам на ім начавалі
Пад цёплым шатром рыбакі.

З вятрамі, расою і сонцам
У кожны заглядваў куток,
І кожнае вымыў аконца,
І кожны расправіў лісток.

*1947*

* * *

Цяжкаю ўрачыстаю актавай
Я хацеў уславіць волі сонца,
Гарадоў дыханне, луг у травах
І бароў дрымучых гул бясконцы.

Але, быццам камень стопудовы,
Той напеў упаў у ясных далях,
Аж лугі, і нівы, і дубровы
Пад яго цяжарам застагналі.

Ласкавым задумлівым санетам
Я памылку выправіць імкнуўся,
Каб уведаў свет пра наша лета,
Пра жыццё і скарбы Беларусі.

Але далеч ростаняў жывая,
Шыр дарог, палацы і крыніцы
І палі калгасныя без краю
У санет не здолелі ўмясціцца.

І тады я ўспомніў спеў, што калісь
Пад агнём пачуў у чыстым полі,
Спеў, дзе столькі ласкі ў простых словах
І тугі і радасці жыццёвай,—

У яго ўдыхнуў юнацтва сілу,
Даў крыло тугое, голас звонкі...
І адразу ў ім загаманіла
Для мяне зямля маёй старонкі.

Чуўся мне ў ім звонкай хвалі плёскат,
Рэха бору, голас аратая,
Звон сярпоў калгасніц на палосках,
Дзе жыты густыя зажынаюць;

Пазыўныя станцый, і заводаў
Маладыя звонкія сірэны,
І вятроў усходніх гулкі подых,
І цаглінаў звон на новых сценах.

У імпэце, ў працы, ў шчырых песнях
Прада мной жыла мая Радзіма,
І шляхі яе з красою весняй
Усе былі адкрыты прад вачыма.

*1947*

## ГОЛАС МІРУ

Па неагляднай свету шыры
Ідзе спакойны голас міру.
Народжаны ў гамонцы жыта,
У шуме хваляў на Палессі,
У звоне ўральскага граніту,
У веснавой дзявоцкай песні,
Ён пераходзіць праз граніцы,
У сутарэнні заглядае,
Звініць над плошчамі ў сталіцах,
Над акіянамі крыляе.
І ў простых словах, рускіх словах
Народам розных моў і нацый
Чуваць дыханне сілы новай,
Што вырастае ў шчырай працы.
Грымяць ля свежых рольняў краны,
Дзе бой кіпеў — палацы ўсталі.
Святло жывога Днепрастана
Зноў зацвітае ў мірных далях.
І кліч гудкоў гучыць няспынна,
І бег машын здалёку чутны.
Перад вачмі вясны краіна —
Сацыялізма край магутны...
На неагляднай свету шыры
Знаходзіць водгук голас міру.
Мінае міг — і як на сходзе,
Дзе аб жыцці, аб шчасці мова,
Ў адказ Маскве — жыццю,
свабодзе —
Бяруць усе народы слова.
Гавораць Прага і Варшава,
Берлін працоўны і Тырана,
І Бухарэст, і з песняй славы —
Сафія, горад на Балканах.
І нават там, дзе йшчэ вампіры
Стаяць, як хмары, над свабодай,—
І там магутны голас міру
Збуджае мужныя народы.
Яны ўстаюць пад родным небам
І кліч нясуць, каб іх пачулі,
Каб ім далі спакою, хлеба
Заместа атамаў і куляў.
Шугаюць хвалі акіяна.

Мацнее сэрцаў хваляванне.
І людзі з рана і да рана —
Крамлёўскіх зораў ловяць ззянне.
Над неаглядпай свету шырай
Расце, мужнее голас міру.

*1947*

## КАРАГАЧ

Калі налятае з пустыняў
Самум, як навала, цяжкі,
А ўслед падымаюцца грозна,
Паўсвету закрыўшы, пяскі

І ўсё замірае ў знямозе,
Не можа нат марыць, каб жыць,—
Адзін карагач перад бурай
Не хоча і галаў схіліць.

Рукамі, сухімі і злымі,
Не чуючы крыку свайго,
Вятры выграбаюць без жалю
Зямлю з-пад карэнняў яго,

І б'юць, і хістаюць, і кружаць...
А ён на адным валаску
Стаіць і выцягвае прагна
Лістоце ваду з-пад пяску.

І горда трымаецца, покуль
Не выспее міг цішыні.
Тады ён збірае у вузел
Параненыя карані,

І гоіць іх сокамі сэрца,
І мужна чакае пары,
Калі прыляцяць ад паўночы
З дажджом веснавыя вятры.

І трэба адна толькі хвіля,
Каб ён пад лагодным дажджом,
Расправіўшы дужыя плечы,
Акрыў іх зялёным плашчом.

Гаворапь, што ў радасці веспяй
Умее ён песняй звінець,
А толькі пра што яго спевы,
Не можа ніхто зразумець.

Няпраўда. Я быў там і слухаў
Вясёлыя звоны ў лісці,
Ён марыў пра рэкі ў пустыні,
Спяваў ён аб шчасці ў жыцці.

І тысячы мужных і юных,
Што гэткаю ж марай жылі,
Пад ценем яго спачывалі
Ды смела наперад ішлі.

Ішлі і няслі для Радзімы
У сэрцах гарачую кроў,
І ветразі будучым рэкам,
І зерні для новых палёў.

*1947*

## ГОРНАЕ СВІТАННЕ

Быццам летні пошум ліўня,
Быццам птушкі вуркатанне —
Што там чуецца ў даліне
У чароўны час світання?

Там арык каменні горне,
Сярод ніў бруіць, пляскоча,
А над ім, як прысак зорны,
Ціха спеў звініць дзявочы.

Покі сонца ўсцешыць далі,—
Новы ў свет ручай пальецца,
І з яго сцюдзёнай хвалі
Жоўты рыс вады нап'ецца...

Ці то хруст ільдзінкі ўвосень,
Ці нясмелы ўскрык малога —
Што там горны вецер носіць
Над запыленай дарогай?

Гэта рэпаецца спелы
Жоўты струк, тугі і поўны,
І на свет выходзіць белы
Зіхатлівы твар бавоўны.

Сокам пырснуўшы, з галіны
У траву гранат спадае,
І, здаецца, ўжо з-пад гліны
Сцеблік новы прарастае.

Але чый там стрэл у горах
Знепакоіў раптам ранак?
Рэха вынесла ў прастору
Крык спалоханы джайрана.

Гэта хлопец вернай куляй
Метка ўцэліў барсу ў сэрца,
Каб маленькую казулю
Ўратаваць ад цяжкай смерці.

Злёг драпежнік. Сціхла ў скалах.
І глядзіць юнак з пяшчотай,
Як спакоіўся памалу
Зноў джайран, на рэчцы ўпотай

П'е ваду, грызе карэнні
І, нібы чагось шукае,
Капытом у задуменні
Жвір глыбока разграбае.

*1947*

## СТЭП

На сотні вёрст — ні кроплі вады.
Як шэры прысак зямля.
Былі тут калі хоць чые сляды?
Куды вы сігаеце, вярблюды,
Над купінамі кавыля?

Длінь-длінь! — званы звіняць, звіняць,
Рассыпаўся звон навакол.
І там, дзе пясчаныя дзюны спяць,
Дзе легла на схілах тугі пячаць,
Яму адгукаецца дол.

Нас вабіць наперад не золата рог,
Не вінны заморскі склеп.
Ідзём мы вышукваць напрамкі дарог,
Каб стэп разбудзіць,
Каб ажыў ён і мог
Раджаць для краіны хлеб.

Дзе-небудзь, абраўшы па сэрцу кут,
Супынімся мы на жыццё.
Прарэжам каналы, і збудзецца цуд:
Дзе мёртвы быў край — вінаграднік і тут
Ускінуць пад сонца лісцё.

І як ні здавалася б цяжка калі —
Мы зрушым пяскоў цаліну,
І скарбы раскованай намі зямлі
Раскажуць, што мы для людзей здабылі
Новую Фергану.

Ці ж гэта не шчасце: з сэрца твайго
Вясна паўстае і цвіце...
...І вось прамінае яшчэ адзін год,
І ўжо ты дарункамі саду свайго
Частуеш дарожных гасцей.

Частуеш і ў шлях выпраўляеш. Куды?
Пра гэта ці варта пытаць?
Адны ў нас лятункі — вырошчваць сады,
Напевам звінець, будаваць гарады,
Дарогі жыццю пракладаць.

*1947*

## ВЕЧАР У ГІСАРАХ

Спачатку нам свой шчыры спеў
Няслі вятры на перавалах,
А восень са стагодніх дрэў
Званы лісцвяныя скідала.

У высачэзных трысніках
Крычаў прыветна птах да змогі.
І срэбра
бурная рака
З вышыняў сыпала пад ногі

Ды рассцілала з хваль дыван.
А потым,
як жывую мару,
Нам паказаў Таджыкістан
Свой дзіўны вечар у Гісарах.

Ён цвету ружаў веснавых
Празрыстай тонкай павуцінай,
Як чараўнік, у нейкі міг
Акрыў вяршыні і даліны.

Затым са спрытам мастака
У веснавы малюнак гэты
Адным узмахам
уваткаў
Ніць фіялетавага цвету.

І не чакаючы, калі
Ускрыкнем мы ад захаплення,
Раптоўна аж на ўсёй зямлі
Паклаў сталёвыя адценні.

Пасля, як быццам незнарок,
Усё змяшаў
і прад вачыма
Стаў разліваць дрыготкі змрок,
Ахутваць даль блакітным дымам.

А каб з вачэй зусім не знік
Адбітак ружаў каляровы,

Ён запаліў
высокі пік
Па-над зямлёй агнём барвовым,

І бляск у высі зіхацеў,
А ўнізе горы ў сінь танулі.
З такой тканіны я б хацеў
Пашыць святочную кашулю!

І вось тады,
як пад дутор [1]
Плыве таджычка ў вольным танцы,
Мільгнуў, паплыў па схілах гор
Мільён агнёў электрастанцый.

І нам здалося: гэта ўзнёс
На горы Крэмль свае рубіны,
Каб азараць шляхі і лёс
Цудоўнай брацкае краіны.

*1947*

## ЗЯЛЁНЫ ДУБОЧАК

Спявае «Зялёны дубочак» мне
Смуглявая Фаціма,
Хоць тут,
у спякотнай яе старане,
Нідзе ні дубочка няма.

Голасам звонкім, як спеў ручая,
Выводзіць няўмела яна
Песню аб нашых дняпроўскіх гаях,
Дзе зараз, напэўна, вясна.

І радасна сэрцу і сумна чамусь.
І я ёй кажу: — Пастой,

[1] Дутор — музычны інструмент.

Ты чуеш —
гукае здалёк Беларусь,
Каб ты там была са мной.
Там гэтак вясною чаромхі цвітуць
І гэтак крыніцы звіняць,
Што песні самі з сэрца плывуць
І іх нічым не суняць.

А як зіхацяць балоты, калі
Успыхнуць хусткі рабін,
А водар які ад свежай раллі,
Як пахне
чабор ад сцяжын!

Злятае расінка з тонкіх расніц,
І кажа мне Фаціма:
— Паслухаць напеў тваіх чыстых крыніц
Даўно я хацела сама.

Але ты пачуй, якой ласкай нясе
Ад нашых высокіх гор,
Глядзі, ў якой яснай ляжыць красе
Зямля мая ў бляску зор.

Ці можа, скажы мне, на міг хоць з ёй
Расстацца нат думка мая?
І я змаўкаю. З такою зямлёй
І сам не расстаўся б я.

*1947*

## АЛЬПІНІСТ НА ВЯРШЫНІ

Напачатку па стромах ішлі яны ўдвух,
Як арлы, спачывалі на снежных адхонах.
Ды адзін, што цюльпан пад завеяй, патух,
І паклаў яго ў хаце памірац-пастух,
Выганяючы хворасць хурмой і заклёнам.

А другі не спыніўся. Між скалаў крутых,
Дзе вірылася белая пена сувеяў,
На хрыбтах, ад стагодняга снегу сівых,

Сярод хмар, што таўкліся, як тысячы крыг,
Прабіваўся наперад з нястомнай надзеяй.
І, нарэшце, зрабіўшы апошні спачын,
Перасек ледзяную скарынку вяршыні
І замёр — аж ля самага сонца адзін,
Зачараваны весняй красою даліп
І дарог, што пралеглі па роднай краіне.

Ўся Радзіма была яму згэтуль відна —
Ад Варзобскіх цяснін да паўночнай граніцы,
Як ласкава ўсміхалася сыну яна!..
Як вітала, што ўсе ён вышыні пазнаў,
Да якіх нат арол падымацца баіцца!..

І юнак, пераможца вяршынь і хрыбтоў,
У адказ на Радзімы вітальнае слова —
Разгарнуў
сцяг чырвоны
пад пошум вятроў,—
Нібы велічны знак — ад сябе і сяброў,
Што ізноў ён на смелыя штурмы гатоў —
Да вышыняў, да славы,
да радасцяў новых!..

*1947*

## ПОДЗВІГ ЛЕНІНГРАДА

Усё сатрэцца з памяці: блакада,
Бамбёжак дні, ваенныя пайкі.
Але вялікі подзвіг Ленінграда
Ад сэрца ў сэрца пройдзе праз вякі.

Я раскажу, як чуў, як гэта ходзіць
У песнях, што складаюць над дутор,
У маладым і радасным народзе
Каля цяснін Памірскіх снежных гор.

Быў грозны год. Паўночную сталіцу
Сціскала бітвы хмарнае вязьмо,
Калі туды, праз гром і бліскавіцы,
Прабілася маленькае пісьмо.

Яго чыталі на рабочых месцах,
На баявых пастах,—
і хутка ўсіх
У той жа дзень усхвалявала вестка:
— Таджыкскім дзецям не хапае кніг.

— Чакаюць кніг сябры ў Таджыкістане! —
І нат таму, хто ўжо стаяць не мог,
Была такая вестка — як заданне,
Як самая трывожная з трывог.

Ні ўдзень ні ўноч не ціхла кананада.
Ад страляніны аж гайдаўся дол.
Шалела смерць. А людзі Ленінграда
Рабілі кнігі для таджыкскіх школ.

І вось прайшлі ў клапотах дні і ночы,
І лёг на стол апошні экземпляр.
Ўзялі танкісты кнігі ад рабочых —
Сынам Паміра — як свяшчэнны дар.

Іх вораг стрэў нянавісцю і громам,
Каб перайсці праз Ладагу не даць.
Паганец! Ці ж было яму вядома,
Што нельга дружбы сэрцаў расстраляць.

Той дружбы, што народы згуртавала
І сілу ім магутную дала...
...Шалёная варожая навала
Спыніць жыцця і сонца не змагла.

Прапахлыя вялікай бітвы дымам,
Нарэшце выйшлі кнігі на прастор,
І з ласкаю павезла іх Радзіма
Таджыкскім дзецям да Памірскіх гор.

І сёння я іх бачыў.
Садаводаў
І рудакопаў дочкі і сыны
Па іх чытаюць шлях свайго народа,
Шлях да шчаслівай долі і вясны.

Усё сатрэцца з памяці: блакада,
І горач страт, і лёс гадоў цяжкі.
Але вялікі подзвіг Ленінграда
Ад сэрца ў сэрца пройдзе праз вякі.

*1947*

## ВАХШ [1]

Збіраючы сотні рачулак з гор,
Струменяў, што родзяцца на ледніках,
Кініць у цяснінах, ляціць на прастор
Бурлівы, няўрымслівы Вахш.

І долы забыліся аб цішыні,
І думка ніколі над ім не засне.
Грымяць і варочаюцца камяні,
Як цяжкія жорны, глыбока на дне.

Ляціць, бы крыляе, і бача Вахш:
Сыходзяцца людзі — мо цэлы мільён.
І гаці гацяць на яго берагах,
Спыняюць імклівы вады разгон.

Ад злосці загуў, завірыўся дзікун
І грозна падняў, ашчацініў свой хіб:
— Дарогу, бо хвалямі ўсіх пасяку
І кіну на дно, да карэнняў і рыб!

Ды чуе ў адказ мільён галасоў:
— Людзей не адолееш ты ў барацьбе.
Мы хочам сказаць табе некалькі слоў,
Паклікаць, як сябра, на подзвіг цябе.

Але нат не слухае грозны Вахш,
Пускае ў абход рукавы-ручаі.
— Я мушу спяшацца, ляжыць мой шлях
Да маці маёй, да Аму-Дар'і.

— Мы пусцім цябе да маці тваёй,
І часу ў цябе, маладога, стае,
Але адкажы нам, што скажаш ты ёй,
Чым зможаш ты ўзрадаваць сэрца яе?

— Я раскажу ёй пра буры ў снягах,
Пра скалы, што я на шляху паламаў,
Пра ніву, што бачыў у жоўтых пясках,
Якая не родзіць ні хлеба, ні траў.

---

[1] Вахш (літаральна — дзікун) — рака на поўдні Таджыкістана.

Пра тое, як б'ецца ціхі джайран
У хвалі маёй, ідучы па дно,
Пра тамерланаўскі белы цюрбан,
Што пад каменнямі стлеў даўно...

— Дзівак ты! Мы ведаем маці тваю,
Чакае другіх ад цябе яна спраў,
Бо краю ўсю буйную сілу сваю
Даўно аддала, каб ён расцвітаў.

Садамі бялее над ёй вясна,
А рыс там падняўся — ці хто калі сніў!
І ў кожнага сына пытае яна,
Што добрага ён для людзей зрабіў.

Нібы калыхнуўся мільён галоў,
І людзі сказалі: — Ты бачыш груды?
Вякамі нічога на іх не было,
Пад спёкай марнее зямля без вады.

А мы яе зробім цудоўнай, калі
Напоім удосталь і пройдзе тут плуг.
Пшаніцамі закаласяцца палі,
І дасць нам бавоўна цёплы свой пух...

Задумаўся Вахш. Бліснуў, як луской,
У хвалях пад сонцам і сцішыў разгон.
І, пэўна, счараваны марай людской,
Пакорліва лёг пад рукамі ў бетон.

Мінулі гады. Там, дзе пустка была,
Дзе гойсалі толькі самумы-вятры,
Дарогі ляглі ад сяла да сяла,
Даспеў вінаград, падняліся муры.

Над Вахшам шумяць маладыя гаі.
І ён ужо ў новай багатай красе
Бяжыць праз палі да Амур-Дар'і
І сказ ёй пра подзвіг людзей нясе.

— Матуля! — крычыць ён яшчэ здаля.—
Я людзям памог узрасціць сады,
Там песні звіняць, зелянее зямля
І фабрык над краем віецца дым.

І матка ўсміхаецца ветла яму
І шчыра да цёплага сэрца хіне,
І вольна на зайздрасць свету ўсяму
Плывуць яны ўдаль па сваёй старане.

*1947—1948*

## СЛЕД ЧАЛАВЕКА

Каб нанова мне выпала шлях пачынаць,
Я напэўна пайшоў бы, сябры, вандраваць.
Я б не проста пайшоў па зямлі вандраваць,
Я пайшоў бы ў дарогу з кіркою цяжкой,
З картай стэпаў і гор я пайшоў бы шукаць
Скарбы нетраў і траў чараўнічы настой.
На далёкім Урале
цвіце малахіт,
Каля Гомеля спее
буйны ранет.
Апранае Таймыр
вясны аксаміт,
І па ўсёй Радзіме —
пралёг твой след.
Пырскне нафта струменем —
Ажывае твой след;
Горад стрэхі адзене —
Ажывае твой след;
Стэп чыгунку сустрэне —
Ажывае твой след,
Пераможцы след,
Шукальніка след.
Ты не можаш спыніцца, не можаш чакаць.
Ледзь забыўся — гукае ўжо ясная даль:
Кліча тундра — скажу, дзе алмазы ляжаць,
А Кузнецк — пакажу, як робіцца сталь,
Кліча Крым — навучу вінаград расціць,
А Памір — адкрыю вяршыняў сакрэт.
Хто ж стрывае, скажыце, каб не пайсці?
І па ўсіх дарогах — звініць твой след.
Грукне радасна молат —
Ажывае твой след;

Новы выспее колас —
Ажывае твой след;
Гляне золата з долу —
Ажывае твой след,
Пераможцы след,
Шукальніка след.
Кліча ясная даль. І зямля — ледзь кранi —
Загаворыць на шчырай мове з табой.
Ты закурыш пры цёплым дарожным агні
І пачуеш у сэрцы шчаслівы спакой.
Каб намарна гады ў жыцці не прайшлі,
Не лічыў ты ў дарозе ні зім, ні лет.
Новы ўпарты вандроўнік — па ўсёй зямлі
Будзе браць кірунак
На кожны твой след.
Шлях заззяе у зорах —
Ён пазнае твой след;
Судна пройдзе па моры —
Ён пазнае твой след;
Нівы ўспеняць прасторы —
Ён пазнае твой след,
Чалавека след,
Пераможцы след.

*1947—1948*

## СЦЕЖКІ

Ледзь толькі цёплыя вятры з паўдня
Павеялі і зачарнелі на зямлі агрэшкі,—
Адразу ўспомнілі аб весніх днях
І зварухнуліся пад снегам сцежкі.

А сонца шчодра сыпала з сяўні
Цяпло на шыр палёў ды пералескі.
І скора ў далях ласкавыя дні
Радзілі свету сінія пралескі.

Якая радасць сцежкам тут была!
Вярнулася пара іх весялосці.
Мільёны люду з горада, сяла
Ішлі па іх — хто працаваць, хто ў госці.

Нярслі на рэчку невад рыбакі,
А вечарамі з песнямі па кветкі
Спяшалі ў лес дзяўчаты, юнакі,
І сцежкі ў дружбе іх былі як сведкі.

Як птушкі з выраю, ляцелі дні,
Вясна была лагоднай і ласкавай.
Зноў пад дажджом пускалі карані
Маланкі-парасткі, гусцелі травы.

Зноў высыпала ніва каласы,
Цвілі рамонкі, наступала лета.
І з рана да вячэрняе расы
Пад прамянямі песціўся палетак.

Трубіў пастух у берасцяны рог,
Ішлі дзяўчаты з лубкамі ў суніцы,
А там гулі камбайны у палёх
І насустрэч гайдаліся пшаніцы.

І зоры, ацяжэўшыя ўначы,
Да іх ляцелі, і маланкі з громам
Над імі, як агністыя мячы,
Урываліся ў спакойны поля гоман.

А потым верасьнёвы вецер нёс
Лісцё усё ў агні і сыпаў з ходу,
Дакашвалі хлапцы густы авёс,
А пчолы мёд данашвалі ў калоды.

Усё пазналі сцежкі, ўсё ўзялі
Сабе за дар, запомнілі за лета
І галасы вятроў, і цёплы дых зямлі,
І шчырасць чалавечага прывету.

Таму — ледзь цёплыя вятры з паўдня
Вясной адкрыюць на палях агрэшкі —
Адразу ўспомняць аб мінулых днях
І вырываюцца з-пад снегу сцежкі...

*1947*

## ГРУКНІ Ў АКНО, ВЯСНА

Грукні ў акно, вясна малада,
Грукні ў акно, калі сівер з паўночы
Пройдзе з снегам па цёплых тваіх слядах,
Заслязіць твае сінія чыстыя вочы,
Закуе звонкім лёдам рачулкі-дарогі,
Замарозіць твае яшчэ кволыя ногі.

Грукні ў акно, вясна.

Гаспадыняй заходзь у хату маю
Ды сядай частавацца за стол за дубовы,
І пакуль яшчэ сцюжы там зляцца, пяюць,
Пакуль гоніць іх з поля твой вецер паўднёвы,
Пакуль сонца ільды разбівае,— з табою
Пагуторым, як брат пры сустрэчы з сястрою.

Грукні ў акно, вясна.

Калі схочаш,— мы і па чарцы нальём
Самай лепшай маёй беларускай застольнай,
Вып'ем шчыра за цёплы мой новы дом,
Вып'ем шчыра за звон тваёй песні польнай,
За багацце майго маладога калгаса,
За расу для руні жытнёвай, для красак.

Грукні ў акно, вясна.

Ты пра шлях свой, пра мора, што хваляй б'е,
Мне вяснянку спяеш напачатку, а потым
Я табе пакажу усе планы свае,
Раскажу пра свае маладыя клапоты,
А пасля ў поле пойдзем — дазволь пахваліцца,
Колькі сёлета спраў нас чакае, сястрыца.

Грукні ў акно, вясна.

Грукні ў акно, вясна малада,
Нам пра шмат што з табою дамовіцца трэба:
Пра багатую завязь калгасным садам
І пра важкія тоны пшанічнага хлеба,
Пра багацце, што даць мы з табою павінны
Для народа майго, для Савецкай краіны.

Грукні ў акно, вясна!

*1948*

# ПАЛАЦ

Быў для новай будоўлі вясновымі днямі
Сярод мінскіх руінаў расчышчаны пляц.
І праз міг ужо горад звінеў галасамі
Непаседаў-падлеткаў:
— Тут будзе палац!

— Тут будзе палац! — кажа першы.—
Таму,
Што прыслала ад гораў Каўказа краіна
Чарнаморскі граніт свой і мармур яму
І найлепшую цэглу з гайду́каўскай гліны.

А для вокнаў шырокіх празрыстае шкло
Аж з-пад Гомеля везлі з праслаўленых цэхаў,
А жалеза яму Запарожжа дало,
А з рубінамі майстра з Урала прыехаў.

Будуць зоры, нібы над Крамлём, тут палаць,
Вось чаму гэта будзе цудоўны палац!

А другі не згадзіўся:
— Па-мойму, сябры,
Скора ўстане таму аж пад неба палац тут,
Што прыйшлі на руіны такія майстры,
У якіх дзівам робіцца шчырая праца.

Горад родны героі прыйшлі будаваць,
Што паставілі столькі ў жыцці гарадоў! —
Калі б іх па краіне
пайшоў аглядаць,—
Не агледзеў бы, пэўна,
за сотню гадоў.
Іхніх сэрцаў святлом
будуць зоры палаць.
Вось чаму гэта будзе цудоўны палац!

— І не толькі таму,— кажа трэці.—
Будынак
Можна ўсюды і ладны і моцны зладжыць.
А палац пабудуе таму тут краіна,
Што ў ім самы шчаслівы
народ будзе жыць.

Будуць жыць у ім
слаўных паходаў салдаты,
Чый штандар прамяністы шляхі азарыў,
Следапыты, шукальнікі песень крылатых,
Прыгажэйшага ў свеце жыцця ўладары.

Ім у далеч вякоў будуць зоры палаць.
Вось чаму гэта будзе цудоўны палац!

Галасы ўсё звіняць. А вясна паміж слоў
Аздабляе іх песняй, што дорыць ёй жаўранак,
І, ўліваючы ў радасны звон малаткоў,
Падымае, як гімн,
над зямлёю прачаўранай.

І прараб раптам здзіўлены ўзняўся нясмела
Над гранітам, што з самай зары шліфаваў:
А чаму гэта нібы ў вачах пацяплела
І вясёлкай прамень на расніцах зайграў?

Слёзы? Мусіць, што так. Але як яны ззялі
Тыя слёзы! Ніколі не ведаў такіх.
І ён склікаў дзяцей:
— Вы ўсе праўду сказалі,
Вы ўсе праўду сказалі, мае дружбакі!..

Але я адказаў бы, што ўсё: і кілімы
Ніў жытнёвых, і ясны прастор веснавы,
І багацці,
што мы здабылі для радзімы,—
Гэта ўсё ёсць таму ў нас,
што ёсць у нас вы!
І для вас будуць родныя зоры палаць.
І таму тут устане цудоўны палац!

*1948*

## КАМУНІСТ

— Завіце мяне камуністам! —
Сказаў ён сябрам перад боем,
І першы пайшоў у атаку,
І першы вязьмо агнявое

Прарваў, што сціскала пагрозна
Ад пушчаў да сіняга мора
На шэрых параненых скалах
Праслаўлены Балтыкі горад.

У байцы ударыла сталлю
Яму па гарачаму твару.
...З крыві ля варожага дота
Байца паднялі санітары.

А ў поўдзень прыйшла перамога.
Спяшала на захад пяхота.
І бачылі хлопцы парторга,
Хадзіў ён ад роты да роты,

Хадзіў ён, сціскаючы зброю,
Вялікай тугой апавіты,
Ды чуў толькі словы:
— Прыходзька?
— Прыходзька, напэўна, забіты...

Асабістая справа:
Заява,
Заява яшчэ без рашэння,
Як вечная памяць аб сыне,
З парторгам ішла ў наступленне...

А юнак гэтым часам
Далёка
Блукаў па вайсковых шпіталях.
Гаіліся раны, і вочы
Ўжо тыя дарогі шукалі,
Дзе з славай цяпер яго рота
Імкнулася з бою да бою.
— Зноў дайце мне зброю! — прасіў ён.
Але не далі яму зброю.

Камісія. Важны прафесар.
Суровы прысуд медыцыны.
Патрэбны спакой і папраўка,
Паветра і вітаміны.

— Не трэба ! Таварыш прафесар!
Мне толькі дваццаты год!..
...Юнак не вярнуўся ў пяхоту.
Але ён прыйшоў на завод.

Нялёгкі быў першы пачатак
На новай дарозе.
Руіны.
Пустэча.
Над горадам родным
Самотны ускрык жураўліны.

Але не шукаў ён ніколі
Для сэрца спакойную прыстань.
— Я ж колісь прасіў перад боем,
Каб звалі мяне камуністам!

Адроджаны ўзняўся над краем
Будынак з бетону і сталі.
Начамі і днямі няспынна
Плылі пад рукамі дэталі.

І ўжо да яго за навукай
Прыходзяць яго аднагодкі,
Нядаўніх баёў радавыя,
А сёння байцы пяцігодкі.

Ён вучыць іх шчыра, і песня
Пра іх у краіне пяецца...
І лёс прысудзіў
На заводзе
З парторгам палка яму стрэцца.

— Прыходзька!..—
Успомніўся хлопцу
Мінулага голас вячысты.
— Таварыш!
Вось ваша заява.
Вы ў славу ўвайшлі камуністам!

Быў сход урачысты і людны.
У сэрцах свяцілася свята.
Партыя!
Вяла ў сваіх шэрагах партыя
Працаўніка і салдата.

*1948*

## СКАЗ ПРА ГАРМАТУ

Прайшоўшы за тысячу вёрст,
На ўвесь прагрымеўшы свет,
У грозным апошнім баі
Падбітая ўпала гармата.
І цяжка было сказаць,
Чыя на рудым ствале
Кроў запяклася: яе
Ці кананіра-салдата.

Напэўна, яе — бо салдат
Падняўся, сцяў зубы, узяў
Вінтоўку, набоі злічыў
Ды рушыў наперад з пяхотай.
А ёй засталося глядзець
Зайздросна, як сёстры яе
Бязлітасным,
                    трапным агнём
Ламаюць Берліна вароты.

— Вярніся! — хацела яна
Наводчыку крыкнуць.— З табой
Мы гэтак дружылі, няўжо
Сяброўку сваю ты пакінеш?..
Але прамаўчала —
                    няхай
Ідзе: кліча слава яго,
Заве Перамога...
А ёй...
Ну, што ж — паміраць на чужыне.

Зусім не гадала яна,
Што новы ёй суджаны шлях
І новая слава здалёк

Яе ўжо шукае вачыма...
Прыгналі платформу байцы,
Напіўся вады паравоз,
Прыкрылі яе шынялём
І павязлі на Радзіму.

І вось, узнёсшы хвалу
Героям вялікай вайны,
Прыйшлі да гарматы майстры,
Агледзелі і спыталі:
Скажы нам, чым хочаш ты быць
У шчасныя мірныя дні:
Ці молатам звонка звінець,
Ці бегчы машынаю ў далі?

«Гарматай!» — хацелася ёй
Прамовіць,
                ды ўладны зарок
Вайсковы згадала — заўжды
Быць там, дзе Айчыне патрэбна.
І ціха сказала:
                        — Хачу
Быць трактарам, каб на зямлі,
Дзе бойкі гулі, зашумеў
Палетак пад сонейкам
                                хлебны.

Пакручваў ліцейшчык вус,
Як палкім струменем у коўш
З агню палілася яна
З дымком жоўта-сінім і горкім...
І сталася дзіва прад ім:
Што ззялі раней на ствале —
Нават і ў сплаве жылі,
Свяціліся ясныя зоркі.

Калі б тут стаяў кананір,
Цяперашні трактарыст,
Адразу пазнаў бы ён іх,
Бо ўласнай выводзіў рукою
Заўсёды, калі ў баі
Варожы танк падбіваў
Ці руйнаваў нашчэнт
Логава звера стальное.

Ён, можа б, убачыў на іх
І згустак сваёй крыві,
Што запяклася калісь
У грозным баі пад Берлінам...
...Міналі гарачыя дні,
І скора, пакінуўшы цэх,
Бліскучы сталёвы плугач
Пайшоў на загоны краіны.

З ім стрэўся салдат у палях,
І з радасцю сеў за руль,
І паплылі за ім весела
Чорныя тлустыя скібы.
А сонца паіла ўслед
Цяплом і дажджамі раллю,
Каб прарасталі хутчэй
Зерні на шчасных сялібах.

*1948*

## РАНІЦА НА СВІЦЯЗІ

Густыя вясновыя зоры
Імкліва, са звонам
Апалі ў таемныя сховы
бяздоннага Свіцязя.
І чайка,
Крылом секануўшы
Па хвалі зялёнай,
Гукнула сяброўкам і сёстрам:
— Прачніцеся!

Дубы векавыя,
Дасвеццем
Умытыя ў росах,
З паклонам суседкам-бярозам
Чубамі зашасталі.
А ў небе,
Як быццам парвалі
Прычальныя тросы,
Пабеглі, што чоўны, пад ветрам
Хмурынкі кучастыя.

Здавалася, дзень ужо вырас:
Прачнуліся далі,
Прырода усё абудзіла
Да самага мала.
Але ў гэтым бурным патоку
Якоесьці хвалі
Яшчэ не хапала,
Зямля
Ўсё чагосьці чакала.

І вось на прачаўраных гонях,
Бязмежных, як неба,
Што выткала ўзоры на ўсходзе
ў агністыя ружы,
З'явіліся людзі.
І поле,
Што марыла вырасціць хлеб ім,
Ажно прыўзнялося
Прад гэтаю арміяй дужай.

Шумела вясёлая праца,
Каб стаць на разлогах
Пшаніцай высокай,
цяжкім вінаградам у гронцы...
І то быў сапраўдны пачатак
Шчаслівага дня веснавога;
І ў гэтую хвілю над краем
Устала
Гарачае сонца.

*1948*

* * *

Я пайду ізноў да тых азёр,
Ля якіх калісь узрос падпаскам.
І, напэўна, зноў дрымучы бор
На мяне дыхне цяплом і ласкай.

Ён пазнае сябра па вачах,
У якіх цвітуць яшчэ ўспаміны
Аб грымотных чэрвеньскіх начах,
Аб асенніх казках жураўліных.

— Будзь са мною, браце, будзь
са мной! —
Ён здалёк яшчэ мне крыкне, знаю.
Белай кветкай, шчавелем, жаўной
Западзе ў душу вясна лясная.

Я пайду ізноў да тых крыніц,
Звон якіх і ў ростанях мне чуўся,
Калі ў грозным ззянні бліскавіц
Я ішоў праз смерць да Беларусі.

Сам зраблю карэц берасцяны,
Ціха шкло крынічнае зламаю,
І напэўна ў гэты міг з струны
Песня ў свет пальецца, як жывая.

Я пайду ізноў да тых палёў,
Дзе вучыўся змалку жыта сеяць,
І пад зычны гоман трактароў
Зноў у сэрцы радасць зарунее.

І калі на зычны гоман кос
Жніўнай песняй адгукнецца ніва —
Я адчую, што з усіх — мой лёс
Самы шчодры ў свеце і шчаслівы.

*1948*

## ЛЯ ВОГНІШЧА

Вечар, як чорны кот,
Ужмурыўся ў іскраў сяўню,
Над зараснікамі балот
Наструніла ноч цішыню.

Аж боязна працягнуць
Руку ў гэты важкі змрок,
Дзе хвалі бераг сякуць
Так, што скрыпіць пясок.

Але дачакайся, калі
Полымя згасне: тады,
Здаецца, ізноў па зямлі
Бачны твае сляды.

Ізноў адчуваеш ты,
Што ў цемры сядзіш не адзін:
Там цягнуцца ў рост кусты
Алешніку і крушын,

Там ціха трызніць рака;
Ільсняцца зоры ў высі,
А збоку, у лазняках,
Пасуцца ў статку ласі.

Гайдаецца рослы авёс,
Значыць, вятры не спяць,
І завушніцы з рос
На піках сцяблін звіняць.

А стуль, дзе лягла праз луг
У расцяробах гаць,
Саткаўшы зіхотны круг,
К табе светлякі ляцяць.

*1948*

## ТАНК НА МАГІЛЕ

Хавалі танкіста без музыкі. Вораг
Яшчэ не здаваўся. Музыкам — не час!
І толькі задымленых танкаў маторы
Суровы складалі аб воіне сказ.

Курган, як абрусам, пялёсткі акрылі,
Аддаў камандзір развітальны загад,
І з громам падняўся і стаў на магіле
З глыбокімі ранамі танк, як салдат.

— Няхай ён і помнікам будзе і вартай!..
Агні кананады нас клікалі ў бой.
Мы шлемы надзелі,

Адвагу і ўпартасць
таварыша паўшага
Бралі з сабой.

Ён ціха згаджаўся — яму не пад сілу...
Але толькі ў шлях падняліся мы зноў —
Здалося, што танк наш сарваўся з магілы
І рушыў услед, каб дагнаць дружбакоў.

З-пад гусеніц пырснула жоўтая гліна,
І першы навёў ён гармату на цэль.
І, ўчуўшы, як войкнула брама Берліна,
Сціха гайдануўся, нібы карабель.

Ніколі ніхто з нас не верыў у дзівы.
А ў тую хвіліну ў шалёным агні
Мы нават пачулі, як б'ецца шчасліва
Салдацкае сэрца ў нязломнай брані...

*1948*

## НАД РАКОЮ

Высокія хвоі
Над быстрай ракою
Гутораць з сястрою —
Пявучай сасною.

Пра дні ды пра ночы,
Пра сонца і зоры,
Чым быць хто з іх хоча,
Чым звацца,— гутораць.

Густыя кароны
У росах ільсняцца.
— Пара нам з загонаў
У свет падавацца.

— Мне ў хаце б стаць рамай,—
Сасна прамаўляе,—
Ці бэлькай,— таксама
На месцы б была я.

Ці дошкай на столі,
Ці белай паліцай,
Каб пахла там полем,
Травой і жывіцай,

Каб пахла вясновай
Духмянасцю долаў
І гоман дубровы
Чуваўся вясёлы.

— А нам бы,— на строме
Хвалююцца хвоі,—
У новым тым доме
Нам быць бы сцяною.

Мы сплецены з жылаў,
Мы з моцнага роду,
Зямля нас расціла
На доўгія годы.

Ні ліўні з вятрамі,
Ні снег — нам не дзіва.
Стаялі б вякамі
Мы ў долі шчаслівай.

А збоч б'е лістотай
Дуб, зведаўшы буры,
І кажа: — З ахвотай
Я лёг бы ў падмурак.

Ці стаў бы я новым
Сталом сярод хаты,
Каб з ласкавым словам
Мне б людзі багаты

Свой скарб уручалі,
Вясellі гулялі,
Гасцей частавалі,
Дзяцей гадавалі.

Так думаюць дрэвы,
Шумяць верхавіннем,
А вецер іх спевы
Нясе па краіне.

І ўчуў тыя мары
Юнак клапатлівы,
Прыйшоў праз абшары
У бор гаманлівы.

Для хат і для клецяў,
Для клубаў прасторных
Прыйшоў ён прыкмеціць
Найлепшых тут бёрнаў.

Стаіць на прылессі
І выбраць не можа:
Што дрэва — то песня,
Асілак прыгожы.

І кажа ён стромым
Хваінам і дубу:
— Мне сум ваш вядомы,
І ўсе вы мне любы,

І ўсім вам дарогу
Я даць не забуду,
Каб радасці многа
Прынеслі вы люду.

*1948*

## НАКАЗ ПАРТЫІ

Маладому герою,
Юнаку, што пазнаў перамогі сакрэт,
Уручае партыя сёння
Партыйны білет.

Людна ў залі райкома...
Урачыстая ціша...
І час настае —
З цёплым словам сяброўскім,
З прамовай напутнай
Сакратар,
Баявы камісар,
Устае.

...Мы ўручаем давер'е народа табе,
Што здабывалася ў працы і ў цяжкіх баях,
Права
Першым заўсёды ісці ў барацьбе,
Першым несці наперад
Камунізма сцяг.

Уручаем табе мы
Сонца нашых кастрычніцкіх заваёў,
І натхненне народа,
І мужнасць народа,
І той шлях, што Радзіму да шчасця прывёў.—

І руку паціскае,
Як бацька і сябра,
Стары бальшавік юнаку.
А таму —
А таму свет па-новаму бачыцца,
Як ніколі яшчэ на юнацкім вяку.

Быццам дужыя крылы
Падымаюць яго ў неабсяжны сусвет.
І, як сонца, яснее,
І, як сцяг, палымнее
У руках яго
Родны
Партыйны білет.

*1948*

## ЦЯГНІК БРЭСТ — МАСКВА

Кожны дзень, ледзь зардзееца ўсход,
Як у свята, хвалюецца Брэст.
Ля вагонаў стаіць народ,
На Маскву праводзіць экспрэс.

Час развітвацца. Хутка званок
Ўскалыхне за вагонам вагон...
І тады ў журавінавы сок
Афарбоўвае ранак
перон,

І тады для ўсіх гарадоў
Тэлеграму выстуквае Брэст:
— Сустракайце, сябры, адышоў,
На Маскву адышоў экспрэс.

Дзе крынічныя рэкі цякуць,
Дзе азёры густой сінявы,
Разам з ім — праз усю Беларусь
Я ўсім сэрцам лячу да Масквы.

Адгукніся ты, Нёман, мне,
Партызанскі наш мінскі лес,
Калі тут стралой прамільгне,
Развінаючы бег, экспрэс.

Дай мне знаць пра сябе, дай знаць,
Вёска Слаўная!
Сустракай —
Горад Орша і ты, Купавацъ,
І Смаленшчына — мужны край.

Дарагія мясціны мае,
Ад Захода да Нары-ракі,
Чым сягоння з вас хто жыве
І лятунак у вас які?

А насустрэч цягнікі бягуць,
Цяжка дыхаюць, дол гудзе.
— А куды вы?
— А мы ў Беларусь,
Дзе вялікая праца ідзе.

— Вы адкуль?
— Мы з Масквы, дружбак.
— Вы адкуль?
— Ад уральскіх стром.
Мы краіне тваёй, як знак
Дружбы нашай, падмогу вязём.

І лячу я, шчаслівы, туды,
Дзе відаць далі радасных дзён.
Добры дзень вам, мае гарады,
Ты прымі мой, Масква, паклон.

Можа, чутны на цэлы свет,
Лёгкім птахам ляціць экспрэс.
І глядзіць яму з ласкай услед
Край мой родны, мой родны Брэст.

*1948*

## КАМСАМОЛЬСКІ БІЛЕТ

Калі партыя з ласкай прымала мяне
У рады свае слаўныя, ў ясны свой свет,
Папрасіў я сяброў, каб, як сонца вясне,
Мне пакінулі мой камсамольскі білет.

Хай ён будзе са мной, каб мне чулася скрозь
Рэха дзён веснавых, як сяброўскі прывет.
Ён навек захавае ў душы маладосць
І імпэт яе — мой камсамольскі білет.

Каб я помніў, як радасна першы пралёг
У прастор прамяністы
юнацкі мой след,
Як выводзіў мяне на бязмежжа дарог
І расціў мяне мой камсамольскі білет.

Каб да веку свайго, да апошняй вярсты,
Так нястомна вышукваў навукі сакрэт,
Гарады будаваў, вёў да высяў масты,
Як вучыў мяне мой камсамольскі білет.

Ты вядзі мяне, партыя, ў радасны шлях,
Ў тую даль, дзе цвітуць камунізма агні.
І святлом іх азорыцца сэрца ў грудзях,
І заззяюць наноў камсамольскія дні.

І ніколі ў краіне жыццю не старэць,
І заўсёды быць пільным вачам маладым,
І, як медзь, непадкупнаму слову грымець,
І палям зелянець, на якіх мы стаім.

*1948*

## У ГАСЦЯХ У СЯБРОЎ

У гасцях у сяброў,
Далёка ад роднага краю
Я дыханне яго маладое,
Куды б ні ступіў, адчуваю.

Тут сініх не знойдзеш азёр,
Як у нас на Палессі,
Тут не ўбачыш адбітых у хвалях
Сунічных пажараў на ўзлессях,

Тут бурнай калматай ракой
Падпяразаны горы,
А даліны акрыты ў цяснінах
Смугою спякотнага мора.

Ды калі я на Вахшы глядзеў,
Як калгасныя людзі
Праз даліну капалі каналы,
Сухадолу ўгрызаліся ў грудзі,

Каб светлая хваля ракі
Да бавоўны дапала,
Каб на кволай лазе вінаграднай
Багатая завязь не спала,—

Я пазнаваў Беларусь,
Чуў гамонку чаротаў,
Дзе мы пад жыты і пшаніцы
Асушвалі багны-балоты.

І калі свідраваў таджык
Усё далей і шырай
Цела гор, каб з шасейнай дарогай
Прыйсці да братоў на Паміры,—

Мне бачыўся мінскі завод,
Дзе хлопцы злічылі па хвілі,
Калі яны выдадуць краю
Магутныя аўтамабілі.

І ў гэтым вось наша жыццё
І вяршыня жаданняў:
Пазнаваць у дыханні Радзімы
Сваё маладое дыханне.

*1948*

## МАЛАДОСЦЬ

І няхай,—
Няхай мне з бурай знацца,
Хай прайду хоць сотні лішніх вёрст! —
Не пакіну радасна стамляцца,
На шляхах не згасне мой касцёр.

Буду спаць начамі пад сасонкай,
Буду піць ад смагі росы з траў,
Толькі б спеў юнацтва наўздагонку
Мне ляцеў і далей выпраўляў.

І будзіў трывогу, каб нанова
Я ішоў далей па ўсёй зямлі —
Па зялёных павадках жытнёвых,
Па шляхах, што ў пушчах пралеглі.

З малых год мне кажа шлях краіна
Па сваіх прасторах векавых:
Там — расціць ёй трэба садавіну,
Там — пракласці трасу сярод крыг,

Там — я столяр, устаўляю раму,
Там — чакаюць плуга дзірваны,
Там — руду падняць з глыбінь Петсама,
Там — саткаць ёй ветразь ільняны.

І ніхто нідзе ніколі ў свеце
Спраў такіх не мог тварыць, як я.
Як заўсёды — першая прывеціць
Шчодрасць сэрца
                маладосць мая.

Ёй бы ўсё хутчэй, далей бы крочыць,
Ёй бы ўсё шукаць і спасцігаць:
Новых дзён абрысы бачаць вочы;
І сцягі ярчэй, ярчэй гараць.

І няхай —
Няхай мне з бурай знацца,
Хай прайду за сотні лішніх вёрст —
Не пакіну радасна стамляцца,
Не стушу ніколі свой касцёр!

*1948*

## НА КАСАВІЦЫ

Касец размахнуўся і гахнуў касой
Па роснай мурожнай балонцы
І дужай рукою адкінуў з травой
Мільёны палаючых сонцаў.

Пракос задыміўся, як быццам гарэў.
Дубы аж прыселі ад дзіва:
— Ратуйце! Пажар! —
і пад вокліч іх з дрэў
Пасыпаўся дождж зіхатліва.

Ды толькі
касец развінуўся ізноў,
І ўпалі ізноў пад касою
Высокія травы мурожных лугоў,
Абмытыя чыстай расою.

Палалі, зіхцелі ў пракосах агні,
Пад сонцам дыміліся пожні,
Пакуль не звалілася на карані
Трава пад узмахам апошнім.

*1948*

## ПУШКІН

Ля кіеўскіх сцен засыпаюць пяскі
Пасечаны меч печанега.
Праз бітвы выходзяць — у свет, у вякі
Цяжкія дружыны Алега.

А ўдалечы свеціцца зорка між хмар,
І бляск яе грозна-суровы.
Сцягі барацьбы, вызвалення пажар
Праносяць палкі Пугачова.

Бязмежныя далі. Вялікі народ.
Расія!
Сям'ёй незлічонай
Ідуць яе дзеці ў адважны паход
На шведа і Напалеона.

Так Пушкін прыходзіць...
Жыві, чалавек!
І вось табе голас вячысты!
І сэрцам паэта бунтуецца век,
Які пачалі дзекабрысты.

Ім вырвацца трэба на вольны прастор,
Іх душыць у царскіх мундзірах.
Але Мікалай падымае тапор,
Рыхтуе капальні ў Сібіры.

І глуха жалезны ланцуг зазвінеў,
І змрочна і цесна ў астрогах.
Так цёмна наўкол, што нат пушкінскі гнеў
Прыгнечан самотнай трывогай.

Дзе ўцеху знайсці? Толькі ў водблісках мар
Засвеціцца слова жывое.
І кліча з народа і славіць пясняр
Адважнае племя младое.

Ён будучай радасцю ў марах жыве,
І з прагнасцю ловіць вачыма
Усё, што здабудзе, жыццём назаве
Расія, Свабода, Радзіма.

Ён бача, як з громам ляцяць кайданы,
Як сонца краіне ўзыходзіць.
Так Пушкін —
навечна, прарокам вясны
Жывым застаецца ў народзе.

Мінулі гады. Рэвалюцыі ход
Развеяў царызму павалу.
Расія, Радзіма — шматмоўны народ
Пад сцягам свабоды з'яднала.

Вясна наша — велічы стала сястрой,
Мы ў шчасце ідзём юнакамі.
І Пушкін у дружны становіцца строй,
І чуецца голас:
— Я з вамі!

*1949*

## ДВА ЛЁСЫ

Прастораю невядомай
Наўкруг устае акіян.
З-пад Нёмана — у Аклахому
Едзе Пятро Сяван.

Знік за плячмі шумлівы
Выкляты гданьскі рум,
Вісельні дэфензівы,
Пілсудчыкаў люты глум.

І верыцца і не верыцца...
Гэй, глядзіце, паны!
Едзе Пятро ў Амерыку,
Не ведаючы маны.

Едзе з надзеяй гарачай,
Думкай жыве адной:
Досыць яму батрачыць,
Есці каржы з лебядой.

Досыць насіць пад сэрцам
Слёзы глухой тугі,
Гарадь на плячах — не сцерці —
Ад бізуноў пісягі.

Сніцца Пятру дарога —
Вольная, без нягод.
І толькі адна трывога
Не пакідае яго:

Там, па-над родным Нёманам,
Дзе бедныя вёскі ў рад,
Там застаўся бяздомны,
Бяздольны Янук, яго брат.

Стогне зямля Беларусі
Пад белапольскай пятой,
І сёння там у прымусе
Лёс праклінае свой

Брат яго. Эх, няйначай,
Не сґрэцца ім больш, маладым.

Янка! Пятро яго бача
У дзень развітання з ім.

Губы — крыві ні следу.
Глуха гаворыць у твар:
— Амерыка? Не паеду!
І там іх поўна, пачвар,

І там крывасмокаў многа,
Не прагну заморскіх бэр!
Адна для мяне дарога —
Дарога ў СССР.

І прыйдзе пара — за гэту
Дарогу
пайду я ў бой!
Не трэба мне іншага свету,
Не кліч ты мяне з сабой...

Сэрца ў Пятра набалела —
Хоць плач, хоць зусім памры.
І шэрая куртка сатлела
Даўно-даўно на Пятры.

«Хоць дзень бы адзін вясёлы!..» —
Марыць душа Пятра.
— Што ж, брат... Прышлю табе долараў
Ці другога якога дабра.

Батрацкая радасць —
не верыцца...
Але — з дарогі, паны!..
Едзе Пятро ў Амерыку,
Не ведаючы маны.

Расштурхвае хвалі вецер,
Пагойдваецца параход...

*

Імкліва ішоў па свеце
Трыццаць дзевяты год.
Жаўцелі кляны над Нёманам,
Цвілі ў лясах верасы.

Запелі
у дзень векапомны
Грозных гармат галасы.

Пара ўз'яднання настала,
Вялікі пачаўся паход.
Той радасці
часу нямала
Чакаў беларускі народ.

Сыплецца з панскай кароны
Падсрэбраная іржа.
Хто тут наставіў кардонаў?
Прэч з дарогі, мяжа!

Пад слаўным чырвоным сцягам
У мужным рэспублік страю
Радзіма
нясе адвагу
І песню аб шчасці сваю.

У край свой родны Заходні
Нясе яна любым сынам
Сонца крамлёўскай паходні,
Якому зямля ўся відна.

Забудзьце пра горкую долю,
Бярыце
жыццё без прынукі!..
Дзеліць з сябрамі поле,
Забраўшы ад пана, Янук.

Зямля! Па ёй змалку хадзілі,
Ёй сілу ўсю аддалі.
І вось прычакаліся хвілі:
Хаця і пякуць мазалі,

Паклон табе, вольнае поле,
Чакаеш вялікіх ты спраў!
І песню калгасаў, што калісь
Янук толькі шэптам спяваў,

Ён вольна вядзе над дарогай —
Ці дзень на дварэ ці зара...

І толькі
адна трывога
Сёння ў яго —
пра Пятра.

Глядзеў ён: куды ўцякалі
З разбітых харомаў паны?
А іх ужо ў хеўру прымалі
За морам банкіры вайны.

Не раз яшчэ злосна ашчэрацца
Тыя зладзеі-паны!
Уцякаюць паны ў Амерыку,
Краіну панскай маны.

Глядзі там, Пятро!..
Ды ў той далі
Хапае Пятру тугі:
Намоцна яго ўжо скавалі
Амерыкі ланцугі.

На палі аклахомскіх плантацый
Даляцеў з Наднямоння слых:
Там, дома,— там шчасная праца,
Няма кайданоў былых.

І зраненая батрацкая
Дрыжыць у Пятра рука.
— Браты! — шэпча ён.
— Мне б падняцца,
Мне б скінуць ярмо бедака.

Нязбытная мара, гарачая,
Спяшаецца ў лёт праз адчай:
Сэрца Пятрова плача,
Просіцца ў родны край.

Хоць слова б пачуць ад блізкіх,
Пакуль шчэ зусім не згарэў.
Але ўжо гучыць па-англійску
І па-польску над ім:
— Пся крэў!

Знюхаліся паны...
Хто лепей
З іх, крывасмокаў, скажы...
Марыць батрак не аб хлебе,
Усё аб тым жа каржы.

*

Мінула ў хадзе несціханай
Дзесяць вялікіх год.
Пад сонцам Радзімы з'яднаны
Ўзмужнеў беларускі народ.

Кіпучым, творчым, нястомным
Жыве наш Янук жыццём.
Стаіць у яго над Нёманам
Асветлены новы дом.

І ўсцяж — як аглянуць — ясны
Родных палёў далягляд.
На нівах шырокіх калгасных —
Песні працоўных брыгад.

Многа ў Янкі, многа
Шчаслівых дум і клапот.
А толькі адна трывога
Жыве з ім не першы год.

Прарваўшыся праз акіяны,
Прыйшло Януку пісьмо.
Пятро!
Ён і сёння загнаны,
І сёння над ім ярмо.

Сціскаецца Янукова
У грозны кулак рука.
Ён бачыць у цяжкіх аковах
Брата свайго, батрака.

Піша Пятро:
— Мой родны,
Ты краю перадай паклон,
Хай зробіць мяне свабодным,
Хай верне да вас мяне ён.

Святлее прад Янкам краіна.
Сонцам заліты дом.
І з Януком, як з сынам,
Край родны за новым сталом.

Ён кнігу яму адкрывае,
І бачыць Янук у ёй:
— Хай верыць брат і чакае,
Сонца ўзыдзе над зямлёй.

Ніхто, ніхто не стрымае
Вялікіх ясных ідэй,
Прыйдзе камунізм і ўз'яднае
У шчасці ўсіх людзей.

І ў цішыні несціхана
Сэрцаў яднаецца стук.
То брату, што за акіянам,
Руку падае Янук.

*1949*

# АЛЁНЧЫНА ШКОЛА

## Паэма

### ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Кожны год, як толькі ў долах
Зацвітае сіні верас,
З мацярынскай ласкай школа
Расчыняе насцеж дзверы.

Расчыняе насцеж дзверы
Ды сваю сям'ю гукае:
— Гэй, сябры, гэй, піянеры,
Я вас зноў к сабе чакаю!

І тады не ціхне ў сёлах
Гоман дружны і вясёлы.

І ідуць яшчэ з дасвецця
Ў школу —
з яснымі вачыма
Шчаслівейшыя на свеце
Дзеці нашае Радзімы.

Як далёка ўдаль імкнуцца
Словы юнай песні звонкай!

А званчэй за ўсіх пяюцца
Песні радасці ў Алёнкі.

Ёй красу сваю Радзіма
Ўсю адкрыла прад вачыма,
Падарыла вёснаў сілу,
Дружбу верную і крылы.

І ў жыцці, з красы сатканым,
Сняцца ёй заўжды яны —
Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны...

*

Знаю, нехта з вас захоча
Паглядзець на далі тыя,
Дзе цвітуць Алёнкі вочы,
Бы пралескі веснавыя,

Дзе грымелі буры-веі,
Дзе байцы ў баі хадзілі,
Каб збыліся ў вас надзеі
І жыццё дало вам крыллі,—

Дык ідзіце так:
Над Нёманам
Баравым дыхніце гоманам,
А з разбуджанага Свіцязя
Веснавой вады напіцеся.

Потым...
Потым па разлогах,
Па лугах, па лозах ніцых
Будзе весці вас дарога
На капыльскія суніцы,

На Дзяржынск у красках сініх,
На Сянно ў жытах высокіх —
Доўга ўсцяж
па ўсёй краіне
Будуць чутны вашы крокі:

Над шырокімі шляхамі,
У лясах па сцежках вузкіх...
Ўвесь адкрыецца прад вамі
Край наш родны беларускі.

Шыр лугоў, дзе звон крынічны,
Пікі-вежы труб фабрычных,
Ды палі са збажыною,
Ды лугі ў высокіх травах —
Гэта й будзе той зямлёю,
Дзе мужнела наша слава.

І вось тут, куды прыйшлі вы
Праз палі па сцежках торных,
Над Сажом, Сажом вірлівым,
Што да мора гоніць бёрны,

Тут радзілася, ўзрастала
Наша дзеўчынка малая...
Вось ён, цёмны лес над галай,
Вось у вёсцы хата тая.

*

Але не, не тая гэта
Хата з смольнай сталяніцай,
Тую хату грозным летам
Надпалілі чужаніцы.

А другая хата гэта —
Хата новая,
Якая
Збудавана сельсаветам
Ў дні, як мір настаў для краю.

І чырвоны мак у мяце
Тут нядаўна ўстаў на градках...
Ды не будзем забягаць мы,
Ўсё раскажам па парадку.

Пра Алёнчыны малыя
Пра гады згадаем слова.

*

Дні маленства залатыя,
Дні ў апратцы каляровай,

Вашым марам, вашым песням,
Вашым сонцу і світанням,

Вашым краскам на прылессі,
Вашым казкам і паданням,

Вашым радасным прыгодам
Слава, слава назаўсёды!

Быў у нашае Алёнкі
Ясны шлях у ясным свеце.
Ад сасонкі
Да сасонкі
То ў вясне звінеў, то ў леце.

Дні за днямі,
Дні за днямі,
Год ад году,
Год ад году
Віўся ў полі каласамі,
На світанках ззяў у водах.

Вечарамі з тонь рыбацкіх
Кідаў песнямі у шыбы,
Раніцой будзіў знянацку,
Вёў за сонцам на сялібы.

Вёў на волю, за вароты,
Дзе навокал столькі дзіваў!
На Сажы мятуць чароты
Пену хваль
Кудлатай грывай.

Каля іх то плотка боўтне,
То вясёлку язь ускіне,
І гарлачык вокам жоўтым
Паглядае з гладзі сіняй.

А з якою сілай воды
Б'юць у бераг, рушаць камень,
Калі колы парахода
Прагрукочуць над вірамі.

Сож. Яе маленства рэчка.
Па баках калгаса поле.
Тут вось — лес, а там — мястэчка.
І навокала — прыволле.

Горда ўецца над ракою
Сцяг крылаты, сцяг чырвоны,
Кліча, кліча за сабою,
Надае душы разгону.

І так часта ажывае
Мара: ехаць...
— Чуеш, мама?
Маці шчыра суцяшае:
— Будзеш ездзіць ты таксама,

Толькі вырасцеш вялікай,
Дык усё сама аб'едзеш,
Будзеш нас у госці клікаць,
Сустракаць далёка недзе.

*

А яшчэ была такая
Радасць сэрцу немалая,

Калі часам маці скажа
Бацьку:
— Хай бы ты, Алесю,
Павадзіў дзяўчынку нашу
Па зямлі сваёй, па лесе.

Як заўсёды, ён, вядома,
Возьме з радасцю дзяўчынку.
І ідуць яны ад дому
Васільковаю сцяжынкай,

Крочаць з бацькам далей, далей.
Ён — ляснік, мясціны знае.
Дзе кражы сцяною ўсталі,
Глыбей лесам забірае.

Там, у гушчы, дзе між дрэваў
Звон рачулкі, птахаў спевы,
Хатка ёсць. Глядзіцца сонца
Праз лісцё ў яе аконца.

Не жыве ніхто ў ёй стала,
Толькі гнёзды пад страхою.
Але часта ў ёй, бывала,
Начаваў Алесь зімою.

Ды і летам пры выпадках
Ён, ляснік, тут жыў нярэдка.
І таму навокал хаткі
Быў заўсёды дол у кветках.

Тут, блукаючы дубровай,
Паляўнічы кут знаходзіў,
Лесарубы ў час зімовы
Спачывалі ў добрай згодзе.

У вясну, калі ў падсочках
Сосны ніцяцца смалою,
Тут працуюць аж да ночкі
Хлопцы дружнаю сям'ёю.

А ў час летні і дзяўчаты,
Што прыходзяць па суніцы,
Прыпыняюцца ля хаты —
З ручая вады напіцца.

Вось сюды Алёнка часта
З бацькам сцежкамі прыходзіць.
Між ялін густых, купчастых
Люба ёй тут на выгодзе.

Паміж дрэвамі мільгае
Яе сіняя хусцінка,
Зерне з шышак выбірае
Працавітая дзяўчынка.

На палянцы рассявае
Тыя вочкі-зерні з ласкай.
І лес песню ёй спявае,
Абяцае стацца казкай.

*

Перад ёй сяброўкі-сосны
Ўвысь ідуць наперагонкі.
Край наш родны,
Лес дзівосны,
Як ты любы для Алёнкі!

Кожнай хвіляю дуброва
Ёй нясе прыгоду-ўцеху.
Вось яна сказала слова —
І пайшло па лесе
рэха.

— Та-а-а-та!
— А-а!..
Стаіць Алёнка,
Доўга слухае з усмешкай,
Як за словам наўздагонку
Пошчак коціцца па сцежках.

Дзесьці ходзіць, то сціхае,
То пачуецца нанова.
Вось жа сіла ў іх якая,
У яе звычайных словах!

А татуля навучае:
— Гэта ў лесе так заўсёды.
Слова тут бы крылы мае,
Не страчае перашкоды.
І калі якой парою
Ты заблудзішся няўрокам,
Дык гукні — і над зямлёю
Пойдзе голас твой далёка.

Рэха будзе слацца громам,
І табе на дапамогу
Я прыйду,
І мы дадому
Знойдзем простую дарогу.

*

Так, бы птушка-гаварушка,
Нібы кветка ў родных долах,
Узрастала іх дачушка
І прыгожай і вясёлай.

Вочы — быццам васілёчкі
З яе вышытай сарочкі,
Твар — як сонца, прамяністы,
Косы — лён кужэльны, чысты.

Не сануляй, не пястушкай,
Не патворай ганарлівай,
А ўдалася іх дачушка
Працавітай і руплівай.

Заўсягды сабе
Ці ў хаце,
Ці на полі знойдзе справу.
А душа была ў дзіцяці
І чуллівай і ласкавай.

Нат сцяблінкі патаптанай
Абмінуць яна не ўмела,—
Будзе шчыра і аддана
Даглядаць, каб не хварэла.

А калі вады напіцца
Падарожны ў хату зойдзе,—
Пабяжыць з карцом к крыніцы,
А пасля і хлеба знойдзе.

І аж цёпла ў сэрцы стане
Чалавеку: от старонка!..
Так,
Бы зорка на світанні,
Падымалася Алёнка.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

Хутка ў сказ кладуцца словы,
Але дні хутчэй мінаюць.
З вёсен ясных, зім суровых
Нам гады
Жыццё складаюць.

Сёмы раз перад Алёнкай
Прагулі завеі ў полі.
Снег дыміўся над палонкай,
Маразы
Ільды калолі.

Вецер выў на снежным грудзе,
Біла непагадзь цяжкая.
І здавалася: не будзе
Ні канца зіме, ні краю.

Але вось снягамі з гулам
Поле к рэчцы шуганула.

Ледаломка-трасагузка
Крыллем грукнула па лёдзе.
І Сажу ў ручве ўжо вузка,
І пайшоў ён па свабодзе.

Колькі дзён тых, а як слаўна
Воблік свой змянілі далі.
Хто б паверыў, што нядаўна
Тут кругом снягі ляжалі?

У палях прайшлі барозны —
Першы вынік рупнай працы,
І, як кожным годам,
розна
Дрэвы сталі распускацца.

Быццам чуючы пагрозу,
Гоніць ліст вярба, спяшае.
А вунь там ужо бяроза
Хустку з зелені ўскідае.

А за ёй кляны і вязы
Паднялі агні-кліночкі.
Толькі дуб не мог адразу
Скінуць леташняй сарочкі.

Вось вятрам была дзе воля!
Доўга дуб — відаць, ад болю —
Над зямлёй шумеў і шастаў
Буйным голлем пакручастым.

Ды праз час на плечы новы
Цяжкі плашч і ён ускінуў.
Зеляней, мая дуброва,
Прыгажэй, куток гасцінны!

*

А Алёнцы, як нікому,
Гэтай новаю вясною
Было шчасна.
Ўсім знаёмы
Восьмы год стаяў прад ёю.

Восьмы год. Каму не сніцца
З год малых ён ночкай кожнай,
То ласкавы, то як быццам
І сур'ёзны і трывожны?

Але як бы ён ні сніўся:
Ці захмураны, ці з жартам,
А заўсёды ён садзіўся
З кожным з вас
За школьнай партай.

І вучэння таямніцы
Адкрываў па кнізе першай,
Вёў па свету праз граніцы,
Захапляў вас песняй, вершам.

Часта бегала дзяўчынка
На сяло, пад вокны школы.
Там гучаў на перапынках
Піянерскі спеў вясёлы.

Школа! Тваёй ласкі-дзіва
Рупна дзеўчынка чакала,
І настаўнікаў шчасліва
На сяле яна вітала.

Дзень настане верасневы,
Сядзе дзеўчынка за парту
І настаўнікам дасць слова
Добрай быць, вучыцца ўпарта.

*

Быў лагодны ясны ранак
З туманом, што ў лузе плаваў,
З посвістам сініц-вяснянак,
З росамі
На буйных травах.

Набухалі травы сокам,
Пчолы неслі мёд у соты...
А той хвіляй
Дзесь далёка
Ужо сляліся грымоты.

*

Чэрвень. Ранак. Хто падзівіць
На звычайны гром?
Магчыма,
Гэта выпаў дзесьці лівень
Над прасторамі Радзімы?

Але не! Не цёплы лівень
Паліваў палі Радзімы,
А ішоў па нашай ніве
Вораг з прагнымі вачыма.

Чорны крыж навіс над краем...
Гул бамбёжак
Нечуваны...
І зямля ўжо дзесь палае,
І пякуць
На сэрцах раны.

Грозны час!
Трывогі поўны,
Але мужны і суровы,
Бараніць свой край цудоўны
Падымаўся люд.

З дубровы
Апаўдні прыйшоў дахаты
І Алёнчын бацька. Колісь
Рэвалюцыі салдатам
Быў ён, і сягоння з болем

Небяспеку чуў душою
Для сваёй вялікай волі,
Для жыцця свайго, якое
Паднялося ў шчаснай долі.

З даўніх год ляжала ў хаце
Гімнасцёрка ў скрыні белай.
І яе дастала маці
І спыталася нясмела:

— Пойдзеш?
— Так, пара ў дарогу.
Трэба ў лес — загад раёна.

Ты ж, матуля, кінь трывогу...
Бацька глянуў улюбёна...

Тых кароткіх слоў Алёнка
Не зусім і зразумела.
Цэлы вечар яна звонка
Татку ў хаце
песні пела.

Казкі ўсе пераказала,
Што з яго ных вуснаў чула,
Ад сябе не адпускала,
На руках яго заснула.

Але ён пайшоў. І ўчула
Горкія дзяўчынка слёзы.
А над вёскай
З цяжкім гулам
Праплывалі бамбавозы.

І дзяўчынка каля вокан
Толькі ўдзвюх цяпер з матуляй.
— Дзе наш татка?.. Ён далёка?..
Можа, там, дзе гром і кулі?..

*

А затым ізноў у працы
Дні пайшлі, хоць і ў трывозе:
Жыта стала наліваццa,
Сена высахла на лозе.

Людзі дбайна працавалі,
Зноў спакойных дзён чакалі
Ды казалі між сабою:
— Не, фашыст не пройдзе хіжы!..
І хаця
Грымоты бою
Што ні дзень — былі ўсё бліжай,

А ніхто зусім не думаў,
Што так хутка,
Што так скора
Вораг прыйдзе з крыўдай, з глумам
На калгасныя прасторы.

*

Неяк раз у вечар ясны
Сціхнуў гром, што чуўся ў далях,
Толькі мора
Ніў калгасных
Ціха ветры калыхалі.

І прайшлі два дні, і трэці
Ўстаў над доламі ў спакоі.
І здалося ўсім,
Што ў свеце
З сілай скончана ліхою.

Маці раніцай сабрала
Бацьку полудзень: паклала
Сала ў кайстру, мёду, хлеба,
Каб не меў Алесь патрэбы,

Расказала і паслала
Да татулі ў лес дзяўчынку.
— Будзь жа пільнай,— наказала,—
Ды трымайся ты сцяжынкі!

— Добра, мамачка! — Алёнка
Адказала маці звонка
І дуброваю наўзгадкі
Да лясной пабегла хаткі.

І як радасна сустрэлі
Нашу дзеўчынку паляны!
Ясна ягады гарэлі,
Звон ёй чуўся берасцяны.

Посвіст івалгавы клікаў
Да густых бяроз, у засень,
І з травою павілікай
Сцежка ёй адной вілася.

*

Вось і тая ў лесе хатка.
Бацька дзеўчынку цалуе.
А яна: «Ты снедай, татка!» —
Запрашае і частуе.

А далей ёй не сядзіцца.
Лес! Тут столькі
справаў чароўных!
Спелай ягады суніцы
Назбірала кошык поўны.

У гняздзечку птушанятак
Паглядзець ізноў схадзіла,
Паліла дубок ля хаты,
Што вясной перасадзіла.

Многа ёй у лесе працы,
Ды пара дамоў збірацца.

Сонца ў сініх неба стромах
Да заходу павяртае.
Значыць,
ёй пара дадому.
— Што ж, бяжы, мая малая!

Хуценька бяжы, Алёнка!..
І з дзяўчынкаю на сцежках
Зноў гутарылі сасонкі,
Размаўлялі сыраежкі.

І ці доўга, а ці мала,
Не заўважыла дзяўчынка,
Паміж дрэў
яна блукала,—
Час ёй здаўся за хвілінку.

Толькі раптам,
быццам з хмары,
Перуновы ўчуўся лёскат,
І да лесу дым пажару
Цераз лог паплыў ад вёскі.

*

Сэрца ёкнула: дадому!
Б'юць лісты крушыны ў вочы.
Што з ёй будзе — невядома,
Страшна ў лесе — як уночы.

Вось і лесу край. Адгэтуль
Як рукой падаць да хаты.
Але дзе ты, хата, дзе ты?
Дым
Над ёю
Клубаваты.

І далей сяло палае.
Пыл і грукат над дарогай.
І нідзе не заўважае
Вока з родных анікога.

Не, няма ёй ходу далей.
А ўжо цёмна, сонца села.
І ў вачах яе ад жалю,
Ад трывогі пацямнела.

Вочы плачуць:
　　　　　　як дайсці ёй
Да бацькоў парой такою?
Людзі злосныя, чужыя
Засланілі свет прад ёю.

*

Толькі лес сваёй гамонкай
Суцяшае боль памалу.
І згадала з ім Алёнка,
Словы бацькавы згадала.

Рэха!
Рэха, памажы ёй,
Памажы знайсці дарогу!
І праз зараслі густыя
Пакаціліся з трывогай

Словы клічу. Сціхла сэрца.
Як ёй родны лес адкажа?
Але вось па-над азерцам,
З ночы цёмнае, бы сажа:

— А-а-а! —
　　　　　　ляціць па-над сцяжынкай,
— А-а! —
　　　　　　то сціхне, то ўзмацнее.

І бяжыць, бяжыць дзяўчынка
Сярод ціхіх дрэў з надзеяй.

Так па месцах незнаёмых
Доўга бегла, ног не чула.
Але хутка ўпала ў стоме
Каля дрэва і заснула.

*

Спіць. І сніцца сон Алёнцы.
Сніць сябе яна вясною,
І ў руках нібыта сонца
Хтось трымае па-над ёю.

Хто? Яна зусім не знае.
Але як ёй добра зараз!
Нат слязінка зацвітае
Краскай весняю на твары.

Ззяе, свеціцца слязінка,
І чуваць Алёнцы словы:
— Не сумуй, мая дзяўчынка,
Прыйдзе ўсё к табе нанова.

Вось ты бачыш, як палае
Гэта сонца над табою?
Дык бяры, мая малая,
І нясі яго з сабою.

З ім мінецца гора-ліха,
Будзе шчаснай зноў старонка!..
— Дзякуй, татка! — кажа ціха
І здзіўляецца Алёнка:

А чаму ёй бацькам родным
Здаўся той, каго не знае?
І яна на свет лагодна
Раптам вочы падымае.

Хто ж прад ёй,
перад малою?
Чалавек стаіць прад ёю,
Чалавек трымае зброю
Дужай, моцнаю рукою.

Чалавек — савецкі воін —
Нахіліўся па-над ёю.
І здаецца ён бясконца
Дарагім,— у яго словах
Быццам чуюцца Алёнцы
Галасы бацькоў з дубровы.

*

...Ноч мінала. Новы ранак
Змрок ужо зганяў з палянак.
Ды не ведала Алёнка,
Што ў бары, дзе дол крынічыць,
Між густых сасонак гонкіх
Яе родны бацька кліча.

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

Ля азерца, дзе дубамі
Атулілася палянка,
Ціха курыцца дымкамі
Партызанская зямлянка.
А ручай прайдзі па кладках —
Леснікову ўбачыш хатку.

Праз гушчар
Ва ўсе мясціны
Ад яе вядуць сцяжыны.
Партызанскія дарогі
Берагуць спакой паляны.
А на час якой трывогі
Два чаўны ў хмызняк схаваны.

Самы просты — шлях азёрны.
Не паспееш глянуць вокам —
Вёслы ўдараць зладна-спорна,
І ўжо човен дзесь далёка.

Ён ляціць на Сож,
Крылаты,
Там і сям стралой мільгае,
І гавораць аўтаматы,
Дзе іх вораг не чакае.

Хто ж тут ёсць? З якой старонкі?
Многа іх, сяброў, ці мала?
Многа.
І між іх Алёнка
Шмат каго б у твар пазнала.

Перш за ўсё яна б пазнала
Тых, з кім у лапту гуляла.

Не байцы яны,
Ды з імі
Стала тое, што і з ёю:
Як яна,
Яны малымі
З цішай звыкліся лясною.

Стаў ім лес утульнай хатай,
А атрад — сям'ёю шчырай.
Іх бацькі цяпер — салдаты,
Радавыя, камандзіры.

У вачах людзей суровасць,
Поступ цвёрды, як сталёвы.
Цяжка ў засені дубровы
Распазнаць дзядзькоў вясковых.

*

Тут і ён, з народам дружны,
Наш ляснік, змаганец мужны.

Быў ляснік ён добры, дбалы,
Родны лес бярог для краю,
А цяпер пара настала —
Яго лес аберагае.

Лес людзей аберагае
Для змагання, для адплаты,
А ляснік мясціны знае,
Будзе добрым ён салдатам.

Ён знаёмы з кожнай меткай,
Кожны шолах лесу чуе,
З партызанскаю разведкай
Робіць справу баявую.

Тут і маці з ім заўсёды,
І сама яго ў паходы
Выпраўляе рупатліва.
— Каб жа ўсё было шчасліва...

Скажа так і голаў звесіць.
Сум жыве у сэрцы маці.
Не бяда, што жыць у лесе
У лясной ім трэба хаце,
А бяда ў яе другая:
Дзе дачушка дарагая?

Колькі дзён па лесе ходзіць
Бацька ды дачку шукае.
Супакою не знаходзіць:
Дзе дачка яго малая?

*

Дзе ж яна? Што стала з ёю?
А яна дзесь над ракою,
Уцякаючы ад стрэлаў,
Бегла, покуль сілы мела,
Азіралася наўкола
І, не ўчуўшы бацькаў голас,

На мясціне незнаёмай
Як упала нерухома
Ля сасны ў траву-расянку,
Так і спала да світанку.

Сон свой бачыла Алёнка,
Сонца-шчасце сваё сніла,
І ў здзіўленні пад сасонкай
Вочы ясныя адкрыла.

Ноч прайшла, і ў сне забыцца
Пра жуду яна паспела.
Зараз бы з карца памыцца,
Ручніком уцерціся белым

І, адчуўшы ў сэрцы радасць,
Што зноў сонца, свет той самы,

Борзда выбегчы на грады
Ды гукнуць:
— Я ўстала, мама...

Але глянула навокал,
І прачнуўся боль нанова:
Незнаёмая высока
Па-над ёй шуміць дуброва.

Як націнка, як расінка,
Адзінока тут дзяўчынка.
Паміж дрэў яна ступае,
Слёзы горкія глытае.

Што рабіць ёй? Сэрцу млосна...
Ні бацькоў, ні роднай хаты...
Так ідзе... Ды паміж соснаў
Голас нечы:
— Стой! Чыя ты?

І адкрыўся перад ёю
Дол счарнелы — поле бою.

Як шкілеты, на прылессі
Тры фашысцкія машыны.
Горкі пах наўсцяж разнеслі
Дагараючыя шыны.

Хтосьці ласкавай рукою
Прыпініў яе:
— Куды ты?
Не палохайся, малое,
Твае ворагі пабіты...

Над дзяўчынкай —
абаронцы
У салдацкіх гімнасцёрках,
І гарацць, гарацць пад сонцам
На пілотках іхніх зоркі.

*

Моўчкі слухалі салдаты
Сказ малой пад пошум дрэваў.
І гукала іх адплата,
Закіпалі сэрцы гневам.

Многа дзён яны з баямі
Ўсё ішлі на ўсход Радзімы,
Ім вайна па-над палямі
Засцілала сонца дымам.

На руках няслі героі
Праз баі свайго маёра,
Чыё сэрца маладое
Многа выведала гора.

Над далёкім сінім Бугам
На задымленых руінах
Страціў ён і жонку-друга
І свайго малога сына.

Не, не куля, што засела
У назе,
Яго турбуе,
Мужны ён салдат і смелы,
Раны ён сваёй не чуе.

А баліць душа па сыну,
Што пад бомбай злёг навекі,
Не пабачыўшы краіну —
Яе нівы, сцежкі, рэкі.

І ляжыць маёр пад дубам,
Моўчкі слухае Алёнку.
Дарагі яму і любы
Гэты шчыры голас звонкі.

— Што ж, дзяўчынка,
— ён ёй кажа,—
Не бядуй ты, не журыся,
Усё зробіць сям'я наша,
Каб бацькі твае знайшліся.

*

У маёра на планшэце
Карта з рознымі значкамі.
Ўся зямля тут на прыкмеце,
І з лясамі і з палямі.

Доўга з думай нетаропкай
Камандзір сядзеў над картай
І сказаў:
— Вось тут і кропка...
Тут, сябры, спыніцца варта...

Ёсць тут дзесьці партызаны.
Знойдзем іх. Загоім раны.
А тады...—
Маёр прыўзняты
Гнеўны рух зрабіў рукою.—
А тады, фашыст праклятты,
Мы разлічымся з табою!

Схову ў лесе для маёра
Падабралі неўзаметку
Змагары-байцы і скора
Падаліся на разведку.

Між галля ледзь відна хатка —
Камандзірава палатка.
Ходзіць варта без спачынку,
І з той вартаю дзяўчынка
Кожны дзень байцоў чакае,
Камандзіра даглядае.

Часам ён на ногі ўстане,
Пахіснецца, як былінка.
— Асцярожна, дзядзя Ваня! —
Ля яго заўжды дзяўчынка.

Хоць яе рука малая —
Ненадзейная апора,
Ды як сілы прыбаўляе
Для яго яна, маёра!

Так здружыўся ён з малою,
Быццам з роднаю дачкою!

Не, маёру не забыцца,
Як яна за ім хадзіла,
Як яго вадой з крыніцы
Чыстай, сонечнай паіла.

Каб хутчэй устаў ён,
раны
Абмывала, даглядала
І суніцамі з паляны
Кожны ранак частавала.

І маёр штораз прыгорне
Да грудзей сваіх малую:
— Не журыся,
сум твой горны
Я душой таксама чую.

Ведай: час не за гарамі —
Ты сустрэнешся з бацькамі.
А ўзмацнее навакола
Наша армія лясная,
Прыйдзе час —
адкрыем школу
Мы для вас, мая малая.

*

І Алёнка зноў чакала,
Ды ўжо меней сумавала.

Дзень настаў.
Якаясь сіла
Падняла яе да сонца.
Ці яна сябе прысніла
Ў роднай хаце ля аконца?

Ці што з ёю адбылося?
Што ж так сэрцайка зайшлося?
Блізка дзесь такі знаёмы
Яна раптам голас чуе:
— Вам, як бацьку дарагому,
Дзякуй за дачку малую!

Аглянулася — пазнала,
А як быць далей — не знае.
А яму ўжо шчасця мала,
Ён у вочы заглядае,

Ён бліжэй да сэрца туліць,
Ён цяпер такі багаты!
А яна адно: «Татуля...
Мой ты любы, мой ты тата...»

І былі байцы за сведкаў
У шчаслівай гэтай хвілі.
Недарма яны ў разведку
У дрымучы лес хадзілі.

Будуць сілаю з'яднанай
І байцы і партызаны,
Будуць ведаць ласку дзеці,
Шчаслівейшыя на свеце!

У маёра серабрацца
У вачах як бы расіны...
— Што ж, сябры, пара збірацца,
Не кароткія сцяжыны...

Да азёрнае стаянкі
Ўсім Алесь дае напрамак.
— Наша мама партызанка?
Тата! Нас сустрэне мама?

— Так, дачушка, як жа йначай!
Маці там, цябе чакае.
Як сустрэне, як пабачыць,
Будзе радасць ёй якая!

*

Дзе ляшчэўнікам, дзе борам,
Так, каб лепш было маёру,
Напраткі ішлі салдаты
Да лясной знаёмай хаты.

А пад вечар — што з ёй стала? —
Аж уся затрапятала,

Засмяялася Алёнка,
Загукала звонка-звонка:

— Татка! Татка!
Наша хатка!
І наўсцяж на звонкі голас
Адгукнуўся лес наўкола.

Маці тут ужо
малую
Абдымае і цалуе
І маёру, так як брату,
Зычыць радасці багата...

Прыняла сюды дуброва
Ўсіх Алёнчыных сябровак.

Тут і хлопцы-аднагодкі
Ў старых бацькаўскіх пілотках,
З ласкаю
глядзяць у вочы,
Пастаяць з ёй кожны хоча.

Партызанак, партызанаў —
Аж запруджана паляна.

Ля маёра гуртам людзі,
Галасы гучаць так шчыра:
— Папраўляйся, ўсім нам будзеш
Баявым ты камандзірам!

*

Дні прайшлі. Атрад магутны
Стаў далёка славай чутны.
Вёска кожная і горад
Імя ведалі маёра.

І разведка леснікова
Працавала адмыслова,

Бойкі з ворагам шукала,
Вынішчала катаў лютых.

І люднеў усё памалу
Баявы лясны закутак.

Скора ўстала над зямлёю
Восень з хусткай залатою.

Па-над возерам туманы
Слалі белыя кудзелі,
Раніцою над палянай
Жураўлі кудысь ляцелі.

І дзівілася Алёнка:
Як магчыма, каб заўсёды
Так свяцілася старонка
Прыгажосцю і выгодай?

І не скажаш,
                    што цудоўней:
Ці вясна, калі шырока
Сож ліецца, сілы поўны,
Калі зелень цешыць вока;

А ці лета, калі кветкі
Заліваюць луг без краю,
Калі жыта па палетках
Колас важкі налівае;

Ці вось гэты час асенні
З задуменным нейкім спевам,
Калі ў вогненным адзенні
Казкі-думы шэпчуць дрэвы?

*

Так прырода явай мілай
Яе сэрцайка дзівіла.

Слаўся, родная старонка,
Край наш родны самацветны!

Але быў яшчэ ў Алёнкі
Свой лятунак запаветны.

Пасярод лясной дзялянкі
Бёрнаў свежых для зямлянкі

Летам майстры навалілі,
Зруб паставілі, накрылі,

Замасцілі, даглядзелі,
І казаць хоць не хацелі,
Што там будзе, а наўкола
Кожны ведаў: гэта — школа!

Школа! Вось чаго чакала
Наша дзеўчынка з сябрамі.
Пра яе сама складала
Нават казкі вечарамі.

А калі зацвіў нанова
Сіні-сіні ў лесе верас,
Не маглі стрымацца словы:
— Школа! адчыні ж ты дзверы!

Адчыні, прымі!..
Вось гэтак
Праз усё чакала лета,
Аж пакуль у міг шчаслівы
Не прачнулася ад дзіва.

Зазвінеў у лесе звонка
Раніцой званок вясёлы.
І ўсхапілася Алёнка:
Гэта ж школа, кліча школа!

*

Выгляд незамыславаты
Меў той клас лясны:
дзве дошкі,
На стале — абрус з цыраты,
Замест лямпаў —
з салам плошкі;

Але відна: партызаны
Шчыра ўсё зрабіць жадалі.
Быў тут глобус маляваны,
Кнігі з шафы выглядалі.

Нават добрым шклом сапраўдным
Два акны былі зашклёны.
Словам, зроблена ўсё спраўна,
Па-майстэрску, улюбёна.

З простых дошчак збіты парты,
Але выраблены дбала.
На сцяне — Радзімы карта
Да сябе дзяцей гукала.

А заўжды каб дзеці чулі
Голас любае Айчыны,
Каб Масква — усім матуля —
Была з імі штохвіліны,

Кожны вечар уключалі
Тут і радыё радысты,
І даходзіў з дальняй далі
Да зямлянкі гімн вячысты.

*

Так жыла цяпер дуброва.
І адно бацькоў займала:
Для дзяцей у школе новай
Кніг і сшыткаў не хапала.

Гэта знаў маёр, і прама
Даў Маскве ён тэлеграму.
І адказ прыйшоў.
Аднойчы
Распалілі партызаны

У маўклівай цемры ночы
Два кастры.
Пад самы ранак
Калыхнуўся дзесь ля зораў
Гул прыглушаных матораў,

Закружыў, з Масквы прысланы,
Самалёт шыракакрылы
І бліснуў па-над палянай
Зоркай яснай, сэрцу мілай.

Самалёт вялі героі,
Не стрымалі іх зеніткі,
А прывезлі яны зброю,
А са зброяй —
                    кнігі,
                        сшыткі.

І калі назаўтра ўранку
Дзеці зноў прыйшлі ў зямлянку,
І калі за кніжкі селі,—
Як усе яны хацелі,
Кожны хлопчык і дзяўчынка —
Кожным позіркам і ўчынкам,
Кожнай справай, хоць нязначнай,
Паказаць хацелі ўдзячнасць
Дарагой сваёй Радзіме,
Што заўсёды ўсюды з імі!

Край жыцця, зямля Саветаў,
Край адвагі, сэрцаў шчырых!
Колькі ён, наш край, для свету
Сіл аддаў,
                каб жыць у міры.

Сёння многа, многа мае
Ён турбот: вайна на свеце...
Але ўсё ж не забывае,
Што вучыцца хочуць дзеці.

І для ўсіх ён дар знаходзіць,
Ласкай сэрцы саграває —
І таму, хто ў бой выходзіць,
І хто толькі падрастае.

Дык скажы, Алёнка, слова,
Дарагое абяцанне.
— Будзь гатоў!
— Заўжды гатова
Да вучобы, да змагання!

*

Быў для вучняў лес і хатай
І палацам светлазорым.
І хоць тут між дрэў кашлатых
На зары не пелі горны,

Замест горнаў кананада
Рэхам слалася ў далінах,
Ды жыла, жыла на радасць
Піянерская дружына.

Крочыць выпала заўчасна
Дружбакам па сцежках боек,
Каля мірнай парты класнай
Давялося чысціць зброю,

На світанках іх будзілі
Кулямёты і гранаты,
Вандраваць яны хадзілі
Па шляхах бацькоў-салдатаў.

Ды ўсё так жа урачыста,
Ганарова, прамяніста

Гальштук ззяў і сэрцы клікаў
Да адданасці вялікай.

І жылі ўсе думкі тыя,
У якіх — у шчасце вера,
І кастры, кастры лясныя
Сагравалі піянераў.

Лес шуміць. Агонь палае.
Жмурыць вочы адвячорак.
І Алёнка запявае
Песню шчырую пра зоры.

Песню шчырую пра зоры,
Што не гаснуць, не стухаюць,
Што для ўсіх, для ўсіх простораў
Над Крамлём любімым ззяюць.

Падымаюць песню вучні
Школьнай дружнаю сям'ёю:
— Мы з Масквою неразлучны,
Назаўсёды мы з Масквою!

І ўстае ў дзіцячых марах
Неаглядная Радзіма.

Можа быць, тайгі абшары
Перад іхнімі вачыма?

Можа, хвалі акіяна
Ў летуценных іхніх думах?
Можа, сэрцы ўсхваляваны
Новым лёсам Каракумаў?

Павядзе сама Айчына
Іх па ўсіх сваіх дарогах,
Толькі сціхне страляніна,
Толькі прыйдзе перамога.

*

І за тое, каб збыліся
Іх, дзяцей, лятункі-мары,
Каб над краем падняліся
Мірных досвіткаў стажары,
Мужна ў бойках і аддана
Ваявалі партызаны.

Многа вылегла чужынцаў
На дарогах і гасцінцах,
Дагарэла на адхонах
Перакрушчаных вагонаў.

І цяпер да бойкі новай
Рыхтавалася дуброва.

Пры мястэчку па-над Сожам
У фашысцкім гарнізоне
За калючай агароджай
Люд таміўся у палоне.

Там і скарб нарабаваны
У складах трымалі фрыцы —
Хлеб калгасны адабраны,
Наша жыта і пшаніца.

І ляснік не раз з сябрамі
У той бок хадзіў начамі,
Каб даведацца, дазнацца,
Як лягчэй туды прабрацца.

І ляглі значкі на карту
У маёра пад рукою.

Будзе бой цяжкі і ўпарты,
Але час адбыцца бою.

Час! — прыняў маёр рашэнне,
Час павесці наступленне.

Ціха роты баявыя
Выйшлі ў шлях пад сховай ночы.
Толькі ходзяць вартавыя,
За спакоем лесу сочаць.

Лес чакаў. Ніхто ў зямлянках
Спаць не клаўся — як жа можна!
Партызанская дзялянка
Нeяк дыхала трывожна.

І прыйшла хвіліна. З гулам
Агнявымі языкамі
Бойка ў далях шуганула
Над барамі, над палямі.

Разліваўся над старонкай
Выбух полымя стракаты.
— Татка! — клікала Алёнка
І ізноў гукала:— Та-та!

— Та-та-та! — гарачым лётам
Ёй адказ кідала далеч.
— Та-та! — пелі кулямёты,
І агні не патухалі.

*

А на ранку, ледзь самкнула
Вочы стомлена дзяўчынка,
Хтось устаў над ёй — пачула —
З ціхім шэптам: «Сірацінка...»

І не трэба больш нічога!
Толькі матак, іх, адзіных,
Што з калыскі да парога,
Ад парога на сцяжыны,

Са сцяжын на шлях у свеце
Нас выводзяць, іх, любімых,
Пазнаюць заўсёды дзеці
Нават сплючымі вачыма.

Вечна родны тыя губы,
Што нас змалку цалавалі,
Той шчаслівы позірк любы,
Дзе нам промні сонца ззялі.

— Мамка! Мамачка! Ты ўстала?
Татка прыйдзе — радасць будзе!
Маці
Стомлена маўчала,
Як і ўсе навокал людзі.

— Татка... вось ён, прад табою...
Спіць... заснуў у часе бою...
І глядзіць Алёнка: поўна
Каля іх людзей у горы.
І дрыжаць, дрыжаць няроўна
Губы белыя ў маёра...

*

Каля возера ў даліне
Лесніка ў зямлю паклалі.
Хай шумяць над ім яліны!
Хай лагодна плешчуць хвалі!

Не парушаць супакою
А ні буры, навальніцы.
— Спі спакойна, наш саколе,
Няхай лёгка табе спіцца.

Не забудуць тваё імя
Ні сябры твае, з якімі
Ты ў баі хадзіў, ні тыя,
Каму даў ты вызваленне.
Ззяюць сцягі агнявыя,
Спраўдзім мы твае імкненні!

Накапалі дол высокі —
Помніце свайго героя!
Дзе ні ступяць твае крокі —
Помніце свайго героя!

Скончыцца вайны дарога —
Помніце свайго героя!
Будзеш славіць перамогу —
Помніце свайго героя!

Хату новую збудуеш —
Помніце свайго героя!
Песню новую пачуеш! —
Помніце свайго героя!

## ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

Адгулі вайны грымоты,
Заraслі вайны сцяжыны.
Абышла ўвесь свет узлётам
Слава нашае Айчыны.

Замест той зямлянкі-школы,
Што ў баях дзяцей вучыла,
Стрэў Алёнку клас вясёлы,
Аб якім калісьці сніла.

Зноў бягуць маторкі Сожам,
Зноў глядзяць з-за частаклета
Вокны хаты іх прыгожай,
Збудаванай сельсаветам.

Не пазнаеш вёскі сёння,
Што ўзрасла па-над ракою:
Па-над ёй сады гамоняць,
Спеў не ціхне па-над ёю.

Як жа хораша з сябрамі
Песні пець Алёнцы шчаснай
Пра зямлю сваю — з барамі,
З лугам, з полем, небам ясным!..

А калі туга атуліць,
Тады з роднаю матуляй
Праз сцяну густога жыта
Шлях вядзе яе ў дуброву,
Дзе стаіць, святлом заліты,
Слуп над долам пурпуровы.

І дзяўчынка ўспамінае
Дні, калі была малая.

Паўстае тады прад ёю
Дзядзя Ваня ва ўспамінах,
Што цяпер з палком герояў
Беражэ спакой краіны,

І ўсе дні, і ўсе хвіліны,
Калі татку песні пела...
І пакоцяцца слязіны
На ражок хусцінкі белай.

Але ззяюць над гарою
Словы: помніце героя!

І гучыць ёй у тых словах
Баявы наказ суровы:

Будзь Радзіме так аддана,
Мужнай будзь, як і яны,
Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!

*1951*

## БАБІНА ЛЕТА

На сцежцы, між дацвіўшых кветак,
Твой след відаць яшчэ дагэтуль.

Яго і ліўні не размылі,
І вецер не зацёр суровы,
А сёння ціха закружылі
Над ім агні лістоў кляновых.

Ляцяць лісты з трывожным звонам.
Па ўсіх прыкметах — гэта восень...
А мне ўсё бачыцца зялёны
Лес, закаханы ў неба просінь.

Твой след відаць — і хіба ўтоіць
Зямля вясну ад успамінаў?..
Над задуменнаю ракою
Плыве, іскрыцца павуціна.

І толькі раптам дакранецца
Яна да рук, як зноў адчую,
Што сэрца, хоць трывожней б'ецца,—
Ўсё беражэ цябе такую,

Якою бегла тут па росах
Басанаж, з песняй, на спатканне...
З тых дзён
цвітуць мне ўсе нябёсы
Агнямі шчырага кахання...

*1950*

## ВУЛІЦА ЗЯЛЁНАЯ

Калі мы з далёкай
Баявой дарогі
Прыняслі ў свой горад
Сонца перамогі,
Ты была ўся ў ранах,

Цяжка засмучоная,
Ворагам стаптаная,
Вуліца Зялёная.

Зараз і не ўспомніш,
Сумна як было нам...
Чорныя руіны,
Спаленыя клёны...
Але ўсё ж,—
навекі
З славай заручоная,—
Ты была жывая,
Вуліца Зялёная!..

*

З лютасцю да войнаў —
Яснай той вясною
Прысягалі шчыра
Мы перад табою:
Прысягалі шчыра —
Працаю штодзённаю
Зноў цябе ўпрыгожыць,
Вуліца Зялёная.

Ужо ліпы ў пушчах
Для цябе ўставалі,
Кузні рыштаванні
Для цябе кавалі,
І ўзлятала песня
З веснавымі звонамі
Пра цябе, юнацкая,
Вуліца Зялёная.

*

Год мінуў за годам
У хадзе няспыннай.
Дзе вы, ці былі вы
Тут, вайны руіны?
Як ты асвяцілася
Нашай працай плённаю,
Мірная, прыгожая
Вуліца Зялёная!

Над асфальтам роўным
Зноў стаяць палацы,
Льецца май у вокны
Квеценню акацый,
І шуміш ты ліпамі,
Бэзамі і клёнамі
Пра гады шчаслівыя,
Вуліца Зялёная!

*1951*

## ГАЛУБЫ

Яшчэ не быў гатоў наш дом,
Не віўся дым з трубы,
А ўжо над ім пагожым днём
Кружылі галубы.

Нядарма тут, дзе гул работ,
Дзе высяцца капры,
Спынілі вольны свой палёт
Крылатыя сябры.

Яны па шчырасці заўжды
Сабе знаходзяць кут.
Такі — дзе б доўгія гады
Вітаў іх з ласкай люд.

І, значыць, ведаюць яны,
Што з намі век ім жыць,
Што ад вясны і да вясны
У доме — шчасцю быць.

І мы сказалі: трэба нам
Хутчэй страху ўздымаць,
Каб было добра галубам
Пад ёю гнездаваць.

*1951*

## МАЯКІ

Зірне капітан з-пад правай,
Зірне з-пад левай рукі:
На сотні вёрст навакола —
Усё маякі, маякі.

Ці то маякі, ці то сонцы
Над роднаю Волгай-ракой?
Не бачылася капітану
Яна ніколі такой.

Шырокія светлыя хвалі
Рачны нясе акіян.
З любоўю на шлях агністы
Глядзіць юнак-капітан.

І бачыць ён, як свой воблік
Мяняе Радзімы зямля,
Каб яснай была між мораў
Дарога яго карабля.

І радасна капітану,
Такое ў душы пачуццё,
Што — чуе юнак — яго хопіць
Яшчэ на другое жыццё.

Якія б ні стрэліся штормы,—
Нішто яго сэрцу не ў знак,
Бо між маякоў над зямлёю
Ёсць самы шчаслівы маяк.

Маяк, што відаць ва ўсіх далях,
Што нам запалаў на вякі,
Каб падымалі народы
На новых шляхах маякі.

*1951*

## ТРАМВАЙ

Дзень і ноч — ад куткоў, дзе шуміць Камароўка,
Да шашы, што кіруе ў занёманскі край,—
Проста ў спеў, проста ў гул на рабочых пляцоўках
Возіць мінскіх людзей трамвай.

Я заўсёды ў дарозе душой маладзею,
І хоць часам вагон і лаўлю на хаду,
А ў трамваі з пашанаю трыццаць капеек
На білет, на дарожны свой пашпарт кладу.

— Вам куды? — Іншым разам кандуктар пытае.
А хіба тут адкажаш напэўна, куды?
— Завязіце туды, дзе жыццё не сціхае,
Дзе завод карпусы да нябёс падымае,
Дзе цвітуць сады,
Дзе бягуць правады...

— Значыць, вам трэба ўвесь неаглядны наш горад...
— Так, увесь мне патрэбен мой горад-дружбак!
Не магу не пабачыць Сляпянскага бору
І свой парк абмінуць не магу аніяк.

Мне пабачыцца трэба з сябрамі, што сёння
Для выдатнай машыны збіраюць матор,
А затым — пабываць на сваім стадыёне,
Дзе з «Дынама» іграе данецкі «Шахцёр».

Горад — мой!
І хіба я магу быць нячулым
Да дыхання яго, да натхнення яго?
Можа быць, непаўторным, цяжкім яго гулам
І жывуць толькі роздумы сэрца майго.

І за тое я мінскаму ўдзячны трамваю,
Што заўжды без затрымкі вязе ён мяне
У напрамку любым, дзе жыццё нараджае
Тыя гукі, што ўвойдуць у спеў аб вясне.

І заўсёды таму і душа маладзее,
І мацней адчуваю я шчырасць сваю,
Што ўсе мары мае і лятункі-надзеі
Асвятляюцца явай ў родным краю!

*1951*

## ЯК У НАС
## НА ТРАКТАРНЫМ ЗАВОДЗЕ

Карагодам звонка песня ходзіць,
Заглядае ў цэхі, будзіць хаты:
— Як у нас на трактарным заводзе
Самыя прыгожыя дзяўчаты!

— А чаму? А хто сказаў пра гэта?
— А таму,—
усім гаворыць песня,—
Што душа дзявочая сагрэта
Шчырай думкай, яснай марай весняй.

Марай той, што вырасла ў народзе —
Каб палі красой былі багаты.
Вось чаму на трактарным заводзе
Самыя прыгожыя дзяўчаты!..

Карагодам звонка песня ходзіць,
Скверы адгукаюцца, сады ёй:
— Як у нас на трактарным заводзе
Усе ў славе хлопцы маладыя.

Трактар зробяць — жыта шчасна родзіць,
Слова скажуць — іскры йдуць жывыя.
Вось чаму на трактарным заводзе
Усе ў славе хлопцы маладыя!..

Карагодам звонка песня ходзіць,
Бубнам б'е, звініць ля новых весніц:
— Як у нас на трактарным заводзе
Самыя найрадасныя песні!

А таму ў нас добрых песень многа,
Што ў нас кожны дзень багаццем поўны:
Што ні дзень — у працы перамога,
Слаўнага юнацтва ўзлёт цудоўны,

Што ні дзень — сустрэчы, наваселлі,
Што ні дзень — сяброўства гадавіны,
Добрыя, багатыя вяселлі,
Светлыя, шчаслівыя радзіны!

*1951*

## ВАСІЛЬКІ

Калі мы толькі ў жыццё ўступалі,
Былі яшчэ юнакі,—
Дзяўчаты кашулі нам вышывалі
У сінія васількі.

І зараз успомню: як высыпле вёска
У поле пад звон сярпоў,
Дык аж цямнелі
шнурыны-палоскі,
Сінія ад васількоў.

Вось і дажынкі. Якім небагатым,
Лета, ты едзеш у двор.
І тужылі
і не глядзелі дзяўчаты
На свой вышыванняў узор...

Тыя ўзоры юнацтва даўно пабялелі,
Не сумуйце па іх, сябры.
Мы сінія камбінезоны адзелі
І селі на трактары.

Пракацілася рэха іх сугалосся
Па палявой шырыні.
Не васількамі, а буйным калоссем,
Лета, нам сэрцы крані.

Новыя дай вышыванняў узоры
Для працавітых дзяўчат.
Вось яно, наша хлебнае мора,
Коціцца за далягляд!

І ў гэтым багатым разліве шумным
Спалоханы зірк васількоў
Здаецца нейкім прывідам сумным
З нейкіх далёкіх вякоў.

*1951*

## ХЛЕБ

Лета цэлае ніва спела,
Красаваліся потым дажынкі ў вянку.
А затым з зярнятаў
Белую-белую
Зрабіў млынар муку.

Слава рупным рукам чалавека!
Пайшла мука на вялікі завод.
І замясіў
І паставіў цеста пекар
На шырокі гарачы под.

І вось — толькі золак, толькі разднела,
Павезлі фургоны, панеслі латкі —
Усім, усім — падарункі з белай,
Белай-белай
Пшанічнай мукі.

Дзень добры! —
Свет аж іскрыўся навокал.
Дужы падрос, кволы акрэп.
А сэрцу стала шырока-шырока.
Гэта — хлеб!

Хлеб!..
Няма яму роўнай яды аніякай,
Яму параўнанняў
Не падбярэш.
Бяры сабе бохан
І з шчырай падзякай
Да ўсіх, хто рабіў яго,—
Рэж і еш.

І хай табе чуюцца песні поля,
Хай сэрца імкнецца ў далеч дарог,
Хай сілы растуць,
                каб вораг ніколі
Нам
    нівы расціць
                перашкодзіць не змог!

*1951*

## БАЛАДА ПРА ТЭЛЕФОН

У поўнач,
калі ўвесь горад заціх
І вочы
хіліла на сон,
Нечакана,
гулка ўварваўшыся ў слых,
Зазваніў мой тэлефон.
— Алё! — крычала трубка.— Алё!
На Сажы
сышоў ужо лёд.
Заўтра
да нашых грабскіх палёў
Першы ідзе параход!..
Я не пытаўся, хто звоніць.
Сам
Ведаў усё да драбніц.
Напэўна, патрэбны я сёння палям,
Дзе працай вясна звініць.
Інакш — не сталі б званіць,
Не сталі б званіць.

*

Я не здзівіў трактарыстаў-сяброў,
Што гэтак хутка прыбыў.
З юнацтва
палі і гул трактароў
Я шчырым сэрцам любіў.
І ўжо калі выпаў лёс мне такі,
Што жыць без турбот не магу,
Дарэшты вам аддаю, дружбакі,
Усё, што, як скарб, берагу.
Бярыце і сэрца, і думкі мае!
Няхай зарунее прасцяг,
Няхай ярына хутчэй устае
На родных ясных палях.
Каб выйшла ў колас
пшаніца, як звон,
Каб бульба сопкай была,
Каб сінім поясам
родны загон
Ільноў шырыня апляла!

*

Была вясна,
а дні прайшлі
І не заўважылі — як.
Пад трактарам на вільготнай зямлі
Нас не чапаў скразняк.
Я бачыў,
як жаўранак
спіць на назе,
Баючыся зару праспаць.
І мы, трактарысты, з ім па чарзе
Да сонца ўмелі ўставаць.
Парэпаных рук мне сваіх не пазнаць,
Але затое, сябры,
Якая радасць —
жыць, працаваць,
Сэрца песням дарыць.
Не ціхнуў
працы прызыўны звон.
І па-інакшаму тут
Няспынна
званіў, грымеў тэлефон,
Кожны збуджаючы кут.

*

Я з Мінскам не бачыўся
столькі ўжо дзён!
Напэўна,
вуліцы ўсе
За гэты час
заліты ў бетон
І плошчы ў новай красе;
Цудоўныя выйшлі кнігі ў свет,
Даў новы спектакль тэатр,
Паэму стварыў
мой любімы паэт,
Пасаджан
над Свіслаччу сад.
Я еду ў Мінск. А ён, сябры,
Заўсёды ў імклівым жыцці,
Расстанься на дзень з ім —
спатрэбіцца тры,

Каб з новым
сувязь знайсці.
Нямала, я ведаю, часу аддам,
Каб горад нанова пазнаць.
І ўсё ж я кажу трактарыстам-сябрам:
— Не трэба, не трэба чакаць!
Званіце мне, хлопцы,
заўжды і заўжды,
Любы тэлефонны званок
Прыму як загад
з'явіцца туды,
Дзе чуецца радасці крок.
Заўсёды гатовы дарожны багаж
Вазьму — ён не змуліць плячэй:
Любімую кнігу, блакнот, каранданш —
І ў шлях, на заклік хутчэй.
Хачу, каб мне
званілі заўжды
З усёй Радзімы маёй,
Каб нават карэйскія гарады
Гутарылі са мной,
Каб брацкай парады прасілі ў мяне
Іспанскія змагары
І вязень-баец
у тузе па вясне
Гукаў мяне з Анкары.
Шчаслівы буду да ўсіх прыйсці
З падтрымкай у поступу дзён.
Не моўкні,
заўсёды быць у жыцці
Гукай мяне,
тэлефон!

*1951*

## ЛІСТ АД ДЗЯЎЧЫНЫ

Столькі было пацалункаў у ім,
Столькі жыло бяссонных начэй,
Столькі лятункаў, з іх веснавым
Бляскам добрых дзявочых вачэй,

Што аж спалохаўся хлопец на міг:
Дзе яму столькі багацця надзець?
Гэта ж толькі на песнях адных
Можна да самага сонца ляцець!

Доўга-доўга чытаў ён яго,
Ліст — у дыханні кветак і траў.
І паступова ля сэрца свайго
Скарб непаўторны дзявочы хаваў.

Ясныя мары, шчырыя сны,
Ласку праменнай усмешкі, з якой
Дзеўчына на пуцявінах вясны
З думкай аб ім свой шукала спакой.

І калыхаецца з водарам рос
Лёгкі паперы лісток у руках,
А прыгажосць, што з сабой ён прынёс,
Б'ецца, смяецца ў хлопца ў грудзях.

*1951*

* * *

Слаўся ты, маё юнацтва,
З песнямі ў шчаслівай хвілі,
З лепшай радасцю і смуткам,
Што сябры са мной дзялілі.

Слаўся ты, мая дарога,
Дзе ў жыцці сустрэцца можна
І з натхненнем непачатым,
І з руплівасцю трывожнай.

І за ўсё, што сэрцам зведаў,
І за ўсё, што яшчэ ўбачу,—
Слаўся ты, мой непаўторны
Шлях шуканняў, шлях юначы!

*1951*

## ДАРОГА

Дзе кветкамі сцелецца дол,
Дзе сонца не гасне ў аблогах,
Пралегла між ніў, паміж сёл
Мая палявая дарога.

Маленства павее тугой,
Дарожнай бядою прысніцца,
На каляі пад нагой
Запахне смалой-каланіцай.

Яшчэ і цяпер з тых часоў,
Калі тут скрыпелі калёсы,
Убачыш часамі, як сон,
Пяньковы вiток ад атосы.

Але каб сыплі нават сны
Далёкай пары азалелай,—
Упарта, з вясны да вясны,
Дарога мая маладзела.

Спяшаючы ў шчасця гады,
Над былямі новага часу
Пабеглі над ёй правады
З калгаса і да калгаса.

Пабеглі з вясёлым святлом,
З гарачым агнём электрычным,
Каб кінуць старое на злом,
Каб стала шчаслівае звычным.

І ты пра наш будучы свет,
Дружбак, не пытайся ні ў кога,—
Захочаш — раскажа як след
Усё табе наша дарога.

*1951*

## САЛДАЦКІ ДОМ

Як імкліва ўбіраецца ў кветкі
Зямля пад зялёным вясновым плашчом!..
А над кветкамі ўстаў неўзаметкі
Салдацкі дом.
Дым кастра.
Кацялок.
Ды спакой. Ды ўвесь свет прад вачыма.
Пражыве тут салдат,
Можа, толькі дзянёк,
Можа, год,—
Як скажа Радзіма.
Ёсць адна у салдата
Дума, адна і навек —
Аб жыцці,
Аб хваінах кашлатых,
Аб чыстых струменях рэк,
Аб бязмежных палях,
Дзе радасна крочыць за плугам,
Аб шчырых вачах
І вернасці друга.
Аб зялёнай вясне
Ды ясных дарогах,
Дзе месца няма вайне,
Дзе ненавісна яе трывога.
Марыць воін, каб мірнае сонца
Ззяла свету ўсяму.
Ён — жыцця абаронца,
І — люба яму.
І таму вось, дзе ўбралася ў кветкі
Зямля пад зялёным плашчом,
Паставіў ён неўзаметкі
Палатку-дом.
Дым кастра.
Кацялок.
Цішыня і спакой прад вачыма.
Але пільныя слух і зрок
Салдату дала Радзіма.
Прагне свет у спакоі жыць,
Край савецкі аб міры дбае.
І салдат — заўсёды на рубяжы,
За ўсіх і для ўсіх — на пярэднім краі!

*1951*

* * *

Нам хочацца быць ля высокіх зораў,
Каб з імі разам цвісці,
Нам хочацца тых бязмежных прастораў,
Дзе можна бясконца ісці,

Нам хочацца шчырай гарачай працы,
Што свету дае прыгажосць,
І так стамляцца, і так смяяцца,
Як здольна адна маладосць.

І колькі ж трэба слоў непаўторных,
Каб зазвінелі ў іх
І наша любоў, і палёт наш зорны,
І мары — адны ва ўсіх.

Мы іх адшукаем. Усё нам магчыма.
І — як адзін чалавек —
Мы скажам табе, дарагая Радзіма:
Ты
    нам — наша шчасце навек!

*1951*

## ЛЮБОЎ І НЯНАВІСЦЬ МАЯ

Я люблю
            І скажу ўсяму свету пра гэта,
Бо хаваць ад людзей
            Сваю праўду не звык,—
Я люблю
            Палявое гарачае лета,
Гоман лесу
            І птушак узбуджаны крык.

Я люблю
        Дым кастроў на начлежных прывалах
І да самае раніцы
            Гоман і смех.

Каб мне неба
Шлях Млечны ўвысі рассцілала
І ўставала мне сонца
Уцехай з уцех.

Я люблю
Цэлы дзень за рулём быць, за плугам,
Паштальёнам ісці
Ад сяла да сяла:
Вось, чытайце —
Хто ліст ад найлепшага друга,
Хто паштоўку
Ад той, што ўсё сэрца ўзяла.

Я люблю
Адвячоркам з рыбацкае тоні
Човен рыбы прывесці,
Сушыць невады,
А затым — вечарынкай
Пад звонкі гармонік
Кінуць песень вянок
Між дзяўчат маладых.

Я люблю
Ўсё, што радасць жыццю нараджае,
Што красой аздабляе
Вялікі сусвет.
Я люблю
І лятунак, што сэрцы зблІжае,
І той спеў,
Якім сёння таварыш сагрэт.

І варшаўскае вуліцы
Радасны гоман,
І ў чырвоных сцягах
Над Сафіяй блакіт.
Я люблю твае мары,
Негр з Аклахомы,
І твае таямніцы,
Далёкі санскрыт.

І таму, што жадаю
Свабоды і сонца
Ўсім народам на свеце
У розных краях,

Так, таму, што люблю
Цябе, радасць, бясконца,—
І жыве ў маім сэрцы
Нянавісць мая.

Ненавіджу! —
І ён гэта ведае, хіжы
Вораг вольных народаў,
Падпальшчык вайны.
Ненавіджу! —
Як толькі магу, ненавіджу
Гандляроў на крыві,
Фабрыкантаў маны!

І хай ведае свет:
Што я сэрцам прымаю,—
Тое ў шэрагах мужных
Грудзьмі адстаю.
Нездарма
Непахісна на варце трымаю
Разам з шчырай любоўю
Нянавісць сваю!

*1951*

## НА КРАСНАЙ ПЛОШЧЫ

Цішэй! — тут Ленін спіць.
Спыніце крокі.
Няхай нястомны геній адпачне.
Няспынна,
шляхам ясным і шырокім
Ён вёў народы к сонцу і вясне.

Цішэй! Ён спіць.
Але мы добра знаем:
Ільіч жыццё вітае і праз сон.
Ён рады, што ніколі не сціхае
Магутны гул у поступе калон.

Ён рады тым, што кожнаю хвілінай —
Ці працаваў, ці адпачыць прылёг,—

Жыццё заўсёды з ім —
усся Айчына,
Уся планета, вёрсты ўсіх дарог.

Не месца сярод нас трывожнай скрусе,
Я любы воблік сэрцам абдыму...
Мы сёння зноў прыйшлі ад Беларусі,
Каб пакланіцца, роднаму, яму.

Маскоўскі токар. Друг баец з Карэі
І польскі будаўнік.
Адной сям'ёй
Праходзім мы усе ля Маўзалея,
Гатовыя на працу і на бой.

Дзе ступіць крок наш,—
шчасце ў вочы гляне,
Спеў зазвініць вясёлы, малады.
Бо мы — жыццё. Бо мудры Ленін з намі.
На ўсе вякі —
усюды і заўжды!

*1951*

## РОДНЫ СВЕТ

Герояў подзвіг і пяшчота маці,
Гамонка нівы, белы яблынь цвет,
І роздум твой, і спеў вясельны
ў хаце
Усё — жыццё,
Усё — наш родны свет.

Наш родны свет — яму імя свабода.
Святло над намі — Леніна сцягі.
А слава наша — светлы шлях
народа,
Навечна нашым сэрцам дарагі.

І ўсё ў жыцці, у нашым родным
свеце:
Агні над Волгай, нівы і станкі,

Таежны гоман, акіянскі вецер —
Усё — тваё
На вечныя вякі.

Адно — будзь пільным, з сакаліным
зрокам.
Адно — будзь дужым, як багатыры.
Сцяг камунізма так нясі высока,
Як узнялі яго правадыры!

*1951*

## ГАЛАСЫ МОРАЎ

Балтыйскае грознае мора
Грымела залпам «Аўроры»,
Кідала на неўскія плёсы
Суровую мужнасць матросаў
І горда над хваляй салёнай
Нясе сёння вымпел чырвоны.

Шумяць чарнаморскія ветры
Пра партызанаў Ай-Петры,
Ад Керчы да Балаклавы
Звіняць севастопальскай славай,
І вораг не спіць за Басфорам
Ад гэтага голасу мора.

Упэўнена і несціхана
З вялікага акіяна
Цябе акрыляе адвагай
Песня пра подзвіг «Варага»,
Пра сэрца Лазо, пра віхуры,
Пра грукат гармат на Амуры.

Далёка шляхі разгарнулі
Твае акіяны ў прасторах,
Радзіма!
А сёння пачулі
Мы кліч твайго новага мора.

Па стэпу, што выцвіў наўкола,
Раскінуцца светлыя плыні,
І мора Цымлянскага голас
Звінець будзе ў роднай краіне.
І будзе ў ім мірная песня,
Што мы на будоўлю прынеслі.

А песня аб сонечнай мары:
Садамі ўпрыгожыць абшары,
У стэпах, дзе білі гарматы,
Пасеяць на шчасце зярняты,
Каб нівы шумелі без краю
Сваім залатым ураджаем!

*1951*

## АДРАСЫ

Ад'язджаюць хлопцы ў шлях далёкі.
Ім гучаць сяброўак галасы:
— Вы ж там не сядзіце, вы ж прышліце
Новыя свае нам адрасы.

А цягнік дае сігнал. Бывайце!
Адрасы? Адзін ён: сіні Дон.
Так вось і пішыце, калі толькі
Нашых не забудзеце імён.

— Сіні Дон... А пісьмы вас ці знойдуць?
Гэта ж не калгас, не сельсавет...
— Знойдуць, верце! Знойдуць, калі б нават
Вы паслалі іх у цэлы свет!

Будзем мы такімі між усімі,
Каб нас ведаў кожны чалавек,
Каб ваш почырк зналі — пазнавалі
Паштальёны ўсіх зямель і рэк!

*1951*

## ГЕОЛАГ

Па-над стэпам, пакуль што бязлюдным і голым,
Ціха сцелецца іскраў кастра.
Ноч прымоўкла: тут спіць пасля працы геолаг,
Разаслаўшы пальто ля кастра.

Каб ён мог адпачыць — вецер склаў свае крыллі,
Як на цыпках, стаяць кавылі.
Нават зоры стараюцца на небасхіле
Быць вышэй — не крануцца б зямлі.

І ўсю ласку прыроды, яе ўсю пяшчоту,
Мусіць, чуе геолаг праз сон.
Сніць ён стэпы ў садах, вуллі з мёдам у сотах,
Сніць з'яднаныя Волгу і Дон.

Ужо там, дзе прайшоў ён, машыны грукочуць,
Там без краю заззялі агні.
А ўсё новыя далі глядзяць яму ў вочы.
— Чалавек! Сухавей прагані!

І геолаг прывык па іх просьбе бясконцай
Быць у працы, ў паходзе заўжды.
Ён не можа інакш, ён устане да сонца,
Жыццярадасны і малады.

Яго мары — народа вялікага думы,
Яны крочаць разведчыкамі па зямлі,
Каб над Волгаю і ў пясках Каракумаў
Калыхаліся нівы і вішні цвілі.

*1951*

## СТАЛІНГРАДЦЫ

Нават як забудзем войны скора,—
Сталінграда дні не раз прысняцца...
Толькі клікні — і з усіх прастораў
Адзавуцца дружна сталінградцы.

Устаюць сябры з калгаснай хаты,
З новага заводскага пасёлка:
Тут — юнак-механік, там — араты,
Франтавік бывалы, камсамолка.

Тут — манцёры, там — шаўцы і цеслі
У рабочай форменнай апратцы...
І адна гучыць над краем песня,
Што мы ўсе і ўсюды сталінградцы.

Вуліцай зялёнай — што ні хвіля
З Мінска адплываюць эшалоны.
Сталінград! Прымай аўтамабілі,
Волатаў магутныя калоны.

Крычаў шле цэмент, шлюць з Налібокі —
Дуб і граб, а Магілёў — маторы.
Хай хутчэй над берагам высокім
Волга ўбачыць радасныя зоры.

Сэрца чуць не хоча, каб з трывогай
На палях грымела кананада.
І таму нас мірная дарога
Прывяла к будоўлям Сталінграда.

Баявы шынель ляжыць у скатцы.
Ля капроў — рабочыя палаткі.
Мы, сябры, заўсёды сталінградцы
У Радзімы нашай — сталінградкі!

*1951*

## ЧУЮ ТВАЮ ПЕСНЮ

Над зялёным морам,
Пад блакітам веснім
Аб дзявочых марах
Мне гаворыць песня.

Дзесьці ўецца ў травах
Хмель ды хмель лугамі,
Дзесьці конь буланы
Ходзіць берагамі,

Дзесь вянок духмяны
Хваля ўскалыхала...
Столькі ўсюды дзіваў!
А табе ўсё мала.

А твае лятункі
Вольныя далёка —
Ты ўжо дзесь ля Волгі,
Яснай і шырокай.

З сілай маладою,
З радасцю імклівай...
— Жыгулі мае вы,
Ой жа, Жыгулі вы!..

І я сам спяшаю
Разам быць з табою,
Можа, не ля Волгі,
Можа, ля Узбою,

Можа, не ў Кахоўцы,
Над Сажом тут, можа...
Толькі жыць заўсёды
Ясна і прыгожа!

Жыць, каб кожны край наш,
Дзе б з табой ні йшлі мы,
Расцвітаў красою
Дарагой Радзімы,

Каб заўжды і ўсюды,
Дзе б ты ні бывала,
Для мяне заранкай
Сэрца твае ззяла.

*1951*

## ЛУГІ

Ад вясны,
Калі толькі сыходзіць наводка,
Цераз лета зялёнае
З ночкай кароткай
Да пары,
Калі ўстануць над рэчкай стагі,—
Колькі дзіваў вы бачыце,
Нашы лугі!

Вам знаёмы
На руме сякер перазвоны,
Спрэчкі,
Што на прывалах вядуць плытагоны;
Аж да самай зімы
Параходаў гудкі
Не даюць вам заснуць
На ўзбярэжжах ракі.

Але сам я не ведаю лепшага часу,
Як пара рупатлівай
Калгаснай касьбы,
Калі з радасцю п'еш
Кубак хлебнага квасу
Пасля працы гарачай
Пад ценем вярбы.

Стрэўшы першую
Ў гуле касілак заранку
І да новых і новых
Вясёлых світанкаў,—
На разлогах,
Дзе густа ўзраслі мурагі,
Колькі песень вы чуеце,
Нашы лугі!

Тут і песні салдацкія
З слаўных паходаў,
І дзявочыя
З ціхай задумай заўсёды,
І такія,
Што ўсё аж звініць навакол,—
Што спявае
Юнацтва важак — Камсамол.

Хутка спорыцца ў радасці
Дружная праца,
Свішчуць косы,
А нам і не ў думках стамляцца.
Дзень міне, сціхне кліч:
— Гэй, дружбак, даганю! —
І гармонік ізноў
Запяе ля агню.

Так вось лягуць у копы
Духмяныя травы,
Сена лепшае
Дружна здамо для дзяржавы,
Апусцеюць
Да зімніх дарог берагі,
Але мы не забудзем вас,
Нашы лугі.

Будуць помніцца нам
Дзён ліпнёвых прыкметы,
Будуць сэрца будзіць
Гукі песень прапетых,
І зімой,
На сустрэчах дарожных,
Не раз
Мы згадаем касьбу,
Лета радасны час.

*1951*

## СІВЕРЫ ЗАТРУБІЛІ

Лясы яшчэ не абляцелі,
І сонца нібы яшчэ ў сіле,
А ўжо над краінай з паўночы
Сіверы затрубілі.

Затрубілі над ціхімі рэкамі,
Кінулі крык над полем,
А ў іх ваяўнічым клічы
Я не памыляўся ніколі.

Дзень-два — і на спадах узгоркаў
Завеяў чубы завіхрацца,
І, значыць, пара маім думам,
Пара у дарогу збірацца.

Пара на заінеўшых долах,
Над скаванымі грудамі,
Сустрэцца мне з новай вясною,
З цвітучымі яе садамі.

Хай кружаць снягі над полем,
А я час інакшы ўжо бачу,
Калі пад праменнем вясновым
Зямлю сваю перайначу.

Я рэкам дам новыя плёсы,
Палям — дам новыя нівы,
Лясам — маладыя пасадкі,
Пасадкам — прастор зіхатлівы.

І за гэта, заўсёды за гэта
Цябе, зіма, і люблю я,
Што па тваіх дарогах
Іду у вясну залатую.

Іду у зялёныя далі,
У звон жаўрукоў на прылессі,
У новыя ясныя мары,
І з марамі ў новыя песні.

*1951*

## НА ВАРЦЕ МІРУ

З маленства свайго закаханы
У свет неабсяжны яны,
З маленства іх шчырыя сэрцы
Прывыклі да ласкі вясны,
З маленства іх працы вучыла
Бацькоўская старана,
З маленства ім ненавісны
Крыўда, боль і вайна.

Але, можа, з самай калыскі
Ведаюць добра яны,
Што яшчэ ёсць на планеце
Падпальшчыкі чорнай вайны.
Нам чутна: зноў бразгае зброяй
Які-небудзь Гітлер ліхі,—
І вось чаму да вінтовак
Байцы прывінцілі штыхі.

Дала ім Радзіма зброю,
Каб мірны ахоўвалі дом,
Каб не парушыў міру
Драпежны ваенны гром,
Каб ведалі ўсе народы,
Што ў іх назаўсёды ёсць
Жыцця і красы абаронца —
Савецкая маладосць!

*1951*

## РАДЫЁСТАНЦЫЯ «СВАБОДНАЯ ГРЭЦЫЯ»

І калі адгрымела
Апошніх стрэлаў
Рэха над скаламі Віцы,
І на Грамасе
Ў ранах крывавых
Затуманіўся усход,—
Грэцыя —
Кожны сын і дачка яе
Адчулі, ледзь стухлі зарніцы,
Як анямелі сэрцы,
Як ацямнелі вочы,
Як ацяжэлі крыллі,
Быццам скаваў іх лёд.
Ці ты чуеш наш голас, героя́ў адвага?..
Партызанскія сцежкі адданы агню.
Кароль-фашыст
пад амерыканскім флагам

Бомбамі
Робіць
Мёртвую
Цішыню.
І дзявочыя сны — ў забароне,
і асуджаны — тупат каня.
Каралеўская цішыня...
Цішыня?
А хто гэта стогне ў даліне?
А чый гэта крык над морам —
Штоночы, штодня?
Ад Макранісаса да Салонік,
Па ўсёй краіне —
Віселыні.
Эшафоты.
Голад.
Хітосаў разня.
Цішыня?
А хто гэта ўзяў напрамак
На высокія долы,
На партызанскі шлях?
Цярністай дарогай
Ідуць юнакі на Грамас —
Ім свеціцца, свеціцца ўперадзе
з чырвані сцяг.
Ціха... Што вы ім скажаце, горы?
На ясныя ўзняцца вяршыні ці давядзецца ім?
Слухае люд.
І раптам:
— Гаворыць
Радыёстанцыя «Свабодная Грэцыя»!
— Юнакі, ўставайце ад мора да мора! —
Гаворыць
Свабодная Грэцыя.
— Не плачце, маткі, у цяжкім горы! —
Гаворыць
Свабодная Грэцыя.
— Гартуйце, вязні, дух непакоры! —
Гаворыць
Свабодная Грэцыя.
— Народ! Ты вернеш і сонца і зоры! —
Гаворыць
Свабодная Грэцыя!

*1951*

## ВАЛЬФРАМ

Дзе сонца ўсход, дзе акіян сінее,
Ёсць мірны край, маленькі край — Карэя.
Маленькі край, але багаццяў поўны,
Маленькі край, але такі чароўны...
Аж дух у Гары Трумэна займае,—
Так хоча панаваць у гэтым краі.

*

Узросшы ў уол-стрытаўскіх пакоях,
Даўно ўжо трызніць гэты кат вайною.
Даўно ліхвяр з ліслівым хцівым тварам
Прывык шукаць для новых войн ахвяры.
Стаптаўшы светлы гонар чалавека,
Ён золата рабіў з нядолі грэкаў;
З арабскай роспачы, з іранскіх слёзаў
Выкачваў нафту ён для бамбавозаў.
І вось і сёння ён, ліхвяр крывавы,
Паслаў наймітаў на шляхі няславы,
Каб свет зглушыць агнём і дынамітам,
Паслаць знішчэнне нівам і барам,—
Сягоння хіжай хеўры Уол-стрыта
Метал патрэбен з назваю вальфрам.

*

Вальфрам, вальфрам!
                    Ты робіш сталь нязломнай.
Вальфрам! Ты робіш вострым нож і штых!
І вось чаму ты, Джо, як воўк бяздомны,
У свет пайшоў ад родзічаў сваіх.
Ты бачыш кроў і карэянак слёзы,
Пажары, што пасеяў ты, салдат.
Скажы нам — што было табе пагрозай
Далёка там, ля калумбійскіх хат?

*

Але не чуе Джо. Ля чорнай ямы,
Што вырыў уол-стрытаўскі снарад,
Магчыма, каля самага вальфрама
Вось ён ляжыць, знясłаўлены салдат.

А па-над ім, увесь у жорсткіх ранах,
Ад спаленай Улсані да Пхеньяна,
Караючы, нясхільны і суровы,
Стаіць народ, мір адстаяць гатовы.
І сонца ўсходзіць, і прастор сінее,
І ўсё стаіць нясконанай Карэя.
І чуе Трумэн: грозна паміж скал
Грыміць якісь няведамы метал.

*

Грыміць метал мацней, чым навальніца,
Што аж чарнеюць сэрцы ў чужаніцаў.
Грыміць метал так, што між двух палат
У Белым доме зелянее кат.
Так, пралічыўся ён. Не думаў ён ніколі,
Што ёсць метал жыцця, метал красы і волі.
Што ёсць метал, які завецца гневам.
Метал, які жыццём у сэрцах б'ецца.
Што для сяброў звініць вясновым спевам,
А для забойцы бурай узнясецца.

*

Дзе сонца ўсход, дзе акіян сінее,
Ёсць мірны край, маленькая Карэя.
Народы з ёй любоў і гнеў з'ядналі,
Надзеі міру ў кліч магутны зліты.
І ён гучыць прысудам з мірнай далі
Падпальшчыкам вайны і іх наймітам.

*1951*

## БАРСЕЛОНА

Ужо каты крывавыя рукі
Паціралі, вяшчуючы бізнес:
Скатаванай Іспаніі
Франка
Нявольніцкі вызначыў лёс!..

Думалі: Іспанія ў путах —
Мёртвая. Толькі трызніць.
Рукі — пад ланцугамі,
Вочы — за цемрай слёз.

Плывуць інтэрвентаў лінкоры
Спакойна па хвалях салёных,
«Лятаючыя крэпасці»
Прастуюць цераз акіян.
Але —
          адкуль яна: бура?
Адкуль яна: Барселона?
Адкуль гэты грозны голас:
— No pasaran!

Трыста тысяч у шэрых блузах:
А за імі колькі — не злічыш.
Можа, мільёны сэрцаў,
Мільёны рук і вачэй...
Гэй, дрыжы, камарылья!
І ў лютасці кат ваяўнічы
Спяшаецца, пагражае:
Патронаў, патронаў хутчэй!

Ляцяць у Нью-Йорк дэпешы.
І мільёншчык, ад злосці зялёны,
У страху за бізнес —
                              свінцовы
Ў Іспанію шле аркан...
Але —
          не скарыць Барселоны,
Не расстраляць Барселоны,
Жыве душа Барселоны:
— No pasaran!
— No pasaran!

Сэрцы прагнуць святла і міру,—
У змаганні гартуюцца сэрцы.
Хоць кроў і пральецца на бруку,—
А шлях не заслоняць вясне!
Запомніце назаўсёды,
Каты і крыважэрцы:
Народы не прадаюцца.
Іх не аддаць вайне!

Нядарма пачулася свету
Дыханне магутных мільёнаў.
Гэта — толькі пачатак,
Яшчэ загрыміць акіян.
Іспанія будзе свабоднай! —
Гучыць прысуд Барселоны,
Гучыць
Рэспублікі голас:
— No pasaran!

*1951*

## ДЗЕНЬ ПАЎНАЛЕЦЦЯ

Успомніце, таварышы,
Свайго юнацтва дні.
На выбарчым участку
Святочныя агні.

Людскі ўрачысты гоман,
Цымбалаў пераззвон
І песні камсамольскія
Пра сонца ясных дзён.

*

Калгас «Зара» на ўзлессі.
І школа над Сажом.
Відаць на ўсю аколіцу
Высокі светлы дом.

Я толькі што прыехаў
Настаўнікам сюды.
З запалам нерастрачаным
І сэрцам маладым.

Якое шчасце звацца
Настаўнікам, сябры,
Памочнікам, дарадцам
Быць нашай дзетвары!

Ты, можа, з вучнем пройдзеш
Адну ўсяго зіму,
А воблік твой запомніцца
На ўсё жыццё яму.

Запомніць ён і голас твой,
І крок твой, і пагляд...
Вярнуцца ў тую школу
Заўжды я сэрцам рад.

Не толькі быў настаўнікам,—
Я й сам вучыўся там:
Вучыўся быць патрэбным
І дзецям, і бацькам,

Вучыўся шчырасць роздумаў
Іх марам аддаваць.
І з імі —
перад сонцам
На працу уставаць,

Вучыўся шчодрай рупнасці
Ў цябе, калгас «Зара»!..
І там жа паўналецця
Майго прыйшла пара.

Жыве іззяе ў памяці
Той незабыўны дзень.
Мой першы ўдзел у выбарах,
Мой першы бюлетэнь.

*

Успомніце, таварышы,
Свайго юнацтва дні.
На выбарчым участку
Святочныя агні.

Усё паўсцяж такое ж,
Як і заўсёды, тут:
І школа тая ж самая,
І той жа самы люд.

А ты,—
ляціш, здаецца,
Ў свет новай пекнаты.

Аж сам сябе не чуеш,
Як бы на крылах ты.

Я вызнаў гэта,—
                    ўсё гэта
Ад радасці, сябры.
У гэты міг за сэрца
Рукою не бяры:

Яно — як молат грукае
І гарачэй агню,
Яно — з праменняў песню
Твайму складае дню.

А песня ўжо ўзляцела —
А ў ёй душа твая —
Спявае ўся калгасная
Вялікая сям'я...

Усё, усё сяло тут...
Я бачу нават іх —
Вясёлых аднакласнікаў,
Гарэзнікаў маіх.

З бацькамі да дасвецця
Яны прыйшлі сюды
І ў песні залiваюцца
На ўсе, на ўсе лады.

Іх вочы ўжо далёка —
У сонечнай вясне.
І бачу: ім прыемна
Быць сёння ля мяне.

І бачу: ім зайздросна
Глядзець на бюлетэнь,
І бачу: яны мараць
Пра свой юнацкі дзень.

*

Прайшлі хадою мужнаю
Гады маёй вясны.
Грымеў па-над Радзімай
Суровы гром вайны.

Успомніце, таварышы:
У франтавым агні
Жылі мы светлай марай
Аб мірным ясным дні.

Не на участку выбарчым,
А куляю ў баю
Мы ўсе галасавалі
За маладосць сваю.

Але мінула бура,
І вось мы ў працы зноў.
Жадае новых подзвігаў
Радзіма для сыноў.

І ў гуле мірных будняў,
Дзе крок звініць, як медзь,
Свайго былога вучня
Мне выпала сустрэць.

*

Я стрэў яго на выбарах.
І, хоць нямала год
Прайшло пасля расстання,
А я пазнаў яго.

Я толькі ў вочы глянуў,
Убачыў іх святло,—
І ў сэрцы зноў шчаслівае
Юнацтва ажыло.

Я наглядзеў, як з радасцю
Прымаў ён бюлетэнь,
І ўбачыў паўналецця
Свайго пядаўні дзень.

Я быў яго настаўнікам,
Я вёў яго ў жыццё,
І сёння з ім жыву я
Адзіным пачуццём.



Лейтэнант К. Ц. Кірэенка.
Другі Беларускі фронт.
1943 г.



Хвіліна натхнення.
Другі Беларускі фронт.
1943 г.

Хадзем, мой юны дружа!
Пара, пара ў палёт.
Табе жадае шчасця
Увесь, увесь народ.

І я з табой, таварыш,
Вясновым гэтым днём,—
Адчую сябе зноўку
Шчаслівым юнаком!

*1951*

## КАЛЫХАНКА

Ці ўначы,
калі неба і вуліцы ў зорах,
Ці ў няўрымслівы поўдзень,
Ці гулкім світанкам —
Над галоўкаю
Сына майго
родны горад
Схіляецца
і пяе
калыханку.

Не!
Не ціхую байку
складае краіна,
А ў жывым,
неўгамонным, працоўным жыцці
Для яго,
Для малога,
Для любага сына
Робіць свет,
дзе б ён змог сваё шчасце знайсці.

Радасць першай прысягі
са слоў піянера,
Звонкі рокат машын
на рабочай дзялянцы,

Кліч фабрычных гудкоў,
гоман паркаў і сквераў
Сыну горад нясе
у сваёй калыханцы.

Ён нічога
ад сына свайго
не хавае —
Ні вясёлага смеху,
ні ласкі,
ні слёз,
Хоча ён,
каб хлапчук для бацькоўскага краю,
Як баец,
непахісным і мужным узрос.

Ён хацеў бы схаваць
хоць на хвілю якую
Ад яго
гул драпежнай вайны на планеце.
Але што,
калі кожнай крывінкаю чуе
Сэрца сына,
як плачуць карэйскія дзеці...

І таму
не спыняецца ў працы
мой горад,
Падымае з натхненнем
свой молат стальны,
У гарніле
гартуе
чырвоныя зоры,
Сталь куе,
каб прагнаць
нават прывід вайны.

Толькі сціхне на міг,
адганяючы стому,
І ўжо зноў у паходзе, у руху, у працы.
Для дзяцей сваіх любых
яму, як нікому,
Колькі трэба паставіць
цудоўных палацаў!

І ўсміхаецца сын
        і, прымаючы ласку,
Гоман горада
        ловіць у сэрца з акна.
Па-над ім
        расцвітае —
                не ў байках, не ў казках,
А ў жыцці —
            залатая Радзіма вясна!

*1951*

## МАЦІ

І за радасць, што з намі ад самага мала
На вялікіх жыццёвых шляхах сябравала,
І за тое, што ўмеем любіць без дакораў
Свайго краю прастор, яго сонца і зоры,
І за песню, якую калісь ля калыскі
Ты спявала для нас, марай ззяючы ў хаце,
Каб шчасліва жылі мы,—
                паклон табе нізкі,
Наша родная маці!

Можа быць, не пазнала б цяпер пры сустрэчы
Ты сыноў,— так у іх разгарнуліся плечы;
Можа быць, у іх думах бязмежных, як неба,
Часам ты не змагла б зразумець чаго-небудзь,
Але ведай, што дзе ні прайсці ім пад сонцам,
Што ні зробяць на радасць вялікай Радзіме,—
Яны ўсюды з табою, любоўю бясконцай
Неразлучна ты з імі.

І разумныя ў стэпах дарогі каналаў
Пракладуць яны так, каб была твая ўхвала,
І, як ты навучыла, з руплівасцю ў працы
Вернуць рэкі пустыням, збудуюць палацы,
І калі ўвесь народ з ласкай шчырай, прыветнай
Будзе дзякаваць ім за адданасць у справах,—
У той славе сыноў тваіх, славе сусветнай,
І твая будзе слава.

Будзе слава рукі працавітай, шурпатай,
Якой нас частавала, праводзячы з хаты,
Таго погляду, яснага, крышачку з сумам,
Што праменнем з'яўляўся ў юнацкія думы;
Таго слова, якое праз доўгія годы,
Адкрываючы мужных пачуццяў багацці,
Было з намі заўсёды наказам народа,
Наша любая маці!

*1951*

## ЗІМОВАЯ КАЗКА

Як ля ёлкі ў цёплай хаце
На руках заснуў у маці
Хлопчык Міхасёк,
Сніў зіму ён: быццам з снегам
Дзед Мароз спяшаўся бегам
Да яго здалёк.

Сыпаў ветрам, завірухай,
Белай беллю, мяккім пухам,
Глянеш — не прайсці.
Міхася садзіў у санкі:
— Вось бяры, гуляй гулянкі,
З горкі ўніз ляці!..

Міхасёк прачнуўся ўранні,
У акно зірнуў з чаканнем,
А зімы няма.
Дзе ж ён, Дзед Мароз, з пушыстым
Пульхным снегам, мяккім, чыстым?
Дзе ж яна, зіма?

Новым Годам каля ёлкі
Адцвілі агні-вясёлкі,
Сціхлі песні, смех.
І стаяць, сумуюць санкі,
Не знайсці хлапцам гулянкі,
Бо не выпаў снег.

Стала нейк няёмка маці,
Даглядзела яна ў хаце,
Ў печ паклала дроў,
Міхасю ацёрла слёзы
І паслала за Марозам
Галубоў-сяброў.

Паляцелі галубочкі
Аж у белы край паўночны
Праз радзіму ўсю.
І знайшлі і снежным следам
Прывялі Мароза Дзеда
Проста к Міхасю.

— Добры дзень, Міхась! — ля хаты
Дзед загрукаў вінаваты,
Аж уцяў зямлю.
— Выбачай мне за спазненне,
Што ні схочаш — я ў імгненне
Для цябе зраблю.

— Я хачу, каб лес і поле
Не былі без снегу болей,—
Кажа Міхасёк,
— Замяці лугі, балоты,
І аеры, і чароты,
Хмыз і верасок.

Каб ляцелі ў полі сані,
Каб ад рання да змяркання
Па лясах-барах
Лесарубы гаманілі,
А навостраныя пілы
Пелі ў іх руках.

— Што ж, унучак, згода, дружа! —
Дзед Мароз сказаў і сцюжай
Дыхаць стаў на край,
Б'е ў цяжкія рукавіцы,
Сушыць рэкі і крыніцы,
Снегам беліць гай.

І зноў чутны на марозе
Гул матораў, скрып палоззяў,—
Родны шлях, прывет!

Там, дзе лес узняўся чубам,
Заспявалі лесарубы
Звонка, на ўвесь свет.

Пойдзе, пойдзе лес дзяржаве,
Будзе, будзе ў чэсці, ў славе
Край наш нездарма.
Ой ты, сцюжа снегавая,
Ой ты, песня ветравая,
Ой, зіма, зіма!

Намяло, наслала многа
Гурбаў белых на разлогах,
Дуб трашчыць, сасна.
Хоць хацеў Мароз спыніцца,
Ды баіцца, што прысніцца
Міхасю вясна.

А тады ён санкі кіне,
Зробіць вочка ў чараціне,
Свісне на ўвесь свет:
— Дзе ты, жаўранак? Вярніся.
Дзе ты, сонейка? Ўздыміся,
Дай ты краскам цвет!

І вясна ўраз загамоніць
І снягі з палёў прагоніць,
Пусціць ручаі;
Рунь пад сонцам заіскрыцца,
Краска ўспыхне ля крыніцы,
Ажывуць гаі.

Па вясноваму прыволлю
Трактар выведзе на поле
Хлопец-трактарыст.
Хай зярняты прарастаюць,
Новай сілай хай брыняюць
Колас, кветка, ліст!

Зацвітуць сады ў калгасе,
Заспяшаюць пчолы з пасек
Па салодкі сок...
Ды ці мала зробіць дзіваў
Родны край, каб рос шчасліва
Хлопчык Міхасёк!

*1952*

## МАЦІ НАД КАЛЫСКАЙ

Прыхіліла з ласкай нізка
Маці голаў над калыскай,

Прыхіліла голаў, марыць,
Ходзіць сонейка па твары,

Вусны шэпчуць да світанку
Думу-песню — калыханку.

Хоць яшчэ зусім маленькі
Родны сын яе пярвенькі,

Але ў сына верыць, знаю,
Сэрцам
Маці маладая.

Як матулі ўсе, заўсёды
Сэрцам верыць, што праз годы,

Калі сын у свет пакрочыць,
Дык яе згадае вочы,

Яе думы над калыскай
Зразумее сэрцам блізка.

А што ў думках у матулі —
Мы, сябры, даўно адчулі:

Хоча маці, каб ніколі
Сын не зведаў цяжкай долі,

Не зазнаў бяды-напасці,
Жыў у радасці і шчасці.

Каб і майстрам быў умелым,
І салдатам мужным, смелым,

Ды каб чуў на ўсіх дарогах:
— Вось бы сына мне такога!..

Думы маці!.. Спеў сардэчны!..
Слава вам, хвала навечна!

Слава ваша не завяне,
Яна ў справах сына ўстане,

Звонкай радасцю заззяе,
Што для краю сын прыдбае!

*1952*

## ЯКУБУ КОЛАСУ

**(Да сямідзесяцігоддзя з дня нараджэння)**

І ў дні, калі раслі,—
    За партай школы,
І ў дні, калі ў баях
    Прайшлі паўсвета,—
Заўсёды з намі
    Быў наш родны Колас,
Гучаў нам голас
    Друга і паэта.

Гады мінаюць,
    Новыя выходзяць
На шлях жыцця
    Юнацкія калоны.
І песняй,
    Песняй Коласа ў народзе
Яны ўсё так жа
    Юна акрылёны.

Бо ў ёй —
    Вясна надзей, краса Айчыны.
І ёй таму і быць
    Праз дні і годы —
Нязгаснай,
    Як юнацтва успаміны,
Нястомнай
    І даходлівай заўсёды.

Жыві ж і не старэй,
Паэт любімы,
Ты сярод нас
І ў будняў дні і ў святы,
Як песня
Маці ласкавай — Радзімы,
Як голас
Маладосці непачатай!

*1952*

## СМУТАК

Калі прыйшоў да паэта смутак,
Паэт высек з сэрца пякучае слова,—
І было яно цэлым светам пачута,
І душа супакоілася песнярова.

Музыка сказаў пра сум раптоўны
У песні, доўгай, як бура ўвосень,—
І ў кожнага — і спагады чароўнай,
І ўцехі для музыкі знайшлося.

Земляроб шчырай думкай параіўся з полем,
Рассяваючы зерні вясною,—
І поле на неабсяжным прыволлі
Зашумела ў адказ яму нівай густою.

І толькі маці — адна, як зязюля,
Ціха, каб людзі яе не пачулі,
Трывожачыся сэрцам пра ўсіх на свеце:
Аб музыку, земляробе і паэце,—
Памарыла — пакукавала пад старой вярбою
І пайшла, гутарачы сама з сабою...

*1952*

# ПРАЛЕСКА

## Паэма

Выходзьце, выходзьце з хаты,
Выходзьце, сябры, на прыволле!
Бачыце —
Зеленаваты
Дым заклубіўся над полем?

Чуеце —
Трубяць трубы
Недзе ў блакітнай высі?
Гляньце — ўвесь край наш любы
Раптам зусім змяніўся!

Гэта ў лясах, на палетках
Зноў прабіваюцца кветкі,
Гэта з краін невядомых
Ляцяць жураўлі дадому,
Гэта з любімага краю
Вясна зіму праганяе.

Вясна зіму праганяе,
Красой зямлю аздабляе,
І вось чаму сёння гукае
Сяброўак Галінка малая.

Гукае сяброўак песняй —
На поле, на луг, на прылессе;
А дзе яны звонкай чародкай
Сярод дружбакоў-аднагодкаў
За дзень веснавы пабываюць,—
Таго нават самі не знаюць.

І толькі пад вечар дзяўчынка
Прыносіць з сабою ў хату
Хруст нерастаўшай ільдзінкі,
Пах багуну гаркаваты;
З поля — рокат машынны,
З лесу — шчэбет птушыны,
Кветку — з паляны над Сожам...
І потым заснуць не можа.

— Мамачка! —
Яна не змаўкае.—
Ды глянь жа ты, краска якая!

Стаіць на стале
Як жывая,
Прыйшоўшы сюды з пералеска,
І быццам наноў зацвітае,
Сінее
У шклянцы
Пралеска.
І хоча ўсё ведаць дзяўчынка,
У маці пытае Галінка:
— Мама! А краскі таксама,
Таксама спяць ночкаю, мама?

А мову яны разумеюць?
А многа іх, красак, на свеце?
А хто краскі гэтыя сее?
А будзіць іх хто на дасвецці?
Дзяўчынцы не спіцца,— ў хаце
Сінее вясновая кветка.
І прыгадалася маці
Жыццё яе.
— Слухай жа, дзетка.

*

Слухай, дзяўчынка мая ты,
Спі, засынай без трывогі,
Ведаю, шчасцем багатыя
Будуць твае дарогі,
Радасць дружыць заўсёды
Будзе ў жыцці з табою!

А вось што ў далёкія годы
Было з дзяўчынкай адною.

*

Якія яны, тыя годы? — пытаеш.
Вырасцеш —
У кнігах аб іх прачытаеш.

А толькі не гэтак даўно
Ў нашым краі,
У краі, дзе сёння ты падрастаеш,
У такой жа вось хаце

Над рэчкай Быстрынкай
Гадавалася
Ў маці
Дзяўчынка.

Месяц
Схіляўся нізка,
Зззяў над яе калыскай,
Вецер
З ранку да ранку
Пеў для яе калыханку.

Маці начэй не спала —
Песціла, даглядала,
Каб расла яна дужай на волі,
Не ведала крыўды ніколі.

Нарадзілася дзяўчынка вясною,
Калі ходзіць краса ў пералесках,
І за гэта яе між сабою
Бацькі празвалі Пралескай.

Год ад году Пралеска ўзрастала...
— Мама! А кнігі Пралеска чытала?
— Чытала, Галінка, запамінай...
Мірна жыў светлы край,
Мірны шлях шчасцем значыў.
Даў Пралесцы ён
Сонца для вёснаў,
Песні звонкія ў садзе дзіцячым,
Кніжку-ўцеху з казкай дзівоснай.
Мірна жыў яе край, ды аднойчы
Напалі на край ворагі злыя,
І затуманіліся крыўдай вочы,
Гнеўна ўспыхнулі сэрцы людскія.
— Ну, Пралеска, бывай жа здарова,
Буду я ўсюды сэрцам з табою,
Я з табой пайду ў бой! —
Шчырым словам
Так з сваёй развітаўся дачкою
Бацька-воін.—
Бывай, мая птушка!
— А ты вернешся скора?
— Скора, дачушка!..

А ворагі неслі пажары і кулі,
Па ўсім ішлі краі чорнай навалай.
І Пралеска-дзяўчынка з матуляй
Горкі шлях у няволю спазнала.

*

Адарвалі Пралеску
Ад родных узлескаў,
Ад родных палёў і залужжаў,
Выгналі чужынцы Пралеску
Басаною на мароз,
На зімовую сцюжу.

І так было дзяўчынцы балюча,
Што аж стала зіме яе шкода,
Прыпыняла зіма свой сівер калючы,
Адхуквала сцежкі між лёду.
І прасіла зіма, сама прасіла,
Каб хутчэй вясна з'явілася з сонцам,
Каб хутчэй снягі-ільды растапіла,
Устала над дзеўчынкаю абаронцам.

*

Дні — як ночы,
А ночы — без зораў,
Горш нядолі — няволя ліхая...
Анямела Пралеска
У смутку і горы,
Толькі журыцца ўсё
Ды ўздыхае.
Але маці ўжо чутна:
Вецер з усходу
Спеў жыцця, вызвалення даносіць.
Узнялася хутчэй:
— Дачушка, свабода!
Ачніся, мая ты Пралеска! —
Устаць яе просіць.
І як толькі над дзеўчынкай
З пошумам, з гулам
Сцяг узвіўся агністы, чырвоны,
Зноў яна

Голас любага бацькі пачула,
Спеў сяброў,
Шум бароў,
Гоман соснаў і клёнаў.

Сцяг чырвоны над ёю палае,
І яснее ўвесь свет прад вачыма,
І зіма снягі праганяе
І Пралеску вядзе да Радзімы.
Зноў там мір і спакой.
Зноў прадвесне.
Ні буры, ні грому.
Звонам поўняцца ў сэрцы Пралескі
Два словы:
— Дадому! Дадому!
— Так, дадому, Пралеска! —
Бацькі яе рады.
Так, дадому, да родных палёў, пералескаў!..
Клічуць звонка дзяўчынку
Шляхоў яе вольных прысады.

Ды не тая,
Не тая сягоння Пралеска...
На шчаках — не відаць ні крывінкі,
А збалелыя ногі
Не слухаюцца дзяўчынкі,
Хоць не прайшлі дарогі.
— Татачка! Даруй мне!..— Пралеска
шаптала.—
Не дайду я...—
І вочы з тугой закрывала.
А бацькі не спыняліся на руках з дачкою,
Саграваді Пралеску сваёй цеплынёю
І прасілі, ад сэрцаў прасілі:
— Сонца-сонца, ты сілы ёй дай!
А прад імі ўжо на небасхіле
Лес знаёмы, любімы край...
І Пралеска збудзілася ў дыханні трывожным,
Заплакала радаснымі слязамі,
Убачыўшы родныя нівы і пожні,
Сцежкі ў лесе, з імхом, з верасамі.

*

Ясным сонцам над ёю сцяг родны палае
І чырвань сваю па расінцы
Па ўсёй, па ўсёй зямлі рассявае,
Па кожнай кідае сцяжынцы.

І там, дзе на снег падталы
Кроплі чырвані яснай упалі,
Там вясна наставала,
Кветкі там зацвіталі.

Між хваін, каля сосен смалістых,
Пры алешыне, пры ляшчыне —
Колькі іх, гэтых кропель чыстых,
Кропель-красак, ружовых ці сініх!

Вясна рассявае буйныя росы
На ясныя самацветы,
А птушкі сям'ёй рознагалосай
Нясуць тыя росы па свету.

Нясуць на дзюбах да цёплых праталін,
Кожнаму бору і ўзлеску,
Каб людзі ўсюды вясну пазнавалі
З радасным клічам:
— Пралеска!

— Пралеска! — дзеці крычаць з уцехай.—
Жывая! Жывая!
І кожнай вясною
У час зацвітання вясёлае рэха
Ад песень і смеху звініць над зямлёю.

Жывучыя сокі лістам прынясіце
З глыбіняў, карэнні!
На полі шырокім расткі ажывіце,
Нябёсаў праменні!

Высока ў блакіце,
Птушыныя трубы,
Трубіце над полем, над гаем!
А песні людскія,— звініце
Пра любасць
Да роднага краю.

*

Вось так
узрастала калісьці
Пралеска-дзяўчынка.
А дзе яна сёння?
А тут, над табою, Галінка.

Яна над табой і з табою,
Галінка мая ты малая.
Цябе сваёй песціць рукою,
Табе свае думкі спявае.
З табой, каб цвіло тваё ў кветках
Жыццё, як зара-зараніца.
Засні ж цяпер, родная дзетка,
Пара!.. А Галінцы не спіцца.

— Мама! — Яна не змаўкае.—
Скажы мне, а болей такія
Не прыйдуць да нашага краю
Ворагі лютыя, злыя?

Не прыйдуць, не скрыўдзяць Пралеску,
Не вытапчуць нівы ў полі?
— Не! Не, мая песня,
Не, ніколі, ніколі!

Спі, не ведай трывогі,
Дачушка мая ты малая,
Ясныя твае дарогі
Радзіма аберагае.

Ты будзеш любіць, што любіш.
Ты знойдзеш усё, аб чым марыш.
Чуеш?
Трубяць трубы.
Бачыш?
Рунеюць абшары.

Гэта вясна к табе крочыць
З цёплай, як матчына, ласкай,
Ціха глядзіць табе ў вочы
Добрая весняя краска.

*1952*

## РОДНАЙ ПАРТЫІ

Я згадаю паходы, суровыя ўспомню гады.
Хоць гарэла зямля, а нам сніліся ў кветках сады.
Каля Волгі і Дона грымелі агні кананад,
А мы верылі ў шчасце: устане з руін Сталінград!

Зноў і зноў маё сэрца сяброўская мужнасць кране.
Помніш словы, таварыш: «Камуністам лічыце мяне»?
Помніш, як перад боем, у грозную хвілю жыцця,
Вымаўляў іх баец, перамогі ўздымаючы сцяг,
Вымаўляў і ўставаў на апошні рашаючы бой,
І хоць падаў,
а бачыў бяссмерця святло над сабой?!

Маці родная партыя! Колькі шляхоў на зямлі,—
Па ніводнаму з іх без цябе мы прайсці не маглі!
І чым больш палаў у змаганні над краем пажар,
Чым цяжэйшы для сэрцаў быў крыўды і смутку цяжар,
Чым люцейшы быў вораг,—
тым болей у сэрцах сваіх
Адчувалі мы любасць да мудрых рашэнняў тваіх,
Тым бліжэй, тым радней ты нам, шчырая маці, была,
Тым нам болей патрэбна тваёй было веры-святла!

У суровых баях, як прысягу жыццю і вясне,
Вымаўлялі мы словы: «Камуністам лічыце мяне!»
— Камуністам лічыце! — і ў вогненны крочылі шлях.
І ўставалі ўсе людзі
пад родны, пад ленінскі сцяг!

Адгрымела вайна. Грозных бітваў знікаюць сляды.
Над краінаю мірнай цвітуць перамогі сады.
Каля Волгі і Дона дарог франтавых не пазнаць,
Каля Волгі і Дона шырокія моры шумяць,
І гучыць ужо слава аб новых героях тваіх,
Аб сынах тваіх, партыя, мужных, заўжды баявых!

Па вялікаму свету, на ўсю неаглядную шыр,
Дзе ідзе барацьба за свабоду, за шчасце і мір,
Дзе ўздымаецца голас:
«Не быць, не ўсчынацца вайне»,—
Словы праўды гучаць: «Камуністам лічыце мяне!»

— Камуністам лічыце! — і гэта для мужных усіх
Падымаецца сонца у ззянні сцягоў агнявых,
Гэта слава народаў, радасць і мір на вякі,
Гэта новых узлётаў і перамог маякі!

*1952*

## ФАТАГРАФІЯ

Хлопчык, што прывык да светлых вуліц,
Да зялёных сквераў і садоў,
Да тых песняў,
што душу расчуляць,
Пра свой горад — лепшы з гарадоў;

Хлопчык, у якога прад вачыма
Мінск-сталіца рос і прыгажэў,—
Нечакана дзіўны фотаздымак
У старым часопісе сустрэў.

Што гэта?
На плошчах дым пасланы.
Між руінаў хіляцца дамы.
Кветкі ў клумбах ботамі стаптаны.
Пуста ўсюды. Горад — як нямы.

— Што гэта?..— у бацькі сын пытае.
— Хлопчык! Гэта Мінск наш быў такі.
Гэта так калісь вайна ліхая
След свой тут пакінула цяжкі.

Шмат нягоды выпала краіне.
Ростані. Руіны. Дзірваны.
Вось чаму змагаемся, мой сыне,
Мы за мір, каб свет не знаў вайны.

Хлопчык бачыць шумных вуліц зоры,
Плошчы, скверы, што ў красе стаяць,
І баіцца свой любімы горад
З фотаздымкам даўнім параўнаць.

Пачуццю ў маленькім сэрцы цесна.
І так просіць ён: — Татуля мой,
Ты зрабі, каб радасныя песні
Горад мой заўжды спяваў са мной!

*1952*

## ПАРТРЭТ ГЕРОЯ

Сумна маці адной жыць, сумна.
Што ні дзень —
то на матчыным твары маршчына.
Год за годам ідзе, а адна ў яе дума:
Чакае
Не дачакаецца сына.

Чакае
Не дачакаецца,
Гукае
Не дагукаецца,
Не дапытаецца маці ні ў кога:
Як ён, сын яе, зараз маецца,
Дзе ён, дзе яго сцежка-дарога?

Што дадому ён доўга не прыязджае,—
Не бяда. Не таму яе хіліць журбота.
Сумна, што адраса сына не мае,
Нагаварыцца б праз пошту ў ахвоту!

Ёсць у яе яго адрас вайсковы,
Ёсць партрэт — каля сэрца насіла:
У суровай задуме зведзены бровы,
Твар, як выліты: мужнасць і сіла.

Беларускія пушчы, ціхія лозы,
Лясныя азёры, неараныя пожні,
Партызанскія рэйды, гром паравозаў...
Вось ён, адрас апошні.

Толькі не ведае, журыцца маці,
Дзе ён сягоння, куды напісаць ёй?
І — пасылае ліст яна краю,

Ліст палымяны Радзіме вялікай:
Хай адкажа ёй — хто што знае,
А не знае — паможа хай клікаць.

Час прамінае — за летамі зімы...
І прыходзяць маці тысячы лістоў,—
З усёй неабсяжнай Радзімы
Тысячы партрэтаў і адрасоў.

Маці шчаслівыя слёзы ўцірае,
Ды ніяк зразумець не можа праз радасць:
Якая ж прафесія ў сына, якая
У любага сына сёння пасада?

Там ён — у куртцы стаіць машыніста,
Там на ім — новы мундзір, пры пагонах,
Там — у вясковай кашулі квяцістай,
А вось на гэтым партрэце — вучоны.

Мусіць, вялікія справы ў сына,—
Думае маці,— такі мнагалікі...
Мусіць, вялікі ён для краіны...

Так, вялікі, маці, вялікі!

*1953*

## РАСІНКА

Апала расінка з туману
На першы лісточак кляновы
І стала пад сонцам уранак
Жывым самацветам вясновым.

Паўднёвыя, цёплыя ветры
Трубілі ў святочныя трубы,
З лістка дарагі самацвет той
Зляцеў на дзявочыя губы...

У думках пра шчасце — я знаю —
Ў той дзень ты мяне цалавала.
І тая расінка жывая,
Напэўна, мне ў сэрца запала.

Запала, як кропля малая,
А стала там вогненным морам,
Дзе сонца без спыну палае,
Дзе бура калыша прастору.

І, мусіць, таму так праз годы
Няма мне спакою, прыпыну,
Чакаю, гукаю заўсёды
Цябе, маю казку-дзяўчыну...

Калі ж ты раздзеліш пароўну,—
Са мною на сцежцы жыццёвай
І смутак, дзе радасці поўна,
І шчасце — з тугою вясновай?!

*1953*

## КЛІЧ

Між рэчак, між бароў, на сонечнай мяжы,
Я чую кліч.
— Гэй, чый ты, кліч, скажы?!.

— У нашай вёсцы маці ёсць старая.
Яна, ты знай, сягоння памірае.
І плач аб сыне у яе ваччу.
Я сына да яе гукнуць лячу...

— О кліч! Ляці ж хутчэй! Няхай не спыняць
Цябе ні громы, ні валы на плынях.
Бяры на дапамогу й голас мой.
Знайдзі ты сына! Маці супакой...

І кліч узвіўся. І маю спагаду
Панёс з сабою ў шэлесце сваім.
І ўсе вятры, як быццам па загаду,
Спыняліся на момант перад ім.

На рэках сціхлі хвалі, лес магутны
Змоўк перад ім — мо ўпершыню ў жыцці.
І быў далёка гул прастораў чутны:
— Ад маці, кліч, няспынна ты ляці!..

Але як толькі змоўклі воды й долы,
Каб кліч ад маці вольны меў палёт,—
Адкуль прыйшлі і загулі наўкола
Мільёны іншых клічаў-перашкод?

Хтось плакаў, што яго не пакахалі,
Хтось енчыў аб нязбытнасці надзей,
Хтось пагражаў камусьці,
Хтось без жалю
Наводзіў ствол гарматны на людзей.

Хтось гараваў аб золаце, багацці,
Хтось аб сусветнай славе летуцеў,—
І кліч аб тым, што памірае маці,
Да сына ў тлуме тым не даляцеў.

І я замест сына па-над ёю
Стаю, і гневу крык ідзе з душы:
О вы, нікчэмныя, што нечаю крывёю
Здабылі сваёй славы барышы,
О вы, ханжы, пыхліўцы й сябелюбы,
Бязлітасныя хціўцы і хлусы,
Каму на сэрцы
Не баліць ад згубы,
Хто прагне зла на вечныя часы,—

За крыўду маці і за сынаў смутак,
За тых, што век пакутна пражылі,
Кідаю кліч знішчэння
Супраць лютых
Вас, сябелюбаў хцівых на зямлі!..

Кідаю кліч і думаю трывожна:
Ці даляціць, ці будзе сілы мець?
І кажа свет мне: — Жыць інакш няможна,
Павінен ён да мэты даляцець!

*1953*

## РАБОЧАЯ СЯМ'Я

Салдатам Рэвалюцыі
Ён двойчы
Бываў у Піцеры,
Суровым ад нягод.
Сам хлебароб,
З дружынамі рабочых
Бярог, як свой,
Пуцілаўскі завод.

І з той пары,
Хоць і вярнуўся потым
На Шклоўшчыну сваю —
Зноў да зямлі,—
Пуцілаўцам лічыў сябе
І ўпотай
Жадаў, каб дзеці
Ў горадзе жылі.

— Вось толькі вырастуць... —
Так бацька марыў.
Палоску бедную
За працай кляў не раз.
І, як пуцілавец,
Вясковы пралетарый
Адчуў свой шлях:
Змагаўся за калгас.

На новай ніве
Дзеці падрасталі.
Яшчэ яны
За партамі былі,—
Па волі партыі
На палявыя далі
Да іх машыны
З горада ішлі.

Па волі партыі
Жыццё змяніла вырыс.
Саха бядняцкая
Пайшла ў нябыт, на злом.
Вось дзеці бедняка:

Адзін стаў брыгадзірам,
Другі — механік,
Трэці — аграном.

Чацвёрты ў полі
Трактарам кіруе,
Дачка — на жнейцы,
Ўвішная жняя.
І гонар бацьку
За сям'ю такую:
— Сям'я мая —
Рабочая сям'я!

І сапраўды,
Што скажаш ты на гэта?
Хоць цэх у полі ў іх,
У полі ў іх завод,
Хоць думаюць
Пра жытні свой палетак,—
Ці не рабочы
Ўсе яны народ?

Сынам палёў,
Стаханаўцам калгасаў,
Ім выпала
Любоў аддаць жыццю
Ў адной сям'і
З рабочым родным класам —
Братамі
Па майстэрству й пачуццю.

*1953*

* * *

Люблю тваё неба, што просіцца ў вочы,
І тую, цябе што ўзрасціла, зямлю,
І (рыфмай старой саграшу) твой дзявочы
Лятунак нявызнаны — шчыра люблю.

Люблю тыя сцежкі на родным Палессі,
Дзе бегала ты па расе басанож,
І, можа, таму ты мне снішся на ўзлессі
Бярозкай — у краі, дзе коціцца Сож.

Люблю твае песні без слоў, у расстанні
Мне сэрца твайго парыванне чутно.
Люблю нават тое, што любым не стане,—
За тое люблю, што з табою яно.

І ў час, калі сіл маіх болей не хопіць
Ад цэлага свету свой смутак хаваць,
Скажы, што...
— Нічога... Звычайны быў хлопец.
Адно толькі — сэрцам не ўмеў кіраваць.

*1952*

## ПЕСНЯ МУЖНАСЦІ

Не цяжка захапляцца ў дні вясны
Птушыным свістам і пахучым бэзам —
Усё нясе, як кажуць, казкі-сны...
А вось зіма прыйшла — руку жалезам
Абпёк ты на марозе і ў снягах
Не раз сядзеў, замецены з машынай,
Шукаў паўзком, дзе груд, дзе каляіна,
А не знаходзіў — сам пракладваў шлях,
Вятрамі дыхаў вострымі, як нож,
Маўчаў, з расніц садраўшы крупкі лёду,
І справу ўсё ж рабіў, і прагна ўсё ж
Імкнуўся ўдаль... Скажы мне: асалоду
Ці ўчуў ты на мяжы такой дарогі?
Ты ўчуў, дружбак, ты варты перамогі!

Нялёгкае, што дадзена прайсці
Для кожнага,— хутчэй прайсці патрэбна.
Сад вырасці павінен, каб цвісці.
Цалік паднят, каб вырас колас хлебны.
Нясу сягоння мужнасці свой спеў,

Што смутку ў сэрцы волі не давала,
Усім, хто, каб зямля закрасавала,
Жыццё вялікай любасцю сагрэў!
І калі шчыра здолеў песню скласці —
У тым сваё і адчуваю шчасце.

*1953*

## ЛЕТНЯЯ НОЧ

І калі адзвінела дзявоцкая песня на ніве
І асеў на абочынах пыл палявых каляін,—
Настала вясковая ноч.

Вось з-за воблака вынырнуў
З радасным позіркам месяц,
І апала на грады цяжка раса,
І тады зварухнулася ўсё, што ўзрасціў чалавек,
Што ён днём даглядаў, над зямлёй падымаў.

Расхінуўшы кіёўкі, гуркоўнік зялёнай касою
Пацягнуўся, як хобатам, да прамяністай слязы,
Азірнуўся вакол, варухнуў маладзенькім лістком,
Ціха клюнуў расіну, па жылках пагнаў.

І праз міг ужо стала буйнейшаю завязь,
І пахучы гурочак ад радасці піскнуў ажно,
Бы на ўлонні ў матулі,
Змясціўся на пульхнай зямлі
І ў здзіўленні ўтаропіўся ў зорную высь.

Скалыхнуўся слапечнік высокі, нібы па камандзе,
І відаць было, як падымаліся вышай ствалы
І як кожны шырокі свой твар падстаўляў
Пад расу, што клубілася парам паўкруг.

А ў садах даспявалі налітыя сонцам ранеты;
Раптам чуўся як быццам бы стрэл над зямлёй,—
Гэта рэпаўся яблык,
так біўся ў ім сок,
Ледзь трымаўся,
каб часам не ўпасці на дол.

Усю ноч не сціхала шчаслівая праца.
А на раніцы зморапая зямля
Паднясла чалавеку свае залатыя дары
І збудзіла ў душы яго
радасці спеў.

Ён глядзеў з асалодай на роднае поле —
На пшаніцы, што дбайна трымалі
цяжар каласоў,
На ільны пабялелыя, на высокі гарох,
На якім калыхаліся важка стручкі,—

І раджаўся ў ім гонар за лёс чалавека,
Бо яму ўся належала гэта краса.
Пахла мёдам. Аж соладка сэрцу было.
Зацвітала рослая грэчка ў палях...

*1953*

## У ЛЕСЕ

Лес быў ціхі і пануры,
Як пасля вялікай буры.
Глянеш — граб і клён
Спяць, змарыў іх сон.

Сон змарыў і ўскрай альховы,
І гушчар густы хваёвы,
Праміналі дні
Ў сумнай цішыні.

Ды аднойчы на марозе
Абудзілі лес палоззі,
Паміж дрэў пабег
Дружны гоман-смех.

Падшукалі лесарубы
Кут у лесе, сэрцу любы,
Слаўны кут лясны.
Стаўце будані!

Зазвінелі тапарамі,
Абагрэўся лес кастрамі,
Ззяюць аганькі,
Ніцяцца дымкі.

Не ляснои цвіллю спрахлай —
Бульбай печанай запахла.
Рыбай-акунём,
Піпкай з тытунём.

А праз дзень — другое дзіва:
Пасля працы рупатлівай
Ад шашы ў палёх
Шлях у лес пралёг:

Заглядзеліся крушыны:
Па шляху бягуць машыны,
Цяжка ідучы,
Стогнуць цягачы.

Колькі тут магутнай сілы!
Запусцілі людзі пілы
І з хвіліны той
Страцілі спакой.

Многа ім патрэбна бёрнаў
Для калгасных хат прасторных,
Гмахаў гарадскіх,
Цэхаў завадскіх.

Грукацяць, гудуць маторы
Ці пры сонцы, ці пры зорах,
Калі ў працы лад,
Кожны сэрцам рад.

Перамог лес сон зімовы,
Сон маркотны і суровы,
Скінуў снег з плячэй,
Дыхаць стаў лягчэй.

Рад ён шчыра, што прасека
Пад рукою чалавека
Вунь аж да сяла
Роўна пралягла.

Прыйдуць стуль вясною ветры,
Раскалышуць яго нетры,
Зерні з дрэў саб'юць,
Парасткі ўзрастуць.

І падымецца навокал
Маладняк густы высока,
Каб заўжды, заўжды
Лес быў малады!

*1953*

## З ВЫРАЮ

Я веру: там, за морам, журавы
Пад сонцам поўдня мараць аб азёрах,
Што кінулі ў паўночным краі. Ім
Начамі сніцца закут лугавы,
А на зары паўночных даляў зоры
Ад сну іх будзяць шэлестам сваім.

І чуецца ім пах знаёмых гнёзд,
Відаць азёрны краявід прадвесня.
Інакш чаму ж праз столькі тысяч вёрст
Не патухае іх звароту песня?
Ляціць дамоў птушыная сям'я,
І нам заўжды чамусьці прад вачыма
Зноў паўстае уся, навек свая,
Вялікая — матуляю — Радзіма.

*1953*

## ПЕРАД РАЗВІТАННЕМ

У сад зялёны, ў лісцяў гушчыню
Табе, сяброўка, вокны расчыню.

Паслухай, як шуміць вялікі горад,
Дзе мы жылі аж пяць студэнцкіх год,
І ўспомні, што ён нас праводзіць скора
Куды каго — у малады палёт.

Куды каго... А я б хацеў нанова
Усё прайсці — адну б пуцёўку нам...
Што ж ты не кажаш у адказ ні слова?
Што адышлася раптам ад акна?..

*1953*

* * *

Ты ўспомніш нечы спеў, што на зары
Калісь пачуў, блукаючы ў лясах,
Ці плёскат лёгкі вёслаў на Сажы,
Якім будзіў калісь карасцялёў,—
І гэтага ўжо хопіць, каб стары
Сум па зялёных сцежках і шляхах
Грымотным звонам першых капяжын
Гукнуў цябе да пушчаў і палёў.

Зямля, дзе нарадзіўся ты і ўзрос,
Раскінулася ўся перад табой,
З маладзіком начэй і з ясным днём,
Што зліты ў дзіва светлае адно.
Салодкім сокам пахне ад бяроз.
Палі прачаўралі перад сяўбой.
А пчолы звонка кружаць над вуллём
І пасечніка клічуць праз акно.

А пройдзе дзень яшчэ, міне другі —
І колькі край наш выявіць красы!
І зноў запомніш ты на многа год,
Што сам рабіў і захапляўся чым,
І як наладжваў трактару плугі,
І як збіраў у песню галасы,
І як вітаў пшаніц, аўсоў усход
З сваім вялікім краем дарагім!..

*1953*

## ДРУЖБЕ НАРОДАЎ

Калі б у кожнага спыталі ў нас:
— Хто лепшы друг твой?
З кім у грозны час
Здабыў ты перамогі баявыя? —
Адзін адказ пачуецца заўжды
Ад сэрца шчырага:
— На ўсе гады
Мой лепшы друг, жыццё маё — Расія!

Таджык, і малдаванін, і лезгін,
І беларус, і Украіны сын,—
Усе, каго любоў навек з'яднала,
Паходаў незабыўных дружбакі,
Хіба забудзем мы свае палкі,
Якія ў шлях Расія выпраўляла?

Хіба забудзе хто ў жыцці сваім
Вялікі край, што стаўся дарагім,
Дзе столькі засталося пабрацімаў!
Смаленшчына і армавірскі стэп,
Ваш еў я ў дні паходаў хлеб,
А ў твар мне ласкай дыхала Радзіма.

І ці ж забыцца сэрцу аб тым дні,
Калі на папялішчы ў цішыні
Пачуў я слова роднае: — Сыночак!..
Я быў жывы, але нібыта ў сне,
І незнаёмая жанчына мне
Рукой шурпатай прамывала вочы.

З сялянскай кайстры простыя бінты —
Я іх захоўваў праз усе франты,
І зараз, сэрцам глянуўшы да ўсходу,
Падзяку шлю жанчыне рускай той —
Другой маёй матулі над Акой,
Падзяку ёй і рускаму народу!

Сяброў сваіх, братоў сваіх, сясцёр —
Ад гор Каўказа да таежных зор —
Я чую кліч і да яго імкнуся.
Усе яны жадаюць шчасця мне,
Мне і маёй бацькоўскай старане,
Маёй старонцы роднай Беларусі.

Ідзі ж, мой верш, да ўсіх братоў маіх,
Да ўсіх сяброў нязменных, дарагіх,
Ты ўсюды будзеш, як прывет, жаданы,
Скажы братам, што Беларусь мая
Навек адданая братам-краям,
Навек саюзу брацкаму аддана.

Аддана партыі, якая нас
Здружыла ў цяжкі і суровы час,
Здружыла для жыцця і перамогі.
Здружыла, каб у шчасці мы жылі,
Каб для людзей праклалі на зямлі
Да камунізма ясныя дарогі.

*1953*

## У МУЖНЫМ СТРАІ

Суровы ўдар сустрэў нас нечакана:
Не стала сёння лепшага між нас...
І вось мы ўсе жалобнаю сям'ёю
Стаім прад ім — сябры па мужнай справе,
Вялікай рэвалюцыі сыны,
Стаім — салдаты — перад палкаводцам,
Што нас вадзіў у слаўныя паходы,
Будаўнікі, якім для спраў вялікіх
Адкрыў ён мудрых планаў шырыню,—
Стаім, і слёзы коцяцца з вачэй...

*

І ўдзень і ўноч чакалі весткі людзі.
Што скажа радыё?
Як у вайну калісь,
Калі ішло змаганне за Радзіму,
Нам радыё прыносіла заўжды
Аб перамогах радасныя словы,—
Так і цяпер патрэбны нам былі
Такія словы: радасць, перамога —
Навала адступіла прад жыццём!
І ўдзень і ўноч чакалі весткі людзі...



У вызваленай вёсцы.
1943 г.



Кастусь Кірэенка
чытае салдатам свае новыя вершы.
1944 г.

І хоць грымелі на будоўлях краны,
Па графіку ляцелі цягнікі,
Калгаснік ладзіў трактар прад сяўбою,
Рабочы звычна фрэзы запускаў,—
А сэрцамі мы ўсе былі з Масквою,
Там, перад ім, былі мы, у Крамлі.
Матулі, колькі ёсць іх у Радзімы,
Матулі, чые дочкі і сыны
Раслі пад сонцам шчасця і свабоды,—
Матулі
Нахіляліся над ім,
Найдаражэйшым, самым любым сынам,
Каб даць яму дыханне веснавое,
Каб ён падняўся, слова ім сказаў.
Сябры, былыя воіны,
І тыя,
Хто сёння на граніцах на пасту,
Усе, каму ўручаў наш палкаводзец
Штандары славы, лёс усёй зямлі,
Усе, хто ўмее сэрца камандзіра
Прыкрыць грудзямі ўласнымі ў баю,—
І ўдзень і ўноч чакалі ў спадзяванні,
Што пераможа ён,
Што ён не кіне нас!..
Хіба ж не ён і царскія астрогі,
І ссылкі, і этапы перамог?
Хіба ж не ён у шынялі салдата
Прайшоў, нязломны, праз усе франты?
Дык дай жа ты, жыццё, яму і сёння
І сёння сілу дай перамагчы...
Але гучыць з Масквы жалобны голас...
І слёзы смутку коцяцца з вачэй...
Устаньце ўсе, таварышы! Цішэй!
У строй, сябры, адчуйце локаць друга,
Былі каб непахіснымі рады.
Паслухайце — ЦК з Масквы гаворыць,
І мужнасць чутна ў кожным слове нам.
Адчуйце локаць друга і згадайце
На развітанні — што ён, дарагі, любіў.
Любіў ён,
Больш за ўсё любіў на свеце
Стальную партыю і свой народ.
І значыць, ён усюды і заўсёды
Жывы і ясны будзе сярод нас.

Любіў ён,
Каб плыло над светам сонца,
Каб красавала ў радасці зямля.
І значыць, ён усюды і заўсёды
Жывы і ясны будзе сярод нас.
Ён Леніна быў вучнем —
І Радзіму
Па-ленінску заўжды аберагаў.
І значыць ён усюды і заўсёды
Жывы і ясны будзе сярод нас.
А тым,
А тым, хто помсту нам рыхтуе
За тое, што мы ленінцы ў жыцці,
За тое, што агністыя над намі
Шумяць любімай партыі сцягі,—
Адкажам мы
Упэўнена, спакойна
І мужна, як адказвалі не раз.
Жалоба сэрцы цяжка нам скавала,
Але шчыльней з'ядналіся рады.
Вядзе нас партыя —
І мы жыццё ствараем,
Пакліча партыя —
Мы ўсюды разам з ёй!
Мы — ленінцы,
Мы з Леніным заўсёды,
І з ім сягоння ў мужны сталі строй!

*1953*

## НОЧ У ЛЕСЕ

Кожная ясная зорка
Выбрала ў лесе сасонку,
Ззяе на самай вяршыні,
Свеціцца ў цемры начной.
Гэта ўсё —
высяцца мачты
Радыёстудыі звонкай,
Радыёстанцыі леса,
Далі бясконцай лясной.

Зможаш ты сэрца пастроіць
На яе звонкія хвалі,
Колькі заўважыш павокал
Любасці і хараства!
Слухай, як ласкава ліпы
Дуб з-за ракі прывіталі,
Слухай, як цёпламу ветру
Кланяецца трава.

Дзюбаю дзяцел па дрэве
Грукнуў — пайшло адгалоссе.
Што ён сказаў? Мо аб нечым
Птушак перасцярог?
А на паляне, на лядах,
Жыта ўздыхнула калоссем,—
Песню пачула, напэўна,
З позніх дзявочых дарог...

Можа, ты мову прыроды
І не зусім зразумееш,
Толькі — я веру — заўсёды
Сэрцам адчуеш усім: —
Многа ў жыцця прыгажосці,
Радасць яго не старэе,
Варта змагацца за тое,
Каб не развітацца з ім!

*1953*

## ДЗЕ ТЫ БЫЎ

Не кажы мне, дзе ты быў,
Што ў дні летнія рабіў:

Калі твар твой загарэлы,
Калі радасць у вачах,
Голас гучны, поступ смелы,
Сіла чуецца ў руках,—

Значыць, быў ты, добра знаю,
Не ў цяньку, не ў халадку,
Ты ў паход хадзіў па краю,

Пераплыў не раз раку,
Завіхаўся неаднойчы
На прывалах ля кастроў,
Да вялікіх спраў ахвочы
Жыць не мог ты без сяброў.

А сяброў тваіх не злічыш:
Той — у полі трактарыст,
Той — у лесе паляўнічы,
Той — у клубе гарманіст.
Той удалымі рукамі
Косіць луг і росціць хлеб.
Быў ты з добрымі сябрамі,
Вунь як вырас і акрэп!

Нездарма сягоння ў школе
Гэтак хораша табе.
Ты згадаеш сцежкі ў полі,
Звонкі спеў на малацьбе,
Мурагі ў лугах і рэкі,
Дзе заўжды шчаслівым быў,
І адчуеш, што навекі
Край вялікі палюбіў.

*1953*

## СВІТАННЕ

Пачалося світанне над ціхай калыскай
Першым словам маёй русакудрай дачкі.
І раптоўна дзяўчынцы здалёку і зблізку
Адказалі ўсе краю куткі.

Між калін за ракой закувала зязюля;
Пэўна, голас трывожны дзяўчынкі маёй
Гэтай птушцы згадаў: і яна ж матуля,
Хоць і кінула дзесь птушанятка сваё.

— Ку-ку, ку-ку, дзіцятка!.. —
зязюля кувала.
І дзяўчынка мая пачула яе,
І ўсміхнулася маці, што яе калыхала,
Што па клічу дачушкі да сонца ўстае.

Усміхнулася маці, а клікнула: — Тата-а...
І за рэчкаю дзесь у лазовым кусце,
Нібы ўдарыў крыламі па струнах напятых,
Над гняздом загукаў карасцель.

Вось азваўся жаўрук сярод чыстага поля,
Вось пачуўся на выгане кліч пастуха,
Перапёлкі крычалі, каб ніву палолі,
А качар біў крыламі ў густых лапухах.

І ўсе гукі, што ў хаце ўзялі свой пачатак,
У адну веснавую злучыліся ніць
І ляцелі над доламі лётам крылатым.
Слухай, сэрца: то песня світання звініць!

А на ўсходзе свяцілася неба і ззяла,
У рацэ калыхалася бляскам жывым,
Сярод красак у росах мядзвяных палала,
Разлівалася чырванню ў моры травы.

І дзяўчынка мая, счараваная ззяннем
І гамонкай зямлі, што тварыла свой сказ,
Паднялася на ножкі...
Вось гэтак світанне
Пачалося аднойчы вясною для нас.

*1953*

## МАСКВЕ

У радасных думах народных
І ў песнях вітальных сардэчных
Адно пачуццё непагасна,
Як яснае сонца, жыве:
І любасць сваю маладую,
І шчырую ласку навечна
Мы ўсе аддалі сваёй роднай,
Сваёй ясназорай Маскве.

Масква! Ў шчырай дружбе з табою
Мы шчасце знайшлі дарагое,
Сягоння ўсе людзі на свеце

З жыцця твайго прыклад бяруць.
Масква! Паглядзі, як прывольна
Пад зоркай крамлёўскай тваёю,
Пад поглядам ясным Радзімы
Красуе, цвіце Беларусь!

І слова падтрымкі братэрскай,
Падзякі за подзвіг працоўны,
І мужныя словы аб міры
Заўсёды, як кліч агнявы,
У радасны край беларускі,
Што роўны ў Саюзе між роўных,
Прыходзяць дарогаю славы
З любімай сталіцы Масквы.

І ведаем мы: не разлучыць
Ніхто нас, з'яднаных, ніколі,
Жыць будзе вялікая дружба —
Крыніца жыцця, хараства.
Паклон табе, нізкі, народны,
Масква, сімвал сонечнай долі,
Вясновае наша вітанне
Табе, дарагая Масква!

*1953*

## НАША СПРАВА

З усіх, што ёсць на свеце спраў,
Душой, жыццю адданаю,
Абралі мы сабе, сябры,
Самую складаную.

Вялікіх бітваў акіян
Шумеў прад намі ўспенена,
Калі мы ўсталі, як байцы,
У строй пад сцягам Леніна.

Не баючыся ні пагроз
Варожых, ні напасцяў,
У строй мы сталі, каб стварыць
Свайму народу шчасце.

І вось чаму на ўсіх шляхах,
Што мужнасцю пракладзены,
І цяжка нам, і люба нам,
І столькі славы дадзена.

І вось чаму, святло, і мір,
І маладосць баронячы,
Мы бачым будучынь сваю
Усю ў праменнях сонечных.

*1953*

## НЕЗДАРМА

Нездарма ў барах, на ўзлесках,
Нездарма
Сінь рассыпалі пралескі,
Нездарма.

Нездарма ты іх збірала,
Нездарма
Шчырай песняй саграваля,
Нездарма.

Пэўна ў шчасці сустракала
Ты вясну:
Нехта сэрца, каб спявала,
Ўскалыхнуў.

Даў табе лятунак светлы,
Залаты,
А хто быў ён, знаеш гэта
Толькі ты.

*1953*

## МЫ ПА САДЗЕ ІДЗЁМ

Калі песні звіняць пра сустрэчу з вясной
Майскім радасным днём,
Адхінаючы пахкія кветкі рукой,
Мы з табою па садзе ідзём.

Па сцяжынцы ідзём, як калісьці раней,
Калі дрэўцы саджалі ў рады,
І так люба сягоння, так радасна мне,
Што ты поплеч са мной назаўжды.

Сад наш бурна расцвіў, і, як сад, расцвіло
Залатое ў сяброўстве жыццё.
Непатрэбна ўрачыстых шукаць табе слоў.
Каб сказаць пра сваё пачуццё.

Словы просяцца самі. Сяброўка, спявай,
Хай уведае сонечны свет,
Як нам дораг у росквіце радасны май,
Як я ласкай тваёю сагрэт.

Мы ўлюбёныя сэрцамі ў мір і спакой,
Мы шчаслівыя сённяшнім днём.
Адхінаючы пахкія кветкі рукой,
Мы з табою па садзе ідзём.

*1953*

## НА ДОСВІТКУ

Гукнуў — і з водгуллем і звонам
Па сцежках, высланых дубровай,
Па ціхіх просеках зялёных
Пайшло маё ад сэрца слова.

Яно міне гушчар брусцічны,
Пяройдзе рэкі і азёры,
З далёкім громам навальнічным
У вышыні ўскалыша зоры,

Рассыпле іх з дрыготкім бляскам
На прыдрамаўшую сядзібу
І, адшукаўшы хату, з ласкай
Табе прыветна грукне ў шыбу.

Стаю, сустрэчы ўспамінаю,
Адказу з далечы чакаю.

Калі з-за лесу сонца ўстане,
Раса ўздыміцца залатая
І ранак чысты ў вочы гляне,
Усмешкай яснай прывітае;

Калі засвішча, заспявае
Птушыны свет ля гнёздаў новых
І ўся ваколіца лясная
І поле ў росквіце вясновым,—
Усё абудзіцца, прачнецца,
Бясконцым водгуллем пальецца,—

Дык, значыць, ты мяне пачула,
І заклік мой не адхінула,
І з ім чаканы дзень спаткала,
І мне ў адказ жыццё прыслала.

*1953*

## НА МАРШЫ

Як добра зноў адчуць сябе на маршы!
Шынель у скатцы, фляга пры баку.
Прастор вясны
Бадзёрыць песні нашы.
Дзень добры, лес, дзень добры,
кліч «ку-ку»!

Дзе ні ідзём — усюды дома быццам.
І горн салдацкі трубіць на зары
З аднею марай — каб раслі пшаніцы,
Каб грукаталі ў полі трактары.

Айчына родная! Жыві і слаўся вечна!
І ўсім кажы: пад сцягам агнявым —
З вясною, з песняй
І красой сардэчнай
Сыны твае
на маршы веснавым.

*1953*

## ЗОРКА

Дзе б ні ішоў я: праз лес, па палях, па балотах,
Бачная зводдаля, проста над снежным пагоркам
Ноччу гарэла, іскрылася ў белых сумётах,
Клікала ўперад з пасёлка зарэчнага зорка.

Дыхалі сіверам, сыпалі шротам разлогі,
Вылі завеі, ды я не збіваўся з дарогі:
Хай хоць на міг у акне мая зорка заззяе,
Ведаю: сэрца дзявочае шчыра чакае...

Толькі, напэўна, сябе я запэўніў задужа,
Толькі, напэўна, калісь пабаяўся я сцюжы,
Вечарам ціхім аднойчы за рэчку я глянуў
І, хоць не верыў, трывогу адчуў нечакана...

Дзе ж мая зорка?
— А ты ці не чуеш, юнача,
Грае гармонік, і моладзь вясёлая скача,
Песню вясельную звонка выводзіць музыка,
Вунь — павярніся да вёскі суседняй, зірні-ка...

Гучная песня ляціць бестурботным палётам.
Нібы ў праменнях, іскрацца навокал сумёты.
Як незнаёмаму,
зорка здалёк мне міргае.
Боязна сэрцу
слова пачуць: — Дарагая...

*1953*

## СОНЦА ЎСХОДЗІЦЬ НАД РАКОЙ

Сонца ўсходзіць над ракой —
Хоць вазьмі яго рукой.

Толькі я яго не брала,
Белу свету аддавала,
Полю з лесам, лугавінам,
Сінім рэкам і далінам,
Жыту буйнаму і краскам.
І ўсяму быў мой прывет:
Хай пад сонечнаю ласкай
Прыгажэе белы свет!

Сонца ўсходзіць над ракой —
Праведу яго рукой.

Але ёсць другое сонца:
Ходзіць міма ля аконца,
Ходзіць часта — ўсе глядзяць,
Ходзіць блізка, ды не ўзяць.
Каб змагла, дык сонца гэта
Я ўзяла б навек у света,
Для сваёй бы яснай долі
Поўным сэрцам узяла
І нікому і ніколі
Ні за што б не аддала!

*1953*

## МАЙ

У зеляніне — даляў роўнядзь.
Заліты сонцам небакрай.
І сад зацвіў, і на далонях
Бурштын расы, што кветкі роняць
Гэта — Май.

У сэрцы цесна песні стала...
Што ж, дай ёй крылы, не трымай!

Дзяўчына хлопца пакахала,
І сёння ёй і крылаў мала.
Гэта — Май.

З усёй зямлёю сэрца ў лёце,—
Працуй, шчаслівы свет ствярай!
І думкам весела ў рабоце,
І радасць свеціцца ў турботе.
Гэта — Май.

А ў дзень святочны кліча маці
Гарніста-сына: паспяшай!
Спявае вуліца, і ў хаце
Так прагне сэрца адказаць ёй!..
Гэта — Май.

І радасць коціцца нястрымна.
Вышэй жа сцяг свой падымай!
Ідзе па краі з родным гімнам,
Ідзе з салютам — зараз грымне —
Шчаслівы Май.

*1953*

## ЖУРАЎЛІ

Не ў лясным гушчары,
Не ў палатцы дарожнай,
А ў звычайным,
далёкім ад лесу жыллі
Разбудзіў мяне голас,
Няроўны, трывожны...
Помню добра: крычаць так адны жураўлі.

Гэтак цяжка,
Як восенню толькі магчыма,
Аж ад суму сціскаліся ў доме вуглы,
Дзесь на хмарнай дарозе
расстання з радзімай
Жураўлі не змаўкалі:
— Курлы... Курлы...

Я адзеўся. Не мог я
Адзін больш уседзець.
Невядомасцю клікаў на волю абшар...
Але што гэта?..
Нейкі спалох у суседзяў.
Крык адчаю...
Жанчына... Заплаканы твар...

— Памажыце!.. —
Яна нематліва і строга
Паказала ў акно, дзе агеньчык міргаў.
— Курлы... —
Зноў ударыла ў сэрца з трывогай.
— Там мой хлопчык...
...Хлопчык яе паміраў...

Што з ім стала?
Яшчэ так нядаўна між намі,
Бы на крыллях, ён лётаў,
Цікаўны малы,
А сягоння ледзь-ледзь выпявае губамі
Жураўліную песню...
Курлы-курлы...

Фельчар ціха схіліўся над хворым,
Як быццам
Гэта моўчкі застыла трывога сама.
— Ёсць надзея?
— Яна толькі можа прысніцца...
Заражэнне... — шапнуў ён.— Надзеі няма...

Як няма? Але ж ёсць у малога Айчына,
І, каб знала —
Спакойнай яна б не была!
Тэлефоны, не спіце,
Званіце няспынна,
Тэлеграмы-маланкі, ляціце з сяла!

Ноч цягнулася годам,
Усім так здалося.
А дакладна пра час
Мы сказаць ці маглі?!
Толькі чулі:
Шуміць па-над хлопчыкам восень.
Толькі чулі:
У вырай ляцяць жураўлі.

Так, прырода
Сваю раўнавагу згубіла.
Нават золак ружовіўся
у ціхай журбе.

Мы чакалі...
Ці хопіць у хлопчыка сілы?
Не здавайся! Краіна не кіне цябе!

І ратунак прыйшоў.
Знікні, смерці завеса!
Бой пачаўся, жыццё паднялося на штурм.
На той прыступ
Кідаў сваё сэрца прафесар.
Ён не ўмеў адступаць.
Ён стаяў на пасту.

Смерць часамі яшчэ пагражала малому,
Ды жыцця не спыніла,
Змаглася яна.
Мы адчулі:
Вяртаюцца птушкі дадому.
Зразумелі:
ідзе пераможна вясна!

Хлопчык вочы расплюшчыў
І вымавіў: — Мама...
І ўсміхнуўся ёй,
светлай
Ад радасных слёз.

А прафесар...
Слязы не стрымаў ён таксама...
Хіба дзіва:
Жыццё ён у хату прынёс.

Па-вясноваму сонца
Свяціла ў блакіце,
Дзе хмурынкі ружовыя ціха плылі...
Ці не чуеце вы, дружбакі,
Адкажыце,
Як спяваюць
Ля гнёздаў сваіх
жураўлі?

*1953*

## ЖЫВЫ ЛЕНІН

Хоць прайшла па зямлі хваля смутку цяжкая,
Абвіваючы крэпам
агонь кумача,—
Не пакінуў нас Ленін. Штодня сустракаем
Мы ў жыцці ясны позірк свайго Ільіча.

Ён — у велічы партыі, з ёй неразлучны,
Мудрым словам вядзе нас у будучы век.
Стала шчасцем для кожнага —
быць яго вучнем,
Горда звацца, як зваўся і Ён,— Чалавек.

І калі ў непаўторным вялікім паходзе
За народнае шчасце пральеш сваю кроў,
Людзі скажуць:
— Жыве тваё сэрца ў народзе,
Ты, як Леніна сын, у бяссмерце ўвайшоў!

*1954*

## ПРЫВЕТ УКРАІНЕ

З беларускай зямлі,
як ад роднага сына,
Украіна, прывет мой прымі.
Люба нам тваю радасць вітаць, Украіна,
У шчаслівай савецкай сям'і.

Трыста год з таго слаўнага часу мінула,
З той пары векапомнай, калі
Ты з Расіяй па-роднаму строй свой самкнула
На любімай для сэрца зямлі.

Трыста год... Але гэта — не простыя годы.
Бо ад першых жыццёвых крыніц
Аб'яднаны мы любасцю з рускім народам,
З ім да светлых ішлі зараніц.

Трох народаў сышліся шляхі векавыя
У адзін, што да шчасця прывёў.
Гадавала, як шчырая маці, Расія
Беларусі, Украіны сыноў.

Гадавала і кожнаму ясную долю
На шляхах вызвалення дала,
Акрыліла і ў бітвах за годнасць і волю
Да сусветных вышынь узняла.

Хай жа мужная дружба народаў мацнее,
З ёй наперад не страшна ісці.
Сцяг любімае партыі нам палымнее,
Асвятляе дарогі ў жыцці.

Дзелім радасць сягоння з усёю краінай
Мы ў шчаслівай савецкай сям'і.
З беларускай зямлі, як ад роднага сына,
Украіна, прывет мой прымі!

*1954*

## ПАДАРУНАК

На развітанне, калі урачыста і проста
Мы пацiснулі рукі за брацкім гасцінным сталом,
Дарагія сябры-кіяўляне ў адзнаку сяброўства
Падарылі мне кніжку — Шаўчэнкі іх роднага том.

— Вось,— сказалі яны,— як захочаш
пагутарыць з намі
Ці калі непагодаю смутак ударыць у твар,—
Толькі Кіеў успомні, і з'явімся мы прад вачамі,
І спяе табе песню, сардэчную песню кабзар...

Так па новай дарозе прыйшоў у мой горад са мною
Той, хто часта, як бацька,
у сэрца й раней заглядаў,
У казацкай папасе,
з трывожнай і звонкай струною,
З ціхім словам, якому душу ўсю аддаў.

Разам з ім прыгадаем мы стэпы Украіны,
Шыр Дняпра, дзе сягоння ўсе думкі мае,
Я ў праменнях і кветках каханую ўспомню
дзяўчыну,
І кабзар зразумее і словамі ласкі пяе:

У гаю, гаю
Вітру немае;
Місяць високо,—
Зіронькі сяють.
Вийди, серденько,—
Я виглядаю;
Хоч на годину,
Моя рибчино!

Ці пачула яна? Гукі ўзрушана ўдаль адлятаюць.
Як на крыллях, імкнуцца
да ўспененай хвалі Дняпра.
Так, пачула, пазнала і песню здалёку вітае,
Бо ўжо зноў загучала струна кабзара.
І нібы не было паміж намі расстання,
Быццам я толькі што між сяброў пабываў,—
Гэта шчырае шлюць прывітанне і Кіеў і Канеў
У мой край,
што на бітвы заўжды поплеч з імі ўставаў;

У мой край, дзе народнае шчасце заззяла,
Як і там, на Украіне, у радасны сонечны час,
Дзе — як там беларускаю мовай Купала —
Украінскаю мовай нас грэе Шаўчэнка Тарас...

*1954*

## ЛОСЬ

Дзе гурт асін на горку ўзбег,
Наш абкружыўшы дом,
Лось разграбаў сыпучы снег
Зялёным капытом.

Сухі брусні́чнік, мяккі мох,
Чубкі салодкіх траў,
Ядлоўцу лапкі — ўсё, што мог,
Між дрэў ён выбіраў.

Але вятры ўсё больш мялі,
Мароз каваў груды,
І хутка зніклі на зямлі
Ад восені сляды.

Буран бязлітасна намёў
Суцэльны ўсцяж сумёт,
І вось аднойчы лось прыйшоў
Да нас на агарод.

Ён доўга стоена маўчаў
Высозным вартавым,
Як быццам пільна вывучаў
Акно і з хаты дым,

Трывожна, мусіць, думаў ён:
Далей яшчэ ці йсці? —
І раптам знік, нібы той сон,
У гушчары-трысці.

Сказаў нам бацька: — Значыць, госць
Не прыйдзе больш сюды,
Відаць, трывога ў госця ёсць,
Баіцца, бач, бяды...

А мы ўсё верылі чамусь,
Што вернецца ён зноў.
Нямёрзлых на граду яму
Прынеслі качаноў,

Вады ў карыта налілі,
Паклалі сена жмут.
І самі хуценька ўцяклі
За сенцы ў цёмны кут.

І ён прыйшоў сюды, прыйшоў!
— Глядзі! — шапнуў мне брат.
Лось вёў з сабой таварышоў:
Двух стройных ласянят,—

Між елак тых, дзе снег таптаў,
Да нашых вёў дароў
І клічам радасным вітаў
Нас, як сваіх сяброў...

*1954*

## ПАЧАТАК РАКІ

Ніхто не думаў, што такі
Пачатак светлай той ракі,
Дзе горад наш, дзе мы жывём,
Дзе школы нашай родны дом...

Ішлі мы праз лясы, палі,
Здавалася — праз цэлы свет,
Пакуль сярод лугоў знайшлі
Рачулкі ледзь прыкметны след.

Нібы па нітачцы, па ёй
Далей мы крочылі ў паход.
І раптам — бачым прад сабой
Крынічку, дзе струмень, як лёд.

Імкне струмень, звініць струмень,
Над ім — крушын і вольхаў цень,
Пад ім — пясочак залаты,
А паабапал — чароты,—

І ўсё, і гэта й ёсць такі
Пачатак светлае ракі,
Дзе горад наш, дзе мы жывём,
Дзе школы нашай родны дом.

Стаім, задумаўшыся, ўсе:
Няўжо магчыма, каб з такой
Крынічкі — вырас пакрысе
Паток — і слаўнай стаў ракой?

Пачулі словы мы тады:
— Сябры, запомніце навек,
Што без такой малой вады
Вялікіх не бывае рэк;

Вось я настаўнік ваш, а я
Калісьці быў такі, як вы,
Таксама здзіўлена стаяў
Каля крынічкі між травы.

Але прыйшоў з гадамі час,
Край узрасціў і ўзняў мяне,
Каб сёння я прыйшоў да вас
І вёў па сонечнай вясне.

І я хачу, каб кожны знаў,
Не забываў, успамінаў,
Што ён — крынічны той струмень,
З якога вырасце рака,
І новы свой сустрэне дзень
Вачмі героя-юнака.

*1954*

## ПРА БРАЦІКА І СЯСТРЫЧКУ

Правёў сястрычку ў школу брацік
І сціх каля акна.
Сумуе.
— Кінь,— сказала маці.—
Ды вернецца ж яна.
А ты гуляй, буквар бяры,
Глядзі малюнкі ў буквары.

Але яму няма ніякай
Цікавасці ні ў чым.
Сядзеў, маўчаў і вось — заплакаў,
Рабі што хочаш з ім.

Пазнаць, пра што яго трывога,
Не лёгка ў гэты міг.
Ледзь дамагліся ад малога,
Каб ён нарэшце сціх.

У нейкі новы свет дзівосны
Пайшла сястра яго.
І хлопчыку было зайздросна
І сумна ад таго.

І толькі ўдзень, калі са школы
Такая ж, як заўжды,
Прыйшла яна — ён стаў вясёлы,
Дзе й след ад той бяды.

Калі ж яна за стол прысела
Рабіць свой першы ўрок,—
У сэрцы хлопчыка гарэла
Да спраў яе незразумелых
Любоў, як аганёк...

Дык вось, сябры мае, рабяты,
Са школы — вас прашу —
Ідзіце ўсе хутчэй дахаты,
Аб тым і верш пішу.

Бо не адзін маленькі брацік,
Сястрычка не адна
Чакаюць вас у ціхай хаце,
Сумуюць ля акна.

*1954*

## ВЯСНА-КРАСНА

Плячысты дуб,
І рослы клён,
І стройная сасна
Шумяць-пяюць,
Што зноў прыйшла
Да нас
Вясна-красна.

Шумяць-пяюць:
— Вясна-красна,
Ты — сонца, ты — жыццё,
Паклон табе
За ясны дзень,
За новае лісцё!

— Паклон, паклон
Вясне-красне! —
Пяюць на ўсе лады
Жыты на полі,
І рака,
І пожні, і сады.

І спеў іх
Слухае вясна —
Зямлі адданы друг —
І, шчодрая,
Нясе красу
Усім, усім наўкруг:

Сядзібам — квецень,
Рэкам — сінь,
Палям — зялёны ўбор.
А нам,
А сэрцам маладым —
Шляхі ў бязмеж-прастор.

Куды ні пойдзем —
Знойдзем мы
Жыцця цудоўны скарб:
Для песень — музыку,
Для спраў —
Святло
Вялікіх мар,

Для дружбы —
Шчырасць і цяпло,
І радасць не адну...
Ідзём жа
Песняй сустракаць
І мы
Вясну-красну.

— Вясна-красна,
Вясна-красна,
Паклон табе, прывет!
Прыйшла ты ў наш
Любімы край,
Хай нам
Зайздросціць свет!

*1954*

## ЖАВАРАНАК

Жаваранак, жаваранак,
Птушачка-іскрыначка,
Галасок — як срэбра звон,
Як прамень — пярыначка.

Жаваранак, жаваранак,
Наша радасць весняя,
Падымі ты нас, гукні
Срэбна-звонкай песняю.

Падымі нас, правядзі
Па зямлі разбуджанай —
Дзе праталіны ў палях,
Дзе на лузе — лужыны,

Дзе на рэках ледаход
Весела ўздымаецца,—
Дзе вясновае пары
Ўцеха пачынаецца!

Жаваранак, жаваранак,
Птушачка чароўная...
Не сціхай, звіні, звіні,
Песня, ласкі поўная!

*1954*

## ЗАСІНЕЛА НЕБА, ЗАСІНЕЛА

Засінела неба, засінела,
Ранак настае.
Маладая маці ў ціхай хаце
Песеньку пяе:

«Спі, сынок, яшчэ ўставаць зарана,
Сонца яшчэ спіць.
На крылах заранак-вераснянак
Дзень да нас ляціць.

Сні свой сон пра зайку, пра лісічку,
Пра гняздо ў лісці.
Разбудзіла я тваю сястрычку,
Ў школу ёй ісці.

Ведаю, хацеў ты разам з ёю
Крочыць сёння ў клас.
Толькі ж ты, дзіцятка дарагое,
Самы меншы ў нас.

Але хутка і цябе, мой любы,
Ў школу я збяру,
І цябе паклічуць горны-трубы
Даганяць сястру».

Засінела неба, засінела,
Ранак настае.
Маладая маці ў ціхай хаце
Песеньку пяе...

*1954*

## СПАРЫШЫ

### Усходняя легенда

Ці чуў ты сказ пра спарышы?
Калі цікава — запішы...

Калісьці — кажуць людзі — тут,
Дзе зараз бачыш ты палі
З бавоўнаю ды збажынай,
Дзе сад цяпер па-над ракой,
Быў нелюдзімы сумны кут,
Адны каменні і раслі.

Крутыя хібы леднікоў
Пад неба ўзносілі вяршыні,
А ўнізе — ўсцяж, спакон вякоў
Плылі, куды вачмі ні кінеш,
Пяскі;
І не было жыцця расліне
У мройнай, выцвілай даліне.

Журботны лёс не ведаў змены.
А дзесь пад самым небам з пенай
Рака ляцела паміж гор,
І за вяршынямі-хрыбтамі,
Прабіўшы выхад на прастор,
Ўдалі злівалася з марамі.

Вось каля гэтых гор крутых
Жылі ў час даўні два браты.
Абодва мелі добрых дзетак,
Ды гора не ішло ад іх:
Як ні пасеюць свой палетак,
Пад сонцам ён змарнее ўміг —
З пустыняў прыйдуць сухавеі,
І ўсё навокал азалее...
Ці доўга так жылі ці не
Браты, ды неяк па вясне
Сказаў старэйшы з іх, асілак:
— Ідзём, мой брат, мы маем сілы,
Каменні скрышым і ў даліну
Раку скіруем праз цясніну...
— Што ты, браток, куды ісці,
У нас жа дзеці; ў іх жыцці
Бяда якая можа стацца,—
Малодшы мовіў...
З ім спрачацца
Брат не схацеў, і без дакораў
Пайшоў адзін — увысь, у горы...

Вось дзень за днём ідуць, мінаюць...
Брат брата ўсё дамоў чакае...
І цяжка на душы ад суму,
І жаль у сэрцы зноў і зноў:
— Чаму ён з братам не пайшоў? —
З такою неадступнай думай
Нарэшце ён кідае хату,
Спяшае на падмогу брату.

І бача ён: над самай кручай,
Дзе толькі што арлу кружыць,
Брат мёртвы ля скалы ляжыць;
Адна яна рацэ равучай
Ў цясніну ходу не дае...
Ды не адолеў брат яе...

Заліўся тут бядак ад гора
Слязамі братняе віны.
Дзень дагарэў, і ў небе зоры,
Як сумнай ночы вестуны,
Заззялі зноў. А небарака
Сядзеў на камені і плакаў.
Усё згадаў ён і нанова
Душой гаротнай перажыў:
І як ён братам даражыў,
І як іх лёс круціў сурова,
І як яны заўсёды ўдвох
Пра шчасце марылі...
Ад болю
Душа сціскалася ўсё болей:
Чаму ён брата не ўбярог?!.

І столькі ў братніх слёзах жалю
Было, што, кажуць, як упалі
На сцежку горную яны,—
Так загрымелі валуны,
Што мёртвы іх пачуў... Прыўзняўся
На міг і з братам развітаўся:
— Даканчы справу нашу, брат,
Каб хоць па смерці быў я рад...

І ўстаў тады магутны волат
На бітву з чорнаю скалой.
Як быццам стопудовы молат
Быў у яго ў руках, як быццам
Скалу ламала навальніца,—
Так брат малодшы біўся з ёй...
І рухнула яна ў прадонне.
І з гулам радасным рака
Ў цясніну хлынула; цяснінай
Сышла наніз — і па сягоння
Шуміць тут бурна і няспынна
І дорыць воды арыкам...
Але загінуў пад скалою
І меншы брат.
І двух герояў
Той вызвалены рэчкі хвалі
Навек абдымкамі з'ядналі...
Каб назаўжды, на ўсе гады
Мы дачакаліся вады...

Як ажыло адразу поле!
Зямліца родная!
                    Ніколі
Тут не было такой красы:
Напіўся дол жывой расы,
І ўскінулася ніва тут,
Зазелянела прад вачамі,
І гэта быў, браток, не цуд,
Не! То зярняты, што гадамі
У глебе чахлі — прараслі,
Да сонца шлях сабе знайшлі.
Пара настала — і пшаніца
Пайшла буйнець і каласіцца.
І мела кожная сцябліна
Два каласы.
Як два браты,
Яны ўзрасталі і гасцінна
Страчалі ранак залаты,
Калі сыходзіў ён з вяршыняў
Ды крочыў з сонцам па даліне.
І ноч з цяплом яе расы
Віталі браткі-каласы,—
Так узрасталі, красавалі
І наліваліся ў цішы.
І людзі з ласкаю назвалі
Іх, самых родных,— спарышы...

З тых дзён далёкіх шмат на свеце
Змен адбылося: узраслі
Братоў загінуўшых тых дзеці.
І долю ўсе сабе знайшлі.
Не на малым цяпер палетку
Расце іх хлеб:
Глядзі, які
Абшар навокала ракі!
Як зашуміць пшаніца ўлетку,
Як закрасуюць спарышы,—
Спеў нараджаецца ў душы.
Жывём у родным краі вольна,
Працуем радасна, супольна,
Бо сэрцам змалку і навек
Адчулі мы: каб у краіне
Цвіло жыццё, заўжды павінен
Захоўваць вернасць чалавек.

І шчасцем будзеш ты багаты,
І ўнікнеш гора і нягод,—
Адно ідзі аддана з братам
На справу добрую ў паход!

*1954*

## ПРАДАВЕЦ ВІНАГРАДУ

— Няма ім цаны,
Няма ім цаны,
Дарам Ферганы,
Дарам Ферганы! —

Ходзіць, спявае,
вясёлы і рады,
Рослы узбек, прадавец вінаграду.

Чынна адважвае скарб свой паўднёвы,
Кожнаму знойдзе сардэчнае слова,
Гронку цяжкую
падорыць дзяўчыне,
Ў хлопца-саперніка
кпінаю кіне,

Прыказку скажа, навокал: — А-яй!
Вось весялун, хоць ты сэрца аддай!

І немагчыма, зусім немагчыма
Міма прайсці — без саляма [1] Карыма,
Гордасць узбека адчуеш ураз —
Быццам сваю,
за ферганскі калгас.

Цісну руку свайму новаму другу,
Слаўлю яго маладую акругу:
— Няма ім цаны,
Няма ім цаны,
Дарам Ферганы,
Дарам Ферганы!

*1954*

---

[1] Салям — прывітанне.

## САМАЛЁТ

Самалёт загрымеў над сялом у блакіце,
Аж пад сонцам крыламі два воблачкі выцяў
І ў піке ірвануўся маланкай-стралой.
А наўкола ўсе людзі, што зведалі войны
І бамбёжак жуду,— засталіся спакойны,
І бабуля прамовіла:
— Гэта мой...

Да яе — так паважна, каб не рассмяяцца,
Маладыя, вясёлыя, дзе ім стрымацца! —
Падышлі, падступілі дзяўчаты гурбой.
— Ох і вочы ж у нашай бабулі, і вочы ж!
— Свайго сына крылатага ўбача дзе хочаш!
— Ён па радыё, мусіць, гаворыць з табой?..

— Што ж,— яна адказала ім: —
Бачу і чую...
Чую: голуб стары без трывогі буркуе,
Чую: з песняй у полі працуе народ,
Бачу: ўнукі вядуць сярод жыта камбайны,
Бачу: весела вам, дзеркачы, як звычайна...
Дык і ведаю добра: яго самалёт!..

*1954*

## СЫН

Правяла яго матуля
Да вакзала.
— Што ж, сынок, глядзі... —
Ўсяго толькі сказала.

— Ты ж глядзі!.. —
А што — і выказаць не ўмела.
Але сыну
Ўсё дарэшты зразумела.

Тое, што яна
Збыла-прагаравала,
Што прадумала,
Пра што ў жыцці гадала,

Чым свяцілася ёй
Кожная хвіліна,—
Хто ўсё гэта знае
Лепей сына?

— Добра, мама! Добра!..
Не журыся... —
Ціха праказаў,
А словы з сэрца высек.

Ведаў ён,
Пра што матуля марыць,
Чым яе парадаваць
Пад старасць.

*1954*

## НАВАЛЬНІЦА НАД ПОЛЕМ

Гром з чорна-белай хмаркі ўдарыў глуха.
І ўсе спынілі працу: першы гром!
І кожны з радасцю і ўздымам слухаў,
Як водгалас каціўся над сялом.

А хмарка разрасталася, паўнела,
Паўнеба хутка-хутка абняла,
І вось — пайшло: усё, што толькі мела,
Людзям шчаслівым хмарка аддала.

Дождж — не такі, што свет імглою крые,
А светлы, цёплы, парны — веснавы —
Паіў на полі ўсходы яравыя,
Збіваў на поплаве пясок з травы.

— Красуй, зямля! — як бы казала неба.
І бачылася нам з далечыні
Жніво: у новых свірнах поўна хлеба,
А ў сэрцах песень — толькі распачні.

І хоць мы знаем, што такое будзе
Пасля нялёгкай працы і клапот,
А ўсё ж такі прыемна,— кажуць людзі,—
Калі па-добраму пачнецца год.

Дождж прашуміць — і ўраз свяжэй на свеце.
Спакойнага куточка не знайсці.
Малыя нават з хат павыйшлі дзеці,
Каб як хутчэй прыгожымі ўзрасці.

*1954*

## ДРУГУ

Друг, калі ты ў вёсцы будзеш,
Занясі паклон зямлі,
На якой, як мы раслі,
Нам дарылі ласку людзі.

Пакланіся ўсім руплівым
Той зямлі гаспадарам,
Што заўжды жадалі нам
Долі яснай і шчаслівай!

Там цяпер у родным полі
Не сціхаюць трактары,
Ад зары і да зары
Гулам поўніцца прыволле.

І ніхто з людзей, магчыма,
І не здзівіцца, што ты,
Можа, з тысячнай вярсты,
Мо прайшоўшы ўсю Радзіму,

Зноў вярнуўся к родным гоням.
Толькі знаю: землякі
Добрым поціскам рукі
Там цябе сустрэнуць сёння.

Бо і ўбачаць, і адчуюць,
Для чаго ў бацькоўскі край
Сэрца шчырасць маладую
Ты прынёс у гэты май.

*1954*

## ПАЛЬМЫ

Прасілі высокія горы,
Вятрам засланяючы пуць:
— Не вейце,
Не вейце вы, вольныя ветры,
Не вейце, хай пальмы растуць.

Вятры прыпыніліся, змоўклі,
Ў даліны прыйшла цішыня.
— Ці добра,
Ці добра вам дыхаць тут, пальмы,
Пад сонцам маўклівага дня?

І горы, і мора, і неба
З іх ласкай — усё для вас ёсць.
— Расціце,
Расціце без клопатаў, пальмы,
Гадуйце сваю прыгажосць.

Але не адказваюць пальмы,
Змагліся яны ад тугі.
Сябры ім,
Вятры ім вясёлыя сняцца,
З дажджамі на крыллях тугіх

Нашто тыя пальмам блакіты,
Калі без расінкі яны?
Нашто ім,
Нашто ім спякотная ціша,
Калі ў ёй маркоты адны?

Ніщто не заменіць ім ліўняў,
Густых ручаін на зары,
Ніщто іх,
Ніколі ніщто так не ўсцешыць,
Як песняй прастораў вятры.

І зноў бы падужацца з імі,
Спагаду ў іх сіле адчуць
І лёгка,
І лёгка пад громам вясновым
На поўныя грудзі ўздыхнуць!..

Так марылі пальмы ў далінах.
І горы не ў крыўдзе на іх.
— Ідзіце,
Ідзіце вы, вольныя ветры,
Да шчырых сяброўак сваіх!

*1954*

## ДЗЕЦІ

Не дадуць як належыць
Нават дню распачацца:
Яшчэ досвіткам звыклі
Яны прачынацца.

І бывай, цішыня,
І хавацца не след:
Што прад імі фанерны
Мой кут-кабінет?

Уварвуцца і просяць:
Прачытай, калі ласка,
Ім іх новую кніжку,
Там іх новая казка;

Адгадай, хоць памры,
Іх загадкі і сны:
Дзе яны пабывалі,
Што знайшлі там яны...

Дапякуць — так, што ўцёк бы,
Здаецца, са света...
Але вось за зімою
Прыходзіць і лета,

Кліча зноў да сябе
Іх у вёску радня...
І настала
ў кватэры маёй
Цішыня.

Ані крыку, ні смеху,
Ані шуму, ні тлуму —
Ці чытай сабе кнігу,
Ці сядзі сабе думай,

І пішы, брат, пішы,
Колькі сэрцу мага.
Але што гэта раптам? —
Адкуль жа туга?..

І зямля — усё тая ж,
І вясна — усё тая,
А табе — і не ўздумаць —
Чагось не хапае.

Колькі дзён ужо ліст
І не бачыў пяра,
І чарніла ў чарніліцы
Быццам кара...

Але вось яны з вёскі
Зноў вярнуліся — ў госці,—
І адчуў я крыніцу
Сваёй весялосці:

Хоць усё неўпапад,
Не стрымаць непасед,
Хоць ізноў мой фанерны
Трашчыць кабінет,

Але сёння кажу я
Ўсім людзям на свеце:
Я б не знаў, як мне жыць
І нашто, каб не дзеці.

З імі радасць мая,
Я кажу гэта ўсім,
І не трэба мне іншага
Шчасця зусім!

*1954*

## ЯНЫ

Яе ў машыне «хуткай дапамогі»
Прывезлі ў клініку. І наказалі ёй
Быць мужнай. Хоць ад смутку і трывогі
Яна не чула сувязі з зямлёй.

Чужыя людзі з ласкаю і ўцехай
Шапталі ёй: «Ты будзеш не адна...»
А той, каго кахала, не прыехаў...
— Няма?.. Не будзе... —
трызніла яна.

Жыццё магутнае ёй падарыла сына.
І хоць яшчэ маўчаў ён, як нямы,
З ім горда выйшла ў свет пасля пакут жанчына
І ўпэўнена сказала слова: «Мы».

І ўсе, хто бачыў іх хвілінай тою,
Хто іх вітаў і хто глядзеў крадком,—
Адчулі, што яны не проста — двое,
А ўжо — сям'я, і гэтаю сям'ёю
Гаспадарамі ў свой увойдуць дом!

Настане час, да сына прыйдзе мова;
Навучыцца ён сэрца разумець.
І як жа стрэне ён таго сурова,
Хто не хацеў сягоння іх сустрэць...

*1954*

## ПАХ ЧАБАРОВЫ

Не прыдумаю сама,
Што са мной здарылася:
З працы сёння йшла дамоў
І з дарогі збілася.

Мне б ісці каля ракі.
Я ж пайшла дубровай,
Галаву маю кружыў
Пах чабаровы.

Я ішла ўсё ды ішла,
Аж пакуль сумелася.
І не ведаю сама,
Як з Ігнасем стрэлася.

А Ігнась жа — ён са мной
Ды такі суровы...
Не кружы ты галавы,
Пах чабаровы!

Хлопец глянуў на мяне —
Я аж здрыганулася.
Але што са мной? Чаму
Да яго схіпулася?

І чаму так мілы мне
Прывітання словы?
Кружыць, кружыць галаву
Пах чабаровы!..

Неба ззяла над зямлёй
Яркай вечарніцаю.
Доўга мы сядзелі з ім,
З любым, над крыніцаю.

Толькі ціхія дубы
Чулі нашы змовы...
Ой, вясна мая, вясна,
Пах чабаровы!

Што скажу матулі я,
Як часінай позпяю
Я з'яўлюся перад ёй,
Ласкавай і грознаю?

Што скажу, схаваю як
Водар той дубровы?
Я ж у хату прынясла
Пах чабаровы...

*1954*

## ТВАЯ ПЕСНЯ

Расчыніце ўсе дзверы насцеж,
Сэрцы ў новы палёт падрыхтуйце!
Над прасторамі —
Чуеце? Чуйце! —
Нараджаецца песня аб шчасці.

Сад дацвіў, і гарачае лета
Напаўняе ўжо сокамі завязь,
Звонам пчол, крыкам ластавак славіць
Даль зялёную роднага света.

Жыта ціхім было яшчэ ўчора,
А сягоння шуміць каласамі,
Разлілося жытнёвае мора
І злілося з лугамі, лясамі.

Колькі тут маладога прыволля,
Колькі ўсцяж прыгажосці для мары!
Дай руку, дарагі мой таварыш,
Гэтых дзён не забыць нам ніколі.

Можа, ты іх сама не пазнала,
Я ж пачуў — у бясконцым і звонкім
Шуме-гомане роднай старонкі
Словы песні, што ты праспявала.

Словы песні пра нівы і рэкі,
Пра зямлю, што сваімі рукамі
Мы ўпрыгожылі, каб юнакамі
З ёй застацца навекі, навекі!..

*1954*

## РАНАК У ПОЛІ

Аж да ранку грымела
Ў палях навальніца,
Ды не здолела
Сонца на ўсходзе спыніць.
Зноў вясёлая рунь
Чыстым срэбрам іскрыцца,
Зноў над полем
Бадзёрая песня звініць.

Як смяецца прастора,
Якззяе навокал!
А блакіт —
Здэцца, хрусне, ледзь толькі крані.
Столькі ўсюды святла,
Што аж жмурыцца вока,
Не ўвабраць яму
Ўсёй палявой чысціні.

Далягляд —
Нібы ветразь зялёны напяты:
У праменнях плыве
Ў сваё шчасце зямля.
З добрых рук чалавека
Прымае зярняты,
Падарункам вясновым
Прымае ралля.

І, відаць,
Адчувае зямля нашу любасць,
Нашу веру —
Багаццем праславіць яе,—
Бо вятрамі пяшчотна
Цалуе у губы
І штодня прыгажэйшай
Прад намі ўстае.

*1954*

* * *

Сонца, і вецер, і ліўні
Пахнуць губамі тваімі,
Вочы твае мне смяюцца
З ласкавай плыні ракі.

Крыкну — і рэха здалёку
Гучна нясе тваё імя,
З кім павітаюся — чую
Поціск любімай рукі.

Светам праменным і гулкім,
Шчодрым і радасна-простым,
Светам юнацкае веры
Ты адкрываешся мне.

Людзі спытаюць, напэўна:
— Што тут? Любоў ці сяброўства? —
Я ж не падумаў пра гэта,
Гледзячы ў вочы вясне.

Ведаю толькі, што ранак
З песняй тваёю прыходзіць,
Дзень, калі ў поле ты крочыш,
Поўніцца ясным святлом,

Колеру воч тваіх вечар
Звонка плыве ў карагодзе...
Ведаю: ўстала, як шчасце,
Перад маім ты жыццём...

*1954*

## ТЫМ, ХТО Ў ДАРОГУ ЕДЗЕ

Усім, хто ў дарогу едзе,
Хто блізкі і родны нам,
Сваім землякам, суседзям,
Сяброўкам і дружбакам,
Хто думкай і сэрцам шчыра

Імкнецца ў бязмежны час,
Сёння на развітанне
Гэткі даём наказ:
— Не забывайце нас!

На землях Сібіры, Алтая,
Там, каля Сыр-Дар'і,
Будзеце вы, мы знаем,
У добрай, сваёй сям'і.
І ўсё ж, калі цяжка стане
Вам на якой пары,
Згадайце, што ёсць на свеце
Верныя ў вас сябры.

Тыя, з якімі разам
У ранак юнацтва ішлі,
І першы смутак спазналі,
І першую радасць знайшлі,
З якімі ўслаўлялі працай
Родны завод ці калгас,—
Згадайце пра нас, гукніце,—
І мы падтрымаем вас!

Няхай дзесь на новых месцах,
Дзе ласкі чакае стэп,
Няхай вам жывецца шчасна,
Хай будзе салодкі ваш хлеб,
Няхай ураджайныя нівы
На ўсіх устаюць палях!
А зараз — яшчэ вам жадаем
Шчасця ў далёкі шлях.

*1954*

## АДКАЗ

Схіліўся ля пянька, нібы ў траншэі,
Ля трактара над спыткам трактарыст.
І піша ліст.
Душы сваёй надзеі
Ён укладае сёння ў гэты ліст.

— Каханая!.. —
Ён пачынаў пісьмо,
А скончыў —
Нібы апала хмарка на траву...
— Калі хоць раз
Зірнеш другому ў вочы,
Дык так і знай — я не перажыву...

Ліст паляцеў
Праз стэп і цераз горы,
Знайшоў
Свой запаветны адрасат.
І вось дзяўчына
Пра сяброва гора
Чытае ліст
Употай ад дзяўчат.

Чытае ліст і думае дзяўчына:
Як адказаць,
Як даказаць яму,
Што ён — сярод усіх-усіх —
адзіны,
Што верная
Дзяўчына
аднаму?

Прыйшла дамоў,
Трывожна стала ў хаце.
— Пра што, скажы,
ты думаеш, дачка?.. —
Пра што?..
Хіба спытаць парады ў маці?..
— Ліст атрымала...
Ліст ад дружбака...

Паслухала старая, запытала:
— Кахаеш?
— Так...
— Дык што ж з табой рабіць?
Пісаць пісьмо —
па-мойму, гэта мала...
Я думаю —
вам трэба разам быць...

Матуля! Маці! З радасцю дзяўчына
Прыпала да матуліных плячэй.
Хутчэй збірацца!
Кожная хвіліна
Мне дарага цяпер!
Хутчэй, хутчэй!..

Я б расказаў — якія песні пелі,
Праводзячы дзяўчыну ў дальні край,
І думкі як хлапечыя ляцелі
За ёй — прыгожай, светлай — на Алтай.

Як там, у новым доме на Алтаі,
Вясельныя ўздымаліся каўшы...
Але мне кажа песня маладая:
— Нашто каўшы — пра сэрцы напішы,

Ты дружбу ўслаў юнацкую навечна,
Гукай усіх, каб вечна сярод нас
Вось так было:
Каб шчыры кліч сардэчны
Сабе знаходзіў радасны адказ!

*1955*

## ЯШЧЭ АДЗІН ДЗЕНЬ

Яшчэ адзін дзень адыходзіў,
Як кажуць звычайна,— у вечнасць,
І я пры расстанні з ім
думаў:
А што ён для сэрцаў прынёс?
Якую апошнюю хвалю
Ён кіне ў паток быстрацечны —
Паток весялосці і смутку,
Бяздоннага шчасця і слёз?

Яшчэ адзін дзень адыходзіў,
Спакойна свяціўся зарою,
Гарэў-адцвітаў над палямі,
Над цішаю пушчаў і рэк.

І я падымаўся з ім разам
Над роднай, над любай зямлёю,
Над тымі на свеце шляхамі,
Дзе сёння прайшоў чалавек.

І з радасцю бачыў я нівы,
Што закрасавалі ў дзень гэты,
На дрэўцах — зялёныя стрэлкі,
І наваселлі ў дамах,
І кветку, што ў сонечным садзе
Сабою ўпрыгожыла лета,
І цёплыя, шчырыя ўсмешкі,
У добрых, у ясных вачах.

І так мне хацелася крыкнуць:
— Паверце, сябры мае людзі,
Я дзень не дарэмна таксама
Пражыў, каб ісці сярод вас!
Ды дзень мне сказаў на расстанне:
— За мною дзень новы прыбудзе,
Тады ўжо і скажаш. А сёння
Не трэба. —
І ціха пагас.

*1955*

## ЯК ПАЙШЛО МАЁ СЭРЦА

Як пайшло маё сэрца па беламу свету
Пакланіцца зялёнаму беламу лету,
Пакланіцца палям, і лугам, і барам,
І ўсім людзям — маім непаўторным сябрам.

Як там сталі даваць майму сэрцу дарункі:
Дзень — праменні аддаў, ночка — з зораў карункі,
Бор — сасновы свой звон, поле — ясную даль,
Луг — свой водар, а людзі — і радасць, і жаль.

Як прыйшло маё сэрца ў мяне запытацца:
Што рабіць, каб з багаццем такім не расстацца?
Я задумаўся сам: што рабіць, што рабіць,
Каб няпраўдаю сэрца сваё не разбіць?

Як задумаўся я, як паслаў свае мары
У блакіты нябёс, у зямныя абшары,
Ва ўвесь свет — дзе мужнее людская сям'я,—
Стала ясна мне бачна, дзе праўда мая.

— Як ты пойдзеш далей,— я сказаў свайму
сэрцу,—
Нясі песню жыццю і не знайся са смерцю,
Нясі сонца туды, дзе мяцеліць зіма,
Нясі радасць таму, ў каго сёння няма.

Як пайшло маё сэрца — ні многа ні мала,
Можа, год, можа, болей па свету блукала.
А калі мы сустрэліся ў ранне адно —
Яшчэ болей багацця прынесла яно.

Як мы стрэліся, сэрца не стала пытацца,
Што рабіць, каб з багаццем такім не расстацца,
Знала: трэба няспынна ісці і ісці —
Несці скарбы ў жыццё, каб іх мець у жыцці...

*1955*

## МНЕ Б АДНО ТОЛЬКІ СЛОВА...

Мне б адно толькі слова
Для песні маёй непрапетай —
Такое, якія раджаліся
Ў ленінскай светлай душы,—
І ні громы, ні буры
Яе не спынілі б над светам,
І агню яе плыннага
Ў свеце б ніхто не стушыў.

Мне б адзін толькі позірк —
Жыццё дарагое акінуць —
Позірк ясны, імклівы,
Як з мудрых вачэй Ільіча,—
І абняў бы я ўсё:
І сваю залатую айчыну,
І планеты, і сонца,
І сполах камет па начах...

Мне б адна толькі ўсмешка
Для сэрца майго маладога —
Такая, якой правадыр
Падымаў чалавецтва ў паход,—
І прыйшла б мая радасць
Да кожнага ў свеце парога,
Растапіла б усюды
Халоднай суровасці лёд!

Мне б адзін толькі век...
Не, не век, мне і веку замала,
Каб апець сваю любасць
Да шчасця майго — да жыцця,
Што мяне нарадзіла
І ўзгадавала
І дало мне расінку
З мора ленінскага пачуцця...

*1955*

* * *

Я аб радасці і весялосці
З першых дзён свае песні спяваў.
Але раптам сказаў мне хтосьці:
— Раскажы, як я сумаваў...

У павазе да сябра-героя
Я прымусіў пачуцці свае —
На маркотны лад ліру настроіў,
А яна — ўсё аб шчасці пяе.

Я збіваць яе болей не ўстане,
Хай спявае па-свойму сама.
Можа, ў вочы мне смутак і гляне,
А ў душы яму месца няма.

*1955*

## У ЦЁТКІ ГАНУЛІ

У цёткі Ганулі чатыры дачкі,
Прывабныя дочкі ў Ганулі!
Забралі прывабных чатыры зяцькі,
А цётку ў шаўкі апранулі.

Ходзіць Ганулю,
Спявае Ганулю,
Каб вёска ўся чула,
Каб людзі ўсе чулі,
Якія дасціпныя дочкі ў яе,
Як хітра іх замуж яна аддае.

Пачулі пра гэта чатыры зяці
І ўсе паспяшалі да цешчы прыйсці.

— Ах, мамачка,— кажа так
Першы ёй зяць,—
Я сам здагадаўся дачку тваю ўзяць!
І гэтак жа горача
Кажа другі:
— Нямала па мілай
Я сох ад тугі!
І трэці за імі:
— Не крыўдзі нас, мама,
Дачку тваю сам выбіраў я таксама!..
І толькі чацвёрты:
— Што ж, праўда твая —
Ты хітрая, цешча, а блазен быў я:
Ты сілай, ты сілай
Мяне ажаніла,
Мяне ажаніла
І перахітрыла —
Пасаг абяцала,
А дзе той пасаг? —
Так зяць прамаўляе,
А ўсмешка ў вусах.

— Дык вось што за цаца ты,—
Крыкнула цётка,—
Табе я ўзрасціла
Такую лябёдку,
А ты мне хлусіць яшчэ вырашыў, кат,
Вяртай жа дачку маю зараз назад!

Ходзіць Гануля,
Бушуе Гануля,
Каб вёска ўся чула,
Каб людзі ўсе чулі,
Якая ў Ганулі
Пакора-дачка:
— Кіне, кіне свайго мужыка!

Дачка ж — паспрабуй-ка яе ты вярні,
У маці ўдалася, ад мужа — ні-ні! —
Смяецца ды мужа раз-пораз цалуе
І нават не гляне на маці старую.

Тут бачыць Гануля —
не прост яе зяць,
Такі, браце, зяць —
з яго нечага ўзяць,
І пляснула ў ладкі:
— Дык што ж вы, сыны,
Сядайце, частуйцеся, ешце бліны!

І потым, як зноў загуляе, бывала,
Пра ўсё ў сваіх песнях Гануля спявала,
Пра тое ж, як замуж дачок аддавала,
Казаць не любіла, не прыпамінала...

*1955*

## ЛЁДЗЯ

Хто спявае там, хто ходзіць
Цэлы вечар ля стаўка?
Мусіць, то сумуе Лёдзя,
Брыгадзірава дачка.

Падарыла сэрца Лёдзя
Трактарысту аднаму.
Ды зацвердзілі на сходзе
Сёння вымаву яму —

Што вясной не так скародзіў,
Што вясной не так араў...
А найболей бацька Лёдзін
Трактарыста дакараў.

Дакараў, распісваў строга
За агрэх, за след крывы,
Эх, не знаў, відаць, нічога
Камандзір наш палявы!

Не гадаў, што вінаваты
Думку думае аб ім:
Як пражыць вось з гэткім татам,
Цесцем будучым сваім!..

Хто спявае там, хто ходзіць
Цёмнай ноччу ля стаўка?
Гэта ходзіць з любым Лёдзя,
Суцяшае дружбака:

Што, маўляў, гаварыць шчыра —
Дык матай сабе на вус,
Што, маўляў, для брыгадзіра
Строгім быць — дык толькі плюс.

А што бацька ён суровы —
Гэта, любы, да пары,
Вось папомніш мае словы,
З ім вы будзеце сябры!..

Сонца ціха-ціха ўсходзіць
Над люстранасцю стаўка.
Па сялу праводзіць Лёдзя
Дарагога дружбака.

З ёй ідзе ён — светлы, юны,
І рашае: як тут быць —
Што б такое ў падарунак
Цесцю строгаму купіць?..

*1955*

## ПАРА НАСТАЛА

— Пара настала,
Расчыню акно:
Вясна вятрамі
Ў шыбы б'е даўно.
Няхай з адталых
Рэк і ўсіх азёр
Нясе ў наш дом
Свой гул зямны прастор,
Няхай той гул
Нам сэрцы ўскалыхне,
Быць можа, ты
Падорыш ласку мне...
— Пара настала,
Расчыні акно —
Такога дня
Чакалі мы даўно.
Такога дня,
Які б прынёс адказ,
Ці будуць сэрцы
Здружанымі ў нас.
Цяпер без слоў
Адчулі мы ў жыцці:
Пакуль мы ўдвух,
Нам лёгка ў шлях ісці,
І ласкі нам
Не вычарпаць да дна,
Як мора даль,
Бязмежная яна.

*1955*

## ПАРАДА

Кінеш голас у прасторы —
Рэхам даль яго паўторыць,
Прамаўчыш — перад табой
Застанецца даль нямой.

Друг мой! Хочаш ты, каб слава
Век з тваёй дружыла справай,
Дык аб славе — не гадай,
Справе — сэрца ўсё аддай.

*1955*

## ДВА СЭРЦЫ

— Слухай, слухай,— яна сказала,—
Як шуміць лес трывожна і глуха!..
Ён здзівіўся, ён зморшчыў бровы:
— А нашто мне слухаць?

— Слухай, слухай,— яна сказала,—
Як пяе звонка-ласкава лета!
Ён сярдзіта павёў плячыма:
— А нашто мне гэта?

— Глянь, глядзі,— зноў яна цярпліва,—
Як вада па-над каменем скача...
Ён паўстаў: — А яшчэ твае вочы
Што тут раптам убачаць?

— Што? Глядзі, як расце пад сонцам,
Як імкнецца ялінка пад неба!..
Ён замоўк. Глядзець на ялінку
Што яму за патрэба?

Так стаялі яны, так маўчалі,
Так па-свойму на свет глядзелі,
І два сэрцы, два іхнія сэрцы,
Хто куды, без спагады, ляцелі...

*1955*

## РОЗДУМ

Бацька мой,
Скатаваны эсэсаўскім катам,
Не падняўся
З пажарышча роднае хаты;

Брат малодшы
Ля Кіева злёг у траншэі —
Пад нямецкаю бомбаю
Згаслі яго надзеі;

І сястра —
Над Сажом —
З недапетаю ласкаю песеннай
Спіць,
Забітая куляй,
З Рура прынесенай.

Цяжка сэрцу было...
Толькі ўзбудзяцца ў сэрцы ўспаміны —
Боль і гнеў
Ажывуць,
Загрымяць,
Як лавіна.

І здавалася мне,
Што, вялікай тугою знявечаны,
Буду я
Ненавідзець да веку
Краіну па назве Нямеччына.

Помню дні —
Захавана ў пачуццях яскрава:
Одэр,
Ноч,
Кананада —
На Нямеччыну
Пераправа,

І паход на Берлін —
У рашаючых бітвах дарога.
Што я думаў тады —
Ад людзей не хаваю нічога.

Думаў:
Як абысціся з краінаю гэтай,
Спапяліўшай
І скатаваўшай паўсвета?

Што зрабіць,
Каб адчула яна сваю долю,
Так зрабіць —
Каб мяне мая маці
Не папракала ніколі!

Дагаралі ў Берліне
Апошнія Гітлера танкі,
На Радзіму
З фашысцкіх астрогаў
Ішлі паланянкі.

З казематаў глухіх
Люд выходзіў змарнелы, суровы,
І здзівіўся я, ўчуўшы
Між вязняў нямецкую мову.
Я здзівіўся, бо думаў,
Тугою і крыўдай знявечаны,
Што на свеце
Адна —
Са звярынаю пашчай —
Нямеччына.

А прад мною ўставала
Другая краіна, другая...
З яркай кветкай
Ка мне
Цераз плошчу
Дзяўчынка кульгае,

Падае сваю кветку,
Глядзіць, нібы роднаму, ў вочы,
— Сірата... Расстралялі эсэсаўцы
бацьку...—

Сказаў мне рабочы.

Ён паказвае мне
Свае пасівелыя скроні
І адзнакі турэмныя —
Выпаленыя далоні.

І я сэрцам адчуў:
Яму шчасця не трэба другога —
Толькі б вечна, як сонца,
Зззяла мая перамога,

Уставала над светам,
Асвятляла шляхі яго вечныя.
Так
Другая, сапраўдная,
Сустрэла мяне
Нямеччына.

Я падаў ёй руку
І паслаў ліст салдацкі дадому:
«Не зрабіў я тут, маці,
Апроч ворагаў, крыўды нікому.

Даў руку я на дружбу
Германіі новай
Давеку».
І прыйшоў мне адказ:
— Будзь, сынок,
Як і быў —
Чалавекам...

Колькі год
Прамінула з той слаўнае даты,
Мы крыху пастарэлі,
Былыя салдаты.

Але сэрцы салдацкія —
Сэрцы ўсё тыя ж!
Помнім
Грозныя,
Цяжкія
Дні баявыя,

Помнім,
Як уручалі
На шчасце мы права
Дзецям, сем'ям, народам
І цэлым дзяржавам.

І нікому
У жыцці сваім мы не дазволім

Спапляць
Нашы сэрцы
Трывогай і болем.

Дружбу нашу,
Здабытую ў бітвах грымотных,
Зробім вечнай,
Магутнай —
Для славы народнай.

Ведай гэта, зямля,
Упрыгожаная, маладая,
Ведай кожнае сэрца,
Што ясна ў любві расцвітае.

Ўсім народам, краям
Шлю сягоння ад сэрца вітанне я.
І табе —
Сярод іншых —
Маладая Германія!

*1955*

## АБ ЧЫМ ЛЕС ШУМІЦЬ...

Чаму ты шуміш, цёмны лес, адкажы,
Старыя трывожыш камлі?
Даўно ўжо акопы і бліндажы
Травой паміж дрэў зараслі.

Даўно зацягнула смалой сцюдзяной
На волатах раны-рубцы,
На месца ж упаўшых усталі сцяной
Сыны іх — сябры-малайцы.

Краса навакол — я не бачыў нідзе
Такой у блуканні сваім.
Чаму ж ты шуміш ці то ўноч, ці то ўдзень,
Чаму ты шуміш і аб чым?..

— Аб тым і шумлю і сказаць хачу я,
Што смерць не скарыла мяне,
Што волатаў-дрэў непакора-сям'я
Да сонца ў блакіты імкне.

Аб тым і гамоніць на мове лясной
Маё маладое лісцё,
Што вечна мне цешыцца даллю зямной
І вечна мне славіць жыццё.

Яшчэ я гукаю падлеткаў сваіх,
Каб смела ўздымаліся ўвысь
І ўсталі над краем за волатаў тых,
Што ў буру тут палі калісь...

Шуміць цёмны лес. Без канца яго шум.
І я ад людзей не ўтаю:
Адну з яго шчырых няскораных дум
Пазычыў я ў песню маю...

*1955*

## НАЛІБОКА

Глянеш блізка ці далёка —
Налібока, Налібока,
Цёмны лес усё ўздымаецца,
Пушча-гушча не канчаецца:
Там гамоняць сосны стройныя,
Маладыя, неспакойныя,
Там бярозы шэпчуць белыя,
Сарамлівыя, нясмелыя,
А далей дубы задумныя —
Толькі ў буру
грозна-шумныя.
Налібока, Налібока...
Мімаволі шырыш вока:
Цёмна ў засені прытоенай,
Даўнім водарам настоенай,
Ані раз як бы няходжанай

З той пары,
калі народжана.
Спіць як быццам Налібока,
А ступі —
і гул ад кроку
Рэхам пройдзе між ляшчынамі,
Над грудамі, над лагчынамі,
Пройдзе ўзбуджана-ўстрывожана
Ад Сулы аж да Валожына,
І, пакуль яно гайдаецца,
Шмат што, дружа,
прыгадаецца.
Прыгадаецца, прыпомніцца,
Як ішла тут наша конніца,
Як у гэтай самай засені,
Дзе ўраслі ў ляшчыннік ясені,
Мы будзілі
пушчу родную
Партызанскаю паходнаю:

«Як выходзілі ў бой партызаны,
Гаманілі лясы і паляны,
Гаманілі лясы і паляны,
Як выходзілі ў бой партызаны.

Не сумуйце вы, сёстры і маці,
Партызан з перамогай чакайце,
Партызан з перамогай чакайце,
Сваёй ласкаю іх сустракайце.

Партызаны — лясныя салдаты —
Не дарэмна пакінулі хаты,
Мы адпомсцім чужынцам праклятым,
Партызаны, лясныя салдаты.

І заўсёды згадаем па праву
Баявую суровую справу.
Баявую суровую справу,
Партызанскую мужную славу...»

Адышлі гады ваяцкія,
Ціха спяць магілы брацкія,
Дні трывожныя далёка...
Будзь шчаслівай, Налібока!

І стаіць яна прыбраная,
Як нікім не зачапаная,
Не кранутая як быццам бы
Ні агнём, ні навальніцамі,

Маладая пушча наская,
Як і слава партызанская,—
Усё шырай разрастаецца,
У вышыні падымаецца,
Непарушная, свабодная
Майго краю
пушча родная!

*1955*

## ТРЫВОЖНАЯ НОЧ

Трое сутак не ціхне,
Ўсё шырыцца шторм,
Захліпаецца далеч
Асенняю бурай.
Мора з грукатам б'ецца
Аб выступы гор,
Быццам вырвацца хоча
З прасоленай скуры.

Ноч.
Здаецца, што час ужо
Ўсім спачываць.
Але што там за людзі
На бераг павыйшлі?
І чаму яны ў цемру
Трывожна глядзяць,
Дзе ўздымаюцца хвалі
Усё вышай і вышай?

Можа, родныя іх —
Маракі, рыбакі
Недзе ў моры цяпер,
Не паспелі вярнуцца?
Не! Даўно яны дома.

А іх чаўнакі,
Іх шаланды
                    над бураю
Толькі смяюцца!

Тут ніхто не чакае нікога,
Але
Горад знае,
Што ў моры раз'юшаным
                                        зараз
Можа быць чалавек —
У бясконцай імгле
Аб агнях маяка,
Аб прыстанішчы марыць.

Ён, магчыма, нікому
Не брат і не сват,
Але ён чалавек —
Сябра наш падарожны!
Хай жа будзе спагаднай
Сустрэчай ён рад,
Хай адчуе, што тут
Аб ім думае кожны!

Шторм грыміць.
Каля мола — маўчанне лядок.
Але раптам —
                        чаму ён,
Натоўп, скалыхнуўся?..
Гэта нехта сказаў,
Што пачуўся гудок,
Гэта некаму
Покліч нібыта пачуўся.

Міг —
          і раптам з-за хваляў,
Аднекуль
Здалёк,
Аганёк, нібы зорка,
Над морам узвіўся.
То маленькім ён быў,
То ён рос, аганёк,
То ў бяздонне ляцеў,
То высока свяціўся.

Потым той аганёк
Стаў шырокім агнём,
А праз момант яшчэ —
Не агнём, а агнямі.
Гэта быў цеплаход...
Сярод хвалістых стром,
Нібы крыгу, яго
Шкуматала вятрамі.

Але ўсё ж ён ішоў,
Хоць і ў стоме зусім.
І, ўслаўляючы
Мужнасць яго і адвагу,
Людзі бурна, ад сэрца
Віталіся з ім,
Пасылалі хвалу
Яго гордаму сцягу.

...Горад туліць гасцей,
Сцеражэ іх спакой.
Але сам —
сам у шторм
Спачываць ён не будзе!..
Засланяючы вочы
Ад солі рукой,
Углядаюцца ў мора
Сардэчныя людзі...

*1955*

* * *

У той міг, калі ты, адвёўшы пагляд,
Аддала мне моўчкі мае ўсе лісты,
Я адно толькі шчыра прамовіў, як брат:
— Будзь шчаслівая ты.

Мы сустрэнемся, ведаю, некалі зноў,
Перайшоўшы цераз расстання хрыбты.
Не чакай ад мяне тады іншых ты слоў:
Я скажу:
— Будзь шчаслівая ты.
Будзь шчаслівай, калі толькі можаш ёй быць,

Атрымаўшы пярсцёнак свой залаты.
І забыўшы, як ноччу касцёр гарыць
І аб чым шумяць над ракой чараты...

*1956*

## ПАРТОРГ

Калі паднялася яна на сцэну
І працягнула ў залу руку,—
Як бы па камандзе —
гамонцы на змену
Прыйшла цішыня ў самым дальнім кутку.

Стаяла жанчына — простая, ясная,
Позірк задумны, строгі ледзь-ледзь.
Парторг. У роднай сям'і калгаснай
Кожны здолеў яе зразумець.

Яна не хвалілася, не чаравала,
Не абяцала лёгкіх удач.
Партыі планы яна адкрывала
Сёння сялу — як народны сурмач.

Ад сэрца ішлі запаветныя словы,
У праўдзе і шчырасці моц іх была.
І людзі, высока ўзняўшы галовы,
Ішлі ў свае мары з парторгам сяла.

Бо кожны тут ведаў,
што сёння, да сходу,
І гэтак учора, і гэтак штодзень,—
Яна не сядзела ў цяньку, а з народам
Была там, дзе творыцца шчасце людзей.

І кожны тут ведаў,
што перш чым з'явіцца
Сюды, прыхарошанай, чыстай такой,
Паспела і ў лузе яна натрудзіцца,
Дзе густа ўставалі стагі над ракой,

І ў хаце паспела прыбраць усё чыста,
І дзетак рупліва дагледзець малых.
А потым мужа свайго, трактарыста,
На працу сабраць па-жаночаму ўмір.

Такая ж яна, як усе тут, такая...
Чаму ж гэтак сэрцы імкнуць да яе?
Чаму яе слова
                    кожны чакае,
Каб думкі, пачуцці
                    праверыць свае?

Усім яна стала жаданай і блізкай,
Патрэбнай і ў радасці ўсім і ў бядзе,
Што сэрцам гарачым яна — камуністка —
Па-ленінску мудра
                    ў свет добры вядзе...

*1956*

## СЛОВА ДА МАЦІ

Ты сумуеш — і я гэта бачу.
А зрабіць — што магу я, скажы?
Глянь, як ветразь над хвалямі скача,
Як ён бурна ляціць па Сажы.

Глянь хутчэй, бо яшчэ праз хвіліну
Ён сальецца з абрысамі хмар.
Зразумець ты нарэшце павінна,
Што зямля — гэта круглы шар.

Толькі-толькі што ты цалавала
Свайго ўнука, як калісь мяне,
А цяпер панясло яго валам
Усё ўперад — рука на стырне.

Вось ізноў ён мільгнуў перад намі
І напэўна ўжо знік назусім —
За лугамі і курганамі,
За палямі, за лесам сівым.

Што ён стрэне ў дарозе — не знаю,
Але знаю: жыццё ў яго ёсць.
І хачу, каб з любоўю да краю
Паўтарыў ён маю маладосць.

Каб ці ў бурах, ці ў ясных заранках
Толькі з мужнаю праўдай дружыў,
Не шукаючы ціхіх прыстанкаў,
Для Радзімы змагаўся і жыў.

Каб душу меў аддануго, чулую,
Дружбу шчырую ўмеў шанаваць...
Пойдзем, маці. Расстанне мінула.
Годзе птушкай табе кукаваць.

Зразумець ты нарэшце павінна,
Для чаго ты нам крылы дала:
Каб ляцець, прабівацца няспынна
Усё ўдаль, да жыцця, да святла.

*1956*

## МЁД

Ну-ка, ляціце вы,
Пчолкі, ў палёт,
Поле наведайце,
Луг, агарод,
Кветкі лясныя
І краскі балот,—
Самы салодкі
Збярыце там мёд!

Ну-ка, ляціце вы,
Пчолкі, хутчэй,
Трэба мядок нам
Для нашых дзяцей,
Трэба мядок
Для радзін, для гасцей,
Каб у нас людзі
Бывалі часцей.

Трэба мядок
І для самых старых,
А яшчэ болей —
Для ўсіх маладых
(Сын мой, скажу я вам,
Зараз жаніх),
Трэба мядок
На вяселлі для іх.

Трэба мядок
Для ўсіх сэрцаў, што тут
Так упрыгожылі
Бацькаўскі кут,
Глянеш на поле —
Не поле, а цуд:
Нават адвечны
Ажыў у нас груд!

Ну-ка, ляціце вы,
Пчолкі, ў палёт,
Хай напаўняюцца
Скрыначкі сот,
Хай напаўняюцца
Скрыначкі сот,
Каб гаварылі
Вяскоўцы ўвесь год:
— Ах жа і пчолы!
— Ах, пчалавод!
Дзякуй вам шчыра
За гэтакі мёд!..

*1956*

## СІЛА ПРАЎДЫ МАЁЙ

Я — камуніст, я друг усім народам,
Я сею хлеб, кладу ў жыццё масты.
Я стаў у строй — іду за мір паходам,
І ты, мой вораг, мне не страшан ты.

Я знаю цвёрда: свет да шчасця прыйдзе,
І я тых дзён, шчаслівых дзён, гарніст.

Калі мяне мой вораг ненавідзіць,
Дык, значыць, я сапраўдны камуніст!

Усё, што ён сабраў за акіянам:
Свінец і атам, газ і вадарод,—
Усё ён марыць кінуць нечакана
На мае сэрца і на сонца ўсход.

Яму ўжо сняцца сёлаў папялішчы,
Ён праслаўляе сваіх бомбаў свіст.
Калі мой вораг хоча мяне знішчыць,
Дык, значыць, я сапраўдны камуніст!

Але якую б ні тварыў ён змову,
Народам пагражаючы вайной,—
Бяссільны ён прад сілаю суровай,
Прад сілай праўды, што заўжды са мной.

Прад гэтай сілай — як ні мітусіцца,
Прад ёй дрыжыць ён, што асенні ліст.
І калі вораг мой мяне баіцца,
Дык, значыць, я сапраўдны камуніст!

Нішто не спыніць — гэты час настане:
Жыццё змяце капіталізму бруд!
Таму ён сёння ў цемры і ў тумане
Пусціць імкнецца шчупальцы, як спрут.

Але дарэмна! Свет убачыў сонца!
Яно ўзышло, і я яго гарніст.
Я — камуніст, люблю жыццё бясконца,
Я — носьбіт перамогі, камуніст!

*1956*

## ПОМНІК ГЕРОЮ РЭВАЛЮЦЫІ

Ці ў летнюю спёку, ці ў зімнюю сцюжу
На плошчы, ўвесь час гаманкой і жывой,
Стаіць ён, адзеты ў гірлянды і ружы,
Стаіць з непакрытай сівой галавой.

Стаіць ён таму з галавой непакрытай,
Што перад народам заўсёды стаіць,
З якім столькі пройдзена ім і пражыта,
Які так умеў шанаваць і любіць.

Стаіць ён, падставіўшы грудзі пад вецер.
Як бы ўспамінае рашаючы бой...
І маці спяваюць, каб іхнія дзеці
Раслі вось такімі, як гэты герой.

Мой друг!
Колькі б раз ты па плошчы ні крочыў —
Спытайся ў сябе: а ці так ты жывеш,
Каб смела герою зірнуць мог у вочы?
Ці так свае сілы жыццю аддаеш?

Вучыся прайсці праз нягоды і ростань
Нязломным Радзімы байцом агнявым!
Знай: звацца герояў нашчадкамі проста,
Але не так проста быць роўнымі ім!

*1956*

* * *

Напрадвесні, напрадвесні так бывае:
Хоць з паўночы злосны сівер павявае,
Ды пад сонцам растае счарнелы снег,
На палях то там, то сям відаць агрэх.

У тваім, тваім настроі ёсць часамі
Халадок з яго скрыпучымі вятрамі,
Ды мацней, чым сіла сонечнага дня,
Тваёй дружбы, тваёй ласкі цеплыня.

Я люблю той час, калі пад сонцам поле
Снег з плячэй скідае радасна ўсё болей
І, хутчэй каб яго спраўдзіліся сны,
Адзяваецца ў лагодны ўбор вясны.

Яшчэ ж больш люблю — і ты пра гэта знаеш,—
Калі ты з душы нягоду праганяеш
І жывеш вясёлай, светлай, як прамень,
Што табе тады зайздросціць нават дзень.

*1956*

## ЛІСТОК

Трымціць перапрэлае лісце,
Гамоніць вясны вадасток.
З пупышкі прабіўу сабе выйсце
Ружовы, дзябёлы лісток.

І ранішні промень — па праву,
Што першым заўважыў яго,—
Бадзёрыць лісток і ласкава
Галубіць, як друга свайго.

*1956*

## НЕ ЛЕГЕНДЫ, НЕ ПАДАННІ

Не легенды, не паданні
Пра далёкія гады
Па сцяжынцы на світанні
Прывялі мяне сюды.
Прывялі мяне сюды
Твае росныя сляды.

Ты замерла пад хваінай
Недалёка ад сяла,
Дзе ў апошні раз, жанчына,
Свайго друга абняла.
Свайго друга абняла
І на бітву правяла.

Бачу я тваю трывогу,
Што жыве з тугой самой,
Як глядзіш ты на дарогу
І ўсё шэпчаш: — Любы мой...
І ўсё шэпчаш: — Любы мой,
Дзе ты, як мне быць адной?..

Значыць, ты яшчэ, сястрыца,
Не развітваешся з ім,
Значыць, думаецца, сніцца
Аб бязмежна дарагім?
Аб бязмежна дарагім,—
Што не роўніца другім.

Я б сказаў усё дазвання,
Як ён стрэў жыццяя мяжу.
Але што тваіму каханню,
Што каханню я скажу?
Што каханню я скажу,
Як у вочы пагляджу?

Можа быць — вось так і трэба
Сэрцу вернаму тужыць,
Каб заўжды пад родным небам
Мы прыгожа ўмелі жыць.
І за гэта шчасце жыць
Галаву ў баі злажыць!

*1956*

## ПЕСНЯ АБ ЧАЛАВЕЧЫМ ШЧАСЦІ

Чалавечае шчасце —
вялікае, быццам сусвет,
Дзе асобная радасць —
здаецца, пясчынка адна:
Гэта можа быць слова,
якім ты ў дарозе сагрэт,
Гэта можа быць мара,
што сэрцу падорыць вясна.

Гэта можа быць песня —
                    сяброўка бяссонных начэй,
Гэта ясны спакой
                    пасля руплага ўвішнага дня,
Яно можа звінець —
                    як вясёлы вясновы ручэй,
Ці захмурыцца смуткам —
                    як восеньская цішыня.
Чалавечае шчасце —
                    няспынна, як сонечны ўсход,
І нястрымна, як думка,
                    як вольная плынь пачуцця,
Бо дае яму сілы,
                    дае яму крылы народ,
У якога ёсць светлая,
                    слаўная мэта жыцця.
Чалавечае шчасце —
                    наш велічны скарб на зямлі,
Слава нашая ў ім,
                    мужнасць нашая і прыгажосць.
Яно з намі і ў нас.
                    І каб з ім мы заўсёды былі —
Аддаю яму ўсё:
                    сваё сэрца, сваю маладосць!
Аддаю яму ўсё
                    у кагорце сяброў дарагіх
І хачу так пражыць,
                    сваёй радасці плён несучы,
Як у працы вялікай,
                    як у баях агнявых
За Радзіму, за шчасце
                    змагацца нас Ленін вучыў:
З роднай партыяй,
                    з мужным народам сваім
Чалавечае шчасце
                    ствараць непарушным навек,
І ў тым шчасці народным
                    застацца, як песня, жывым
З простым імем, якім даражыў:
                                        Чалавек.

*1956*

## МАРШ БАДЗЁРЫХ

І рана ўстаць мы ўмеем самі,
І знаем сцежкі нацянькі
У светлы лес, дзе між дубамі
Чакаюць нас баравікі.

З вясёлым спевам, звонкім смехам
Мы ўсе абудзім гушчары.
Калі ж заблудзімся, дык рэха
Заўсёды скажа, дзе сябры.

Дзень добры вам, лясы-дубровы,
І гулкі бор, і хмызнячок.
Паклон табе, рудагаловы
Крамяны друг — баравічок!

Вітанне вам, з травы і кветак
Палян жывыя дываны.
Жыві і слаўся, шчасце лета,
На ўлонні роднай стараны!

*1957*

## ПРЫРОДА

Ці ў ясны дзень, ці непагодным днём,
Ці ў час, калі вясна наўсцяж спявае,
Ці той парою, калі зноў агнём,
Агнём барвістым восень зашугае;
Ці летняй спёкай дыхае блакіт;
Ці ў верасах іскрыцца павуціна;
Ці зелянее руні аксаміт;
Ці жораў крык нясе, як сіраціна,
Закінуты ў нябёсах паміж хмар;
Ці звоняць росы ранку пад нагамі;
Ці ззяе з вышыні маяк-стажар
Над любымі рачнымі берагамі,—
Заўжды, заўжды,
усюды, ў кожны міг,

З жыццём усім,
з якім навечна ў згодзе,
Ад самых шчырых роздумаў сваіх
Мне пакланіцца хочацца прыродзе!
О мроіны лес! О вольныя палі!
О шыр лугоў — і ў забыцці і ў спеве!
О далягляды роднае зямлі!
О ты, радзімка на знаёмым дрэве;
Ты, кветка,
што расінкай ледзяной
Калісь мяне ўзбудзіла ля акопа;
Ты, пах чабора,
што прайшоў са мной
Ад Сожа да падсонечных Радопаў;
Вы, ручаіны, са слязой вады
То ціхаплыннай, то сыпуча-звонкай;
Вы, сцежкі, дзе прастор мой малады,
Прытулак мар і радасцяў скарбонка,—
Без вас я не магу пражыць,
у вас
Навечна закаханы ўсёй душою.
А ў любасці прызнацца —
кожны раз
Баюся... Не, не хлусам, не ханжою,
Не себялюбам жыў я! — гэткі друз
Няхай праносяць прагныя да славы,
У іх заўжды
з тым друзам ёсць хаўрус...
А я баюся, што дубам і травам,
Праменням залатым і хвалям рэк,
Разлогам палявым і зорам сінім
Я не змагу, звычайны чалавек,
Сказаць усё, што я сказаць павінен;
Баюся словам лішнім, неўпапад,
Парушыць
дарагое сугалоссе
Крынічных звонаў і лясных рулад,
Дыхання зор і шэпату калосся;
Крыўдней за ўсё —
прызнанне не ў пару,
Яно —
бы сумны ветразь непадняты.
А мне як скрыўдзіць вас, дык лепш — памру,
Мае вы нівы, пушчы й перакаты...

Але маўчаць усё ж я не магу.
Як сыдуцца ўспаміны ўсе і мары,
Дык просяць —
іх уцехі і тугу
Каб вам прынёс я, родныя абшары
Зямлі маёй, адзінай назаўжды!
І я нясу табе, прырода-маці,
Паклон мой за пражытыя гады —
За сонечны жывы прамень у хаце,
За цішыню вясёлак веснавых,
За летуценні шчасныя пад імі,
За незабыўны міг, спаткання міг
З дзявочымі вачамі дарагімі,
За сум і мужнасць, за красу і боль,
Што ў шчодрасці
жыццё падрыхтавала,
Жыццё, што так ахоўвала сабой
Мяне на самых грозных перавалах!
Час прыйдзе —
сівер згоніць па імху
Апошняе лісцё. Мінецца лета.
І зажурыся я тады крыху...
Але паклон табе, зямля, й за гэта,
Паклон за ўсё, што мне дарыла ты
І што падорыш для майго прызнання.
За тое, што, як светач залаты,
Не гаснуць зоры
вернага кахання!

*1957*

## ГРАБ

У гушчары, на скрыжаванні торных
Лясных дарог,— вышэй сваіх сяброў
Узрос магутны граб.
І непакорна
Стаіць пад гулкім націскам вятроў.

У час нялітаснай асенняй буры
Ён першы сустракае люты ўдар,
За ўсіх сяброў сваіх са злой віхурай
Ён дужаецца гнеўна — твар у твар.

Яго агнём паліла з чорнай хмары —
Маланкі дратавалі, як на здзек.
А ў ціхі час, калі ён песціў мары,
Каля яго спыняўся дрывасек.

Хто гэтага не знае — як прыемна
Ля волата курыць і слухаць бор!
І дрывасек, без прыдумкі таемнай,
У цела граба ўсодзіць свой тапор...

Сядзіць і курыць — ён замілаваны,
Спакойна ў лесе для яго душы...
Хіба ён чуе, як ад новай раны
Граб нема войкне у лясной цішы?..

І так заўжды.
Але ніякім болем
Нязломнага не зрушыць. Ён стаіць,
Магутны, з гордаю і мужнай доляй,—
Сабой другіх ад здзекаў засланіць!..

Мой лёс не гэткі.
Але з гэткім лёсам
Згадзіўся б я. Хай і мяне сякуць
Агні, што тояць грозныя нябёсы,
І крыўды, што ліхія людзі ткуць.

Хай буду я нягодай здратаваны
За ўсіх сяброў, з якімі ў шлях ісці,—
Каб толькі зналі людзі:
ёсць адданасць,
Ёсць вера непахісная ў жыцці!

*1957*

## ПАЭМА СУСТРЭЧЫ

— Ты гэта? —
спытала асцярожна.—
Ты ці не?..—
Дрыжыць рука твая.
— Гэта я...
вось ранец мой дарожны...

Я гэта...

павер жа... гэта я...

Косы серабрацца...

вочы ў стоме...

— Ты яшчэ не верыш?

Паглядзі —

Не вачмі,

слязамі — ім вядомай...

Сэрцам глянь,

бліжэй жа падыдзі.

*

Назусім прыйшоў я,

а не ў госці,

Да цябе — другой такой няма.

Я прыйшоў з трывожнай маладосці,

Аб якой ты ведаеш сама.

Я прыйшоў, пазнаўшыся з грымотамі,

Цёмнымі лясамі і балотамі,

Далямі, спавітымі туманамі,

Бурнымі марамі-акіянамі,

Светлымі вясновымі сцяжынамі,

Даллю неабсяжнай палявой,—

Я прайшоў жывымі каляінамі

Радасці і горнасці людской.

*

Падышла бліжэй.

Пазнала? Так, пазнала.

— Верыш?

— Не паверыць не магу...

— Што ж цяпер зрабіць мне, каб памалу

Ты сваю развеяла тугу?

Рукі твае

цалаваць мне трэба,

Губы твае

трэба цалаваць,

Вочы твае, што сіней за неба,

Трэба цалаваць і мілаваць.

Назусім прыйшоў я,

а не ў госці,

Да цябе —
                другой такой няма.
Я прыйшоў з трывожнай маладосці —
Аб якой ты ведаеш сама.
Я прайшоў франты, я бачыў прысак
Там, дзе мы чакалі светлых руж.
Нездарма
            агнём я ў сэрцы высек
Слова-папярэджанне:
                        — Не руш!
Я прайшоў франты, і там вучыўся
І любіць і ненавідзець я.
Ты прабач,
            што я прыйсці спазніўся,
Ты даруй мне, добрая мая...
Я спяшаў,
            я чуў тваю трывогу,
Але я не мог пакінуць бой
За сваю вялікую эпоху,
За спатканне светлае з табой,
За ўсю гэту сонечную далеч,
За нябёс юнацкіх сіняву,—
Я не мог спыніцца на прывале,
Бо не для прывалаў я жыву!
Я не мог спыніцца,
                        бо заўсёды
Ненавідзець
            буду да канца
Тых, хто ў маладыя нашы годы
Кінуў ліўнем грознага свінца,
Хто краіне нашай нёс навалу,
Хто з-за акіяна сёння зноў
Пагражае бомбай і напалмам
Сонцу думак нашых,
                        зоркам сноў.
Я і тут, з табой,— не перастану
Воінам, байцом сябе лічыць.
Каб ніякі вораг нечакана
Болей
        нас не здолеў разлучыць.
Ласкі я хачу тваёй, мне трэба
Рукі твае, губы цалаваць,
Вочы твае, што сіней за неба,
Трэба цалаваць і мілаваць...

*

Белая зіма
　　　　　　мяцс завеі,
Далі навакола замяла.
Але па-вясноваму надзеям
Мы дамо з табой
　　　　　　　　узмах крыла.
Калі я раней чаго не ўзважыў,
Не прыкмеціў часам, не заўважыў,
Зразумець і ацаніць не змог,—
Ты даруй мне.
　　　　　　　Хай пра ўсё раскажа
Сэрцу твайму
　　　　　　　гул зямных трывог.
Стань са мною.
　　　　　　　Што ж, былі нягоды...
Дай руку мне.
　　　　　　　Дзе рука твая?
Гэта я.
　　　　Навечна, назаўсёды
З маладосці я прыйшоў —
　　　　　　　　　　　　твой я.

*1957*

## КОК-ТАШ

— Гэй, старэча-чабан, ты мне скажаш ці не,
Што такое там бачна ў цясніне на дне —
Ці кішлак засмужоны, ці толькі міраж?
— То? То, друг, не міраж, то сяленне Кок-Таш.
— То Кок-Таш? Значыць, правільна ўсё ж я іду!
Мне Кок-Таш і патрэбен! А доўга прайду?
— Доўга? Не. Што тут доўга? Ўсё проста ідзі:
Толькі ўперад ідзі, па баках не глядзі
Ды трымайся часамі мацней за карніз,
Каб не скочыць, не рынуцца птушкаю ўніз...

— Добра, дзед! —
　　　　　　　　Падарожны спяшаецца наш,
Трэба хутка яму, хутка трэба ў Кок-Таш,
Да сяброў, для якіх ён сягоння нясе

Сваю песню сустрэчы ў вясновай красе!
Вось ідзе ён, ідзе, а як быццам зусім
Не паменела шляху: Кок-Таш перад ім,
А сцяжынцы зманлівай канца не відаць.
Добра — горца сустрэў, хоць жа можна спытаць.

— Гэй,— крычыць ён,— хвіліначку, дзеду, пастой,
Адкажы мне: ці гэта Кок-Таш прада мной?
Столькі крочу, і ўсё — як дарэмна, разваж,
Можа, я заблудзіў? Можа, то не Кок-Таш?
— То Кок-Таш! Ён і ёсць!..—
Зноў гаворыць стары...

І далей падарожны паўзе па гары,
Пералазіў ізноў са скалы на скалу...
Уздыхаў, небарака, зайздросціў арлу...
І нарэшце...— глядзіць і не верыць вачам:
Зноў ён там, адкуль раніцай шлях свой пачаў.

— Эх, ты ж, дзед! Ці ж не бачыш — брыду, нібы ў сне...
— Ты ў Кок-Ташы пабыў?
— Ты смяяўся з мяне,
Ты казаў, што ён блізка, а тут не дайсці...
— Значыць, ты не дайшоў... Так заўсёды ў жыцці...
Сёння ранкам ты, дружа, пытаўся ў мяне,
Што такое там бачна ў цясніне на дне,
Але ты не спытаў, як патрапіць туды,
Ганарлівым ты, дружа, быў вельмі тады...

— Я? Павер мне, дзядуля, звычайным быў я!
Гэта сіла — юнацкая сіла мая
Не чакала пытацца, здавалася ёй,
Што заўжды ёй і ўсюды удасца самой
Сцежку-шлях адшукаць для сябе, для людзей...

— Што ж, юнача, тваіх я не ганю падзей.
Пракладзеш сваю сцежку яшчэ ты не раз,
Але, юны мой друг, не забудзь і пра нас,
Мы таксама свой век недарма пражылі,
Пракладалі дарогі па роднай зямлі,
Пракладалі не толькі, мой друг, для сябе,
А для ўсіх, і між гэтых усіх — для цябе.
Я стары і хачу табе шчасця, заўваж,
Дай руку і хадзем: вось дарога ў Кок-Таш!

*1957*

## ВЕРАСЫ

> Навошта шукаеш пралеску
> У кроплях світальнай расы,
> Мой дружа?..
> Ужо на прылеску —
> Глядзі — зацвілі верасы...

Нямала сказаць можа пільнаму воку
Задумны надсожнага бору куток.
Іржавы патрон ля варонкі глыбокай,
Ці чорны калючага дроту маток,

Ці каска, што змрочна з травы выглядае,—
Напомняць, чым некалі жыў гэты кут...
А мне, як Марысю сваю прыгадаю,
Мне самае сумнае ўспомніцца тут...

*

Марыся... Калі адыходзілі ўночы
Мы ў лес па расе партызанскіх сцяжын,
Наказвала маці: — Глядзі ж ты, сыночак,
Глядзі там, сястрычку сваю беражы!..

Марыся ўсміхалася...
— Чуеш, братуля,
Глядзі, беражы... не пускай у баі...
Ці так зачаруй, каб варожыя кулі
Мяне сустракалі, нібы салаўі...

Гарэза-дзяўчынка. Было ёй семнаццаць.
Пра смерць не хацела і слухаць яна.
«Братуля...— казала.— Чаго мне баяцца,
Калі я ў паходы
іду не адна?»

Было ёй семнаццаць. Яму, яе другу,
На год, можа, болей,—
я ведаў аб ім:
На ўсю партызанскую нашу акругу
Разведчыкам славіўся ён баявым.

Я рады быў дружбе іх — светлай, адданай,
У шчырым каханні ім шчасця жадаў...

Але — як заўсёды ў вайну —
нечакана
Прыйшла ў нашы мары
ліхая бяда...

— Братуля...— сказала Марыся аднойчы
(Гучыць яе голас — чуваць і здалёк),—
Не крыўдзіся, родны мой... Гэтаю ноччу
Іду я ў разведку, заве Васілёк...

Што мог адказаць я? Хай маці даруе...
Яна даравала...
Судзі не судзі —
Былі мы салдаты...
Праводзіў сястру я
З пашанаю братняй, сардэчна: — Ідзі...

...Яны ўжо вярталіся,
побач з атрадам
Былі,— небяспека мінула як бы...
Калі ад маланак варожай засады
Над цёмнай ракой
застагналі дубы...

— Бяжы! — загукала Марыся.— Бяжы ты!..
Хутчэй, Васілёк!.. Я табе памагу!..
Бяжы, там чакаюць!..—
Ды птушкай падбітай
Упала, за ўсмешкай схаваўшы тугу.

Юнак не пакінуў дзяўчыну на здзекі.
Ваяцкую вернасць аддана збярог.
Ён вынес Марысю з агню...
Ды ўжо лекі
Яе не вярнулі на светлы парог.

Яе пахавалі ўзацішку дубровы,
На ўлонні нябляклай асенняй красы.
І помніцца мне:
так агніста-лілова
Цвілі над Сажом у той дзень верасы!

Яны расхіналі ля свежай магілы,
Нібыта рукамі, глыбінны пясок.
І пчолка кружыла над імі, кружыла,
І ў пчолкі мядовы зіхцеў паясок.

*

Сягоння, як нскалі ў дні маладосці,
Стаю ў той дуброве. Ў руках хатылёк.
Стаю не адзін. Завітаў сюды ў госці
І друг партызанскіх гадоў — Васілёк.

Стаім... Нейкі молат мне грукае ў грудзі...
— Ну, як ты? — пытаю.— Даўно па вайне...
Мо дзеткі ўжо ёсць? —
Васілёк штось марудзіць...
Цямнее...
Ледзь чутна адказвае: — Н-не...

І раптам, нібыта яго памянілі,
Як выбухам, раптам яго падняло:
— Не, не! — Ён крычыць.— Ты паверыш —
з той хвілі
Спакою нідзе мне,
нідзе не было!

— Павер мне! — гучыць яго голас журботна.—
Дзе я ні блукаў з той пары, дзе ні жыў,—
Ніяк не забыцца мне светласці роднай,
Што ўбачыў у ёй і чым так даражыў!

Забыць не магу ані слоў яе чулых,
Ні вуснаў, ні кос, ні вачэй дарагіх,
Хоць міма нямала жыцця прамінула,
А мне на зямлі — ўсюды пуста без іх!..

Высока над намі ў блакіце замглёным
Гучалі адлётных ключоў галасы.
А тут — як тады —
пад страхою зялёнай
Раслі бестрывожна, цвілі верасы.

Мы селі на звалены дуб заімшэлы.
Маўчыць Васілёк...
Што ж — сумуе... Няхай...

Я й сам памаўчу... І ў мяне, брат, збалела
Душа па такой,
што — хоць век я шукай,—

Не ўбачу раўні ёй...
Бярвяную просінь
Цяпер я вітаю з тугой без яе.
Адзін сустракаю вятроў сугалоссе
І сонца, што ціха-задумна ўстае,

І дым-туманок над рачулкай лясною,
І неба вячэрняга зорную рэдзь,—
Усё, што яна так любіла
Са мною
Сустрэць і правесці. І спевам сагрэць...

Ды толькі — што зробім мы,
брат Васілёк мой,
Калі між людзямі расстанне жыве.
Вось зараз — мы блізка,
а заўтра — далёка,
Як жоўты лісток, што вятрамі сарве.

Але ні расстанне, ні смутак, ні гора
Не справяцца з нашаю дужасцю, не! —
Калі не забудзем адданасць мы скора,
Калі хваляванне ў душы не засне.

Жыццю і за тое сказаць трэба дзякуй,
Што любыя вочы глядзелі на нас —
Каханыя вочы!.. За іх у атаку
Хадзілі не раз і мо пойдзем не раз.

Дык што ж, захавай чысціню той слязіны,
Што тут, над магілай, з расніцы не сцёр...
Ля гэтага бору, ля гэтай даліны
Ты, брат, не пачуеш ні слова ў дакор.

Хадзем, Васілёк. Непазбыўную ў свеце
Патрэбна нам вернасць пранесці праз век.
І хай верасовая, чыстая квецень
Спакойна сінее між пушчаў і рэк...

*1958*

## БЯСКОНЦЫ ПОДЗВІГ

Глядзіць у неба з захапленнем кожны,
Хто ўмее явай жыць, хто ўмее марай жыць.
А там, у космасе, наш юны спадарожнік
Вакол зямлі, як горды птах, ляціць.

Што стрэне ён за чарадой аблокаў,
За сінімі марамі стратасфер?
Якія весткі нам прышле здалёку
Паміжпланетных рэйсаў піянер?

Ідуць сігналы... Слухайце ўсе людзі!..
Ідуць сігналы, і лунае ў іх
Упэўненасць, што свет няспынным будзе
У пераможных пошуках сваіх.

Упэўненасць і вера ў тыя рукі,
У розум светлы той, што для людзей
Далі струмень жывы з крыніц навукі,
Каб праўдзіць радасць велічных надзей!

Дык не спыняйся ж, думкі нашай сіла,
Удаль і ўдаль хутчэй ляці, ляці,
Дужэйце, вольныя народа крылы,
Для подзвіга бясконцага ў жыцці!

*1957*

## НА СЦЕЖКАХ СТАРЫХ

На сцежках старых
перасыпалі смолкі траву.
— Травінкі і смолкі!
Расціце! Я вас не сарву...
Няма больш яе.
Ля другой яна сёння рукі.
А я толькі ёй
адной і падносіў вянкі...
Травінкі і смолкі
сабраліся ў гурт залаты,

І ўсе засмяяліся:
— Эх, і дзівак жа ў нас ты!
Твае ўсе вяночкі
так цяжка было ёй насіць,
Як лёгка было ёй
аб вечным каханні хлусіць.

*1957*

## ВОСЕНЬ НА МОРЫ

Паімчалі па моры
Белагрывыя коні,
Узаралі марскія
Зялёныя гоні,
Спатыкнуўшыся, злосна
Закружылі ў барознах,
Заіржалі камусьці
Далёка-пагрозна.

І адразу на скалах
Загулі кіпарысы,
І, расплыўшыся, зблеклі
Гор высокіх абрысы,
І адразу, ні слова
Не сказаўшы нікому,
Маё сэрца ўзнялося
Па-над морам дадому.

Ты не крыўдзіся, бераг,
Непаўторна-пяшчотны,
Сумна-ўсмешлівы позірк
Дарагі, мімалётны.
Не сярдуйце вы,— трэба
У час буры-пагрозы
Быць мне там, дзе
асенні
Вецер хіліць бярозы.

Пажаўцела краса іх,
Паразвеяны лісці,
Што шапталі пра ласку

Нам вясною калісьці,
Што спявалі нам песні,
Не ўздыхалі ні разу,—
Дык павінны і ўвосень
Быць мы з імі ўсе разам!

Разам з імі, такімі,
Што заўсёды не проста
Усміхаюцца полю
Белапеннай бяростай,
А таму, што так мужна
Жыць па шчырасці ўмеюць —
Ці праменяцца вёсны,
Ці груды ледзянеюць...

*1957*

## НАД ПЛАНЕТАЙ

Адгучалі прамовы,
Адспявалі аркестры старанна,
І слязу развітання
з вачэй я ў каханай ацёр...
І вось загрымелі турбіны,
І на крыллях урана,
Нібы той метэор,
Я ўзвіхрыўся ў бязмежны прастор.

Аж гудзе вышыня.
Заціхае зямлі прыцяжэнне.
Несутрымнай вясёлкай
Ракета імчыць і імчыць.
Вось і спраўджаны мары.
А што ж у душы засмучэнне?
Не ўрачыстасць, не песня,
А горнасць у сэрцы гучыць?

Я не думаў тады,
Як сваю наладкоўваў машыну,
Аб звароце сваім —
Ці мне ўдасца вярнуцца назад...
А цяпер

Не пазбыцца трывогі:
Ці будзе такая хвіліна —
Каб з тых высяў сысці
Да палёў сваіх родных і хат?

Я лячу над Зямлёю
І прагна ўглядаюся з высяў,
Бачу ўсё прад сабой:
І свой Мінск, і сваю Беларусь.
Бачу гмахі і пушчы,
Што вольна наўсцяж разглягліся,
Бачу тыя крыніцы,
Дзе рэкі пачатак бяруць.

Бачу тыя шляхі,
Што сягоння шумяць зялянінай,
Дзе ў цяжкія часіны
За Радзіму выходзіў у бой,
Бачу нівы свае
І на іх — веснавыя сцяжыны,
Дзе мы столькі гадоў,
Дарагая, хадзілі з табой.

Там, на нашай зямлі,
Захаваць мне любоў некранутай,
І сардэчна, і проста
Жыцця свайго песню дапець...
Я лячу ад Зямлі,
Я нічым не парушыў маршрута,
Але радыёграмай
Крычу:
— Не магу больш ляцець!

І якое ж мне шчасце!
Мяне на Зямлі маёй шчырай
Зразумелі — і радыё
Мой даганяе палёт:
— Не хвалюйся, ты сёння
Уладарыш бязмежнаю шырай,
Не хвалюйся, будзь смелы,
Шчаслівы твой будзе зварот!

І хусцінкаю ты
Каля вішні махаеш мне, бачу,
І ўсміхаешся ветла,

І шэпчаш — чуваць і здаля:
— Не хвалюйся, мой любы,
Глядзі, я спакойна, не плачу,
Веру: вернешся ты,
Я з табой, як і наша Зямля!..

І калі гэта так,—
Палячу я над хвалямі века...
І калі гэта так —
І на Месяц гатоў, і на Марс!..
Дасягну усяго —
Толькі б быць, толькі б быць чалавекам,
Жыць з табою заўжды —
На Зямлі, на Радзіме — у нас!

*1957*

## КАЛГАС ІМЯ ЛЕНІНА

Зямля шырокая, палі жытнёвыя,
Лугі мурожныя, бары сасновыя,
Азёры ў схове лясоў зацененай —
Як сонца волі, як даль вясновая,
Усё тут яснае, усё тут новае,—
Гэта мой родны калгас імя Леніна.

Вітанні — шчырыя, а ўсмешкі — добрыя,
А рукі — здатныя, а сэрцы — харобрыя,
Жыццё тут намі навечна зменена:
Куды ні глянеш — краса народная,
Куды ні пойдзеш — сям'я ўсё згодная,—
Гэта мой родны калгас імя Леніна!

Зямля шчаслівая, зямля цудоўная,
Жыццёвай мары і сілы поўная,
Дзе злыбяда ўжо ніколі не стрэне нас,
Цвіце садамі, шуміць разлогамі,
Ідзе зялёнымі ўдаль дарогамі
І славіць Кастрычнік, і славіць Леніна.

*1957*

## ГІМН

Ёсць словы і ёсць мелодыі
З прыкрасамі і без прыкрас.
А гімнамі сталі найлепшыя —
Тыя, што ў сэрцах у нас.

Красу нашай далечы сонечнай,—
Юнацкіх дарог першацвет,
Вяснянку, што, ціха звонячы,
Гукае ў нявызнаны свет;

Красу пачуцця неабдымнага,—
Душы, гартаванай агнём,
І думак палёту нястрымнага,
І стрэч з самым радасным днём;

Красу ўсёй той велічнай слаўнасці,
Якой і не зведаць другім,—
Усё мы прыносім з адданасцю
У шчыры сыноўні свой гімн.

І сэрца праўдзівае, чыстае,
Абняўшы Радзімы зямлю,
Заўжды з таго гімна вячыстага
Пяе сабе слова «люблю»!

*1957*

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

Бацькаўшчына, бацькаўшчына...
Матчыная песня над калыскаю.
Акіяны сінія над хатай роднаю.
Бацькаўшчына, бацькаўшчына...
З кожнай сваёй памяткаю-рыскаю
Ты на ўсё жыццё — як зорка пуцяводная.

Бацькаўшчына, бацькаўшчына...
Ветру гоман з пушчай векавечнаю.
Маладыя мары — смелыя, імклівыя.

Бацькаўшчына, бацькаўшчына...
З сонечнаю ласкаю сардэчнаю
Ты на ўсё жыццё — як радасць зіхатлівая.

Бацькаўшчына, бацькаўшчына...
Сэрца з сэрцам здружана вітаецца.
Клічуць у жыццё дарогі торныя.
Бацькаўшчына, бацькаўшчына...
Што на свеце з ёю параўнаецца?
З ёй — адной на свеце, непаўторнаю?

*

Дык, значыць, вы аж цэлых трыццаць год
Жылі ўдалечыні ў нядродным краі?
— Эх, брат, не трыццаць год,
а трыццаць злых нягод
Не жыў, а гніў —
Жыццё там каты ўкралі.

Хаця б аднойчы хтось паспагадаў...
Прайшлі гады —
як праімчалі цугам...
Мне восем год было, калі прыйшла бяда
У бедную хаціну па-над Бугам.

Ці ведаеш ты, брат, што значыць лёс,
Лёс сіраты — без бацькі і без маці?
Не ведаеш, і добра!.. Ты іначай рос,
Ты бачыў радасць у бацькоўскай хаце.

А я,— мне восем год было, калі пачаў
Не ў байках, а наяве шлях у пекле,—
Мне восем год было, як на маіх вачах
Пілсудчыкі бацькоў маіх засеклі.

Забілі іх за мару аб жыцці —
Жыцці на бацькаўшчыне, светлай, вольнай...
І я адзін...
Дзе бедаку знайсці
Спагаду ў злыбядзе ліхой, няўмольнай?..

Далёкі родзіч падабраў мяне,
Як падбіраюць сена клок з дарогі —

На беднасць...
І аднойчы па вясне
У край заморскі павялі нас ногі.

Заморскі край... Я быў там трыццаць год...
І мы калісь гайдаліся на хвалях
І думалі: без гора і згрызот
Жыццё сабе нарэшце напаткалі...

Так думалі, а ўсё зусім інакш
Пайшло для нас на той зямлі заморскай.
Глядзі на рукі — вось жалеза знак...
А ў сэрца знак чарней —
ад крыўды горкай.

Амерыка... Хтось бае: «Шчасце-дні,
Багацце, супакой, свабоды, цуды»...
А я крычу: — Не слухайце хлусні!
Там — боль і здзек, мы там былі —
прыблуды!

Не даў той край жыцця для бедака,
Чыё багацце — рукі з мазалямі.
Не даў жыцця, не даў і кашалька,
А толькі ў душы кінуў камянямі.

Мне восем год было, калі мой крок
На той зямлі сустрэў нядолі церні.
Прайшло жыццё,— і мне ніхто, браток,
Гадоў маіх загубленых не верне.

Я быў усім, усе рамёствы я
Пазнаў — у працы я не быў калекам.
Я быў усім, адно душа мая
Не зведала прызвання чалавека.

Гняла пагарда, біў ліхі праклён,
Дні беспрацоўя нішчылі і церлі.
І там вось, брат, у суцемках тых дзён
Я зразумеў,
за што бацькі памерлі.

Мае бацькі! Згадаў я песні іх
І мару іх аб бацькаўшчыне вольнай.
І днём былі яны ў вачах маіх,
І ў снах я жыў іх марай неадольнай.

Мне снілася чырвоная зара,
Сцягоў чырвоных пошум над палямі,
Вясновая рабочая пара
Гукала мае рукі з мазалямі.

І бачыў я сябе ў пакутных снах
Сярод людзей шчаслівых, беспакутных...
І вось я тут... Дзе родная вясна,
Дзе родны край
пад зоркай пяцікутнай!..

*

Бацькаўшчына, бацькаўшчына!..
Далеч дарагая, неабдымная.
Над зямлёй цвіце зара барвовая.
Бацькаўшчына, бацькаўшчына...
Люба ты нам песняю нястрымнаю,
Непадкупнай думкай, шчырай моваю.

Бацькаўшчына, бацькаўшчына...
Вёсны залатыя, непагасныя.
Маладая дружба — шчасця поўная.
Бацькаўшчына, бацькаўшчына...
Люба ты нам доляй нашай яснаю,
Сілай нашай мужнаю чароўная!

Бацькаўшчына, бацькаўшчына...
І хаціна родная, і вуліца,
І сцяжына, змалку пратаптаная...
Бацькаўшчына, бацькаўшчына...
Сэрца, каб ажыць, к табе прытуліцца.
Сэрца, катамі падратаванае...

*

— Ты не зважай, брат, на маршчын сляды
На твары на маім. Што ж, знак былога...
І дужы я яшчэ і малады,
І светлая цяпер мая дарога,—

Сказаў ён і паходкай юнака
Ступіў да свайго трактара шырока.
Махнула мне мазольная рука,
І зноў паплыў над полем мерны рокат.

І пралеглі за ім зямлі пласты —
Зямлі калгаснай, шчырай, урадлівай,
І за рулём ён быў,— як я і ты,
Яго браты,— сваім жыццём шчаслівы.

І я глядзеў яму прыхільна ўслед
І думаў аб вялікім светлым лёсе
Маіх сяброў.
Нам вандраваць у свет,
Каб долю адшукаць, не давялося.

Нам бацькаўшчына родная дала
Святло, і ласку, і красу, і ўцеху,
Яна нам і сяброўкаю была,
І песняй, і юнацкім звонкім смехам,

І сонцам, і лятункам дарагім,
І крылямі, магутнымі, жывымі,—
Яна дала нам алыя сцягі,
Каб з сэрцамі былі мы агнявымі.

І нам часамі цяжка было, што ж,
Варожая ішла на нас навала,
Свінцовы сек нас ураганны дождж,
Гарматнай навальніцаю ламала.

Ды ўсё ж ніпто не здолела змагчы!
Мы ў бой ішлі адной сям'ёй народнай!
І сёння ззяюць славаю мячы
Вялікай нашай бацькаўшчыны роднай.

Цвіце памаладзелая зямля.
Жыві і слаўся, любасць маладая!
Хай ціхі дождж нясе красу палям,
Вада няхай у рэчках не спадае!

І я стаяў і думаў аб братах,
Закінутых у розныя старонкі,—
Чый покліч, як журботны сумны птах,
Ляціць над берагамі Амазонкі.

Чый голас чуў хрыбет Берагавы
І цёмныя завулкі Манрэаля,—
Сіроцкі голас, хоць яшчэ жывы,
Але з глухім бясконцым крыкам жалю...

Нямала разбрылося іх калісь
У пошуках зямлі — хоць трохі сытай...
І што яны ў чужых краях знайшлі?
Ці мала мар і шчырых душ разбіта?

І крыкнуць мне хацелася: — Браты!
Чые ў чужыне косці не сатлелі,
Я знаю — лёс ваш горкі і круты,
І вы па шчасцю сэрцамі збалелі.

Ад рэк чужых, дзе вы знайшлі адчай,
Чакаюць вас ля Нёмана і Сожа,
Чакае вас шчаслівы вольны край,
Дзе вас ніхто ніколі не ўстрывожа!

Край вернасці і шчырасці людской,
Дзе сэрца сэрцу ласкі свае дорыць,
Край — бацькаўшчына родная, якой
Нам аніхто на свеце не паўторыць!

*

Бацькаўшчына, бацькаўшчына...
Матчыная песня над калыскаю.
Акіяны сінія над хатай роднаю.
Бацькаўшчына, бацькаўшчына...
З кожнай сваёй памяткаю-рыскаю
Ты на ўсё жыццё — як зорка пуцяводная.

Бацькаўшчына, бацькаўшчына...
Можа, пра яе хто і забудзецца,
А яна ні пра каго не забываецца.
Бацькаўшчына, бацькаўшчына...
Што задумаў, зажадаў ты — збудзецца,
Толькі думка крыўды не збываецца.

Бацькаўшчына, бацькаўшчына...
Дні стаяць над краем прамяністыя.
І гараць сузор'і ў небе млечныя.
Бацькаўшчына, бацькаўшчына!
Пад сцягамі алымі агністымі
Мы ідзём з табою ў шчасце вечнае!

*1957*

## БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ

Беларуская маці
Дала мне агністую кроў.
Закаханы я сэрцам
У сцежкі над Бугам і Сожам.
А чаму ж мне і ў сне
Чуцен шум падмаскоўных бароў,
Гулкі рокат Нявы
І дыханне прастораў Паволжжа?

Любы мне, як і тыя,
З якімі радзіўся і рос,
Для якіх увесь век свой
Удзячнага слова шукаю,—
Любы мне
летуценні
Смаленскіх бялявых бяроз,
І агні над Уралам,
І рэха ў далінах Алтая.

Беларускаю мовай
Я першыя словы сказаў,
Беларускай вяснянкай
Сваё сустракаў я прадвесне.
А чаму ж, як пачую,
Ажно набягае сляза,—
Як пачую жывую
Пявучую рускую песню?

Любы мне, як свае,
Мары рускіх братоў і сясцёр.
Не таму, што мы побач
І хадзілі і кветкі збіралі.
А таму, што мы разам
Распалілі свабоды касцёр
І адною душой
І жылі і ў баях паміралі!

І нідзе я не змог бы
Пражыць ні хвіліны адной
Без шляхоў, што мой Мінск
З дарагою Масквою з'ядналі,
Без барвістых сцягоў,

Што плывуць над маёй стараной,
Без вятроў, што мой Сож
І што Волгу маю ўскалыхалі.

Я нямала пабачыў
Цудоўных зямель і краін.
Ды нашто яны мне!
Я багаты Айчынаю брацкай!
Дзе радзіўся Ільіч,
Дзе і я, яго вучань і сын,
Навучаўся ў жыцці
За народную справу змагацца.

На шчаслівым шляху
З рускім братам вітаюся я:
— Добры дзень! — і лаўлю
У адказ дружбакоў галасы я.
Я кажу: — Беларусь,
Беларусь дарагая мая! —
І адразу, як звон,
Адгукаецца ў сэрцы: Расія...

*1957*

* * *

Чаму рана ты, зязюля,
Перастала кукаваць?
— Я кукую, ды кування
За лясамі не чуваць,

За лясамі, за лістамі,
За прасторай палявой,
За жытамі з каласамі,
За травою-муравой...

Чаму рана ты, дзяўчына,
Перастала песні пець?
— Я спяваю, ды спяванню
Майму к вам не даляцець.

Я спяваю ў ясны вечар,
Ночкай зорнаю пяю:
— Спі, сынок, спусціўся месяц
На пасцельку на тваю.

Ціхі спеў мой, ды аб гэтым
Я ніколі не тужу,
Гэтай ціхаю задумай
Я, як шчасцем, даражу...

*1957*

## САД

Было калісьці: з гальштукам чырвоным
І я спяшаў на піянерскі збор.
Было калісьці: шумнаю калонай
Мы з песняй запаўнялі школьны двор.

Было калісьці: як і вы сягоння,
У марах мы глядзелі ў далягляд.
І вось тады
там, на калгасных гонях,
Мы пасадзілі свой маленькі сад.

Сад піянерскі, сад лятункаў чыстых...
Як многа бур прайшлося па-над ім
З тых дзён, калі вясковыя гарністы
Яму прапелі прывітальны гімн.

Над ім гула варожая навала.
Яго часамі сек свінцовы град...
Але ніякай сілай не зламала
Наш малады, наш піянерскі сад.

Байцамі стаўшы, мы з цяжкіх паходаў
У край прынеслі мір і цішыню.
І зараз бачым: сад наш год ад году
Расце і ў вышыню і ў шырыню.

Ля дрэў, што падымаюць важка кроны,
Ля дрэў, што дораць светлыя плады,
Малодшы друг мой з гальштукам чырвоным
Сігналіць збор, як я ў свае гады.

І сотні юных, шчырых, згуртаваных
Ідуць на кліч, раўняючыся ў рад,—
І шэрагамі дрэўцаў гадаваных
Штовосень папаўняецца наш сад.

Сад піянерскі, сад лятункаў чыстых...
Хоць пройдзе век, хоць прамінуць вякі —
Ён будзе жыць, пакуль растуць гарністы,
Пакуль растуць дзяўчаткі й хлапчукі,

Ён будзе жыць, квітнеючы, зялёны,
І разлівацца ўсё далей у шыр,
Пакуль звіняць ля гальштукаў чырвоных
Мільёны сэрцаў, дзе — вясна і мір.

*1958*

## ПІЯНЕРЫ
## Ў МУЗЕІ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

Нібыта ветрам свежым
Расхінула дзверы,
Смех, бы з крыніцы,
З юных б'е грудзей.
То хлопчыкі й дзяўчынкі,
Піянеры,
Гурбой вясёлаю
Зайшлі ў музей.

Пад самым мірным небам,
Пад шчаслівым сонцам
Яны ўзраслі
Без гора і клапот.
Таму
Не знае змоўку

Іх запал бясконцы,
Таму
Заўжды ў іх сэрцах
Смеху калаброд.

І нават тут,
У залах гэтага музея,
Дзе не засне ніколі
Сум цяжкой пары,
Дзе ходзіць дух
Сільніцкага, Казея,
Не хутка сціх, астынуў
Гоман дзетвары.

Ён велічна прайшоў
Па ўсіх маўклівых залах,
Як гоман
Самаго
Няспыннага жыцця.
І рэха цішыню
Услед за ім гайдала,
Ажно зашалясцеў,
Згадаўшы
Маршы,
Сцяг...

Ды ўсё ж —
Між гэтых сцен,
Дзе захаваны чула
Сляды герояў,
Подзвігі бацькоў,
Перад бязмоўнай
Скрухаю вянкоў
Я бачу:
Быццам громам скаланула
Дзяцей...
Стаяць з тугой
Каля партрэтаў
Паўшых,
Імкнуцца уявіць
Герояў прад сабоі...
Народжаным
У радасці

Нашчадкам нашым
Нялёгка зразумець,
Якім ён быў, той бой.

І хочацца мне стаць
Замест экскурсавода,
Сказаць:
— Сябры!
Не трэба вам маўчаць,
Вы гаманіце зноў,
Вы будзьце, як заўсёды,
Змахніце з твараў
Хмарнасці пячаць.

Нашто вам уяўляць
Баі, пажары, страты?
Вы лепш запомніце,
Каб несці праз гады,
Сказ
Аб нязломнасці
Савецкага салдата,
Сказ
Аб бяссмерці
Сэрцаў маладых...

І вось
Маўчаннем шчырым,
Смутку поўнай мерай
Ушанаваўшы
Памяць змагароў,
Зноў дружна ўперад
Крочаць піянеры,
І гоман іх
Далёка чуцен зноў.

І мы,
Дарослыя,
Праводзім іх з надзеяй,
Што жахі
Ненавіснае вайны
Вядомы будуць дзецям
Толькі па музеях;
Што толькі там
Зажурацца яны.


14 Зак. 2163

А выйдуць — хай зальюць
Усмешкамі наўколле,
Як марылі
Героі ўсіх франтоў,
Што мужна ваявалі
Ў небе, ў моры, ў полі
За будучых
Сясцёр сваіх, братоў!

*1958*

## КІМ МЫ БУДЗЕМ

Славяць людзі металістаў,
Інжынераў, піяністаў,
Маракоў і мастакоў,
Ды між іх з няменшай славай
Ў нашым краі ззяюць справы
Палявых працаўнікоў,
Камбайнёраў, трактарыстаў —
Нашых матак і бацькоў.

Мы з маленства бачым самі,
Як пшаніцамі, жытамі,
Як аўсамі і ільнамі
Аздабляюцца палі.
Каб паўнелі свірны хлебам,
Трэба рукі, розум трэба
І каб дружна ўсе жылі.

Славяць людзі металістаў,
Інжынераў, піяністаў,
Маракоў і мастакоў.
Ды між іх з няменшай славай
Ў нашым краі ззяюць справы
Палявых працаўнікоў,
Камбайнёраў, трактарыстаў —
Нашых матак і бацькоў.

Мы канчаем школу скора.
Вабяць нас завод і мора.
І харыстаў і танцораў

Шчыра любім мы заўжды.
Але ўсё ж ад роднай справы,
Ад бацькоўскай светлай славы
Мы не пойдзем нікуды.

Застанёмся з родным полем,
З яго сонечным прыволлем,
З яго шчодраю красой,
Каб ніколі не марнела,
Каб яшчэ вышэй звінела
Яго слова над зямлёй!

*1958*

## УСХОДЫ

Праклюнуліся і глядзяць на свет
Праз сузор'е маёвых расін.
І глядзяць на свет, бы на светлы страх.
Ну якраз як маленькі наш сын.

І як бы выбіраюць: а што ж рабіць
Пад сузор'ем маёвых расін —
Ці трымацца зямлі, ці да сонца расці?..
Ну якраз як маленькі наш сын!

Мы, што зерні тут сеялі,— мы з табой
Гэтых парасткаў ведаем лёс:
Хутка ўстануць яны
Сцяной збажыны
Між зямлёй і блакітам нябёс.

І такою ім сілай валодаць калісь,
І такой прыгажосцю ім ззяць,
Што — я веру — ўсе людзі па ўсёй зямлі
З цёплай ласкай на нас паглядзяць!..

А пакуль — ну, што за кволы ў іх стан! —
Ну, няйначай — на рукі вазьмі.
Ну, няйначай — пад свежым ветрам вясны
Захіні іх сваімі грудзьмі.

Праклюнуліся і трымцяць, трымцяць...
І не знаюць, што ў ходзе часін
Іх чакае вялікі і светлы лёс...

Ну якраз як маленькі наш сын!

*1958*

## НА НАШЫХ ВАЧАХ

І навалы варожыя, цяжка-грымотныя,
Ад якіх і цяпер яшчэ боль не ачах,
І світанні ўрачыстыя —
радасці ўзлётныя,
Перамогі народныя, беспаваротныя,
Кроў змагання і слёзы сустрэч на мячах,—
Гэта ўсё было, дружа,
На нашых вачах.

На нашых вачах,—
І таму яны грозна-пякучыя,
На нашых вачах,—
І таму яны шчырыя ў нас,—
Уздымаліся хвалі
Народнага гневу грымучыя,
Глыбачэлі крыніцы
Людскога братэрства гаючыя,
І для буйнага ўздыму — на велічны час —
Загарэўся прамень, што і ў бурах не згас.

Той прамень — светач волі і шчасця высокага,
І на нашых вачах
Азараў нашы дні,
І на нашых вачах
Праўдай веку нялёгкага
Да куточка да самага ў свеце далёкага
Дасягаў, каб ці зблізку, ці ўдалечыні
Кожны ўбачыў суровага шчасця агні.

Як сімфонію ніў і рабочага молата,
Мы для гэтага шчасця прыносім свой спеў.
Край наш родны,

Ты ў свеце багаты не золатам,
А сынамі, што ўсталі ў змаганні, як волаты,
Прагай сэрцаў, дзе велічы колас даспеў,
Дзе лятунак наш сонечны зазіхацеў.

Край савецкі, зямля беларуская мужная,
Прад усімі мы ўсе
Ганарымся табой!
Пасля цёмных навал
Ты стаіш непарушная,
З дарагімі братамі-народамі дружная,
Гераіня пачэсная ў працы любой,
Партызанка,
заўсёды гатовая ў бой.

Пакаленне байцоў, мы зрабілі нямалае:
Мы агонь зберaглі, што нам Ленін прынёс.
А яшчэ ж у нас будучынь ёсць небывалая —
Яшчэ ўспыхне наўсцяж мора яснае, алае,
І на нашых вачах
Свет маркоты і слёз
Назаўсёды здабудзе
Прыгожы свой лёс!

*1958*

* * *

Перад дарогаю
Трошкі падумаць хачу.
Крылы я маю:
Куды захачу — палячу.
Крылы я маю
І ўмею прасторы любіць.
Мары спрадвечныя
Трэба мне явай зрабіць!..

Перад дарогаю
Трошкі падумаць хачу.
Чым я Радзіме
За крылы свае заплачу?

Чым ёй аддзячу
За вольны, бяскопцы простор,
Каб не кідалі мне
Гнеўны нашчадкі дакор?..

Перад дарогаю
Трошкі падумаць хачу.
Хай мая мужнасць
Ніколі не гасне ўваччу,
Хай маё сэрца
Імкнецца да сэрцаў заўжды,
Хай мая песня
Імклівыя славіць гады,
Хай мне на плечы
Найбольшы на свеце цяжар,
Хай мае крылы
Світанні нясуць у абшар!

*1958*

## ТЫ ЦІ НЕ ТЫ

Ты ці не ты там стаіш арабінай —
З хусткай барвістаю,— ты ці не ты,
Ціха апаўшы тугой вераснёвай
На бераг круты?

Ты ці не ты неаджытым праменем
З днём развіталася — ты ці не ты,
Кінуўшы ўсім чарацінам на плёсе
Свой бляск залаты?

Ты ці не ты пралягла над зямлёю
Зорнай дарогаю — ты ці не ты,
Ззяючы роздумам, ззяючы ўцехай
Для кожнай вярсты?

Ты ці не ты...— адкажы, адгукніся.
Дзе ты? — ці ў радасці ты, ці ў журбе?..
І для чаго і нашто столькі часу
Хочаш, каб сэрца шукала цябе...

*1958*

## ГАРМАНІСТ

— Гарманіст! Што граеш ты
толькі песні сумныя,
Ну, калі не сумныя,
дык усё задумныя,
Не на малады, вясёлы лад?
Даў бы ты нам «Юрачку»
Ці хаця б мазурачку,
Што, скажы, з табой сягоння, брат?

— Эх, сябры харошыя,
я б сыграў вам полечку,
Не стаміўся б, верце мне,
граючы, ніколечкі,
І «Мікіту» б даў і «Крыжачка»,
Ды баліць душа мая...
Гора тое ж самае
Ведае і падае рука...

Граў я песні розныя,
гучныя, вясёлыя,
Ведаеце самі вы,
як хадзіў я сёламі.
Добра ў танцах выбілі зямлю.
Ды пачуў надоечы
Словы я...
Не тоячы,
Вам я назаву іх:
«Не люблю»...

— Гарманіст! Не вер ты ёй!
Ну, а калі верыцца,
Што твая каханая
да цябе не вернецца,
Дык хутчэй «Лявоніху» заграй,
Глянь, якія гожыя,
Здатныя, прыгожыя
Нашыя дзяўчаты! Выбірай!..

— Выбраць-то я выбраў бы,—
гаварыў ён, граючы,—
Толькі б не стаміцца мне,
доўга выбіраючы,

Між другіх такую, як яна,
Добрую і мілую,
Птушку легкакрылую —
Бо такая ў свеце ёсць адна!

Выбраць-то я выбраў бы,
толькі ж як забуду я
Вочы тыя сінія
любай, светлакудрае?..
Дзякую вам, хлопцы, пацярплю...
Зноў пайду, спытаюся —
Можа, я мыляюся:
Можа, там было адно «люблю»!

*1958*

## СТОЙ, ВЯСНА

Стой, вясна, не спяшайся з паводкай і выраем,
З цёплым ветрам, з дажджом,—
дай мне часу, вясна,
Развітацца з зімою размоваю шчыраю,
Я не ўсё парабіў, што чакала яна.

Стой, вясна, не ляці
з такой палкасцю спрытнаю! —
Так з адчаем хацеў закрычаць я вясне...
А яна абдала мяне хваляй блакітнаю,
Спевы жаўранка з высяў сыпнула ка мне.

Моцна ў сэрца пастукала з бору сасновага
Звонам сцежак,
дзе зноў ажыла дзераза...
І не здолеў сказаць я ёй слова суровага...
А вясне пакланіўся і гэтак сказаў:

— Ты даруй мне, вясна,
прад табою пакаюся,
Я дасюль непаседай, бадзяжнікам жыў,
І таму мне і часу, відаць, не хапае ўсё,
Што так многа па вольных прасторах кружыў.

Я не мог утрымацца ў пакойчыку,
чуючы
Шум жытоў, подых рэчкі ці голас завей.
Пад нягаснучым полагам неба начуючы,
Я рашаў, што пабачыць, дзе быць мне далей.

Але я абяцаю, вясна, жыць па рацыі:
Больш канцець у дрымотнай кватэрнай цішы,
Жыць разумна, аседла,
як тыя прыяцелі,
Што заўжды ганарацца спакоем душы.

Буду слухацца жонкі, прымаць яе клопаты,
Як святы эліксір... замалю ўсе грахі...
Але ў гэту хвіліну
дзесь з крыкам і лопатам
Падняліся глушцы, і запахлі імхі,

І данесла аднекуль вясновую, свежую
Навальніцы размову з бараознамі ніў...
І не помню,
як хлеба акрайчык адрэзаў я
І як дзверы ізноў за сабой зачыніў...

*1958*

## У ДЗЕНЬ СУНІЦ

Ой, зарадзілі сільна, буйна
Ягады ў бары.
*(З народнага)*

Сярод лістоў, пад сцюжай абгарэлых,
Калі мятуць іх мётлы непагод,
Прыгадвалася мне, як ты сустрэла
Мяне калісьці светла ля варот.

Сярод снягоў, сумётаў прыдарожных,
У клопатах, каб хоць касцёр не згас,
Я ўспомню, як на заклік мой трывожны
Ты словы ласкі слала мне не раз.

Сярод пялёсткаў руж і медуніцаў,
Калі звініць прастораў чысціня,
І ў сто гадоў прыпомніцца й прысніцца
Адданых тваіх вуснаў цеплыня.

А ў той усёй, усёй красе на свеце —
У сполаху ліпнёвых зараніц
Мне захавае памяць спеў аб леце,
Аб шчасці маладым сярод суніц.

Парой суніц, на сонечнай паляне,
Дзе ліпеньская слалася духмень,
Сустрэлі мы з табою тое ранне,
З якім прыходзіць самы ясны дзень.

Мы толькі ўдвух былі прад светам родным,
І свет вітанняў нам не выбіраў,
Ён нас вітаў
птушыным спевам згодным,
Расой сцяжын, спакоем дрэў і траў.

І шчасце наша — не неспадзяванка —
Было такім жа поўным з тым жыццём,
Як з ягадамі спелымі
лубянка,
Прыкрытая калінавым лісцём...

Даўно?.. Даўно ці не... Магчыма, ўчора...
Учора і сягоння. Дзень у дзень.
Пакуль плывуць
з зялёным бляскам зоры,
Пакуль спявае сонечны прамень,

Пакуль гамоніць бор над ціхай сховай,
Дзе ягады выходзяць
нас страчаць,
Пакуль гучыць у сэрцах тое слова,
Што іхняй прагай дадзена гучаць,

Пакуль ёсць ты, а значыць —
непагасны
Агонь жыцця па самы доўгі час! —
Датуль мне пець аб шчасці з доляй яснай —
Ва ўсім, ва ўсім. Што вокал нас і ў нас.

*1958*

## КРЫНІЧКА

Тут біла крынічка.
Старэнькія вольхі,
Як дзівы-бабулі, глядзеліся ў воды
І ўсё шапяталі.

Аб чым шапяталі
старэнькія вольхі?
Аб сіле глыбіняў ці велічы неба?
Хто скажа пра гэта?

А толькі такога ніхто і ніколі
Не знаў, мусіць, шчасця,
як той, хто, сасмяглы,
Схіляўся ля вольхаў.

Схіляўся ў паклоне над звонкім струменем,
Дрыготка і прагна піў воды жывыя
І чуў, як мацнее...

*

Прыйшла нечакана да ціхай крынічкі,
Прыйшла, загрымела над берагам Сожа
Ліхая навала;

Зламала і ссекла варожаю бомбай
Ля самага дола, ля самых карэнняў
Старэнькія вольхі,

І ўпалі са стогнам яны на пясчаны
Курган,—
што засыпаў, бы воіна ў полі,
Жывічку-крынічку...

І лета мінула, і восень мінула,
Крынічка-жывічка як быццам заснула,
Як быццам памёрла.

Зарос палынамі курган па-над ёю,
Зіма ля кургана завеі вадзіла,
Катала сумёты,

І новай вясной, калі сонейка ўстала,—
Ніхто не ўзбудзілася, не ажыло тут,
Ля вербаў счарнелых...

*

Але пад зямлёю, ў глыбінях ахоўных,
Жыла ўсё ж крынічка, і нават не спала,
І ўсё сабе чула.

І чула крынічка ў галошанні ветраў
Чужую гамонку, варожую мову
Па ўсім наваколлі;

І чула, як тут расстралялі аднойчы
Сям'ю партызанскую: дзетак маленькіх
І дзеда сівога;

І чула, як маці маленькіх шукала,
Шукала, гукала, зямлю цалавала
І рукі ламала...

*

О, як жа хацела крынічка-жывічка
Вадой жыватворнай абмыць яе раны,
Суняць яе гора!

О, як жа хацела крынічка-жывічка
Вось тут, з-пад кургана, да яснага света
Прабіць сабе выхад!

О, як жа хацела! Ды некаму зараз,
Ды некаму зараз было памагчы ёй:
Навокал — чужынцы...

*

Тады па нябачных па жылах глыбінных
Паслала крынічка гаючыя воды
Да пушчы цяністай;

Паслала туды, адкуль чуліся часта
Знаёмыя шэпты, знаёмыя словы
Знаёмае мовы;

Паслала шукаць, дзе надзейны ёсць выхад,
Дзе губы сасмяглыя, сэрцы збалелыя
Прагнуць спагады...

*

І вось пад ялінай, ля самай зямлянкі,
З'явіўся струменьчык і жвавы, і звонкі,
І светлы, як маці.

І людзі яго абступілі ў здзіўленні,
І людзі над ім нахіліліся з ласкай,
Як над дзіцяняткам,

І ўсе па чарзе цалаваліся шчыра
З пасланцам крынічкі, што біла калісьці
З-пад вольхаў старэнькіх.

Ніхто тут не ведаў, што гэта ўсё тая ж
Крынічка-жывічка, ім родная змалку,
Знайшла іх у пушчы,—

Яна ж прабівала глыбінныя тоўшчы
І бачыла шчасце — што зноўку патрэбна
Для сэрцаў любімых...

Начамі і днямі грымелі навокал
Баёў партызанскіх, вайны ўсенароднай
Знішчальныя громы.

Слязамі і смуткам матулі і жонкі
Праводзілі паўшых, навек непаўторных
Сыноў і кармільцаў,

Героямі помсты ўставалі жывыя
Асілкі народа, байцы перамогі,
Ўставалі на подзвіг,—

І біў несціхана ў той пушчы ваяцкай —
Звінеў, супакойваў, і цешыў, і клікаў
Струменьчык глыбінны...

*

З-за Сожа, з усходу, з вялікай Радзімы
Аднойчы світанкам пачуліся ў пушчы
Навіны-грымоты,

Ішлі яны гулка, ляцелі імкліва,
І ў пушчы зараз прагучалі два словы:
Свабода і Слава!

І рушылі з пушчы свабодзе насустрач
Байцы-партызаны, і маці, і ўдовы,
І дзеці малыя...

І там, дзе на месцы жывічкі-крынічкі
Цяпер узвышаўся курган з палынамі,—
Там сталася цуда.

Байцы-пехацінцы, скасіўшы фашыстаў,
Для новага бою на гэтым кургане
Капалі акопчык.

Капалі акопчык салдаты — і раптам
Забіла магутна з-пад іхніх лапатак
Крынічка-жывічка.

І, мусіць, ніколі такой жыццядайнай,
Такой жыватворнай ад дня нараджэння
Яна не была тут,

Бо тыя салдаты, што стрэліся з ёю,
Што ёй вызваленне і волю прынеслі,
У бітвах не ўпалі,

Яны і сягоння нясуць нашу славу,
Будуюць і сеюць, шляхі пракладаюць
Для шчасця людскога...

*

Шмат бачыла гора зямля наша — маці,
Шмат ран ёй пакінулі ворагі-каты,
Чужынцы ліхія.

Ды гляньце: вось тут, на зямлі нашай роднай,
Як біла крынічка — глыбіннае сэрца,
Так б'е і сягоння.

Сатлелі старэнькія вольхі, ды зараз
Шуміць па-над ёй маладзенькі альшанік
Надзейнай аховай.

Я ўзрос каля гэтай крынічкі-жывічкі,
Над светлым струменем не раз я схіляўся
І сёння схілюся.

І я не паверу ніколі на свеце,
Што можна скаваць, што спыніць хаця можна
Імкненне і веру!

Імкненне не можа пражыць без імкнення,
Любоў да любові дарогу й напрамак
Заўжды адшукае.

І вечны, й нязрушны ўсе тыя прасторы,
Дзе б'юць жыватворныя светлыя плыні,
Каб сэрцы мужнелі!

*1958*

## НАВІНЬСКІ БОР

— Здароў, Навіньскі бор дрымучы!
— Здароў, здароў!..
— То — я... Ты помніш — па-над кручай,
Над плынню Сожавай пявучай,
Я пасвіў тут кароў?
— А-а... Што ж... Здароў!.. Здароў!..

— Лягло слядамі год нямала
На нашу кожную вярсту.
Ну, як жывеш ты? Як бывала
Шуміш?.. Ці сіл забракавала?..
— Як? А ўсё так. Усё расту!..

— Скажы, не крыўдзішся ты, дружа,
Што доўга так — і ў гром, і ў сцюжу —
Быў ад цябе удалечыні?
— Пашто!
Я крыўды, брат, не знаю,
Я крыллі ў неба развінаю,
Вось які я — зірні!

Заўжды я знаў, што і праз годы
Вярну сяброў сваіх,
заўсёды
Сваім іх гоманам знайду!
І ты... Куды б ты зноў ні крочыў,
А прыйдзеш мне зірнуць у вочы,
Каб дужым стаць...
— Прыйду!.. Прыйду!..

*1958*

## КАЛІ Я ДАМОЎ ПРЫЕДУ

Калі я дамоў прыеду,
Ўсіх трывог зазнаўшы меру,
Пасцялі ты мне, матуля,
Пасцялі пасцель з аеру.

Ён расце ў нас недалёчка —
Ля Сажа, каля прычала.
Ты ж заўжды — з маленства помню —
Мне пасцель з аеру слала.

Слала, думала аб лепшай,
Думкі з песняю ляцелі.
Толькі лепшае пасля я
Не знайшоў нідзе пасцелі.

Па франтах ішоў — вайна мне
Пад бакі кідала жорны,
Перапаленыя вёрсты,
Ланцугі акопаў чорных.

З бою выйшаў — на руінах
Доўга клаўся галавою,
Пакуль з домам сваім новым
Не ўздыхнуў пад сінявою.

Ну, а потым — апынуўся
У абдымках, нібы цаца.
І пад мляваю пяшчотай
Стаў пра мары забывацца.

Нават сноў няма ў пярынах,
Іх я ласкам больш не веру...
Пасцялі ты мне, матуля,
Пасцялі пасцель з аеру.

Не зважай, што не юнак я,
Што прайшло гадоў багата,
Не бяда, калі цяпер мне
Будзе трохі мулкавата.

А затое я адчую,
Што ізноў навек з табою:
І з надзеямі тваімі,
І з уцехай, і з журбою —

Са святлом душы, якога
Столькі трэба мне заўсёды —
І для пошукаў бясконцых,
І на новыя паходы.

*1958*

## ГРОМ

Чалавек прыпыніўся:
за ракою — абвалам са стром —
Загрымеў, пакаціўся,
віхравеі ўздымаючы, гром.
Чалавек пад вятрамі
пахіліўся, прысеў на траву.
Нестарымі рукамі
у знямозе абняў галаву.
Галава ў чалавека
паплыла, як на хісткім чаўне.

Сын суровага веку,
зненавідзеў ён гром на вайне.
Гром!.. Дажджын адгалоскі...
Буйны постук па свежай раллі.
Клейкі ліст для бярозкі.
Веснавое пітво для зямлі.
Гром! Усходы на гонях.
Жыватворная завязь садам.
Гром! Даруй, што сягоння
ты нялёгкія дні прыгадаў.
Чалавеку не проста
адмахнуцца ад сумнай імжы:
І дарог сваіх ростань,
і сіроцкі ён боль перажыў.
Чалавек гэты ўмее
і смяяцца, і песняй сурміць.
Ды заўжды пацямнее,
калі раптам над ім загрыміць.
Але гэта, павер мне,
на малую хвілінку адну.
Вось ён зараз паверне
твар гарачы пад ліўня сцяну.
Вось ён зараз устане,
каб прымятае дрэўца падняць.
З маладым хваляваннем
ён захоча прасторы абняць...
Пад навалаю парнай
уздыхнулі палі і лугі.
Рупатлівы, ўладарны
дождж рачныя абмыў берагі,
На хмызы, на азерцы
льецца, льецца,
ён з хмарных засек...
І прымае ўсім сэрцам
гэту ласку вясны чалавек.
Ён глядзіць улюбёна
на вясёлку з агністым багром,
На палетак зялёны —
і вітае, ачнуўшыся, гром,
Гром пялёсткаў і лісця,
медуніц і густой збажыны,—
Для такога калісьці
зненавідзеў ён грукат вайны!..

*1958*

## ТРУБА

Не тугу апяваць,
Не маркоту,
Не смутак-жальбу —
Мне ўручыла Радзіма
У вялікім паходзе
Трубу.

Не маўчаць,
Не чакаць,
Не глядзець, пакуль скончыцца бой,
А на славу гукаць
І на подзвіг
Пявучай трубой...

Я часамі спыняўся,
Я часамі трымаўся ледзь-ледзь,—
Прад таварышам паўшым,
Ледзянеючы,
Плакала медзь.

Перад смуткам бясконцым
Часам
Ціха змаўкала труба,
І на сэрца, як попел,
Ападала маркота-жальба...

Але так,
Як пад попелам
Не стухае на вогнішчы жар,—
Так і ў сэрцы гучаў,
Не змаўкаючы, голас ахвяр.

І нязгасным агнём
Загаралася зноў барацьба,
І, ажыўшы,
Героям
Зноў гукала на подзвіг труба!..

І сягоння яна
Не прыстала ў паходзе трубіць,
І сягоння яна
Ненавідзець заве
І любіць,—

Ненавідзець ліхое,
Каб светач жыцця
Не пагас,
І любіць дарагое —
Назаўжды
І адзін толькі раз!

*1958*

## ФАРСІРАВАНАЯ РАКА

— Вось яна!..— праказаў мой таварыш,
здымаючы шапку прад ёй
(Я заўважыў, як жылістая задрыжала рука).
І пасля,—
мусіць, з памяццю пагаварыўшы сваёй,
Ён дакончыў:
— Фарсіраваная мною рака...

Я глядзеў і не бачыў нічога навокал,
каб так
Хвалявацца, як зараз таварыш
хвалюецца мой.
Перад намі магутна —
відаць, аніўто ёй не ў знак —
Слала воды рака, упрыгожыўшы далі сабой.

Па-над ёй да блакітных вышынь
уздымаліся вежы дубоў,
Каля берага суха шапталі з кугой сітнягі,
І бязмежна наўсцяж —
да пясчаных у полі гарбоў —
Прасціраліся з рослымі травамі,
з крыкамі чаек лугі.

Залатыя рамонкі. Пярэсна. Нявымаўны майнікаў пах.
Задуменная ціша. Спакоі вечарніцы-зары.
А ў таварыша бачу глыбокую скруху ў вачах.
— Вось, глядзі...— ён гаворыць.
— Тут спяць баявыя сябры...

І мы ўдвух расхінулі ў маўчанні
ўзбуялы арэшнік густы
І замерлі — нібы вартавыя пад сцягам палка —
Перад брацкай магілай, спавітай у травы й кусты,
За якой зіхацела красою
фарсіраваная рака.

І адразу паўсталі мне ў памяці
сотні пяройдзеных рэк,
Здратаваныя гоні,
счарнелых палёў валуны,
Дзе мае аднакашнікі,
ў бітвах заснуўшы навек,
Сняць сягоння свае невядомыя, нетутэйшыя сны.

Як жа трэба было даражыць ім
зямлёй і нябёс сінявой,
Колькі трэба было
светлай любасці ў сэрцах насіць,
Каб застацца вось так непрыкметна
ляжаць пад травой

Для таго, каб маглі касары па-пад імі
траву сакаўную касіць.
Для таго, каб няспынна жыццё абнаўляла
ход зімаў і лет,
А пявучыя плыні не ціхлі ў закуцці віроў,
І далёка быў чуцен пакінуты хлопцамі свет,
Дзе маленства і маці, юнацтва і рукі сяброў.

О крыніцы нязрушанай еднасці — сілы людской!
О Радзіма! Жыццёвая шчодрасць бясконца твая!
Спяць адны, каб ішоў па зямлі
немаўклівы спакой,
А другія растуць,
каб не менела сціплых герояў сям'я...

Што ж, давай памаўчым тут, таварыш,
над сумам тваім пастаім,
Ды і пойдзем далей,
бо па роднай зямлі столькі спраў! —
Што пакінулі нам
сваёй думкай і сэрцам сваім
Тыя ўсе, што памерлі для нас
на грымотных валах пераправ!..

*1958*

## АД ІМЯ НАРОДА

Калі ў Крамлі ў азораным палацы
З'езд партыі адкрые
Ленінскі ЦК —
Па ўсёй краіне пройдзе гул авацый
І знойдзе водгалас на ўсіх мацерыках.

І ўсе мы шчырымі пачуццямі ўрачыста
Мільярднай арміяй у светлы ўвойдзем зал,
Каб сэрцамі ў кагорце лепшых камуністаў
Магутна праспяваць Інтэрнацыянал.

Як многа мы адчуем гэтай хвіляй,
Як многа струн душэўных згодна зазвініць
Пра ўсё, чым мы жылі і што зрабілі,
Пра ўсё, што мы навечна палюбілі,
Што створым заўтра, каб народам лепей жыць!

*

Партыйны з'езд. З'езд камуністаў-творцаў.
Дзе веліч — ад імя народных сіл.
Дзе голас — гэта заклік ясназорцаў.
Дзе слова — гэта ўзмах магутных крыл.

Калі ў Крамлі ў азораным палацы
Даклад пачнецца ад імя ЦК —
Па ўсёй краіне пройдзе гул авацый
І знойдзе водгалас на ўсіх мацерыках.

І ўсе мы
Шчырымі пачуццямі ўрачыста
Сям'ёю лепскай у светлы ўвойдзем зал,
Каб сэрцамі ў кагорце лепшых камуністаў
Для новых звонкіх подзвігаў вячыстых
Магутна праспяваць Інтэрнацыянал!

*1959*

## ПОЗІРК ІЛЬІЧА

У дні, калі Кастрычнік гулкім словам
Сказаў зямлі: — Нядолі путы скінь!..—
Прыжмураныя вочы Ільічовы
Уважліва глядзелі ўдалячынь.
Са Смольнага, дзе біла плынь імкненняў,
Дзе браў раўненне пераможны клас,
Ён справы новых бачыў пакаленняў.
Ён бачыў нас.
Ён добра бачыў нас.

Над чарцяжом, над кнігаю, над сшыткам,
Над колбай, за штурвалам, ля станка
Ён бачыў нас. І з намі на Магнітках
Ён домны ставіў, і яго рука
На Днепрабудах з намі сцены клала
І роллі засявала ў добры час,—
Ён ведаў, што зямля жыцця чакала,
І бачыў нас.
Ён добра бачыў нас.

Так, яшчэ там, на рубяжы грымлівым,
Калі кідаў Кастрычнік гулкі кліч,—
Сваю краіну ў сённяшняй імклівай
Хадзе вялікай бачыў наш Ільіч.

І нездарма, бацькам сваім на змену
Устаўшыя ад курнага карча,
Мы ў сэрцах адчувалі
Той праменны,
Той непаўторны
Позірк Ільіча.
І нездарма працуем, марым, крочым,
Будуем, сеем, да планет ляцім
Так, каб жывыя ленінскія вочы
Ўсміхаліся з ухвалай нам усім.

Жывём заўжды з адным, сябры, імкненнем:
Такімі быць і вымераць свой шлях,
Якімі нас калісьці ўбачыў Ленін
Адтуль, дзе даў народам слаўны сцяг!

*1959*

## ПЕСНЯ ПРА ПТУШАК

І салавей, і дрозд, і голуб,
І перапёлка, і жаўна...
О, колькі螺 спеваў іх вясёлых
Нам дорыць наша старана!

Прайдзіся полем ці залужжам,
Заглянь на возера ці ў бор,—
Цябе заўжды сустрэне дружны,
З хвалой жыццю, птушыны хор.

Сустрэне, смутку каб не знаў ты,
Каб радасць білася ў грудзях,
Каб і сягоння ты і заўтра
Замілавана йшоў у шлях.

І салавей, і дрозд, і голуб,
І перапёлка, і жаўна...
О, колькі спеваў іх вясёлых
Вартуе наша старана!

Вартуе пушчамі, садамі,
І цішынёй азёр і рэк,
І тою славай, што гадамі
Стварыў наш мужны чалавек.

Вартуе — мы павінны ведаць —
Усё для нас, усё для нас,
Каб над прывольным нашым следам
Лятунак велічны не гас.

І салавей, і дрозд, і голуб,
І перапёлка, і жаўна...
О, колькі спеваў іх вясёлых
Яшчэ народзіць старана!

Бо веру я, што мы з табою —
Дзе б ні жылі, дзе б ні ішлі —
Пад навальніцаю любою
Не пусцім крыўду к той зямлі,

Дзе нават просты спеў птушыны
Раджае ў сэрцах пачуццё,
Што лепшы скарб — краса айчыны,
Яе бясконцае жыццё!

*1959*

## МЕСЯЦ І ХМУРЫНКА

Зачапілася за месяц,
За зялёны язычок,
Сінякрылая хмурынка —
Як гарохавы стручок.

Зачапілася, гайдаецца —
Ляціць і не ляціць.
І, як спелая гарошына,
Аб месяц шалясціць.

Ну, а месяц? Кажа месяц:
«Я такога не люблю!
Спаць хачу я»... І рашыў ён
Скінуць хмарку на зямлю.

Тут адразу ўзняўся вецер,
Разгайдаў шырокі Сож.
І заплакала хмурынка —
На зямлю закрапаў дождж.

Дождж ляціць на нашы ўзлескі,
На яліны, на дубы.
Хай ляціць — мы пойдзем ранкам,
Раннім ранкам па грыбы.

*1959*

## НЕ МАГУ Я ЗАСТАЦЦА АДЗІН

Не магу я застацца адзін —
Без людзей,
Без лятункаў, без募раў людскіх
І надзей,
Без іх сонечнай радасці —
Веры ў свой лёс,
Без іх песень, і смеху,
І нават без слёз...

Не магу ні на міг я
Пакінуць сябе
Без агню, што гартуе душу
Ў барацьбе,
Без агню, што народжаны
Ў душах людскіх —
Душах верных таварышаў,
Сябраў маіх.

Не магу! Бо іначай —
Як мог бы я жыць!
Хіба каменем тым,
Што стагоддзі ляжыць?
Хіба кратэрам, што выбухае
Парой,
Каб адразу застыць
Над зямною карой?

Людзі, ёсць у мяне
Ток сардэчны жывы,
І таму ён жывы,
Што вакол мяне — вы,
І пакуль я між вас,
Пакуль дыхаю сам,—
Вам за шчасце быць з вамі
Усё я аддам!

*1959*

## РАДЗІМА

Лепей за ўсё мне на свеце мясціна
Тая, дзе я нарадзіўся і ўзрос.
Бэз пад акном і на полі каліна...
Ціхае сонца, блакіты нябёс...

Можа, другому не скажа нічога
Сціплая смолка на ўзлессі ў траве,
Мне ж у ёй радасць гучыць і трывога,
З ёю маё захапленне жыве.

Любы мне бору сасновага звоны,
Пошум прысадаў, што ўзбеглі на шлях.
Там, дзе бязмежна пралеглі загоны,
Сэрца ўбірае прыволле ў палях.

Выйдзеш за вёску — жытнёвыя хвалі
Коцяцца, цёплыя, плынящь наўсцяж...
Клічуць дарогі ў бясконцыя далі...
Самы ты вольны, край бацькаўскі наш!

Колькі мне маці тут песень спявала,
Колькі радзілася ў сэрцы тут мар,
Колькі мне ласкі жыццё аддавала,
Позіркам шчасця тут гледзячы ў твар.

Тут я быць верным і чулым вучыўся,
Сілу здабыў тут, якой не зламіць.
І сваёй роднай зямлі, дзе радзіўся,
Мне аніколі нідзе не забыць.

Дзе ні жыву, ўспамінаю да рыскі
Ўсё, аб чым слова ў душы берагу,
Кожны куточак, знаёмы і блізкі,
Ўсюды са мной.
Не згадаць не магу

Рэчкі люстранай між лозаў і вязаў,
Што па лугах быстра воды нясе,
Поля, дзе смутак забудзеш адразу,
Сэрцам аддаўшыся светлай красе.

Матчыных слоў не забуду ніколі.
Дружбу шаную, што з вамі ствараў,
З вамі, сябрамі, якіх яшчэ ў школе
Роднымі сэрцу навечна абраў...

*1959*

* * *

Туманам лёгкім зноў зацягне гоні.
Падыдзе вечар ціха пад акно.
Тады мне трэба, дружа мой, адно:
Мне трэба, каб гучней твой граў гармонік.

Націсні на пявучыя лады.
Пад тваё гранне песню спець
хачу я.
Ты ж ведаеш... А мо яна й пачуе...
І, можа, прыйдзе, любая, сюды.

Ты ж ведаеш... сказаць я аб каханні
Даўно хачу... але хаджу з тугой.
Зайграй жа, браце, мы ж сябры
з табой!
Пашлём агністы заклік
на спатканне!

*1960*

## СЛОВА ДА СЭРЦА

Чаго ты хочаш,
адкажы не тоячы,
Куды ляціш,
нарэшце мне скажы!
То біла ты маланкамі
надоечы,
То сёння аж трымціш,
як на нажы.

То ты за даўняй нейкай
гоніш згадкаю,
То ў новую кідаеш
далячынь.
То многа табе месца
пад палаткаю,
То мала там,
дзе ўся нябёсаў сінь.

Няспынным быць —
Завеш мяне
Імклівае,
То грукаеш трывожна
ў цішыні.
Ты і журботнае,

Ты і шчаслівае,
Ты і вартоўнае:
спрабуй, крані.

Так б'ешся, сэрца,
ты з бясконцым рокатам.
І я жыву —
смяюся і тужу.
І кожны дзень
не расстаюся з клопатам
За ўсё жыццё.
І кожны дзень кажу:

Няўжо табе
ніколі не жадаецца
Жыць для сябе...
забыўшыся на ўсіх...
Такія ж ёсць,
Што мірненька гайдаюцца,
Як маятнікі —
роўна, міг на міг...
Няўжо табе,
заўзятае ты, шумнае,
Не лепш было б
жыць ціха, без трывог?
Штораз скажу так
і штораз надумаю:
Ды як жа так?
Няўжо б стрываць я мог,
Няўжо б сцярпеў,
каб з мэтай самалюбнаю
Лагодненька
ты білася ў мяне?
Заўжды шукала
сцежачку нязгубную...
Адных уцех...
Няўжо б стрываў я?
Не!..

Няхай — лепш будзе цяжка,
ды без марнасці.
Хай лепей будзе боль,
чым немата.
Чым глушыня —
дык лепш пад ветрам твар нясці,

Жыць у гарэнні,
        калі жыць да ста.
Яшчэ не раз, напэўна,
        дум не тоячы,
Табе скажу я:
        — Ну чаго крычыш?
Куды ляціш ты, сэрца?
        І няўжо яшчэ
Ажно й дасюль
        няўрымсліва гручыш?..

Я так скажу,
        а ты не слухай, роднае.
А ты грымі,
        гары і не стухай!
І што ж —
        няхай, як дзіва мімалётнае,
Ў жыцці нам будзе ціша,
        Што ж, няхай...

*1960*

## КАЛІ Б МНЕ СКАЗАЛА КРАІНА

Калі б мне сказала краіна:
— Ты ўсё ўжо зрабіў, адпачні...
Я і тады б не пакінуў
Рашучасць каваць на агні.

Бо маці заўсёды так: ласкай
Ахоўвае сынаў спакой.
А ты — а ў тваім абавязку
Быць здольным на працу і бой.

Пакуль на зямлі не замоўкла
Пагроза дыханню жыцця,
Я мушу мець пільнае вока
І гарт баявы пачуцця.

Пакуль чалавечае шчасце
Прыйшло не на кожны парог,
Я мушу ўсе сілы прыкласці,
Каб свет злыбяду перамог.

Для радасці песні складаю.
Людской ганаруся вясной.
І вечна, мая маладая
Рашучасць, ты будзеш са мной!

*1961*

## СЛАЎЦЕ

Слёзы і песні, туга і ўрачыстасць,
Праца і ўтома, лятунак і верш...
Слаўце зямное, нялёгкае, чыстае
Шчасце,
Якое не ведае меж!

Ёсць у жыцця і свяцілы, і зоры,
Ёсць без канца і пяшчотаў, і ўцех.
Толькі бывае, што сілы бадзёрыя
Часам прыносіць журба, а не смех.

Слаўце вы ўсё: у праменнях, у росах
Нівы і пожні, лясы і сады.
Ды не забудзьце і горкія, млосныя
Кропелькі поту, што ўпалі сюды.
Век не пражыць — гэта ведае кожны —
Без непакою, без дум і турбот.
Слаўце ж заўсёды
Імкненні трывожныя,
Што падрыхтоўваюць смелы палёт.

Слаўце і стомлены шэпт,
і вячысты
Голас, што ў сэрцы і сам панясеш...
Слаўце сабою прыгожае, чыстае
Шчасце,
Якое не ведае меж!

*1962*

* * *

Стала майго не чапайце,
Папер мешаніну не рушце,
Пяро маё — як пакінута,
Так хай ляжыць —
не краніце,—
Уважце спакой маіх думак,
Не зрыньце іх слодычы — веры,
Не адганіце навечна
Тое, што стаць можа песняй!..

*1961*

* * *

Сунецца з полымем восень,
Ніколі так лес не гарэў.
Крыкнеш — ляціць адгалоссе,
Аж сыплецца лісце з дрэў.

Сыплецца, ападае,
І я кажу ў цішыні;
— Якая ты маладая,
Зямля, ў асеннім агні!

Не, ты, мой свет шырокі,
Яшчэ не растраціў сіл.
Ступіш — і гулкія крокі
Коцяцца за небасхіл.

Коцяцца, не заціхаюць,
І я прысягаю ізноў:
— Якая ты дарагая,
Зямля маіх думак і сноў!

*1961*

## РАЗМОВА З КЛЁНАМ

— Што ж, я пайду,
Мой клён-браток,
Скінь мне на памяць
Свой лісток,

Ды не шкадуй,
Найлепшы скінь,—
Той, што ірвецца
Ў неба сінь...

— Што ты ідзеш,
То добра, брат,
Знай, не аглядвайся
Назад,

Ідзі смялей,
Стаў цвёрда крок...
Але нашто табе
Лісток,

Той, што ірвецца
Ў неба сінь?
Нашто ўсё просіш:
Скінь ды скінь?..

Няхай расце лісток,
Няхай
Шуміць, пяе
Пра вольны край,

Дзе ў сінь ірвецца
Не адзін...
А ты — ідзі сабе,
Ідзі...

*1961*

## ПАПЯРОВАЯ ГАРА

Ля калгаснага двара
Раптам вырасла гара.

— Што такое? Што за дзіва? —
Люд пытае палахліва.—
Мо прайшло землетрасенне?
Ды глядзяць: ідзе з праўлення,
Як заўжды, спакойна дзед —
Вартаўнік...
На месцы свет!..

— Гэта я вам даў загадку,
Не палохайся, народ! —
Дзед гаворыць для парадку.—
То паперкі, што за год
Нам прыслалі «загі», «нэмы»:
Пісьмы, формы, тэлеграмы...
Можа, й ёсць віна мая —
Скрыні ўсе пачысціў я...

І старых і дзетвары —
Цэлы гурт каля гары.
«Як саліць патрэбна сала...» —
Цётка Ганна прачытала.
Галавою паківала:
— І нашто рука пісала?

— А вось тут...— сказаў Хвядос,—
Чулі вы пра тое,
Што бывае сенакос
Летам, не зімою?..
— Ліст: «Як коней запрагаць,
Перш чым куды ехаць»...—
Дзядзька Фёдар стаў чытаць,
Ды заліўся смехам.

Доўга корпаліся людзі
Ў папяровым гэтым грудзе:
І пра пойла і пра стойла,
Пра стагі і мурагі,
І пра бочкі і прымочкі,

Пра чаны і качаны
Тут напісана было.
Вось дзівілася сяло!

А старэйшыя сказалі:
— Так... Відаць, крытыкавалі
Старшыню мы ўсё ж без меры.
Бо як гэткія паперы
Пачытаеш год ці два —
Пойдзе кругам галава!..
Мы таксама скажам «намам»,
Што штампуюць тэлеграмы,
І тым «загам» і тым «начам»,
Што прывыклі не іначай
Размаўляць, як праз пуды
Папяровае нуды:
Вам даўно пара падняцца,
Да людзей ісці пара!
Не паможа нашай працы
Папяровая гара.

*1954*

## «ВЫХАВАЦЕЛЬ»

Справа ў тралейбусе гэта была,
Быць жа і ў іншым месцы магла...
Статны, гадоў пад паўсотню мужчына,
Чынна, паважна, ў тралейбус зайшоў...
Што ж, ну, зайшоў...
Ды стаяў тут хлапчына
Сярод такіх жа, як сам, малышоў.
Дзіва нямнога — ці мала іх носіць,
Жвавых, вясёлых, па горадзе ўсім?..
Толькі мужчыне чамусьці здалося,
Што насміхнуўся хлапчына прад ім.
«Дзядзя» адчуў да сябе непавагу.
Здзек! Проста ў твар — ды грымасні́чаць так!
— Ах ты ж,—
ён крыкнуў з бязмежнай адвагай.—
Ах ты ж, смаркач, валацуга, лайдак!
Гэта такому вас вучаць у школе?

Дзе ты знаходзішся? Хто ты такі? —
«Дзядзя» злаваўся ўсё болей і болей,
Позіркі гнеўна кідаў у бакі...
— Хопіць,— сказаў яму хтось.
— Не, не хопіць!
Я яшчэ ў школу пайсці з ім магу!..
Жаласна тут праказаў яму хлопец:
— Дзядзя, ты мне наступіў на нагу!..

*1954*

## «ЛІТАРАТУРНЫ ДЗЕЯЧ»

І пад псеўданімам і без
Ён у паэзію ўсё лез,
Лез, лез і не пралез.

Тады ён, «майстра» зухаваты,
Адрокся ўраз ад мамы й таты,—
Пяро ад вершыкаў абтрос
І злосць у крытыку панёс.

Якой ні жыў ён там надзеяй,
А на людзей нагнаў спалох:
«Ён ямб адрозніць ад харэя,
Як мы ні біліся, не мог»,
Але за ўсё з апломбам браўся:
То ён з трактатам выпінаўся
(Любая тэма, сэнс любы,
Абы чырвонцы, як грыбы);
То ён з рэцэнзіяй траскучай
З газетнай плошчы паўставаў —
Навешваў «лаўры» на «вядучых»
І «шышкі» «меншым» раздаваў;
То на нарадах біў у грудзі,
Што ён за раман і за верш...
Ды зразумелі ўрэшце людзі:
— Браток, а што ты нам вярзеш?
Што пішаш ты — не зразумела,
Бяры сваіх тварэнняў кош!

Сказалі хоць не вельмі смела,
Але па шчырасці.
I што ж?
Ён усміхнуўся: — Э, нічога,
Ёсць яшчэ іншая дарога!

I чуткі ходзяць: бестрывожна
Ідзе ў навуку ён служыць,
Бо, кажуць, верыць ён, што можна
Чужым там розумам пражыць...

Ён пойдзе! Што яму? Не штука.
Ратуйся, бедная навука!..

*1954*

## «ПАМАГАТЫ»

— Вы чулі гэта? Ай-я-яй! Скажыце,
Што робіцца? Іду па сцежцы ў жыце,
Гляджу, а там —
ну, дайце, людцы, рады! —
Буланы конь з чацвёртае брыгады
Гуляе сабе, топча рунь, скубе...
«Ну, абібокі! — думаю сабе.—
Ну, конюхі! Не пражыву я дня,
Калі змаўчу!..»
— А ты ж сагнаў?
— Каго?
— Каня!
— Каня? Але пры чым тут я?
Каня зганяць — то справа не мая,
Хай конюхі глядзяць, да іх дакоры!
А ўчора?
Таксама быў абураны я ўчора!
Паслухайце, ці ж гэта, братцы, лад:
Зноў на зіму
наш не дагледжан сад.
А старшыня?.. Учора я ў праўленні
Кажу пра сад, а ён —
нібы ў здзіўленні:

«А ты,— пытае,— дзе дагэтуль быў?
Ты ж наш садоўнік!»
Я? Што мог, то я рабіў...
Ну, скажам, вусеня сагнаць ці прышчапіць...
Але ж не ўсё самому мне рабіць,
Ты дай людзей мне,
каб папрацавалі...
— Эх, браце! — слухачы яму сказалі.—
Відаць, які ў сям'і ты памагаты:
Не многа прыбыло б у нашы хаты,
Каб гэтакімі ўсе былі, як ты,—
Крычыш, а сам ад справы —
у кусты...

*1958*

## КОЦІК І КОШАЧКА

Часам пачуеш —
яна яму: — Коцік,
З'еш шакаладку,
адкрый мне свой роцік...
— Кошачка, кіса! —
яе ён мілуе,
Губкі складзе
і руку пацалуе,—
Столькі ўсялякіх
пяшчот і прыкрас,—
Хоць ты пастаў
тых людзей напаказ.
Побач змясціць бы іх
на п'едэстале,
Каб было відна
аж з самых аддалін,
І для эфекту —
плакацік з натуры:
Вось, маўляў, людзі
высокай культуры! —
Тут вам і прыклад,
тут вам і ўрок,
Як паважаць
і сябе і жанок!

Толькі... чакайце,—
што бачым за дзіва? —
Бойка ў кватэры,
ляціць чыясь грыва,
Лаянка, лямант...
Дык што ж тут такое?
Гэта — знаёмыя нашыя
двое —
«Коцік» і «Кошачка» —
ў «бліжнім баю»
Зноў паказалі
«культуру» сваю.
«Кошачка»
рэшткамі ад абеду
Перакаціла
нябогу-суседа,
«Коцік»,
пенснэ папраўляючы
зграбна,
Брыдка зняважыў
суседку, нахабна.
Разам жа,
сілы з'яднаўшы двaіх,
Выгналі з кухні
суседзяў старых.
Скончана справа
на подзвігу ратным...
Зноўку на вуліцы
або ў тэатры
Перад людзьмі
яны ходзяць так чынна.
— Кошачка, кіса!..—
спявае мужчына.
— Коцік, дай роцік! —
ляпеча яна.
Ах, што за пара!
Лагоднасць адна!..

Людзі, не верце вы
гэтым крыўлякам!
Знайце — няма ў іх
культуры ніякай.
Гэта — мяшчане,
двудушная пара.

«Ласка» на іхніх
напісана тварах,—
Мы ж сабе знаем,
што гэтая «ласка»
Проста нікчэмная
хітрая маска.

*1958*

## МЯШЧАНСКІ СТРАХ

І дзед ягоны быў рабочым,
І бацька быў працаўніком.
А ён — куды там! — ён не хоча
Убачыць сына за станком.
Хто ж ён такі?!.
Хто ён такі? —
Ён дзеяч: круць ва ўсе бакі.
Мясіў ваду ў раённым проме,
Быў загканатам на пароме,
Загадваў сінька-шпунта-мылам,
Быў тэхнікам налі-чарніла,
Хадзіў у званні начсалома,
А потым цвёрда ўсеўся дома
На ладны пост: загцёшчаблін...
І лічыць, словам, што ён — чын.
Крычыць: «Я — змалку кіраўнічы,
Не быў ніколі простым я...»
І жыць павінна — так ён лічыць —
Не як усе
яго сям'я.
І дзед ягоны быў рабочым,
І бацька быў працаўніком.
А ён — куды там! — ён не хоча
Убачыць сына за станком.
Ужо не раз сышла паводка,
Як скончыў сын дзесяцігодку,
Ужо расце ў яго бародка,
І мае ўласную паходку
Юнак.
Бацькі ж яму: «Сыночак,

Наш малалетак-галубочак,
Ты кволы ў нас, ты не такі,
Як усе тыя юнакі,
Ты ў нас — разумнік, ты ў нас — цуд,
Ты пойдзеш толькі ў інстытут!..»
Сябры з сабою хлопца клічуць
У цэх гарачы, на завод,
І на пляцоўцы будаўнічай
Знаёмы ўвесь яму народ,
Шуміць, гудзе навокал праца,
Растуць кварталы і палацы,
Жыве, спявае маладосць,
Для ўсякіх рук — работа ёсць!
І сумна хлопцу так бадзяцца,
І гэтак хочацца яму
З сябрамі разам уздымацца
На будаўніцтве й самаму,
Каб стаць тварцом рабочай славы,
Быць майстрам самай шчырай справы...
Бацькі ж: «Ты кволы ў нас, ты — цуд,
Ты пойдзеш толькі ў інстытут!..»
Што ў нас не многа гэткіх татак
І мамак,— нам вядома ўсім.
Мяшчанскі нейкі ёсць астатак...
Але ўсё ж ёсць...
                І што ж мы ім,
І што мы ім, чытач, параім?
А мы ім скажам: — Кіньце пых!
Глядзіце, колькі ў нашым краі
Дарог-шляхоў для маладых.
Не белаeduc ручкамі ўзраслі мы,
Не беларучак нам расціць!
На дарагой зямлі Радзімы
Закон наш — жыць, а не гасціць.
Хай з маладосцю крочыць смела
Ваш сын у радаснай хадзе,
Каб, як мяшчан перастарэлых,
Не ўспамінаў ён вас нідзе!

*1958*

## АДКРЫВАЛІ АДНУ З КРАМ

Адкрывалі адну з крам...
Узялі па колькі грам...
(Што за свята — ды без грам!..)
Ну, а з грамаў —
кілаграм...
А калі ўжо кілаграм —
Дык і выйшаў тарарам...

Раптам бухнула з вітрыны
З громам новенькае шкло.
Раптам хтось бутэлькай кінуў,—
Бы асколкамі ад міны —
Шась! — кагосьці апякло...
І паехала, пайшло,
Закіпела, загуло...

— Ах ты ж гэтакі ды гэткі!
— Ах, такі ты ды сякі!..
Там шкарпэткі, там сурвэткі,
Там бачкі, там чыгункі,
Там люстэркі, бранзалеткі —
Брынк! — ляцяць ва ўсе бакі.

Білі ўсё і без прынукі,
Што патрапіла пад рукі,
Білі, нішчылі, крышылі —
У добрай хлопцы былі сіле,
Смачна елі і пілі,
Ўсе асілкамі ўзраслі!

А праспаліся пад ранак —
От канфуз быў дык канфуз!
Што там болькі, што там раны,
Што там нейкі сіні гуз,—
Краму новую — вось гора,—
Што адкрылі толькі ўчора,—
Зноў надоўга зачыняй...
Ды рамонт распачынай!..

Адкрывалі адну з крам...
Узялі па колькі грам...
Што за свята — ды без грам!..
Ну, а з грамаў — кілаграм...
Хвацкі выйшаў тарарам!..

*1959*

## ФЕЛЬЕТОН ПРА ФЕЛЬЕТОН

Напісаў аднойчы слон
Фельетон.

Фельетон быў — пугай пуга.
Прысвячаўся ж фельетон
Тым, хто п'е за ўсю акругу
Самагонку...

Ну, брат, слон!
Даў п'янчугам дыхту ён!

Як ён біў іх, як пясочыў,
Распякаў ды ганьбаваў!
Сыпаў смела праўду ў вочы —
Так ім, так! — разгон даваў.

Лес дзівіўся: ну ж і ну!
Вось дык слон! Хвала слану!..

Толькі...
Стой... Чаму ў трывозе
Сёння ў лесе жыхары?
Чый там п'яны пры дарозе
Крык?
Хто ломіцца ў бары?

Гэта ж... слон...
Гэта — слон?!
Быць не можа, каб то ён

Так хістаўся, так гайдаўся,
А там — потарч, а там — шась...
Ой-вой-вой... Вось дык набраўся...
Слон?..
I праўда ж...
Быццам гразь...

Стогне лес: ох, ну ж і ну...
Вось і вер, браткі, слану!..

*1959*

## ХАНЖА

Прыходзіў на працу — такі ж ужо сціплы! —
Прыслужваў — з яго хоць вяроўкі ві...
Гугнявіў, клякочучы, голасам сіплым.
На вуснах — ні ўсмешкі, ні грама крыві.

На сходах, лятучках — суддзёй быў, няйначай,—
Любога скляймуе, ушчэнт разаб'е...
Ды раптам...
                здарэнне...
                                у касе нястача...
І вочы ад люду хаваў ён свае...

Зашыўшыся глуха ў паперах, паперках,
Чакаў у надзеі: трывога спадзе...
Ды не! —
                працавала сумленна праверка!..—
І вось ён, малойчык,
                                пад вартай ідзе.

Ілгаў і выкручваўся. Думаў у шале:
«Эх, лёс... Калі б мог... Дык бы ўсіх...
                                                        Без нажа...»
Судзілі папраўдзе...
І так запісалі:
«Па справах — злачынца.
Па словах — ханжа!»

*1959*

## «САМ» І ІВАН

Меў я справу да «самога»...
Ды пачуў такі адказ:
— У самога
                вас тут многа.
Сам прыняць не можа вас.

А зайдзіце ўніз, да «нама»!..

Я зайшоў...

Ды «нам» таксама
Быў сабе не проста «нам»,
А як самы чынны «сам»,
Улюбёны ў чын і сан...

— Але ніжай ёсць Іван,—
Мне сказалі.— Да яго
Стукайцеся смела,
Дамагайцеся свайго,
Калі так прыспела.

Я пастукаў да Івана...
І адразу —
дзіва з дзіў! —
Той рупліва і старанна
Маю справу рассудзіў.

Рассудзіў, руку падаў:
— Будзь, браток, здаровы...
Калі здарыцца бяда,
Памагаць гатовы!..

Вось і ўсё... А колькі тлуму...
Я ішоў дамоў і думаў:
Дык на ліха ж «сам» той здаўся
І той «нам», пусты, як збан...
Калі ўсё рабіць
Узяўся
І вязе за іх Іван?..

*1959*

## ЧЫЕ КОНІ?

— Гэй вы, хлопцы рыбалоўцы,
Закідайце невады!
— Пачакай!
— Ды ты куды?
Налівай яшчэ па стопцы!
Ці ж наш Сож не разліваўся?
Рыбы — поўная рака!..—

Так пад вечар частаваўся
У Аўхіма-рыбака
Брыгадзір Антон Бярыла,
Еў і жлукціў — люба-міла,
Ды не думайце, што ён
Сам рыбак быў, той Антон,
Хоць і знае ў рыбцы смак...
Што ж было далей, аднак?
Падышла да брыгадзіра
Раніцой другога дня
Цётка Мар'я. Просіць шчыра:
— Дай ты мне, сынок, каня,
Агарод пара засеяць...
— Што? Каня? А коней дзе я
Набяруся вам усім?
Сёння ўзяў каня Аўхім.
Памагчы табе мне нечым,
Хочаш — зазірні пад вечар...
Спосаб хітры, слоў няма.
Зразумее і сама...

А пад вечар у Лутоні
Брыгадзір хваліў мядок.
— Гэй вы, коні мае, коні!
Коні, пчолы ды садок!

І ні Мар'я, ні Тацяна,
Што назаўтра рана-рана
На брыгадны двор прыйшлі,
Коней вольных не знайшлі...

Тут не стала ў іх цярпення.
— Пойдзем зараз у праўленне!
Коні нашы ці чые?
— Коні? Хе-хе-хе... Мае!..

— Не твае! — яму сказалі.—
Не твае! — і запісалі:
Каб не быў на хабар ласы —
На гарэлку і кілбасы,
На мядок і акуні —
Дык ідзі, Антон Бярыла,
Пакажы на полі сілу,
Запрацуй сумленна дні!

Добры, правільны прысуд!
Можна б ставіць кропку тут...
Але вось пытанне: часам
Ці няма ў другіх калгасах
Гэткіх самых (дайце сіл —
Прыкра вымавіць) Бярыл?..

Калі ёсць — ганіце проста
Іх, як злосную каросту,
Бо пара, нарэшце, знаць:
Толькі той, хто паважае
Свой народ, той права мае
Слаўнай справай кіраваць!

*1959*

## НЕДАБІТАМУ ФРЫЦУ

Ухае і хакае
Недабіты фрыц,
Навалач усякая
Прагне змен граніц.

Вашынгтонскай шаўкаю,
Грызучы аванс,
З падваротні гаўкае
Зноў фашыст: «Рэванш!»

Мітынгі і сходзікі,
Піва, крыкі «хайль»...
Што ж, няхай заходзяцца,
Прышчацца няхай.

Дні свае апошнія
Дажывеш ты, звер,
Бо на свеце кожны
Ведае цяпер:

Калі ў далі чыстыя
Вораг кіне гром,
Дык усіх фашыстаў мы
Назаўжды даб'ём!

*1959*

## ВІНО

Наліў мне таварыш
Шклянку віна.
І выпіў я шчыра
Віно ўсё да дна.

І толькі я выпіў
Тое віно —
Што нарабіла
Са мною яно!

Здалося мне раптам,
Што я капітан,
Вяду карабель,
А наўкол — акіян.

Праз цемру —
адно толькі
Зоркаміргне,
А хвалі гайдаюць,
Кідаюць мяне.

І ўсё ж прабіваўся
Я ўперад як мог.
І думаў вось так
Без ніякіх трывог:

Калі капітан я
І ўперад плыву,
Дык што мне над нечым
Ламаць галаву,

Напэўна ж, зямля
Ад мяне не ўцячэ?! —
Я гэтак падумаў...
І... выпіў яшчэ...

Не ведаю, як я
Дадому прыйшоў.
А дома я
сумную
Маці знайшоў.

Я з ёй гаварыць тады
Здолеў ледзь-ледзь.
І цяжка
назаўтра
Было зразумець,

Чаму яна кажа:
— Ты не капітан,
Бо ўеўся ў тваю
Галаву дурнап'ян,

Ты не капітан,
Ты — стары карабель,
Што страціў напрамак
І ўсеўся на мель...

*1959*

## БЫЎ ТАКІ ЗААТЭХНІК

Аб кармленні па сеансах,
Аб авансах і балансах
Ён прамовы нам даваў.
А вось як парсюк паснедаў —
Заатэхнік наш не ведаў,
Бо на ферме не бываў.

Ён лічыў сябе культурным,
Бо пляваўся толькі ў урну
Ды смаркаўся ў насавік.
А дагледзець, каб каровы
Былі чысты ды здаровы —
Ён, «чысцёха», не прывык.

Што яму той луг ці сілас?
Не хацеў ён траціць сілы,
Каб мець сена лішні стог.
Ён стараўся не падбіцца,
Не змарыцца, не стаміцца,
Не зваліцца ад трывог.

Прыйдзе, сядзе ў кабінеце,
Паглядзіць — дзе што ў газеце:
Зводку доўгую складзе,
Лічбы-«дулі»назлічае
І на гэтым дзень канчае,
І дамоў «бай-бай» ідзе.

Так цягнуў без хвалявання —
Ад світання да змяркання,
Ад змяркання да світання —
Ён сваё жыццё, як сон,
І не думаў: а ці мала,
А ці многа нападала
Малака ў нас у бітон.

Заатэхніка такога
Мы цярпелі... ды нямнога
Пабыло цярпенне ў нас.
Сход як склікала праўленне,
Дык адразу ж — у імгненне
Даў урок яму калгас:

— Ад цябе,— яму сказалі,—
Шчырай працы мы чакалі,
Ты ж хаваў у зводках нос.
Дык хутчэй жа, брат, прачніся
І ад крэсла адарвіся,
Да якога так прырос!

*1959*

## СВІСТУНЫ

Яна ў замежны ўбор прыбрана,
І ён піжоністы звыш мер.
Ідуць, крыўляюцца:
— Ах, Жанна...
— Ах, вер мне, Жанна...
— Ах, мой П'ер...
Глядзіць, здзіўляецца прахожы:
«З якой такой зямлі яны?

З Парыжа? Ці з Бруселя, можа?»
А гэта —
                    проста свістуны.

І пашпарт мінскі ў іх, і родам
Яны з тутэйшай стараны,
Ды толькі
                    цераз пень-калоду
Жыць навучыліся яны.
Жывуць без працы, як турысты,
Залезшы ў бацькаву кішэнь,
І па праспекце з танга-свістам
Бадзяюцца і ўноч і ўдзень.

А вунь яшчэ праходзяць двое.
На твары ў кожнага рубец.
Хто-небудзь думае: героі...
На фронце быў, відаць... Баец...
А то — след справы не геройскай,
След рэстараннае вайны.
Яны — з няволнскага войска,
Яны — ўсё тыя ж свістуны.

Ім невядом ні слаўны ўчынак,
Ні дружба радасная душ.
Глядзі: абразілі дзяўчыну...
І зноў, зламаўшы капялюш,
Ляціць далей такі «ваяка»
Па-хуліганску бэсціць люд,
Ён знае: будзе маці плакаць,
Каб зноў яму прабачыў суд...

Шум у пакоі інтэрната,
Здалёку спеў і смех чутны.
Што тут сягоння? Радасць? Свята?
Не! То «гуляюць» свістуны.
Іх просяць: дайце вы спакою —
Экзамены ж, адказны час!
А ў іх гарэлка пад рукою,
«Шумел камыш!» — вось іх адказ.

Забыты кнігі і канспекты.
Што ім трывога іх сяброў?
У іх свае ў жыцці праекты:
«Налі яшчэ ды будзь здароў!»

Сумленнасць утапіўшы ў піве,
Жывуць яшчэ між нас яны,
У нашым шчырым калектыве,—
Пустыя хціўцы-свістуны.

Гляджу на іх, і не стрымацца,—
Хачу будзіць усіх наўкол:
Ці не пара за справу ўзяцца
Табе, наш мужны камсамол?!
Ці не табе з юнацкай сілай
Пачаць бязлітасны паход
Супроць бяздушнасці прагнілай,
Што ў быт наш точыцца, як крот;
Супроць бадзяг у чыстых строях,
Дыпломных лодыраў-бадзяг;
Супроць труслівых тых герояў,
Што ходзяць з фінкамі ў руках.

Хай знаюць: спуску ім не будзе
Нідзе! —
хай знаюць свістуны!
Як смецце, выметуць іх людзі
З жыцця савецкай стараны!

*1959*

## САВЕЦКІ ПЛАН І ЗАМОРСКІ ПАН

Пан мільярдэр сагнуўся па-над картаю,
Збянтэжаны дашчэнту гэты пан:
Пан прачытаў пра заклік нашай партыі,
Пан прачытаў пра камунізма план.

Пан мільярдэр хацеў бы фанабэрыцца,
Ды не дзярэцца пад аблокі нос:
Пан зараз на аблокі толькі шчэрыцца,
Не любіць пан глядзець у глыб нябёс,—

Пан там нядаўна ўбачыў зоркі ясныя,
Што кружацца вакол усёй зямлі.
Ён знае: іх рабочыя, калгасныя
Магутна рукі ў неба паднялі.

Пан захварэў, цыгараю не пыхкае,
Знядужана бярэцца за бакі:
«Ох, што рабіць, канец з маёй мне пыхаю,
Мацнеюць з кожным днём бальшавікі...
Ох,— енчыць пан, ажно трасецца чэрава,—
Ох, што зрабіць, каб прыпыніўся час...»

І сутаргава лапа мільярдэрава
Па карце б'е, бы хоча знішчыць нас.
І бачым мы: другою лапай хціваю
Ён цягнецца да бомбаў і гармат.
Апошні ў пана козыр: палахлівая
Пагроза... Ды каб выйшла што — наўрад!

Што пану млосна — гэта знае кожны ў нас
Яшчэ з тых дзён, як светлы грымнуў гром,
Калі сыны народа пераможна
Царызма сцены кінулі на злом.

Што пан нас ненавідзіць — гэту праўду мы
Таксама знаем з даўняе пары,
Не раз той пан хацеў падсыпаць яду нам
І біты быў не раз па каўняры.

Што пан той спрахне, а не дачакаецца,
Каб мы спынілі смелы свой разгон,—
Навек вядома. І дарма хапаецца
І за гарматы, і за бомбы ён.

Дала нам план жыццёвы наша партыя,
Дала да камунізма ясны шлях,
І мы стаім над шчасцем пільнай вартаю,
І мы трымаем моцна родны сцяг.

Не нейкай выпадковаю там «эўрыкай»,
А ленінскаю прагаю тварыць —
Дагонім ганарлівую Амерыку
І далі зможам новыя адкрыць.

А пану мільярдэру скажам строга мы:
Ты лепш у працы нам не замінай,
Бо, колькі ні памянеш імя богава,
Адразу ў пекла трапіш, а не ў рай!

*1959*

## ЦЯЖКА ЯМУ...

— Шмат патрабуе увагі мой чын,—
Скардзіўся сябру «начальнік» адзін...
Трэба умець дзеля ўласнай персоны
Позу прыдумаць, не збіцца з фасону,
Жэсты «адказныя» адшліфаваць,
Бо хіба можна без іх кіраваць?
Трэба, была каб нязвычнаю мова
І нават смех каб гучаў адмыслова —
З нейкім значэннем: кхе... кхе... Каб усе
Думалі: што ім той смех прынясе?..
Трэба падбаць і пра жонку таксама:
Гэта ж не проста там нейкая мама,
Ну, што дзяцей нараджае яна —
Тут не паправіш, прырода адна,
А вось выхоўваць іх — гэта ўжо, браце,
Не! Тут патрэбна работніца ў хаце!..
(Дзеўка калгасная, кроў з малаком,
Што ёй пабыць з іх дачкой ці сынком?..)
Жонка ж —
махне толькі мужу з машыны:
Там габардзіны, а там крэпдэшыны,
Там чарнабурка, там цэлы мядзведзь —
Трэба ва ўсе магазіны паспець.
Праўда, часамі бракуе ёй густу,
Муж гэта бачыць: завельмі ўжо густа
Футраў на хіб начапляе яна,
Брыдка... затое здалёку відна!..
Так вось жыве гэты мудры «начальнік» —
Клічнік на службе, а дома пытальнік,—
Скардзіцца, енчыць, што цяжка яму,
А не падумаў ніколі: чаму?
Жыў бы ён сам, як усе, сваім розумам,
Быў бы ва ўсіх сваіх справах цвярозым,
Скінуў бы груз бюракрата з плячэй,
Быў бы прасцей — дык і жыў бы лягчэй!

*1959*

## АНТОНАВЫ ГРАХІ

Жыў ды быў Антон на свеце.
Не сляпы быў, не глухі.
Жыў звычайна — з жонкай, з дзецьмі —
І ніколі не прыкмеціў,
Каб былі ў яго грахі.

Дый адкуль і як, яй-права,
Мог займець грахі Антон,
Калі век свой шчырай справай
На зямлі займаўся ён.

Карчаваў, араў, скародзіў,
Сеяў, жаў і малаціў.
І нікому не нашкодзіў,
І нікому не скруціў.

Па-сяброўску жыў заўсёды,
Дружбу моцную любіў.
Не капціў дарэмна годы
І душой спакойны быў.

Ды аднойчы...
Вось дык браце!..
Зведаў прыкрасці і ён...
Раз прыйшоў дамоў,
                    а ў хаце
Нейкі госць...

Глядзіць Антон:
— Што за шпунт?..— Па плечы грыва,
Вочы шныраць сюд-туды...
Губы ходзяць неяк крыва...
Што за ён прыджгаў сюды?..

Антон дзівіцца, а жонка
(Не пазнаць яе зусім):
— Ой, Антоначка, Антонка,
Пакланіся ты прад ім,

То святы айцец Грыгола
(І сама гапень паклон),
Каб ён зняў грахі нам, долу
Пакланіся й ты, Антон...

— Што за д'ябал? Пра якія
Ты заладзіла грахі?!

І тут «госць» той выгнуў шыю,
Голас рэзкі і сухі
Загугнявіў: — Мой ты браце,
Д'ябла зараз ты назваў,
Вось і грэх з'явіўся ў хаце...
Эх-хе-хе...

Дзе ні бываў,
Дзе ні жыў — заўсёды, ўсюды
Браў цяжар я на душу,
Я грахі здымаю з люду,
А палёгкі не прашу,

Ці ж грахі свае заўважа,
Хто забыў, што ёсць ён, бог...—
Так «святы» Грыгола кажа,
А Матруна: — Ох ды ох...

Ох, Антоне, вер святому,
Не маліўся ж ты даўно,
Ой, Антоне, трэба ў доме
Пасвянціць нам бервяно,

Трэба каяцца, Антоне,
Каб святлей было душы,
Бо запісана ў законе:
Кайся, кайся, хто грашыў...

— Але ж я грашыць ніколі
І не думаў!
— Ой, маўчы!
Мы пад божай ходзім воляй!
Мы ўсе грэшым, жывучы! —

Ажно ўся трымціць Матруна,
А Грыгола ёй у тон:
— Ў пакаянні — наш ратунак...—
І не мог стрываць Антон,

Плюнуў, ат! Дастаў галёшы,
Што сабе купіў на днях,
Дадаў яшчэ трохі грошай
І на жонку вочы ўзняў:

— Вось! Аддай свайму Грыголу,
Заплаці за райскі звон!..—
І, не хілячыся долу,
Злосны кінуў дом Антон...

Але, выбегшы на волю,
Стаў, задумаўся Антон:
«Гэта праўда, што не болей
Грэшны я, чым гэты лёп,

Што, нібы струна жывая,
Даспяваючы, звініць...
Але ж... рознае бывае...
Можа, й ёсць такая ніць,

Якой звязаны я з небам...
І Матруны ўсё ж шкада...
Ласкавейшым быць з ёй трэба...
Хай пасвенціць... Не бяда...»

Збіты з тропу, невясёлы,
Павярнуў дамоў Антон...
Ды, не стрэўшы тут Грыголы,
Стаў з сваёй Матрунай ён,

Як нічога й не бывала,
Летні свой збіраць багаж:
Агуркі, цыбулю, сала,—
Заўтра ехаць на кірмаш...

Покі ўсю паклажу ўклалі,
Дык амаль і сонца ўсход.
Антон з жонкай не чакалі,—
На вазок, і без прыгод

Прыбылі ў вялікі горад,
Павярнулі на базар,
Занялі мясцінку й скора
Прадалі ўвесь свой тавар.

— Ну, цяпер, Матруна, хіба
Я чагось купіць пайду.
Трэба ўзяць мо трохі рыбы,
Мо галёшы зноў знайду

На валёнкі... Дый табе вунь
Боты выгледзець пара...
— Што ж, ідзі, за ўсё будзь пэўны,
Ды грашамі там не йграй!..

— Добра, жонка... Сціплым буду...
Праз натоўп ідзе Антон,
Прыглядаецца да люду...
І вось — дзіва... Бачыць ён

Між людзей «святога» тога,
Што ў яго «здымаў грахі».
Сёння гэты «служка» бога
Нёс тут нейкія мяхі.

Антон бліжай падаецца,
У вусы сабе смяецца:
«Ці пазнае хоць мяне?»
Падышоў: «Вядома, не».

А Грыголу час — то грошы:
— Гэй, купляйце, прадаю,—
Кліча ён.— Каму галёшы?
За паўцэнак аддаю!..

«То ж галёшы на валёнкі,
Што «святому» я аддаў!
Ах ты, богава суконка,
Ах, смаўжака, ах, брыда!

Пачакай жа!» — А што хочаш? —
Запытаў Антон.
— Ды сто...
— Сто? Дык гэта ж ажно тройчы
Даражэй цаны...
— Ну й што?

Хто шануецца здароўем,
Купіць!
«Вунь які святы,—
Антон сам сабе прамовіў.—
Не святы, а злодзей ты!»

І рашыў...
— Авой, кабета,—
Прышыбаўшы да вазка,

Закрычаў: — Іду з прыветам
Ад бадзяжнага «папка»!

— Ад якога? Што лайдачыш?
— Хадзем разам паглядзім!..
Ды бягом!
Хутчэй жа!
Бачыш?
— Божа! Светлы херувім!
То ж святы айцец Грыгола...
Ён тут свенціць?..
— Прадае!
Вунь галёшыкі мае,
А вунь боты пад прыполам,
І з таварам вунь мяхі —
Усё цяжкія грахі.

Скалыхнулася Матруна:
— Добры дзень, айцец святы!..
А той зірк — абраў кірунак —
Ды бягом, ды лататы!

Бокам, бокам ад жанчыны,
Толькі б'ецца мех аб мех...
От пацешная хвіліна!
Разабраў тут многіх смех!

— Ну, што, бачыла, разява?! —
Злосна выгукнуў Антон.—
Вось твой грэх — «святым», яй-права,
Давяраць да сталых дзён.

А ў мяне, табе скажу я,
Тры грахі ёсць за ўвесь век,
Кажу голасна, хай чуе
Кожны ў свеце чалавек:

Першы грэх мой — што не скора
Раскусіў «святога» я
І не даў яму учора
Ў хаце добра пугаўя.

Грэх другі мой — што заместа
Палкі
Даў яму дабро,

Быў я мякенькім, як цеста,
Ледзь не плакаўся бабром.

Ну, а трэці — што,
ўсе транты
Сёння ўбачыўшы ў «папка»,
Не здаў яго, спекулянта,
У міліцыю... Рука

І сягоння задрыжала,
Прапусціў тыя мяхі...
І Матруна праказала:
— То сапраўдныя грахі...

*1960*

## ЁСЦЬ НЕКАТОРЫЯ Ў НАС «ЧАЛАВЕКІ»

Ёсць некаторыя
ў нас «чалавекі»:
Шчасце ўсё іхняе —
вінныя рэкі,
Ды каб у рэках тых —
бераг кісельны,
Ды па-над берагам
полаг вясельны,
Скрыпкі, ды скокі,
ды бражныя лекі...
Ёсць яшчэ гэткія
ў нас «чалавекі»!
Дай ім даброты
жыцця дарагія.
Ну, а хто зробіць іх?
Ясна ж — другія!
Ясна ж —
другія хай зробяць даброты!
Ну, а яны?
Ім нялюбы клапоты,
Хочуць без працы яны,
без клапот

Зведаць прывабнасці
        ўсякіх даброт!..
Ім, што да лёгкай
        чароўнасці ласы,
Скажам мы словам
        вялікага часу,
Голасам тых,
        хто сумленна працуе,
Хто сваёй славай дзяржаву мацуе,
Скажам ім цвёрда:
        — Гэй вы, «чалавекі»,
Каб вам не сніліся
        вінныя рэкі,
Вы рукавы закасайце
        ды працай
Права здабудзьце
        савецкімі звацца!

*1960*

## ЗЮЗІНЫ АБЯЦАННІ

Самым хвалько
Ў цэлай сельскай акрузе
Быў абяцальшчык
Па прозвішчу Зюзя.

Кожнай вясной,
Перад працаю новай,
Ён не скупіўся
На гучныя словы,

Дзе ні бываў —
Як герой, уставаў,
Шчодрыя ўсцяж
Абяцанні даваў:

— Верце вы мне,
Ў самым хуткім я часе
Пераіначу
Ўсе справы ў калгасе.

Як старшыня,
Не сцярплю я канфузу,
Лепшую ў краі
Ўзрашчу кукурузу.

Будуць кармы —
Дык я й статак падвою,
Ну і, вядома,
Ўздыму і надоі,

Я ўзбагачу,
Я наладжу, дагледжу,
Я пабудую,
Без працы не ўседжу...

«Я» ўсё ды «я» —
Гэтак ён кіраваў,
Гэткія ўсцяж
Абяцанні даваў.

Даўшы ж усім
Абяцанняў з паўтоны,
Ўраз пачуваў сябе
Зюзя стамлёным,

Прагна шукаў
Усялякіх прычынак,
Каб, не чакаючы,
Мець адпачынак.

Сіл, маўляў, шмат
Ён «растрачвае», «шчыры»,
Хай жа ў далейшым
Не спяць брыгадзіры,

План у іх ёсць,
Дык і што кіраваць,
Самі хай вучацца
Тэмпы «даваць»...

Ох жа і зух
Старшыня гэты Зюзя!
Людзі здзіўляюцца
Ў цэлай акрузе,

Людзі смяюцца:
— Вось гэта фасон! —
Даў абяцанні —
І пад парасон!..

Ўсюды кіпіць
У нас праца па краі.
Велічны ўзняўся
Паход за ўраджаі.

Ў добрых калгасах —
Парадак, дастатак.
Ёсць і кармы,
І дагледжаны статак.

Там старшыня
Як дае абяцанні —
Зараз жа дбае
Аб іх выкананні.

Сілы людзей
Размяркоўвае строга,
Сэрцам гарыць,
Каб была перамога!..

Ну, а што ў Зюзі?
Што Зюзю ўдалося?
Лета мінае,
І вось яна — восень.

Ні кукурузы,
Ні сіласнай вежы.
Статак раве,
Бо застаўся без ежы.

Ды і не дзіва,
Чаму тут здзіўляцца:
Зюзя хацеў
Сябе ўславіць без працы.

«Ох жа і зух
Старшыня гэты Зюзя!» —
Людзі смяюцца
Па ўсёй па акрузе.

Людзі смяюцца:
— Вось гэта фасон!
Браў абяцанні
І спаў сабе ён!..

Смех яно смех,
Толькі вось што падкрэслім:
Зюзя, на жаль,
Яшчэ й сёння ў тым крэсле,

Ходзіць яшчэ
У высокім ён званні.
Зноў, відаць, прагне
Даваць абяцанні.

Паабяцае
Сем карабаў з лішкам,
Дый захрапе
Па суседству з кілішкам...

*1960*

## НА ДАЧЫ

### Лірыка-сатырыка

Я стрэльбу ўзяў у рукі,
На варце я стаю.
Ліпнёвай ночы гукі
Пякуць душу маю.
Ах, не зарніцаў сполахі,
Не бліскавічны гром,
А стоеныя шолахі
Пякуць мяне агнём!

Нядаўна меў я ўдачу —
Ад шчасця год не піў! —
Нядаўна сходна дачу
Я ў жуліка купіў.
Усё ў ёй шчодра, планава —
І сад, і агарод;
Ды ёсць адна загана:
Завельмі нізкі плот.

Хто ні захоча толькі —
Яго перасігне.
А тут даспела колькі
Клубніц ужо ў мяне.
А колькі вішняў спее,
А яблыкаў, а бэр!
Таму і сэрца млее.
Таму й не сплю цяпер.

Я стрэльбу ўзяў у рукі.
На варце я стаю.
Ліпнёвай ночы гукі
Пякуць душу маю.
Ах, не зарніцаў сполахі,
Не бліскавічны гром,
А стоеныя шолахі
Пякуць мяне агнём!

Вунь што за дзіўны смех там?
А што за шэпт такі?
Мо ўжо на градах нехта?
Мо ломіць хто замкі?
Мо хлапчукі ў ранеты
Залезлі — трушчаць сад?
Эх, праўда, дзе ты, дзе ты —
Эх, мне б тут аўтамат!

Стаю і, каб не чулі,
Шапчу: «Бяда, бяда...
Ах, каб ты спрахнуў, жулік,
Што дачу мне прадаў.
Украўшы ўсё на дачу,
Няўжо ты, абармот,
Не мог яшчэ ў прыдачу
Украсці й добры плот?!»

Тады б я спаў, упэўнены,
Што цэла ўсё дабро.
А так — вартуй да пеўняў
Ды рві сваё нутро.
Не спі, цягай камплекцыю,
Глядзі угору, ўніз...
А заўтра ж мне йшчэ лекцыю
Чытаць пра камунізм!..

*1960*

## БУЛАВОЙ
## ПА ПЕНТАГОНУ

Захацеў у Пентогоне
Ваяўнічы афіцэр
Знаць, што робіцца сягоння
На прасторах СССР.
Захацеў, сказаў: — Так трэба!
— Гуд! — зацвердзіў прэзідэнт.
І рашылі з нашым небам
Распачаць эксперымент:
— Локхід-У,
Локхід-2
Хай ляціць
Аж за Масква!
Як рашылі, так зрабілі,
Далі тайнай справе ход,
Рознай дрэнню нагрузілі
Той шпіёнскі самалёт,
І аднекуль з Пешавара
Свайго выпусцілі пса,
І забраўся вышэй хмар ён,
Меней бачны, чым аса.
Маўляў,У,
Маўляў, 2,
Для яго
Ўсё трын-трава.
І ляцеў шпіён заморскі,
Апарацікі ўключаў,
Дзе ракеты ў нас, дзе войскі —
Ўсё на плёнках памячаў.
Ён ляцеў, чакаў за гэта
Ўзнагарод на цэлы год.
Ды не знаў, што ў нас ракета
Ужо ёсць і для яго.
Локхід-У,
Локхід-2,
Не хавайся,
Як сава!
Як заўсёды, абарона
Ўся была ў нас начаку.
І заморскага шпіёна
Мы схапілі за руку.
Як ударыла ракета —

Пайшло рэха на ўвесь свет,
І пад смех усяго свету
Ўніз зваліўся прайдзісвет.
Локхід-У,
Локхід-2,
Пухне ў янкі
Галава!
Шпіка збілі мы па праву,
Ўсім вядомы наш закон!
І ад гэтакай праявы
Аж цямнее Пентагон.
Знае добра: больш не прыся
У савецкі агарод,
Бо куды ні падыміся,
Не закончыцца палёт...
Кожны-У,
Кожны-2
Стукне
Наша булава!

*1960*

* * *

Што я люблю, не аддам што на здзекі —
Ведаюць родныя нівы і рэкі.
Ясныя зоры, бароў дзераза
І смутку сляза.

Як я люблю — тое ведаюць рукі,
Што цалаваў я шмат год без прынукі,
Бровы, і лоб, і маршчынак прамень,
І кожны наш дзень.

Вернасцю сэрца заўжды адгукнецца,
Вернасці верным навек застанецца,
І зберажэ, і ўпрыгожыць зямлю —
Што я любіў,
Што я люблю.

*1961*

## КАНТЫНЕНТЫ, КАНТЫНЕНТЫ...

Кантыненты, кантыненты,
Гул партоў, шматмоўе рас.
Нанты, Портсмуты і Генты,
Ліма, Корсіка, Мадрас.

Звон гітар, пах бражны ў гронцы,
Сінь лагун — дзе столькі ўзяць? —
І экзотыкай, і сонцам
Кантыненты зіхацяць.

Хто там быў — выводзіць лента,
Фільм дае, скульптуру пне.
Кантыненты, кантыненты
Клічуць дзівамі мяне.

Там і байкі, там і веды,
І спакус там цэлых сто.
Толькі я к ім не паеду
Усё роўна пакуль што.

Не таму, што ганаруся,
Што ў інакшай рос красе.
А таму, што ў Беларусі
Не аб'ехаў землі ўсе.

Я не ўсе яшчэ агледзеў
Дарагія мне куткі,
Цуд-бары са звонам медзі,
Поймы з шумам асакі,

Нівы з песнямі дажынак,
Кручы з пахам чабароў,
Вёскі з юнай і гасціннай
Весялосцю вечароў.

Беларусь гукае, кліча
Больш, чым нечых мораў шквал,
Сваёй даллю маляўнічай,
Сваім рокатам цымбал,

Сваім ладам, сваёй ласкай,
Сваёй вераю ў жыцці,
Якіх нават і ні ў казках
Анідзе больш не знайсці.

І пакуль на ўсе працэнты
Не аддам я ёй душу,
Кантыненты, кантыненты,
Вас мяне забыць прашу.

*1961*

## ДРУГУ-ЛІТАРАТАРУ

Пад скрыжаваным скептыкаў агнём
І пад касымі позіркамі снобаў
Парой
мы пустазеллю гімн пяём,
Забыўшы, што мы — племя хлебаробаў.

Захопімся страфою ці радком:
Ах, што за спрыт! З якім нюансам голас!
«Прад гэткім,— іншы думае тайком,—
Даўно ўстарэлі Пушкін сам і Колас...»

А што нясе той спрыт і той нюанс?
Якая ў ім карысць для чалавека?
Пра гэта крытык, што падбіў баланс,
Напэўна, і не думаў, недарэка.

А ёсць народ. Стваральнік і мастак.
З яго рукі жавалі ўсе пегасы.
І ўхвал ён не кідае проста так,
І ў спрытныя не верыць выкрутасы.

Ён, што праклаў у будучыню след,
Выдатна знае сілу справы й слова.
Ён бача, дзе буяе пустацвет,
Дзе завязь,
Дзе ёсць хлеб, а дзе палова.

І ён, для ўсіх ствараючы свой плён,
Запомні ты, мой дружа-літаратар,
Не для шыкоўных фраз
наватар ён,
А для жыццёвай велічы наватар.

Таму,
        каб стаць хаця б яму раўнёй,
Давай глядзець на свет яго вачамі,
І калі біць па струнах пяцярнёй,
Дык так,
        каб струны для людзей гучалі.

Ідзе народ і нас ісці заве
У заўтрае, у высненыя годы,
Дык хай жа ў нас такі агонь жыве,
Які сагрэў бы кожнага заўсёды!

*1961*

## СМАГА

Была ў нас — помню — бацькава біклага,
З грубых кляновін, з донцамі двума.
Ў спякотны дзень, як ні паліла б смага,—
Глыні з біклагі той, і смагі — як няма.

І можаш зноў над пожняю пачатай
Хутчэй махаць касою, слаць валы травы,
Каб смага зноў ачнулася зацята
І ты біклагу зноў адшукваў, ледзь жывы.

Я шмат разоў з сабою браў біклагу,
І ўсё ж не мог я доўга зразумець,
Ці для таго яе зрабілі,
        каб ушчуньваць смагу,
Ці для таго, каб вечна смагу мець.

Але прайшоў я апасля не гоню
Па самых розных пожнях, а дзесяткі гонь.
І неаднойчы за душу і за далоні
Мяне хапалі спёка і агонь.

Хапалі, каб спазнаў я: для біклагі
Нідзе не ўпала б нават росачка адна,
Каб не было ў жыцці бясконцай смагі
І ўпартасці, дзе родзіцца яна.

Жыццё нам дарагое не таму так,
Што ў ім і дыхаць лёгка, і ў шляхі ісці,
А больш таму, што ў далях некранутых
І цяжка дужым быць, і цяжка гарт знайсці.

Таму я не магу й на міг без смагі
Застацца перад светам. Зноў мяне і зноў
Няхай вядзе да бацькавай біклагі
Пякучасць дзён маіх, супольнасць спраў і сноў.

*1961*

## ЛІТОЎСКАМУ БРАТУ

Светлым дням юнацтваў нашых
Век прызначыў не старэць.
Быў ім лёс — не ў хмельных чашах,
А ў азёрах бур гарэць.
І не раз яны гарэлі,
А выходзілі з агню —
Як надзіва, маладзелі,
Бы ўставалі ўпершыню.

Так і дружба наша, браце,
Маладая назаўжды.
Помню стрэчу ў тваёй хаце
Ў дзень ваеннае жуды.
Помню, як пайшлі з табою
Па тваёй зямлі наўпрост
Сустрач грому, сустрач бою —
Крок у крок і рост у рост.

Помню спаленыя вёскі,
Сумна-сцішаны Каўнас,
Шапатлівыя бярозкі —
Ну, такія ж, як і ў нас,—
І пад бомбамі дарогі,
І варонкі на лугу.
О зямля! Твой позірк строгі
Я ўспамінам зберагу.

Але вечна без прынукі
Будзе помніцца і ў сне,
Як сясцёр літоўскіх рукі
Абмывалі раны мне.
Біптавалі раны, шчыра
Ратавалі ад бяды.
Я хацеў бы і ў дні міру
З гэтых рук папіць вады!..

Край літоўскі! Край мне блізкі!
Хіба ж мне цябе не знаць!
Як над Сожам — абеліскі
Па-над Нёманам стаяць.
Як над Сожам — аб героях
Па-над Нёманам пяюць.
І над мірнаю зарою
Помнік вернасці куюць.

Светлым дням юнацтва ў нашых
Век прызначыў не старэць.
Быў ім лёс — не ў хмельных чашах,
А ў азёрах бур гарэць.
І яны не раз гарэлі,
А выходзілі з агню —
Як надзіва, маладзелі,
Бы ўставалі ўпершыню.

Так і дружба наша, браце,
Маладая назаўжды.
З ёй у светлай нашай хаце
Шчасцем поўняцца гады.
Нас адны вядуць дарогі,
Думы шчырыя адны —
Там, дзе ззяюць перамогі,
Дзе цвітуць сады вясны.

*1961*

# ЗЯЛЁНАЕ РЭХА

**Паэма**

Там, дзе сосны гурбою
Заглядаюцца ў высі,
Дзе чароты сцяною
Над вадою ўзняліся,

Дзе арэшнік развесіў
Гронкі вочак-арэхаў,—
Заблудзілася ў лесе
Зялёнае рэха.

Хто яго тут пакінуў,
Гэта рэха жывое?
Можа, статак ласіны,
Ідучы з вадапою?

Можа, птахі лясныя,
Як вілі сабе гнёзды?
Можа, пілы стальныя
У дзень ясны, марозны?

Ці з калгасных прастораў
Прыляцеўшая песня?
Ці той вецер, што зоры
Калыхаў напрадвесні?

Не маўчыць, не сціхае,
Супакою не мае,
Ходзіць рэха, блукае,
Выйсця з лесу шукае.

Пойдзе рэха направа —
Не прабіцца праз травы.
Пойдзе рэха налева —
Хвошч ды волаты-дрэвы.

Пойдзе прама — таксама
Там дубы, там крушыны.
Не, напэўна, і прама
Не пракласці сцяжыны...

Так я казку пачаў
Свайму сыну зімою,
Калі мёў па начах
Сівер снег над зямлёю.

Я пачаў і спыніўся,
Думаў: ёсць яму ўцеха.
А Міхась не забыўся
Пра зялёнае рэха.

Здагадайся, што сніцца,
Што ў думках малога!..
А ён марыў з'явіцца
Рэху на дапамогу.

*

Абагрэў цёплы вецер
Гарадскія кварталы.
Ручаі на дасвецці
Снег прабілі падталы.

Сонца грэла і грэла,
Беглі воды па вулках.
І рака загрымела
Зноў паводкаю гулкай.

А затым на панелі
Пыл з вярбы слаўся дымны,
Птахі ўсе зазвінелі,
Стаў блакіт неабдымным.

А пасля, ў хуткім часе,
Дрэвы ліст разгарнулі.
І тады мой Міхасік
Запрасіўся к бабулі.

Добра помніў ён змалку:
Там вясновыя дзівы —
Сож нясе там, як скалкі,
Светлых вод пералівы;

Там дубы на прылессі,
Быццам варта, ў задуме;
Там вясёлыя песні
Плытагонаў на руме;

А прыгледзься, прайдзі ты
Полем-півай без краю,
Дык убачыш, як жыта
Каласы высыпае.

Дзе ж яшчэ больш такая
Прыгажосць ёсць вясною?
Гэта там дзесь блукае
Лесам рэха жывое!

Не маўчыць, не сціхае,
Супакою не мае,
Выйсця з лесу шукае,
Дапамогі чакае.

І не ўседзець у хаце
Сыну з думай дарожнай.
— А спытаўся ты ў маці,
Табе ехаць ці можна?

Ён, вядома, спытаўся,
Ён усё прадугледзеў.
— Што ж, збірайся!
— Сабраўся!
— Тады едзем?
— Паедзем!

*

Панясліі нас па рэйках
Гаманкія вагоны
Праз вясновыя рэкі,
Па разлогах зялёных.

Светафораў вясёлкі,
Краявід маляўнічы.
Гарадоў і пасёлкаў —
Не запомніш, не злічыш.

Там завод вырастае,
Там вунь комін дыміцца,—
Праца ўсюды такая,
Як у роднай сталіцы.

Вёз цягнік нас імкліва,
Не сцішаючы ходу,
І на Сожы, шчаслівых,
Перадаў параходу.

І зачахкалі колы,
І пайшлі перад намі
Хаты новыя ў сёлах,
Пераправы з чаўнамі.

Пераправы,
Паромы,
Ды сады ў белым цвеце,
Ды высокія стромы,
Ды рыбацкія сеці.

А назаўтра,
як ранак
Зноў вітаўся са светам,
Мы здалі капітану
На прычале білеты.

І нарэшце знаёмы,
Любы голас пачулі.
Гэта бегла ўжо з дому
Сустракаць нас бабуля.

*

Не паспела дахаты
Нас прывесці старая,
А Міхась аб крылатым
Сваім рэху пытае.

Ды бабуля як быццам
Запытанняў не чуе.
Ад яе не адбіцца,
Покуль не пачастуе.

З'еш яешню ды з мёдам
Ладкі белыя ў місе,
Малака ў асалоду
Перад ёю напіся.

З'еш усё, бо ўстрывожыш
Ты бабуліны вочы.
І пасля толькі можаш
Гаварыць колькі хочаш.

Люба ёй, што прыехаў,
Што падрос яе ўнучак!
— Рэха?
Тут яно, рэха!
Яго голас грымучы

Ты пачуеш, саколік,
Яно скрозь адгукнецца,
Калі праца на полі
У калгасе пачнецца.

— А другое, такое,
Што па лесе блукае?
— Знойдзеш, родны, і тое,—
Зноў яна суцяшае.—

Толькі вось адпачніце,
А тады ў лес схадзіце,
Там ляснік хату мае,
Ён, напэўна, ўсё знае.

*

Па сцяжынках, дзе ў вочы
Сыпле росы дуброва,
Да сядзібы мы крочым
Да лясной,
лесніковай.

Колькі тут прыгажосці
У хмызах, на палянах!
Там вызваньвае штосьці
Каснічок берасцяны;

Там вунь дзяцел па дрэве
Грукне, голаў адкіне;
Там заходзіцца ў спеве
Цінь-сінічка ў націне;

Там павук выплятае
На галінках красёнцы;
Там дубок прамаўляе
Нешта гонкай сасонцы.

Ходзіць пошчак наўкола
Па прыволлі-выгодзе.
Кожны гук, кожны шолах
Сабе водгук знаходзіць.

— І вось гэта размова,
Што заводзіць дуброва,
Мо і ёсць гэта тое
Наша рэха, якое

Мы шукаем? Скажы нам,
Можа, знаеш ты, дзеду?
— Не,— падумаў з хвіліну,—
Не яно, каб ты ведаў...

Ён вядзе нас дубровай,
Ад сцяжыны к сцяжыне,
Па прасеках дубовых,
Па слядах пілавіння.

Тут нядаўна без спыну
Завіхаліся пілы,
За машынай машына
На дарогах трубіла,

Прабіваліся ў нетры
Грамадой лесарубы.
І хоць час і абветрыў
Іх юнацкія губы,

Ды спявалі з ахвотай,
Не цураліся смеху!..
— Вось тады і жыло тут
Сапраўднае рэха.

Моўчкі мы пастаялі
Ля шырокай прасекі.
Яе ўзімку праклалі
Да ракі дрывасекі.

І ляснік як бы ведаў
Міхасёва пытанне,
Ён сказаў напаследак
Слова пры развітанні:

— Рэха — там, дзе ёсць праца,
Там, дзе шлях чалавека.
А каб пэўна дазнацца,
Вы ідзіце прасекай.

Ля ракі сёння вяжуць
Караван плытагоны.
Яны знаюць, раскажуць
Вам аб рэху зялёным.

*

З лесніком развітаўся
Міхасёк без ахвоты,
Той яму спадабаўся,
Палюбіўся. І ўпотай

Міхасёк сабе думаў,
Каб прыйсці сюды зноўку.
Лес з паўдзённай задумай,
Мёду пах над лясоўкай,

Шэпат ценькіх лісточкаў,
Грабаў важкія цені,
У празрыстых падсочках
Прамянёў зіхаценне,—

Яго ўсё заклікала,
Каб пабыў ён, застаўся.
І аб гэтым памалу
Мне ён шчыра прызнаўся.

Але клікалі ўперад
Нас другія праявы!
З лесу проста на бераг,
У зялёныя травы.

Выйшлі мы, ветрам свежым
Прырэчным дыхнулі.
Не шукаючы сцежак,
На рум завярнулі.

*

Ля шырокай затокі,
Над люстранай ракою,
Кран пад'ёмны высокі
Прывітаў нас рукою.

Як пярынкі, ўскідае
Ён рукою той бёрны,
У ячэйкі складае,
Чалавеку пакорны.

І, нібыта падземны,
Гул калыша лагчыны.
— Добры дзень!
— Дзень прыемны! —
Хлопец выйшаў з машыны.—

Дзень што трэба: вясновы —
Глянь, выгода якая!..
Міхасёк ловіць словы,
Воч з хлапца не спускае.

Сыну — бачу па твару —
Кранаўшчык палюбіўся.
Можа стацца, што зараз
І пра лес ён забыўся.

Ён ужо ля машыны.
Ён усё аглядае,
Бачым — ён праз хвіліну
На сядзенне сядае.

Можа, больш не сумуе
Сын па рэху зялёным?
Толькі — не, ён шкадуе,
Што няма плытагонаў.

— Не хвалюйся, шчасліва
Хай плывуць яны, дружа!
Па глыбінях вірлівых,
Між палёў, між прылужжаў

Павялі яны з лесам
Аж туды караваны,
Дзе вялікія ГЭСы
Будуць пабудаваны.

Зацвітуць над зямлёю
Нам агні незлічона...
Вось куды ўсёй сям'ёю
Паплылі плытагоны!

Але спеў іх вясёлы
Яшчэ ходзіць па ўзгорках,
Падхапілі іх голас
Параходы, маторкі.

Выйшла рэха імкліва
На вясновыя далі.
Людзі рэкам і нівам
Звонкі кліч перадалі.

Ходзіць водгулле працы,
Не шукаючы сцежкі,
І не хоча стамляцца,
Толькі родзіць усмешкі!

Машыніст развітаўся,
На сядзенне падняўся.

Загрымела машына:
— Гэй, увага, працую!
І здалося, краіна
Адказвала:
— Чую!..

*

Што было слова тое,
Верым, нам не здалося.
Паплылі над ракою
Рытмы дня ў сугалоссі.

Пошчак слаўся наўкола
Па вясновай выгодзе.
Кожны радасны голас
Сабе водгук знаходзіў.

Край ты, край наш дзівосны,—
Песня чулася з поля,—
Любы нам твае вёсны,
Веснавое прыволле.

Край ты, край наш дзівосны,
Дарагая Радзіма!
Без тваіх ясных вёснаў
Жыць нідзе б не змаглі мы!

Па рацэ, над чаўнамі,
Тут, ля вербаў кашлатых,
Рэха крочыла з намі
Аж дадому-дахаты.

*

Сын стаміўся — пазнала
Гэта наша бабуля.
— Што ж, унучак,— спытала,—
Чулі рэха вы?
— Чулі!

Ёй, старой, гэта ўцеха,
Яна ўнуку дагодзіць.
— А пабачыш ты, рэха
Як па полі ў нас ходзіць!

Як там песні спяваюць
Лепш за ўсіх — галасіста,
Як зямлю падымаюць
Для сяўбы трактарысты.

А жніво як настане,
Тады нівай бяскрайняй
Ад зары да змяркання
У нас ходзяць камбайны.

Будзеш помніць заўсёды,
Хлопчык мой ты ўлюбёны,
Свае ўцехі-прыгоды,
Край калгасны, зялёны!..

Хоць было яшчэ рана,
Хоць мы спаць не хацелі,
Ды бабуля старанна
Нам паслала пасцелі.

Спіць Міхаська, а вочы
Адкрываюцца самі.
Мусіць, з бабкай ён крочыць
Ячмянямі, аўсамі.

Веснавое, жывое
Рэха з ім размаўляе,
Над зямлёй палявою
Ні на міг не змаўкае.

*

Загрыміць наваколле,
Загамоняць прысады,
Калі ранкамі ў поле
Выязджаюць брыгады.

У гудзенні матораў,
У запале юначым,
Што ўсе пройдзе прасторы,
Па ўсім свеце, няйначай,

У жыцці ўсім удалым,
У прыгодах-уцехах —
Міхасю скрозь гучала
Адшуканае рэха.

Сонца ходзіць высока
Над палямі, барамі.
Нездарма Міхасёк мой
Тут застаўся з сябрамі.

Трактарысты з сабою
Яго побач садзілі,
Над гарачай раллёю
Поле рэхам будзілі,

Аб'язджалі палеткі,
Роўна клалі барозны.
Будзе, будзе улетку
Каля свірнаў завозна!

Нездарма рэха працы
Ходзіць звонка па краю,
Будзе край любавацца
Залатым ураджаем!

*

З Міхасём мы сышліся
Аж праз месяц.
Навокал
Нівы ў полі ўзняліся.
Зноў ракою далёка

Павялі караваны
Дружбакі-плытагоны.
Лес гарэў на палянах
Ад суніцы чырвонай.

На лугах, дзе ў світанак
Йшлі касілкі і косы,
Чуўся водар духмяны —
Дасыхалі пракосы.

Жыта адкрасавала,
Каласы налівала.

У садах выспявалі
Залатыя ранеты,
Упрыгожвала далі
Хараством сваім лета.

Працай новаю смелай
Край рабіў сваю справу.
І ўсё так жа звінела
Яго водгулле славы.

Ажно ззяе, свіціцца
Прыгажосць над зямлёю...
Многа чым пахваліцца
Сын хацеў прада мною.

Любы сэрцу Міхаські
Праца ў полі, паходы.
Марыць ён у калгасе
Заставацца заўсёды.

Тут, дзе шлях прамяністы
Між жытоў пралягае,
Баявым трактарыстам
Быць Міхаська жадае.

І камбайн яму сніцца,—
Ён павёў бы машыну!
Дык на чым жа спыніцца,
Кім жа быць майму сыну?

Што радней яму? Поле
Пад праменнямі сонца
Ці на рэках раздолле,
Шлях да мораў бясконцы?

Ці заводскія трубы,
Што ўстаюць прад вачыма?
Ўсё, усё яму люба,
Чым багата Радзіма.

— Так, ты будзеш, кім хочаш,
Толькі вырасці, сыне!
Дзе захочаш, пакрочыш
Па Савецкай краіне.

Хочаш — сад расці, ніву,
Хочаш — сокалам віся!..
Так мы з сынам шчасліва
Ў сваіх думах сышліся.

І ў палях, на прылессях,
Між калоссяў і лісцяў,
Прыгадалі мы песню,
Што пачулі калісьці:

— Край ты, край наш дзівосны,
Дарагая Радзіма!
Без тваіх ясных вёснаў
Жыць нідзе б не змаглі мы!

Нам нічога, нічога
Ў цэлым свеце не трэба.
Ёсць твая ў нас дарога,
Тваё сіняе неба.

Ёсць твае ў нас палацы,
Ёсць уцехі-прыгоды,
Ёсць любімая праца,
Маладосць і свабода.

Хай жа вечна нам ззяе
Наша радасць-уцеха.
Ой, пара веснавая,
Ой, зялёнае рэха!

*1952*

## ЗМЕСТ

**Кірэенка К.**

К 43 Збор твораў: У 3-х т. Т. 1. Вершы, паэмы, 1939—1962 гг.— Мн.: Маст. літ., 1986.— 494 с., 1 л. партр., 4 л. іл.

Першы том Збору твораў вядомага беларускага паэта, заслужанага дзеяча культуры БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, Кастуся Кірэенкі склалі лепшыя вершы, якія ўваходзілі ў кнігі «Ранак ідзе», «Пасля навальніцы», «Мая рэспубліка», «Маякі», «Вясна-красна», «Родны свет», «Любоў і дружба», «Светлая хваля», «Смага», а таксама паэмы «Паданне пра салдата», «Агонь», «Алёнчына школа», «Пралеска», «Зялёнае рэха». У іх апяваецца прыгажосць роднай прыроды, радасць працы, гераізм савецкага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

ББК 84Бел7

К $\frac{4702120200-157}{М\ 302(05)-86}$ 105—86

Константин Тихонович

**КИРЕЕНКО**

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ В ТРЕХ ТОМАХ

**Том**

**1**

**Стихотворения**
**поэмы**
**1939—1962 гг.**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *Хв. Дз. Жычка.* Мастак *Ю. М. Цюрын.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо.* Карэктар *І. М. Паланейчык.*

ІБ № 2466
Здадзена ў набор 31.01.86. Падп. да друку 08.10.86. АТ 00661. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 26,04+0,53 укл. Ум. фарб.-адб. 27,20. Ул.-выд. арк. 24,84. Тыраж 3700 экз. Зак. 2163. Цана 2 р. 80 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.